# АРХІВАЗНАЎСТВА

*Т. Д. Гярновіч*

## РЭСТЫТУЦЫЯ ПОЛЬСКІХ АРХІЎНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ З БССР У 1920—1960-я гг.

Пачынаючы з 1918 г. у польскай гістарыяграфіі пытанням рэстытуцыі культурных каштоўнасцей з тэрыторыі Расіі (СССР) прысвечана шмат увагі. Гэта абумоўлена маштабнасцю такога роду зносін. Паводле 23 найбуйнейшых актаў міждзяржаўнага вяртання дакументальных матэрыялаў з тэрыторыі СССР, Польшча знаходзіцца на другім месцы пасля Венгрыі[1]. Перадачы дакументаў адбываліся ў 1918, 1922—1925, 1945, 1954, 1956—1958, 1961, 1963, 1967 гг.

Першыя працы з'явіліся яшчэ падчас правядзення перамоў па вяртанні, а таксама ў працэсе перамяшчэння архіўных збораў, у межах выканання арт. XI Рыжскай мірнай дамовы 1921 г. Упершыню праблема была ўзнята К. Р. Саханевічам[2], а ў 1922—1923 гг. былі выдадзены дакументы польска-савецкай камісіі па рэстытуцыі[3]. Аб выніках працы гэтай, так і іншых камісій пісалі К. Тышкоўскі[4], С. Рыгель[5], В. Сухадольскі[6], Ё. Семеньскі[7], Л. Бялкоўскі[8], П. Банькоўскі[9], С. Пташыцкі, Я. Варэжак[10].

Увага польскіх гісторыкаў у 1950-я гг. была накіравана на даследаванне лёсу культурных каштоўнасцей, захопленых падчас другой сусветнай вайны. Адной з самых значных прац гэтага кірунку стала даследаванне К. Врубель-Ліповай[11].

Пасля 12 верасня 1989 г., калі была ўтворана Трэцяя Рэч Паспалітая, польская навука атрымала новы штуршок праз магчымасць звяртацца да раней забароненых аспектаў. На першы план выходзіць праблема лёсаў польскіх культурных каштоўнасцей, якія знаходзіліся ў СССР, а таксама на тэрыторыі дзяржаў, утвораных пасля яго распаду (Беларусі, Украіны, Расіі). Тут трэба адзначыць даследаванне 1992 г. В. Стэмпняка[12], працы Э. Фронцкага[13], Б. Вашчыньскага[14] і інш. Пад рэдакцыяй В. Стэмпняка быў апублікаваны даведнік па архіўным фондзе Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі і Расійскага дзяржаўнага вайсковага архіва[15]. Вялікі ўнёсак у распрацоўку праблемы архіўнай рэстытуцыі зрабіў галоўны дырэктар дзяржаўных архіваў Польшчы Е. Скаўронак[16]. У сваю чаргу праблему рэстытуцыі ў працы Бюро ўпаўнаважанага кіраўніцтва па справах Польскай культурнай спадчыны за мяжой прадставіў Я. Мілер[17]. Акрамя навуковых даследаванняў, быў выдадзены шэраг крыніц па тэме рэстытуцыі палонікі з СССР, падрыхтаваныя Е. Куманецкім[18].

Нягледзячы на значную колькасць даследаванняў, праблема архіўных зносін Польшчы і СССР і да сённяшніх дзён застаецца актуальнай, аб чым сведчаць публікацыі Д. Матэльскага[19] і Э. Разоўскай[20]. Апошняя ўказвае на неабходнасць на сучасным этапе не столькі ўдакладняць пералікі архіўных комплексаў, як высвятляць працэс падзелу польскага архіўнага фонду ў аспекце тэрытарыяльным і інстытуцыянальным, што дазволіць узнавіць гісторыю перамяшчэнняў матэрыялаў і вызначыць іх лёсы ў часы знаходжання на тэрыторыі СССР.



У дадзеным артыкуле асвятляецца гісторыя той часткі архіўных збораў, якая захоўвалася ў беларускіх архівасховішчах, а потым разам з фондамі з іншых рэспублік СССР была перададзена Польшчы. Аўтар імкнуўся перш за ўсё адлюстраваць, якім чынам вызначаліся фонды для перадачы, у якіх абставінах праводзілася гэтая праца і якую ролю адыгрывалі беларускія архівісты ў культурных зносінах СССР і Польшчы.

Як вядома, упершыню пытанне пра вяртанне архіваў было ўзнята польскім бокам пасля абвяшчэння незалежнасці Польскай дзяржавы Петраградскім Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў 14 сакавіка 1917 г. Зыходзячы са складаных палітычных умоў і вайны з Германіяй, Савецкая ўлада прыняла дэкрэт «Аб рэстытуцыі культурнай спадчыны», які меў адносіны да Польшчы. Ім быў закладзены юрыдычны падмурак наступных захадаў польскага кіраўніцтва па вяртанні сваіх каштоўнасцей[21].

У працэсе рэстытуцыі польскай спадчыны з архіваў БССР умоўна вылучым чатыры этапы. Першы распачынаецца падпісаннем Рыжскай мірнай дамовы (21 сакавіка 1921 г.), у межах якой былі ажыццёўлены першыя акты фізічнага перамяшчэння[22]. Згодна з ёй, Польшча патрабавала вяртання ўсіх навуковых і культурных каштоўнасцей, якія былі вывезены з яе тэрыторыі з 1 студзеня 1772 г. Пасля пяці месяцаў складаных перамоў Расія і Украіна згадзіліся вярнуць Польшчы архівы, рэгістратуры, архіўныя зборы, справы, дакументы, рэестры, мапы, планы і другія архіўныя і справаводныя матэрыялы дзяржаўных, грамадскіх, духоўных і іншых устаноў, якія дзейнічалі да студзеня 1772 г. на тэрыторыі, якая ўвайшла ў склад Польскай Рэспублікі; аналагічныя дакументы, створаныя за перыяд з 1 студзеня 1772 г. да 9 лістапада 1918 г. ва ўстановах Расійскай імперыі, якія знаходзіліся на тэрыторыі, што ўвайшла ў склад Польскай Рэспублікі; дакументы гэтых устаноў, эвакуіраваныя пасля 1 жніўня 1914 г., і зборы прыватных асоб, незаконна вывезеныя з тэрыторыі Польшчы пасля 1 студзеня 1772 г.

Для выканання гэтых пастаноў, а дакладней, устанаўлення спіса і месца захавання культурных каштоўнасцей, адзначаных у дамове, была створана Спецыяльная змешаная савецка-польская камісія на чале з А. Альшэўскім з польскага боку і О. Шмідтам (хутка якога змяніў паўпрэд П. Войкаў[23]) з савецкага боку.

Ужо ў 1921 г. польская камісія прадставіла савецкай дэлегацыі мемарандум аб вяртанні Дзяржаўнага архіва Рэспублікі Польшча (у склад якога уваходзілі: Каронны архіў з Кракава, Каронны архіў з Варшавы, Каронная метрыка, Літоўская метрыка і літоўскія архівы), таксама архіў Станіслава Аўгуста Панятоўскага, дакументы паўстання Т. Касцюшкі, прэзідэнта Вар-

шавы Ігнація Закрэўскага, Пастаяннага Савета, Камісіі паліцыі і юрысдыкцыі маршалка, Нацыянальнай адукацыйнай камісіі, частку матэрыялаў Архіва старажытных актаў у Варшаве (Дзяржаўнага савета і Адміністрацыйнага савета Княства Варшаўскага, Вышэйшага часовага савета, Вярхоўнай улады Каралеўства Польскага: намесніка Каралеўства Польскага, генерал-губернатара варшаўскага, Палявога аудытарыята, Надзвычайнай следчай камісіі 1832 г., акруговых вайсковых камендантаў у гады 1863—1864 гг.)[24].

У 1922 г. Польшчы былі перададзены часткова архівы губернскіх устаноў «Kongresówki» і архівы Таварыства ўзаемадапамогі пры пажары[25]. У той жа час савецкі бок адмовіў у звароце Літоўскай метрыкі (Архіў Міністэрства юстыцыі ў Маскве) і так званай Метрыкі Валынскай з гродскімі і меснымі кнігамі, якія датычыліся Валыні (Архіў Міністэрства замежных спраў у Маскве). На афіцыйным узроўні гэта было растлумачана тым, што склад матэрыялаў тычыцца часткова тых абшараў, якія па Рыжскай дамове не адносяцца да Польшчы[26]. Польскаму боку замест гэтага быў выданы пералік Літоўскай метрыкі (складзены ў 1747—1750 гг. у каралеўскай канцылярыі), які захоўваўся ў былой бібліятэцы Галоўнага штаба ў Ленінградзе[27]. Часткова былі вернуты кнігазбор, які датычыўся Олькуша, значная частка актаў Скарбовага архіва, архіва герольдыі і юрыдычнай камісіі[28].

Камісія скончыла працу 30 кастрычніка 1922 г., узняўшы на апошнім пасяджэнні пытанне пра зварот Польшчы рукапісаў з публічнай бібліятэкі[29] і прыняўшы рэзалюцыю аб актах з архіва Уласнай Яго Імператарскай Вялікасці Канцылярыі па справах Каралеўства Польскага, а таксама дзяржаўных архіваў Рэчы Паспалітай абодвух народаў часоў Станіслава Панятоўскага[30].

Такім чынам, Польшчы да канца 1922 г. былі перададзены 3 000 рукапісаў, 7 193 рукапісы з бібліятэкі Залускіх, сеймавыя дыярыушы, разнастайныя прыватныя калекцыі[31], у 1923 г. — акты Пастаяннага Савета за 1775—1788 гг.[32] і эвакуіраваныя ў 1915 г. акты г. Бяла Падляска[33].

Паводле іншых перамоў, 18 ліпеня 1924 г. была падпісана польска-савецкая консульская канвенцыя, якая адзначыла стасункі паміж Варшавай і Масквой, а таксама зрабіла мажлівым далейшыя пошукі польскай культурнай спадчыны[34].

Менавіта ў гэтыя часы ў Цэнтрархіве БССР ажыццяўляецца праца згодна заявы эксперта савецкай дэлегацыі ў спецыяльнай змешанай камісіі С. Багаяўленскага. Ён выявіў, што ў валоданні Цэнтрархіва БССР знаходзіцца вялікая колькасць матэрыялаў, якія адносяцца да тэрыторыі Польшчы, якая раней уваходзілі ў Мінскую губерню (дакладна па паветам Пінскаму і Навагрудскаму)[35].

Згодна пераліку гэтых матэрыялаў[36], Цэнтрархіў БССР пачаў працу па адборы фондаў, якія належалі да перадачы[37]. Але падчас правядзення гэтай працы высветлілася, што калі Польшчы перадаваць усе архіўныя матэрыялы, якія датычацца адышоўшых да яе тэрыторый, то гэта нанясе вялікую



шкоду ў «культурным будаўніцтве» БССР. Амаль ва ўсіх архіўных фондах губернскіх устаноў, якія захоўваліся ў Мінскім гістарычным архіве, меліся справы па Пінскаму і Навагрудскаму паветах. Выдзяленне гэтых матэрыялаў раз'ядноўвала фонды. Акрамя таго, яны на той час актыўна вывучаліся Інбелкультам, БДУ, Беларускай акадэміяй сельскай гаспадаркі, шэрагам краязнаўчых арганізацый і асобнымі даследчыкамі. А калі мець на ўвазе, што ў Беларусі засталося вельмі мала гістарычных дакументаў, то зразумела, што гэтае пытанне выклікала шмат спрэчак і жаданне захаваць як мага больш дакументаў для вывучэння гісторыі БССР. Але ў тых палітычных умовах БССР не магла адмовіцца ад перадачы, таму архіўнае кіраўніцтва ўвесь час шукала падтрымкі, каб не пускаць палякаў у архіўныя ўстановы і перадаць толькі тое, што не мае вялікай гістарычнай каштоўнасці.

Акрамя архіваў губернскіх устаноў, вялікія клопаты выклікалі ў беларусаў матэрыялы, якія датычыліся судовых устаноў за перыяд 1800—1972 гг. Яны цалкам адносіліся да Польшчы, але па сваім змесце мелі, як адзначаў М. В. Мялешка, «арганічную сувязь з іншымі матэрыяламі, якія застаюцца ў беларускіх архівасховішчах».

Таму было вырашана: найменшыя па каштоўнасці матэрыялы, якія былі запланаваны для перадачы Польшчы (300 пудоў), перавезці ў асобнае памяшканне за межы гістарычнага архіва.

У той жа час беларускае архіўнае кіраўніцтва разумела, што палякі маюць прадстаўленне аб характары і складзе фондаў, якія захоўваюцца ў Мінску. Падчас польскай акупацыі загадчыкам Мінскага гістарычнага архіва быў Усас, а таксама Баранцэвіч, якія на той час знаходзіліся ў Польшчы. Акрамя таго, гэтыя звесткі неаднаразова змяшчаліся ў друку[38].

16 лістапада 1927 г. была падпісана ў Варшаве Генеральная дамова паміж Польшчай і СССР па справе звароту культурнай спадчыны, якая была вывезена ў часы Расійскай імперыі[39]. Яна датычылася 32 спраў, нявырашаных змешанай спецыяльнай камісіяй. Згодна яе, былі вернуты архіў і бібліятэка Браніцкіх, а з Украінскага дзяржаўнага музея ў Львове — архіў уніяцкага мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага, які быў вывезены з Усходняй Галіцыі ў 1914—1915 гг. расійскім войскам[40].

Найбольшыя цяжкасці выклікала вяртанне фонду дыпламатычных актаў канцылярыі Намесніка Каралеўства Польскага (вывезены пасля 1864 г. з Варшавы у Пецярбург, а ў 1919 г. у Маскву), які змяшчаў пастановы Венскай дамовы ад 9 чэрвеня 1815 г. аб аддзяленні Каралеўства Польскага ад Расійскай імперыі. Савецкі бок адмаўляў у выдачы гэтага фонду з пункту гледжання таго, што ў ім змяшчаліся звесткі пра расійскую паліцыю на тэрыторыі Каралеўства Польскага, шпіёнаў і паведамляльнікаў царскай ахоўы. Нават калі польская дэлегацыя наведала Гістарычны музей пры Архіве гісторыі рэвалюцыі ў Маскве, то ўбачыла толькі пустыя вокладкі спраў і кардонныя каробкі з адпаведнымі надпісамі. На пратэст А. Альшэўскага

было адказана, што гэта неад'емная частка дзяржаўнага Сакратарыята, якая належыць непасрэдна расійскаму імператару[41].

У Мінску пасяджэнне па выкананні арт. 3 Генеральнай дамовы ад 16 лістапада 1927 г. адбылося 22 лістапада 1928 г. Асноўнае пытанне, якое абмяркоўвалася на гэтым пасяджэнні, датычылася падзелу архіваў былой Мінскай губ. У дэлегацыі ўваходзілі: ад савецкага боку Д. Жылуновіч і І. Віткоўскі, ад польскага — генеральны консул Польскай Рэспублікі ў Мінску Г. Янкоўскі і эксперт польскай дэлегацыі В. Вейтка. З-за адсутнасці вопісаў і рэестраў, згодна якіх планавалася выяўленне і падзел архіўных матэрыялаў, быў заслуханы спіс, складзены Цэнтрархівам БССР. Пасяджэнне пастанавіла лічыць гэты спіс вынікам папярэдняй працы і прыняць яго за аснову будучага сумеснага выяўлення.

Пачатак працы ўстанаўліваўся з 23 лістапада 1928 г. На пытанне намесніка старшыні польскай дэлегацыі В. Сухадольскага аб адсутнасці ў спісе спраў, якія маюць адносіны да валасцей Слуцкага, Мінскага і Мазырскага пав., намеснік загадчыка Цэнтрархіва БССР адказаў, што гэтых матэрыялаў, за выключэннем некалькіх метрычных кніг Мінскага пав., у наяўнасці няма[42].

На працягу працы 23 лістапада — 8 снежня 1928 г.[43] эксперты выявілі яшчэ 29 архіўных фондаў у колькасці 7 621 кнігі, справы і звязкі. На пытанне з польскага боку аб адсутнасці актаў Мінскага акруговага суда, эксперт дэлегацыі СССР М. В. Мялешка растлумачыў, што значная колькасць гэтых спраў была ў гады вайны вывезена з Мінска за межы БССР, а астатняя частка была раскрадзена падчас акупацыі. Незадаволіўшыся гэтым адказам, эксперт польскай делегацыі В. Вейтка падаў заяву аб далейшым пераглядзе фондаў. Але М. В. Мялешка настойваў на тым, што фондаў, якія датычацца павятовых праўленняў, міравых суддзяў і змяніўшых іх далей земскіх начальнікаў, у якіх маглі б захоўвацца падобныя справы, няма на захаванні ў БССР[44].

Такім чынам, дадаўшы да папярэдняга спіса выяўленыя экспертамі фонды, быў складзены канчатковы спіс, які быў зацверджаны на другім пасяджэнні[45].

Акрамя гэтага, 7 снежня 1928 г. польскаму боку былі перададзены матэрыялы Плоцкай губернскай па сялянскіх справах установы (67 звязак і кніг) за 1875—1914 гг.

Паводле Рыжскай мірнай дамовы (21 сакавіка 1921 г.) Польшчы былі перададзены: 7 кніг вопісаў Кароннага архіва Рэчы Паспалітай і 23 скрыні са справамі Метрыкі ВКЛ, матэрыялы Варшаўскага генерал-губернатара, варшаўскага обер-паліцмайстра Горнага дэпартамента Царства Польскага, губернскіх праўленняў, павятовых і гмінных упраўленняў, магістратаў, судоў, казённых палат, варшаўскіх казённых тэатраў, Варшаўскай навучальнай акругі і губернскіх вучэбных дырэкцый, а таксама архіў магнатаў Браніцкіх[46]. Усяго за 1922—1928 гг. у Польшчу было накіравана 8 115 пудоў архіўных матэрыялаў[47]. Разам з тым палякі не вярнулі шмат якія архіўныя справы, напрыклад валынскую частку Кароннай Метрыкі[48].



Другім этапам рэстытуцыі польскай архіўнай спадчыны з БССР выдзяляецца ўпарадкаванне архіваў па заканчэнні другой сусветнай вайны ў 1945—1947 гг. Ён пачаўся з падпісання 21 красавіка 1945 г. «Дамовы аб сяброўстве, узаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве паміж СССР і Польскай Рэспублікай»[49] і заключэннем «Пагаднення паміж кіраўніцтвам СССР і Часовым урадам нацыянальнага адзінства Польскай Рэспублікі па пытанні аб кампенсацыі страт, якія былі нанесены германскай акупацыяй»[50]. Пасля накіравання «Ноты НКУС СССР амбасадзе Польскай Рэспублікі ў СССР аб вяртанні Польшчы вывезеных акупантамі здабыткаў мастацтва» 22 жніўня 1945 г.[51] Польская дзяржава пачала рабіць захады і па пошуку сваіх архіўных збораў. Першым у спісе быў заяўлены «Архіў польскіх міністэрстваў», які колькасцю каля трох тысяч адзінак у 1940 г. быў перададзены архівам Народнага камісарыята фінансаў БССР на захаванне ў Дзяржархіў Мінскай вобл. Тады ў 1945 г.[52], як і пазней у 1947 г.[53], калі ў Народны камісарыят замежных спраў СССР прыйшоў запыт аб выяўленні кніг былога Аўгустоўскага пав., польскія матэрыялы не былі знойдзены, бо архівы Беларусі пасля другой сусветнай вайны знаходзіліся ў неўпарадкаваным стане.

На той час матэрыялы ў асноўным перадаваліся з бягучага архіва Народнага камісарыята замежных спраў СССР, Цэнтральнага партыйнага архіва Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС, Дзяржархіва РФ, Тамбоўскага і Разанскага абласных архіваў. Паводле самых сціплых падлікаў, памер перададзеных матэрыялаў склаў звыш 30 000 адз. зах. і каля 100 скрынак няўлічаных матэрыялаў, а таксама мікракопіі 2 132 спраў. Сярод перададзеных — фонды губернскіх па сялянскіх справах установ, канцылярыі варшаўскага генерал-губернатара, кіраўніцтва чыгункі, духоўных спраў, замежных веравызнанняў, Польскага гістарычнага таварыства, Горнага дэпартамента, Гданьскі гарадскі архіў[54], Каронная метрыка і г. д. — не менш за 100 архіўных фондаў[55].

На афіцыйным узроўні выпадкі перадачы тлумачыліся тым, што падчас разгрому фашысцкай Германіі Чырвоная Армія ў мэтах выратавання і забеспячэння захаванасці вывезла некаторыя германскія архівы, у складзе якіх былі знойдзены фонды, вывезеныя нямецкімі акупацыйнымі ўладамі з тэрыторыі Польшчы, што, вядома, не заўсёды адпавядала рэчаіснасці[56]. Патаемныя прычыны такіх «падараванняў» з боку Савецкага Саюза становяцца відавочнымі, калі прыгадаць, што на перыяд 1946—1947 гг. Польшча яшчэ канчаткова не вырашыла сваю прыналежнасць да сацыялістычнага лагера, таму ў абставінах пачатку «халоднай вайны» перадачы архіваў маглі мець плён у справе ўзмацнення савецкага ўплыву.

Трэці этап рэстытуцыі (1956—1959) пачаўся пошукам польскім урадам сваёй спадчыны. Яшчэ 13 красавіка 1952 г. СССР передала Польшчы рукапісы М. Каперніка[57], а Польшча для СССР 11 лютага 1954 г. — так званы «кракаўска-паронінскі архіў» Леніна[58]. Такія адносіны імкнуўся развіць далей Камітэт па справах грамадскай бяспекі пры Саўміне ПНР пры перадачы дакументальных матэрыялаў, якія прадстаўлялі цікавасць для органаў грамадскай бяспекі ПНР. МУС СССР прапанавала арганізаваць сіламі кваліфікаваных працаўнікоў МУС БССР вывучэнне і падрыхтоўку да перадачы ўраду ПНР дакументальных матэрыялаў, якія адкладаліся ў выніку дзейнасці розных устаноў Польшчы[59]. Быў прыведзены спіс, згодна з якім у Дзяржархіве Гродзенскай вобл. захоўвалася 46 фондаў (1 938 адз. зах.), Маладзечанскай вобл. — 1, Брэсцкай вобл. — 2 (54 адз. зах.), у Філіяле дзяржархіва Брэсцкай вобл. у г. Пінску — 43 (730 адз. зах.). Такім чынам, усяго атрымлівалася 2 723 адз. зах.[60] Сярод узгаданых фондаў Дзяржархіва Гродзенскай вобл. узнікаюць 476 тамоў кніг Сувалкаўскага акруговага суда, якія, паводле адказаў 1947 г., не былі знойдзены.

Акрамя гэтага, быў знойдзены «Архіў польскіх міністэрстваў». Пасля ўпарадкавання архіваў у 1951 г. гэты фонд, які складаўся з 4 482 адз. зах. за 1920—1939 гг., з ЦДАКР БССР быў перададзены ў Галоўнае архіўнае ўпраўленне ў г. Маскву пад назвай «Міністэрства фінансаў Польшчы»[61]. Але фонд быў перамешчаны ў Маскву не цалкам: на захаванні ў ЦДАКР БССР засталіся каля 200 адзінак друкаваных выданняў на польскай мове па фінансавых пытаннях. У маі 1956 г., калі ў беларускіх архівах праводзілася праца па адборы дакументаў польскага паходжання для перадачы іх у ПНР, уздымаецца пытанне аб перадачы гэтых матэрыялаў. Кнігі, якія засталіся ў БССР тэматычна разбіваюцца на тры групы: 1) Ліквідацыйны камітэт па справах маёмасці былых расійскіх падданых за 1928—1938 гг. (16 адз. зах.); 2) Спецыяльная камісія па вывучэнні становішча камунальных ашчадных кас пры Міністэрстве фінансаў Польшчы за 1936—1939 гг. (4 адз. зах.); 3) Матэрыялы Міністэрства фінансаў Польшчы за 1933—1939 гг. (55 адз. зах.)[62].

З усяго гэтага комплексу дакументаў палічылі мэтазгодным пакінуць толькі матэрыялы Ліквідацыйнага камітэта (пратаколы пасяджэнняў, бюджэтную кнігу і пратакол ацэнкі маёмасці былога «Першага таварыства чыгункі Расіі»), у сувязі з тым, што яны асвятлялі пытанні па гісторыі СССР[63].

Але перадача адбылася значна пазней, пасля звароту ў лістападзе 1957 г. польскага ўрада праз амбасаду ПНР у СССР. Ліст аб пошуку і перадачы дакументаў па гісторыі польскага народа ўтрымліваў пералікі архіўных матэрыялаў з указаннем іх магчымага месцазнаходжання[64].

Згодна з гэтым запытам, у Беларусі павінны былі знаходзіцца: 1) акты польскіх устаноў за перыяд 1918—1939 гг, якія былі эвакуіраваны ў 1939 г.: Сілезскага ваяводскага ўпраўлення ў Катавіцах; школьных кураторыяў; паліцэйскіх упраўленняў (з паветаў Яраслаў, Катавіцы, Кракаў, Ланьцут, Ніско, Пшэмысль, Пшэворск, Жэвуш, Тарнабжэг); сялянскай партыі Stronnictwo Ludowe (галоўным чынам з Кракаўскага ваяводства); Камуністычнай партыі Польшчы (пракламацыі і лістоўкі); Грамадскага аб'яднання працоўных універсітэтаў; Саюза польскіх перасяленцаў; польскай школьнай моладзі; Польскага ваенна-марскога флоту, якія былі прыняты савецкімі ўладамі ў Бродах у 1939 г.; павятовых упраўленняў з Плоцка, Цеханава і Сувалак; 2) дакументальныя матэрыялы, якія да 1939 г. захоўваліся ў Дзяржаўным архіве ў г. Гродна: матэрыялы, якія датычацца польскіх паўстанняў Т. Касцюшкі 1794 г., 1831 г., 1863 г.; архіў Стажэньскіх з Навадвораў Бельскага пав.; архіў Серакоўскіх з Ваплева Штумскага пав.



Ва ўсіх архівах рэспублік СССР распачалася праца па пошуку і падрыхтоўцы польскіх матэрыялаў да перадачы. У адпаведнасці з пастановай камісіі ЦК КПСС па пытаннях ідэалогіі, культуры і міжнародных партыйных сувязей ад 3 сакавіка 1958 г. для вывучэння архіўных фондаў, якія захоўваюцца ў дзяржаўных архівах СССР, і далейшай іх перадачы ўраду ПНР павінна была стварацца працоўная група з прадстаўнікоў архіўных устаноў, КДБ і Акадэміі навук. Яна павінна была вызначыць аператыўнае і палітычнае значэнне польскіх дакументальных матэрыялаў і магчымасць іх перадачы ў ПНР[65].

Вывучэнне архіўных фондаў адбывалася па групах: дакументы ўстаноў Рэчы Паспалітай, Царства Польскага, Расійскай імперыі, Аўстра-Венгерскай імперыі, дакументальныя матэрыялы «буржуазнай Польшчы». У выніку вывучэння на фонды кожнай установы было складзена заключэнне, у якім даваліся кароткія характарыстыкі дакументаў, іх памер, крайнія даты, а таксама прапановы па пытанні перадачы матэрыялаў ПНР ці далейшага захавання якой-небудзь часткі ў СССР.

Падставамі да адмовы ў перадачы былі антысавецкая накіраванасць дакументаў, наяўнасць у іх звестак пра белаэмігрантаў, нацыяналістаў, дзейнасць польскіх разведвальных і паліцэйскіх устаноў супраць СССР, пра працу савецкіх устаноў і грамадзян у Польшчы. Перадачы не падлягалі і матэрыялы, змест якіх мог нанесці шкоду Савецкаму Саюзу або сяброўству паміж савецкім і польскім народамі. Арыгіналы дакументаў, якія мелі гістарычную ці практычную каштоўнасць для СССР, фотакапіраваліся або мікрафільмаваліся.

На вывучаемыя архіўныя фонды былі складзены пералікі: 1) на архіўныя фонды, якія накіроўваліся для перадачы ўраду ПНР[66]; 2) на дакументы, якія пакідаліся для далейшага захавання ў дзяржаўных архівах СССР; 3) на дакументы, якія належалі да мікрафільмавання.

Са свайго боку Галоўнае архіўнае кіраўніцтва МУС СССР таксама было зацікаўлена, каб у бліжэйшы час паставіць перад Генеральнай дырэкцыяй дзяржаўных архіваў ПНР пытане аб дазволе працы групе савец-

кіх архівістаў у польскіх архівах з мэтай выяўлення і адбору на мікрафільмаванне дакументаў, якія належалі да гісторыі народаў СССР. Архіўнае кіраўніцтва БССР цікавілі наступныя дакументы польскіх архіваў: актавыя кнігі павятовых земскіх і гарадскіх судоў перыяду ВКЛ і Рэчы Паспалітай; матэрыялы фамільнага фонду князёў Радзівілаў; дакументальныя матэрыялы па гісторыі паўстанняў 1830-х і 1860-х гг. і па гісторыі Заходняй Беларусі; дакументы ўстаноў Беластоцкай вобл. 1939—1941 гг.[67]

Паказальна, што беларускія навуковыя групы ў той час не былі накіраваны ў польскія архівы і таму працэс перадачы дакументаў быў аднабокі: польская спадчына вярталася на радзіму, а беларуская так і засталася выпаўшай з нацыянальнага культурнага кантэксту (мы не бяром да ўвагі працу, якую праводзілі асобныя беларускія навукоўцы).

Перадача архіўных дакументаў адбылася ў Маскве 31 студзеня 1958 г. З польскага боку архіўныя матэрыялы прымаў Тадэвуш Гедэ. Матэрыялы былі ўпакаваны ў 10 скрынак і склалі сабою 1 849 адз. зах., 38 кніг, 154 звязкі[68]. Толькі ў красавіку 1959 г. яны былі атрыманы польскімі архівамі, аб чым сціпла адзначалася ў архіўным часопісе[69].

У той час паведамлялася, што гэтыя перамяшчэнні дакументальных комплексаў — вынік справядлівай міжнароднай палітыкі, якую праводзіў Савецкі Саюз[70]. Патаемнай прычынай гэтых перадач было імкненне палітычных улад прадэманстраваць, што СССР не праводзіць у адносінах да краін сацыялістычнага лагера палітыку гегемоніі, а падтрымлівае з імі паўнапраўнае супрацоўніцтва.

Чацвёрты этап рэстытуцыі польскіх архіўных каштоўнасцей акрэслім 1961—1963 гг. Пачатак яго — 24 жніўня 1961 г., калі Галоўнаму архіўнаму ўпраўленню (ГАУ) пры Саўміне СССР, Інстытуту марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС, КДБ пры Саўміне СССР і Акадэміі навук СССР зноў было прапанавана пераглядзець архіўныя фонды на магчымасць перадачы іх ПНР. У сувязі з гэтым ГАУ пры Саўміне БССР сумесна з Інстытутам гісторыі АН БССР і КДБ пры Саўміне БССР даследавалі комплекс дакументальных матэрыялаў дарэвалюцыйнага перыяду.

У гістарычных архівах БССР былі вылучаны дакументы ўстаноў Беластоцкай вобл., Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага пав. Гродзенскай губ. за 1807—1918 гг. Апрацоўка гэтых матэрыялаў адбывалася па той жа схеме, што і ў 1957 г. Выніковае рашэнне аб магчымасці перадачы часткі гэтых матэрыялаў ПНР было прадстаўлена ў ГАУ пры Саўміне СССР. Для перадачы спланавлі 4 250 спраў павятовых і валасных устаноў, якія не адносіліся па складзе да тэрыторыі БССР, і адлюстроўвалі толькі эканамічны стан і побыт мясцовага насельніцтва. Па сваім змесце — гэта дакументы аб зборы падаткаў, выкананні разнастайных павіннасцей, метрычныя кнігі, судовыя справы па абвінавачванні ў крадзяжы, вырубцы лесу, нанясенні пабояў, дакументы па асабовым складзе ўстаноў, фармулярныя спісы чыноўнікаў, ведамасці на выдачу грашовага ўтрымання, дапамогі і г. д.



Дакументальныя матэрыялы ў колькасці 23 635 спраў, якія дазвалялі вывучаць пытанні ўключэння ў склад Расіі тэрыторыі, якая адышла да яе па Тыльзіцкім міры, утварэння Беластоцкай вобл., яе эканамічнага і палітычнага становішча, русіфікатарскай палітыкі царызму, знешняй і ўнутранай палітыкі Расіі, аховы і пераходу мяжы, мытнага нагляду, перасялення, змянення падданства і веравызнання, гісторыі Айчыннай вайны 1812 г. і першай сусветнай вайны, паўстання 1863 г., дзейнасці РСДРП і іншых палітычных партый, выбараў у Дзяржаўную думу, эвакуацыі ў глыб краіны маёмасці, устаноў і дакументаў, у тым ліку спраў, якія мелі аператыўнае значэнне, пра шпіянаж, тайную агентуру і т. п., рэкамендавалася пакінуць у архівах СССР.

Падчас знаходжання польскай дэлегацыі ў Маскве 4 кастрычніка 1961 г. быў падпісаны пратакол перадачы Польшчы 66 000 адз. зах. з XV ст. да 1939 г. з архіваў Гродна, Ленінграда, Львова, Масквы і Вільна. Першая партыя гэтых актаў трапіла ў Варшаву ўжо ў лістападзе, а другая — у снежні 1961 г. Галоўным чынам, гэта акты, якія былі эвакуіраваны ў 1915 г.[71] Аднак гэтая партыя змяшчала толькі адну частку актаў (пакі № 1—658), астатнія (659—752) былі перададзены у 1962 г.[72] Сюды ўваходзілі гродскія і земскія кнігі, а таксама акты з былой Сувалкаўскай губ. XIX — пачатку XX ст.[73]

Але памер вылучаных спраў не задаволіў ГАУ пры Саўміне СССР, таму лістом № 6/0432 ад 22 верасня 1962 г. ім прапанавалася паўторнае вывучэнне ўказаных матэрыялаў з мэтай павелічэння колькасці спраў для перадачы ПНР у сувязі з вялікай зацікаўленасцю, якая была праяўлена да архіўных матэрыялаў польскім бокам. Тым больш што 5 лістапада 1963 г. у Міністэрстве замежных спраў СССР быў падпісаны апошні пратакол аб перадачы Польшчы архіўных матэрыялаў[74]. Зноў справы былі перагледжаны і 30 мая 1963 г. прынята адпаведнае рашэнне[75].

Адпраўка дакументаў праводзілася праз ЦДГА БССР у г. Гродна, куды перасылаліся матэрыялы, выяўленыя ў другіх саюзных рэспубліках. Дакументы на гэты раз былі ўпакаваны ў 13 скрынак і складалі 4 361 адз. зах. 5 лістапада 1963 г. быў падпісаны акт аб перадачы, а 4 студзеня дакументы былі адпраўлены са станцыі Гродна ў ПНР[76]. Усяго на гэты раз з СССР было адаслана 69 168 фаліянтаў з часоў сярэдзіны XVIII ст., 200 кніг, 55 пакаў газет, а таксама фонд актаў Варшаўскага універсітэта (1869—1915) у колькасці 5 246 адз. зах.[77]

Перадачы з боку СССР архіўных матэрыялаў у Польшчу ў 1920—1960-я гг. ажыццяўляліся ў рамках двухбаковых дамоў. Юрыдычнай падставай для іх заключэння не выступалі, як у сучасны час, міжнародныя канвенцыі. Ні ў адным з вышэйзгаданых міжнародных актаў перадачы па

вяртанні не фігурыравала ні «Канвенцыя аб ахове культурных каштоўнасцей у выпадку ўзброенага канфлікту» ад 14 мая 1954 г., ні «Рэкамендацыі аб мерах, накіраваных на забарону і папярэджанне незаконнага вывазу і перадачы права ўласнасці на культурныя каштоўнасці» ад 19 лістапада 1964 г. Вельмі паказальна, што ў якасці падставы для перамяшчэння выступалі каштоўнасці, эвакуіраваныя напярэдадні вайсковых дзеянняў у мэтах захавання ад знішчэння, а потым да іх далучаліся астатнія дакументальныя комплексы, якія былі створаны на тэрыторыі Польшчы (Рыжская мірная дамова 1921 г.) ці якія датычыліся яе гісторыі (1952 г., рукапісы М. Каперніка). На наш погляд, такая палітыка была абумоўлена жаданнем нестварэння прэцэдэнту для патрабавання рэпатрыяцыі архіўных калекцый з боку іншых краін. На палітычныя прычыны архіўнай рэстытуцыі ўказвае сярод іншага тое, што прынцып непарыўнасці архіўных фондаў падчас яе з лёгкасцю папіраўся ў мэтах «нenанясення шкоды сяброўству» паміж савецкім і польскім народамі.

[1] Козлов В. П. Российское архивное дело: Архивно-источниковедческое исследование. М., 1999. С. 279.

[2] Sochaniewicz K. R. Sprawa rewindykacji archiwów i mienia kulturalnego Polski od Rosji // Wschodnia Polska. 1921. № 5, S. 238—260.

[3] Dokumenty dotyczące akcji delegacji polskiej w Mieszanych Komisjach Reewakuacyjnej i Specjalnej w Moskwie. Warszawa, 1922—1923, zeszyty 1—12.

[4] Tyszkowski K. Z dziejów reindykacji. Lwów, 1924; . Rewindykowane rękopisy Biblioteki Publicznej w Petersburgu jako materiał badań historycznych // Pamiętnik IV. Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich. Lwów, 1925. T. II. S. 230—236; *Idem*. Kronika naukowa. Archiwa i biblioteki. Sprawy rewindykacyjne // Kwartalnik Historyczny. 1926. № 38. S. 292—306.

[5] Rygiel S. Sprawa zwrotu mienia kulturalnego Wileńszczyzny z Rosji // Ateneum Wileńskie. 1924.

[6] Suchodolski W. Wykonanie art. XI Traktatu Ryskiegog w zakresie archiwów państwowych // Archeion. 1927. T. 1. S. 66—78.

[7] Siemieński J. Rewindykacja archiwów koronnych. Przygotowania naukowe i wyniki // Archeion. 1927. T. 1. S. 33—60.

[8] Białkowski L. Co powinniśmy rewindykować z Kijowa? // Archeion. 1927. T. 1. S. 61—65.

[9] Bańkowski P., Ptaszycki S. Powrót do kraju po stu latach. Rewindykacja z b. Biblioteki Sztabu Głównego // Archeion. 1930. T. 8. S. 1—44; *Idem*. Rękopisy rewindykowane przez Polske z ZSRR na podstawie Traktatu Ryskiego i ich dotychczasowe opracowanie // Przegląd Biblioteczny. r. X, 1937. Z. 1. S. 51; *Idem*. Rękopisy rewindykowane na podstawie Traktatu Ryskiego jako warszrat pracy naukowej przed wojną // Przegląd Biblioteczny. r. XVI, 1948. Z. 1—2. S. 101—118.

[10] Warężak J. Wykaz materiałów archiwalnych otrzymanych przez Wydział Archiwów Państwowych z Rosji od 1922 do końca 1930 r. // Archeion. 1931. T. 9. S. 16—27.



[11] Wróbel-Lipowa K. Rewindykacja archiwaliów polskich z ZSRR w latach 1945—1964. Lublin, 1982.

[12] Stępniak W. Problemy spuścizny archiwalnej w stosunkach Polski z Białorusią, Litwą, Ukrainą i Rosją // Sprawy Międzynarodowe. 1992. № 1—2. S. 105—114; *Idem*. Sprawy archiwów w stosunkach Polski z wschodnimi sąsiadami // Archiwista. r. 29. 1995. № 89.

[13] Frącki E. Dokumenty polskie I Polski dotyczące w archiwach rosyjskich // Dzieje Najnowsze. r. 25. 1993. № 1. S. 91—104; *Idem*. Współpraca archiwów polskich z zagranicą // Archiwista Polski. r. 2. 1997. № 4(8). S. 55—62.

[14] Woszczyński B. Wspólpraca archiwalna z Rosją i Białorusią // Archeion. 1993. T. 91. S. 255—259; *Idem*. Porozumienie archiwalne z Ukrainą // Archeion. 1997. T. 98. S. 303—306.

[15] Archiwalia polskiej proweniencji terytoryalnej przechowywane w Państwowym Archiwum Federacji Rosyjskiej i Rosyjskim Państwowym Archiwum Wojskowym (Archiwalia władz rosyjskich 1813—1918, archiwalia niemieckie z ziem zachodnich i północnych Polski do 1945, archiwalia Senatu WM Gdańska 1920—1939). Warszawa, 2000.

[16] Skowronek J. Międzynarodowa wspólpracaa archiwalna: cele—nadzieje—trudności // Archeion. 1993. T. 92. S. 7—29; *Idem*. Misja archiwisty i problemy rewindykacji archiwów — specyfikaEuropy Srodkowo-Wschodniej XIX i XX w. // Archeion. 1995. T. 94. S. 7—21.

[17] Miler J. Współpraca Biura Pełnomocnika Rządu ds. Polskiego Dziedzictwa Kulturalnego za Granicą z Białorusią, Litwą i Ukrainą // Przegląd Wschodni. T. 6. 1999. Z. 1(21). S. 27—32.

[18] Kumaniecki J. Tajny raport Wojkowa czyli radziecka taktyka zwrotu mienia gospodarczego i kulturalnego po pokoju ryskim. Warszawa, 1991; *Idem*. Stosunki rzeczy-pospolitej polskiej z państwem radzieckim 1918-1943. Wybór dokumentów / oprac. J.Kumaniecki. Warszawa, 1991.

[19] Matelski D. Losy Polskich dóbr kultury w Rosji i ZSRR: proby restitucji. Archiwa, ksiegosbiory, dziela sztuki, pomniki. Poznan, 2003; *Idem*. Problemy restytucji polskich dóbr kultury: od czasów nowożytnych do współczesnych: archiwa, księgozbiory, dziela sztuki, pomniki. Poznań, 2003.

[20] Rozowska E. Losy polskich archiwaliów na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej (1939—1945) // Archeion. 2003. T. 106. S. 85—117.

[21] Старостин Е. В. Рижский мирный договор с Польшей и проблемы «архивной реституции» // Зарубежная архивная Россика. Итоги и перспективы выявления и возвращения: Материалы Международной научно-практической конференции, Москва, 16—17 ноября 2000 г. М., 2001. С. 155.

[22] Мирный договор между Россией и Украиной, с одной стороны, и Польшей — с другой. 18 марта 1921 г. // Ольшанский П.Н. Рижский мир. Из истории борьбы Советского правительства за установление мирных отношений с Польшей (конец 1918 — март 1921 г.). М., 1969. С. 221—225.

[23] Пётр Лазаравіч Войкаў (з кастрычніка 1924 г. амбасадор СССР у Польшчы) быў забіты 7 чэрвеня 1927 г. на галоўным вакзале ў Варшаве эмігрантам з Расіі Барысам Кавярдой. Акт помсты за забойства сям'і расійскага імператара гл.: Залесский К. А. Империя Сталина: Биографический энциклопедический словарь. М., 2000; Жуковский Н. Г. Дипломаты нового мира. М., 1986.

[24] Matelski D. Losy Polskich dóbr kultury w Rosji i ZSRR … S. 77.

[25] Dokumenty dotyczące akcji delegacji polskiej w Mieszanych Komisjach Reewakuacyjnej I Specjalnej w Moskwie. Warszawa, 1922—1923, Z. 3. S. 38; Kumaniecki J. Tajny raport Wojkowa ... S. 36; Kowalski W. Repatriacja dóbr kultury w sytuacji cesji terytoryalnej i rozpadu państw wielonarodowych. Warszawa, 1998. S. 19.

[26] Гл.: Kumaniecki J. Tajny raport Wojkowa … S. 162—164; Даклад У. І. Пічэты, які ўваходзіў у склад расійскай групы пры падпісанні Рыжскай мірнай дамовы, прадстаўлены на Першай усебеларускай нарадзе архіўных працаўнікоў 1924 г. Гл.: Уплыў дамоў РСФСР з адасобіўшыміся дзяржавамі (Польшчай, Літвой і Латвіяй) на стан беларускіх архіваў // Первая всебелорусская конференция архивных работников 12—15 мая 1924 г.: Документы и материалы. Мн.,1999. С. 34.

[27] Bańkowski P., Ptaszycki S. Powrót do kraju po stu latach. Rewindykacja z b. Biblioteki Sztabu Głównego // Archeion. 1930. T. 8. S. 13—14.

[28] Suchodolski W. Wykonanie art. XI Traktatu Ryskiegog w zakresie archiwów państwowych // Archeion. 1927. T. 1. S. 67.

[29] Tyszkowski K. Rewindykowane rękopisy Biblioteki Publicznej … S. 230—236.

[30] Polsko-radzieckie stosunki kulturalne 1918—1939: Dokumenty i materialy / W. Balcerak. Warszawa, 1977. S. 95—102.

[31] Bańkowski P. Rękopisy rewindykowane przez Polske z ZSRR na podstawie Traktatu Ryskiego i ich dotychczasowe opracowanie // Przegląd Biblioteczny. r. X, 1937. Z. 1. S. 51; *Idem*. Rękopisy rewindykowane na podstawie Traktatu Ryskiego … S. 101—118.

[32] Akta Rady Nieustającej 1775—1788 // Archeion. 1928. T. 4. S. 54—89.

[33] Magier D. Starania pracowników bialskiego magistrate o odzyskanie archiwaliów miejskich po I wojnie światowej w świetle akt miasta Białej Podlaskiej // Archiwista Polski. r. 2. 1997. № 4(8). S. 71—76.

[34] Matelski W. Polska-radziecka konwencja konsularna z 18 lipca 1924 r. // Dzieje Najnowsze. 1973. № 4. S. 57—71.

[35] НАРБ. Ф. 249. Воп. 4. Спр. 2. Л. 11.

[36] Там жа. Л. 4—8.

[37] Там жа. Л. 9.

[38] Там жа. Спр. 6. Л. 13—13адв.

[39] Документы внешней политики СССР. Т. 4. М., 1961. Док. 130. С. 243—248.

[40] Там жа. Т. 5. М., 1964. Док. 228. С. 362.

[41] Suchodolski W. Wykonanie art. XI Traktatu Ryskiego ... S. 72—73

[42] НАРБ. Ф. 249. Воп. 4. Спр. 6. Л. 62—63.

[43] Дневник работы экспертов Смешанной советско-польской комиссии по определению архивных материалов подлежащих передаче Центрархивом БССР Польше. НАРБ. Ф. 249. Воп. 4. Спр. 6. Л. 60—61.

[44] НАРБ. Ф. 249. Воп. 4. Спр. 6. Л. 67—68.

[45] Там жа. Л. 64—65.

[46] Цаплин В. В. О праве собственности на архивные документы в дипломатических актах дореволюционной и советской России // Отечественные архивы. 1992. № 4. С. 24.

[47] Старостин Е. Рижский мирный договор 1921 г.: Проблемы «архивной реституции» // Студії з архівної справи та документознавства. 2003. Т. 9. С. 165.

[48] Стэпняк У. Матэрыялы па гісторыі Беларусі ў складзе дакументаў Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве // Тэзісы міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі «Архівазнаўства, крыніцазнаўства, гістарыяграфія Беларусі: стан і перспектывы», 1—2 снежня 1993 г. Ч. 1. Мн. 1993. С. 80—81.



[49] Договор о дружбе, взаимной помощи и послевоенном сотрудничестве между СССР и Польской Республикой, 21 апреля 1945 г. // Советский Союз — Народная Польша. 1944—1974: Документы и материалы. М., 1974. С. 65—67.

[50] Соглашение между правительством национального единства Польской Республики по вопросу о возмещении ущерба, причиненного германской оккупацией, 16 августа 1945 г. // Советский Союз — Народная Польша … С. 92—94.

[51] Советский Союз — Народная Польша … С. 94—95.

[52] НАРБ. Ф. 249. Воп. 8. Спр. 46. Л. 7.

[53] Там жа. Спр. 105. Л. 23.

[54] Sławoszewska M. Odzyskane archiwalia gdańskie // Studia Źródłoznawcze. 1959. T. 4. S. 232—234.

[55] Козлов В. П. Российское архивное дело … С. 226; Wróbel-Lipowa K. Rewindykacja archiwaliów polskich z ZSRR … S. 74; Matelski D. Losy Polskich dóbr kultury w Rosji i ZSRR … S. 170.

[56] Баскаков Э. Г., Шабловский О. В. Возвращение архивных материалов, спасенных Советской Армией // Исторический архив. 1958. № 5. С. 176, 177.

[57] Известия. 1952. 13 апр. № 89; Trybuna Ludu 1952. 11 kwietnia. № 102. Разам з рукапісамі перадаваліся лісты Марціна Кромера, рукапісы Ёзефа Ігнація Крашэўскага, часка фондаў Дзяржаўнага архіву ў Познані (359 пазіцый у 12 скрынях) гл.: Wróbel-Lipowa K. Rewindykacja archiwaliów polskich z ZSRR … S. 76

[58] Советский Союз — Народная Польша … С. 182—183.

[59] НАРБ. Ф. 249. Воп. 8. Спр. 392. Л. 18.

[60] Там жа Л. 19—24.

[61] Там жа. Спр. 382. Л. 34.

[62] Там жа. Л. 65.

[63] Там жа Л. 74

[64] Там жа. Спр. 392. Л. 52—55.

[65] Там жа. Спр. 401. Л. 50—55.

[66] Там жа Спр. 392. Л. 18.

[67] Там жа. Спр. 424.

[68] Там жа. Спр. 402. Л. 136; 138—153.

[69] Dwa transporty akt przekazanych przez Związek Radziecki // Archeion T.32. 1960.

[70] Тихвинский С. Л. Помощь Советского Союза другим государствам в воссоздании национального архивного достояния // Советские архивы. 1979 № 2. С. 11—16.

[71] Altman H. Przekazanie Polsce materialów archiwalnych ze Związku Radzieckiego // Archeion. 1962. T. 37. S. 294—296; Maciewska W. Transport akt przekazanych Polsce przez Związek Radzicki // Archeion. 1962. T. 38. S. 302—308

[72] Wróbel-Lipowa K. Rewindykacja archiwaliów polskich z ZSRR … S. 108—109.

[73] Ibid. S. 128—129.

[74] Trybuna Ludu 1963. 8 listopada № 308.

[75] НАРБ. Ф. 249. Воп. 8. Спр. 429. Л. 25—26.

[76] Там жа. Л. 30, 44—53, 64.

[77] Rappaport H. Rewindykowane z ZSRR w roku 1964 akta Pomocnika General-Gubernatora Warszawskigo do Spraw Policyjnych z lat 1897—1917 jako żródła do dziejów ów-

czesnego Królewstwa Polskiego // Archeion. 1968. T. 50. S. 157—169; Altman H. Nowy i ostatni transport materialów archiwalnych przekazanych Polsce przaz Rząd Związku Socjalistycznych Republik Radzieckich // Archeion. 1964. T. 40. S. 303—304; Matelski D. Losy Polskich dóbr kultury w Rosji i ZSRR … S. 179. Гл.: Stępniak W. Archiwalia polskiej proweniencji terytoryalnej przechowywane w Państwowym Archiwum Federacji Rosyjskiej i Rosyjskim Państwowym Archiwum Wojskowym (Archiwalia władz rosyjskich 1813—1918, archiwalia niemieckie z ziem zachodnich i północnych Polski do 1945, archiwalia Senatu WM Gdańska 1920—1939). Warszawa, 2000. S. 11—12.

— ◇ —

***В. Н. Надежина***

## СОЗДАНИЕ ОБЪЕДИНЕННОГО АРХИВНОГО ФОНДА И УСОВЕРШЕНСТВОВАНИЕ ПОФОНДОВОЙ КЛАССИФИКАЦИИ ДОКУМЕНТОВ (НА ОСНОВЕ АНАЛИЗА РАБОТЫ ГОСАРХИВА ГОМЕЛЬСКОЙ ОБЛАСТИ)

Упорядочение документов государственного архива начинается с классификации, т. е. группировки документов по архивным фондам и архивным коллекциям [1, с. 22; 2, с. 11].

Основной классификационной и учетной единицей НАФ РБ, распространяемой на все комплексы документов, хранящихся в государственных архивах, независимо от техники и способа их создания, является архивный фонд. В нормативно-методической литературе архивный фонд трактуется как совокупность архивных документов, исторически и логически связанных между собой. Разновидностями архивного фонда являются архивный фонд организации, архивный фонд личного происхождения, объединенный архивный фонд [1, с. 18; 2, с. 12].

Объединенный архивный фонд (ОАФ) как новая форма организации документов возник на рубеже 50—60-х гг. XX в. В Основных правилах фондирования документальных материалов, изданных в 1958 г., предлагалось создавать (или сохранять ранее созданные) объединения архивных фондов и архивные коллекции, которые, как учетные и классификационные единицы, приравнивались к архивному фонду. Определение «объединенный архивный фонд» появилось в Основных правилах работы государственных архивов 1962 г., которые рекомендовали вместо «объединений архивных фондов» создавать «объединенные архивные фонды» [3, с. 27, 28, 30; 4, с. 5].

ОАФ, как правило, должны создаваться из малообъемных архивных фондов в целях упрощения учета, облегчения поиска документов и их использования, повышения информативной емкости отдельных комплексов документов, создания отвечающего современным требованиям НСА, рационального размещения документов в архивохранилище, сокращения времени на проверку наличия дел [5, с. 2; 6, с. 3].



Формирование компактных комплексов документов с небольшим количеством описей позволяет упростить работу с классификационной системой архива, с наибольшим эффектом решать задачу повышения информативных качеств комплексов документов.

Вопросам определения особенностей формирования ОАФ, принципов объединения фондов, типов объединенных фондов уделяется в литературе по архивоведению постоянное внимание. А. И. Наберухин выделяет две группы ОАФ. К первой группе он относит фонды, в которых объединены материалы ведущего и подчиненных ему второстепенных учреждений; ко второй — фонды, в которых объединены документы ведущих учреждений [7, с. 157]. Автор подчеркивает, что создание ОАФ из документов руководящего органа и подчиненных ему учреждений в практике работы архивов получило наибольшее распространение. Характерными особенностями такого объединенного фонда является то, что он создается из документов учреждений, между которыми имеется органическая связь, свойственная системе с единым руководящим органом, и малообъемность фондов, включаемых в ОАФ [7, с. 155].

Н. М. Давыдова, рассматривая вопросы фондирования, предлагает метод создания ОАФ по производственно-отраслевому принципу, т. е. создать комплексы фондов или ОАФ, в которые войдут все фонды какой-либо отрасли народного хозяйства или культуры за советский период [8, с. 152].

Существуют различные мнения о выборе признака для формирования объединенных фондов Так, например, М. Ф. Петровская, считает нецелесообразным формирование ОАФ только по какому-либо признаку: «Сочетание признаков, общность фондообразователей могут быть в какой-то мере различны, однако во всех случаях в основе должен быть отраслевой или функциональный признак, без которого объединенные архивные фонды создаваться, как правило, не должны» [9, с. 325].

В статье В. В. Цаплина и Л. А. Мишичевой отмечена актуальность проблемы создания объединенных фондов для большинства госархивов, подробно рассмотрены наиболее типичные комплексы, в отношении которых может быть применен указанный порядок фондирования [10, с. 96—108].

Данные архивоведческой литературы свидетельствуют о многообразии подходов к созданию объединенных фондов в госархиве, а также о необходимости конкретного подхода при решении вопроса об объединении архивных документов в единый фонд. Цель данного исследования — очертить наиболее значимые результаты формирования ОАФ при создании пофондовой классификации документов в госархиве. В основе исследования лежит определение эффективности формирования ОАФ для Госархива Гомельской области, в практике работы которого создание ОАФ является одним из направлений работы, осуществляемых, как правило, в процессе усовершенствования и переработки описей.

*Таблица 1*

**Распределение фондов архива
по категориям и хронологическим рамкам**

| Кол-во фондов / дел в архиве | Из них по категориям | | | Из них по хронологическим периодам | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 1917—1926 | 1927—1930 | 1931—1938 | 1939—2004 |
| 2 722 | 24 | 59 | 2 639 | 582 | 208 | 308 | 1624 |
| 100% | 0,9% | 2,2% | 96,9% | 21,4% | 7,6% | 11,3% | 59,7% |
| 499 316 | 31 519 | 48 152 | 419 645 | 114 549 | 25 001 | 26 689 | 333 077 |
| 100% | 6,3% | 9,6% | 84,0% | 22,9% | 5,0% | 5,4% | 66,7% |

Данные первой таблицы отражают полный количественный состав фондов архива по хронологическим периодам: 1917—1926 гг. — документы по истории деятельности учреждений, организаций и предприятий на территории Гомельской губ.; 1927—1930 гг. — на территории округов; 1931—1938 гг. — период после ликвидации округов до образования Гомельской обл.; с 1938 г. — на территории Гомельской обл.

*Таблица 2*

**Распределение фондов архива по объему**

| Годы | Кол-во фондов / дел | Из них по объему | | | Количество фондов для формирования ОАФ |
|---|---|---|---|---|---|
| | | до 10 ед. хр. | до 50 ед. хр. | более 50 ед. хр. | |
| 1917—1926 | 582 | 240 | 147 | 195 | 108 |
| | 100% | 41,2% | 25,3% | 33,5% | 18,6% |
| | 114 549 | 810 | 3 957 | 109 782 | 2 416 |
| | 100% | 0,7% | 3,5% | 95,8% | 2,1% |
| 1927—1930 | 208 | 69 | 70 | 69 | 31 |
| | 100% | 33,2% | 33,6% | 33,2% | 14,9% |
| | 25 001 | 265 | 1 719 | 23 017 | 2 305 |
| | 100% | 1,1% | 6,8% | 92,1% | 9,2% |
| 1931—1938 | 308 | 116 | 114 | 78 | 120 |
| | 100% | 37,7% | 37,0% | 25,3% | 39,0% |
| | 26 689 | 450 | 2 783 | 23 456 | 3 184 |
| | 100% | 1,7% | 10,4% | 87,9% | 11,9% |
| Итого | 1098 | 425 | 331 | 342 | 259 |
| | 100% | 38,7% | 30,1% | 31,1% | 23,6% |
| | 166 239 | 1 525 | 8 459 | 156 255 | 7 905 |
| | 100% | 0,9% | 5,1% | 94,0% | 4,8% |

Данные второй таблицы отражают количественный состав фондов, содержащих документы учреждений до образования Гомельской обл.



Как видно, наибольшее количество малообъемных фондов в архиве за 1917—1926 гг., т. е. губернского периода (41,2% от количества фондов за этот период). Процент возможно объединяемых дел невелик — от 2% за 1917—1926 гг. до 12% за 1931—1938 гг., что в среднем составляет около 5% единиц хранения; однако количество малообъемных фондов в архиве при этом сокращается с 15% (1927—1930) до 39% (1931—1938); средняя цифра по архиву составит около 24% от общего количества фондов за 1917—1938 гг. Данные цифры приблизительные, так как при анализе описей не всегда удается точно определить способ усовершенствования и тем более возможность формирования ОАФ.

*Таблица 3*

**Динамика усовершенствования и переработки описей в архиве**

| Динамика усовершенствования и переработки описей | Фонды / Ед. хр. | % | Из них по категориям | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 |
| Всего намечено к усовершенствованию и переработке | 1 692 | 100 | 7 | 44 | 1 641 |
| | 175 084 | 100 | 3 525 | 28 864 | 142 695 |
| Выполнено на 01.01.2006 | 244 | 14,4 | 7 | 44 | 193 |
| | 111 627 | 63,8 | 3 525 | 28 864 | 79 238 |
| Остаток | 1 448 | 85,5 | — | — | 1 448 |
| | 63457 | 36,2 | | | 63 457 |

Данные третьей таблицы отражают выполнение архивом плана работы по усовершенствованию и переработке описей за 1971—2005 гг.

В усовершенствовании и переработке за 1917—1938 гг. нуждаются ориентировочно описи 449 фондов, 43 372 ед. хр. Эти показатели отражены в табл. 4.

*Таблица 4*

**Показатели о потребности в усовершенствовании и переработке
в архиве описей за 1917—1938 гг.**

| Всего за 1917—1938 гг. (фондов/дел) | Из них по объему | | Нуждаются в усовершенствовании и переработке | Возможно формирование ОАФ | % к количеству фондов/дел, нуждающихся в усовершенствовании и переработке |
|---|---|---|---|---|---|
| | до 50 ед. хр. | более 50 ед. хр. | | | |
| 1 098 | 756 | 342 | 449 | 259 | |
| 100% | 68,8% | 31,1% | 40,8% | 23,6% | 57,6 |
| 166 239 | 9 984 | 156 255 | 43 372 | 7 905 | 18,2 |
| 100% | 6,0% | 94,0% | 26,1% | 4,8% | |

Таким образом, из более чем половины (57,6%) малообъемных фондов, хранящихся в Госархиве Гомельской обл., возможно формирование ОАФ, включив в них приблизительно $^1/_5$ часть единиц хранения,

[53] Sallustius G. C. Sallustius Crispus cum Veterum Historikum fragmentis. Amstelodami (Amsterdam), Ex officina Iansoniana, 1647.
[54] Caesar C. J. C. Iulii Caesaris quae extant, cum selectis variorum commentariis, quorum plerique novi, opera et studio Arnoldi Montani. Accedunt Notitia Galliae et notae auctories ex autographo Josephi Scaligeri. Amstelodami (Amsterdam), ex Officina Elzeviriana, 1670.
[55] Starowolski Sz. Simonis Starovolsci Institutiorus rei militaris Libri VIII … Kraków, 1640.
[56] Fredro A. M. Militarium, seu axiomatum belli ad harmoniam togae accomodatorum Libri duo. (Amsterdam), in Bibliopolio Forsteriano, 1668.
[57] Niewieski S. Rzymski y Ruski kalendarz z Prognostykiem. Na rok panski 1690 … Przez M. Stanislawa Niewieskiego … wyrachowany. Zamosc, 1689.
[58] Ossoliński J. Illustrissimi et Exell. Domini D. Georgii Dicis in Ossolin. S. R. I. Principis, Comitis a Tenczyn Ossolinski. Supremi Regni Poloniae … Orationes, Habitae apud Summun … Gdańsk, 1647 и др.
[59] Radziwiłł M. K. Peregrinacya Abo Pielgrzymowanie do Ziemie Swietey … Mikołaja Christofora Radziwiłła, Xiążecia na Ołyce y Nieświeżu Przez J. M. Xiędza Tomasza Tretera, Kustosza Warmienskiego ięzykiem Łacińskim napisana y wydana przez x. Andrzeia Wargockiego na polski ięzyk przełążona … Kraków: Antoniego Wosińskiego, 1628.
[60] Cornelle de la Pierre Lapide Commentarius in Esdram, Nehemiam, Tobiam, Iudith, Ester et Machabaeos, auctore R. P. Cornelio Cornelii a Lapide e Societate Iesu, Sacrae Scripturae olim Louanij, postea Romae professore. Cum triplici Indice. Antverpiae (Antwerpen), apud Joannem et Iacobum Meursios, 1645.
[61] Poszakowski J. Głos Pasterza Jezusa Chrystusa wzywającego Owieczki do owczarni swojey. Albo Nauka katholicka Praeliminarna … pod Pasterska dobroczynna benedykcia… xiędza Michała Jana Zienkowicza … T. 1. 1736.
[62] Tobiasz A. Studium polemicum pro Doctrina Catholica susceptum in gratiam studiosae Iuventutis Catholicae et zelo Apostolico ad Parochias et missiones acatolicis vicinas aspirantis per interrogations et responsiones digestum a R. P. Tobia Arent Soc. Iesu … Wilno, 1716.
[63] Czerniewski A. Strzały Jonathy słowa Boskie, nigdy się nie powracająct bez zbawiennego pożytku pod zaszćzytem Sapieżynskiey strzały … Wilno, 1728.
[64] Orłowski K. N. Defensa Biskupstwa i Dyecezyi Kijowskiey rzetelnym opisaniem z przydatkami … przez xiędza Karola Nepomucena Orłowskiego … Lwów, 1748.
[65] Jeleński, Samuel, podczaszy Mozyeski. Ferventes ad deum orationes Olim a Samuele Jelenski Pocillatore Mozyrensi, Capitaneo Boriscoviensi Quotidie Mane ac Vespere absolutae Manu propria Ejusdem Latino idiomate scriptae Poat Obitum Ejus Primum Varsavia in Typographia Regia et Reip in Coll. S. J. 1770. Nunc denuo inpressae. Nieswiez, 1778.
[66] Cicero M. T. Marka Tulliusa Cycerona o powinnościach wszech stanów ludzi księgi troje przez Stanisława Koszutskiego przełożone y dostatecznemi objaśnione. Na ostatku przydane są tegoź Cycerona Księgi o starości przełożone przez Bieniasza Budnego. Wydrukowane niegdyś w Wilnie w roku 1593 a teraz znowu du druku podane. Wilno, w drukarni J. K. M. i Rzeczypospolitey, Akademickiey Soc. Jesu, 1766.
[67] Niesiecki K. Korona polska przy złotey wolności starożytnemi wszystkich kathedr, prowincji i rycerstwa klejnotami…ozdobiona, potomnym zas wiekom na zaszczyt i



nieśmiertelna sławę pamiętnych w tej ojczyznie synów podana … roku wolności ludzkiej przez wcielonego Boga windykowanej 1728. T. I—IV. Lwów, 1728—1743.
[68] Guyot P. Histoire des revolutions de Pologne. Depuis le commencement de cette Monarchie jusqu' a la mort d'Auguste II. Par M. L'Abbe Desfontaines. T. 1—12. Amsterdam, 1735.
[69] Lengnich G. Pacta conventa Augusti III, Regis Poloniarum Magni Docis Lituaniae et electoris Saxoniae commentario perpeto illustrate a Godofredo Lengnich D. Editio altera priore auctior et emendatior (Dantisti et Lipsiae) 1763.
[70] Kaliszewski P. C. Historya celnieyszych y sławnieyszych traktatow między Europeyskiemi Mocarstwami różnemi czasami poczynionych. T. 1—2. Warszawa, 1764.
[71] Luenig J. Ch. Orationes Procerum Europae … T. 1—3. Leipzig, 1713.
[72] Załuski A. Ch. Mowy seymowe Jasnie oświeconego xiążecia biskupa Warminskiego Andrzeia Chryzostoma na Załuskach y Błedowie Załuskiego Kanclerza Wielkiego Koronnego. [Kalisz], w dr. Collegium Kaliskiego, 1718.
[73] Marliani A. Plac polityki abo szkoła obyczayności w ktorey: co czyniżńć ma panujący; dokładnie pryepisuja się nauki … Wprzod w jężyru Łacińskim praca Xiędza Ambrozero Marliani… Wilno, 1771.
[74] Lubomirski S. H. De vanitate consiliorum liber unus, in quo vanitas rerum humanarum non soium politicis et moralibus rationibus clare demonstrator, et dialoge exhibetur sed et multa hinc inde Hodiernum Europa Statum concernentia inferuntur, authore Stanislao Lubomirski, Regni Poloniae Mareschallo, Viennae, 1776.
[75] Długosz J. Joannis Dlugossi seu Longini, canonici quondam cracoviensis Historia Poloniacae XII, quorum sex posterioses mundum editi, nunc simul cum prioribus ex libri masscripto rarissimo in lucem proderunt ex bibliotheca et cum praefetione… Leipzig, 1711
[76] «О риторике». Рукописная книга, на латинском языке. Могилев, 1736—1738. ОРКиР. ЦНБ НАН Беларуси. Фонд № 23. Опись № 1. Ед. хр. № 348 и др.
[77] Montesquieu Ch. L De l'esprit des Loix, ou du rapport que les Loix doivent avoir avee la constitution de chaque Gouvernement, les Moeurs, le Climat, la Religion, le Comerce etc. A quoi l'Auteur a ajoute des recherches nouvelles sur les Loix Romaines touchant les Successions, sur les Loix Francoises, et sur les Loix Feodales. T. 1—2.Geneve, 1748.
[78] Zbior mow i pism niektorych w czasie Seimu Stanow skonfederowanych w roku 1788. T. 1—12. Wilno, 1788.
[79] Alwarez E. Evvanuelis Alvari e Societate Jesu de institutione grammatica Linguae Latinae Libri tres. Połock, 1794.
[80] Echard L. Dykcyonarzyk geograficzny … T. 1—2. Warszawa, 1782.
[81] Rzączyński G. Historia naturalis curiosa Regni Poloniae, Magni Ducatus Lituaniae annexarumque provinciarum, in tractatus XX divisa: ex scriptoribus probatis, fervata primigenia eorum phrasi in locus plurimis…(Sandomiriae) 1721.
[82] Kuropatnicki E.A. Wiadomość o kleynocie szlacheckim, oraz herbach domow szlacheckich w Koronie Polskiey, i Wielkiem xę stwwie Litewskim, tudzież w przyleglych prowincyach, z ksiąg Paprockiego, Okolskiego, Potockiego, Niesieckiego, Dunczewskiego, Chmielowskiego, oraz aktu elekcyi króla Jmci polskiego Stanisława Augusta … przez Ewarysta Andrzeia Cz. 1—4. Warszawa, 1789.
[83] Guyot P. F. Histoire des revolutions de Pologne. Depuis le commencement de cette Monarchie jusqu' a la mort d'Auguste II. Par M.L'Abbe Desfontaines. T. 1—12. Amsterdam, 1735.

[84] Graveson Ig. H. Opera omnia … per annotationibus illustrata ab Joanne Dominico Mansi … Bassano; S. n., 1774.

[85] Niesiecki K. Korona polska przy złotey wolności starożytnemi wszystkich kathedr, prowincji i rycerstwa klejnotami…ozdobiona, potomnym zas wiekom na zaszczyt i nieśmiertelna sławę pamiętnych w tej ojczyznie synów podana … roku wolności ludzkiej przez wcielonego Boga windykowanej 1728. T. I—IV Lwów, dr. Coll. Soc.Jesu, 1728—1743.

[86] Niewieski F. S. Kalendarz na Rok Pański 1737… przez Stanisława Niewieskiego … wyrachowanz. Lwów, [17…].

— ◇ —

***А. І. Цітавец***

## УПЛЫЎ ТРАДЫЦЫЙ РОЗНЫХ КУЛЬТУР НА ЗМЕСТ РУКАПІСНЫХ КНІГ БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ

Першыя звесткі пра знаходжанне татараў на тэрыторыі Беларусі гісторыкі адносяць да пачатку XIV ст. У XVI — пачатку XVII ст. татары ВКЛ пастулова страцілі родную мову і сталі карыстацца беларускай, пазней таксама польскай мовамі[1]. Гэта адбылося, верагодна, таму, што перасяленцы паходзілі з розных цюркскіх плямёнаў, гаварылі на розных дыялектах цюркскіх моў[2]. Каб захаваць на новай радзіме ісламскую рэлігію, татары пачалі перакладаць на беларускую і польскую мовы свае рэлігійныя кнігі. Змест рукапісных кніг фарміраваўся з сярэдзіны XVI да канца XVIII ст., потым тэксты перапісваліся да другой палавіны XX ст. амаль без змяненняў. З гэтага пісьменства беларускіх татараў да нашых дзён захаваліся толькі рукапісныя кнігі, што былі створаны ў XVII — XX стст.

Уся літаратура была арабаграфічнай, нават тэксты на беларускай і польскай мовах пісаліся арабскімі літарамі. Да гэтых моў быў спецыяльна дастасаваны арабскі алфавіт, у які былі ўведзены яшчэ дзве літары для абазначэння гукаў, характэрных для беларускага вымаўлення ([дз]—[дз´], [ц]—[ц´]). Цікава, што беларуская мова гэтых дакументаў адрозніваецца ад мовы кірылаўскіх пісьмовых помнікаў. У некаторых выпадках арабскім пісьмом нават больш дакладна перададзена размоўная гаворка таго часу, яе лексічныя і фанетычныя асаблівасці[3].

Рукапісныя кнігі беларускіх татараў былі шматмоўнымі: у іх змяшчаліся тэксты на беларускай, польскай, арабскай і цюркскай мовах. Усходнія мовы былі прадстаўлены ў тэксце *Карана*, цытатах з *Карана* (арабская), малітвах (арабская, цюркская). Тэксты кніг цалкам на беларускай і польскай мовах сустракаліся даволі рэдка: звычайна беларускія тэксты не былі свабоднымі ад паланізмаў, а польскія — ад беларускіх моўных асаблівасцей.

Нягледзячы на рэлігійны характар, кнігі беларускіх татараў адлюстроўваюць не толькі татарскую мусульманскую культуру, але і хрысціянскую культуру карэннага насельніцтва Беларусі. Асобныя замежныя даследчыкі (П. Бараўскі, А. Дрозд, П. Сутэр) сцвярджаюць



пра моўную і культурную асіміляцыю беларускіх татараў пры захаванні імі сваіх рэлігійных традыцый[4]. Трэба мець на ўвазе, што пад працэс страты сваіх звычаяў і нацыянальнай самасвядомасці ў большай ступені падпалі тыя татары, якія перайшлі ў хрысціянства.

Пры апісанні рукапісных кніг беларускіх татараў, аналізе асобных тэкстаў з іх будзем карыстацца класіфікацыяй рукапісных кніг А. Дразда[5] з дадатковым выдзяленнем у якасці класіфікацыйнай адзінкі паўкітабаў.

Рукапісныя кнігі беларускіх татараў складаліся з асноўных (*Караны, Тэфсіры*, *Кітабы*, *Хамаілы*) і дапаможных (*Тэджвіды*, *суфры*, *слоўнікі*).

***Каран*** — галоўная крыніца веры і падмурак духоўнага жыцця мусульманіна. У рукапісных кнігах *Карана* татараў ВКЛ, апрача тэксту Свяшчэннага Пісання ісламу на арабскай мове, сустракаюцца прадмовы і пасляслоўі на беларускай і польскай мовах, якія паведамляюць пра абрады і малітвы, якія трэба выконваць перад і пасля чытання свяшчэннай кнігі.

Цесна звязаны з *Каранам* ***Тэджвід*** — успамагальная кніга беларускіх татараў, якая навучала чытанню *Карана* (*таджвід* араб. — чытанне (Карана) нараспеў)[6]. У творах гэтага жанру для мусульман, якія не ведаюць арабскай мовы, тлумачыцца, як правільна чытаць Каран: як дакладна вымаўляць гукі арабскай мовы, якая павінна быць інтанацыя, пасля чытання якіх слоў Карана трэба зрабіць паўзу і г. д.

Арабскай мовай валодала невялікая колькасць адукаваных татараў. Для большасці беларускіх татараў дастаткова было навучыцца чытаць *Каран*, таму што, акрамя некаторых рэлігійных тэрмінаў ды формул усляўлення Алага і яго пасланніка Мухамада, яны амаль нічога па-арабску не разумелі. Чытаючы арыгінальны тэкст Карана, яны мелі магчымасць зазірнуць у *Тэфсір* або *Хамаіл*[7], дзе былі пераклады на польскую мову, напісаныя арабскімі літарамі.

Правілы дэкламацыі тэксту *Карана* і артыкуляцыі арабскіх літар *(Тэджвіды)* часцей сустракаюцца як часткі *Кітабаў*, асобная ўспамагальная кніга *Тэджвід* сустракаецца рэдка. На сённяшні дзень, як вядома з навуковай літаратуры, захаваліся *Тэджвіды* толькі ў калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі (ЦНБ НАН Беларусі).

Асобнік Р98 (канец XVIII — пачатак XIX ст.) з кнігазбору ЦНБ НАН Беларусі складаецца з двух Тэджвідаў, напісаных рознымі почыркамі. Першым почыркам напісаны аркушы 1—4, на іх перапісчык змясціў правілы чытання Карана на цюркскай мове і першую суру Карана на арабскай. Другі перапісчык змясціў на аркушах 5—22 апісанне артыкуляцыі арабскіх гукаў на цюркскай мове з перакладам на беларуска-польскую. Адрозненне ў почырках, мовах і афармленні тэкстаў дало нам падставу пазначыць дадзены асобнік як *Тэджвіды*, а не адзін *Тэджвід*[8].

***Тэфсір*** (*тафсір* араб. — тлумачэнне, каментарый). У духоўна-багаслоўскай літаратуры мусульман *Тэфсіры* займаюць вельмі важнае мес-

ца. Яны змяшчаюць філалагічныя, гістарычныя і багаслоўскія каментарыі да тэксту *Карана*. Аднак татары ВКЛ *Тэфсірамі* называлі кнігі, якія папросту змяшчалі тэкст *Карана* з перакладам на польскую мову і некаторымі элементамі каментарыя. Мусульмане разглядалі пераклад *Карана* са свяшчэннай арабскай мовы на іншыя мовы як парушэнне асноў ісламу, а тлумачэнне свяшчэннай кнігі не лічылася парушэннем і было мажлівым на ўсякай мове. Зыходзячы з гэтага, татары ВКЛ і называлі *Тэфсірамі* кнігі, якія галоўным чынам былі перакладамі.

Гарызантальна пісаліся радкі *Карана* на арабскай мове, а пад імі наўскось размяшчаўся пераклад на польскую мову. Перад і пасля асноўнага тэксту ў Тэфсірах беларускіх татараў змяшчаліся малітвы і невялікія тэксты пра рэлігійныя рытуалы пры чытанні *Карана*. На думку даследчыка П. Сутэра, такое афармленне тэксту (падрадковы пераклад) паходзіла ад персідскіх рукапісных кніг, працягвалася ў цюркскіх рукапісных кнігах і так перайшло да беларускіх татараў[9].

Пераклад *Карана* на польскую мову быў выкананы ў апошніх дзесяцігоддзях XVI — пачатку XVII ст. ананімным перакладчыкам. У той час у княстве ўжо былі здзейснены пераклады свяшчэнных кніг хрысціянства на нацыянальныя мовы: з'явіўся рукапісны пераклад Бібліі на беларускую мову[10], выйшлі ў свет друкаваныя пераклады кніг Бібліі.

Перакладчыцкі рух у ВКЛ садзейнічаў перакладу *Карана*, ён супаў з наспелай патрэбнасцю татараў у перакладзе **Святога Пісання** ісламу на сваю «новую» мову. Існуюць два меркаванні наконт першапачатковай мовы перакладу галоўнай кнігі ісламу. Беларускі мовазнавец А. Антановіч лічыў, што спачатку пераклад быў зроблены на беларускую мову (беларускі пераклад захаваўся ў выглядзе цытат у некаторых *Кітабах*) і толькі потым на польскую, магчыма, з беларускай[11].

Польскія даследчыкі А. Дрозд, Г. Янкоўскі, Ч. Лапіч, а таксама швейцарскі лінгвіст П. Сутэр лічаць, што *Каран* з самага пачатку быў перакладзены менавіта на польскую мову[12]. На думку П. Сутэра, пераклад на польскую мову быў вынікам сітуацыі дыгласіі ў ВКЛ (XVI—XVII стст. і пазней), калі польская мова лічылася больш прэстыжнай, чым беларуская. Ён адзначае таксама, што *Тэфсір* татараў ВКЛ з'яўляецца самым дакладным і дасканалым перакладам *Карана* на еўрапейскія мовы новага часу[13]. Дарэчы, падрадковы пераклад з пункту гледжання мовы ўяўляе сабой «пальшчызну крэсову», што сведчыць пра паходжанне перакладчыкаў і перапісчыкаў з беларускіх зямель.

У *Тэфсірах* маглі сустракацца і тэксты, звязаныя з біблейскімі сюжэтамі. Напрыклад, у *Тэфсіры* апошняй чвэрці XIX ст. (Р223) з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі ў якасці каментарыя да суры 2:250 на палях кнігі (на польскай мове арабскімі літарамі) змешчана паданне пра Давіда, Талута і Джалута[14]:



*«Пра Джалута і Давіда напісана: «З Давідам сем братоў было, Давід быў малодшы з іх і сеў па волі Божай на камень, камень Давіду кажа: «Вазьмі мяне, буду табе ў дапамогу». Давід узяў, ідзе далей, другі камень кажа: «Вазьмі мяне». Узяў і яго, ідзе далей, трэці камень кажа: «Вазьмі мяне, буду памочнікам, першым прарокам [падказчыкам]». Узяў і яго, прыйшоў да Талута. Ужо сталі супраць Джалута, перад войскам стаў Давід, кажа братам сваім: «Браты мае, біцца меншымі [сіламі] не мае [сэнсу], таму што ў Джалута войска вельмі вялікае». Пытаецца Давід Талута: «Калі хто заб'е Джалута, што ты дасі таму?» Талут кажа: «Дам дачку і паўцарства». Давід кажа: «Дайце мне панцыр, паспрабую я з ім у імя Бога [схапіцца]». Выйшаў супраць Джалута, на Джалуце было сем панцыраў, [ён] кажа Давіду: «Адкуль у цябе сіла, што хочаш са мной біцца?» Давід кажа: «Калі пасвіў авечак, прыйшоў да мяне леў, я ўзяў яго, заціснуў, разадраў яго». Кажа Джалут Давіду: «Удар ты мяне спачатку». Давід узяў камень і ў сэрца ўдарыў, навылёт праз сэрца прашыў, і войска пачало біц[ца]. І Джалута забіў, і войска пабіў»*[15].

Паданне паходзіць з біблейскай і каранічнай гісторый, але і адрозніваецца ад іх. Вельмі коратка згадваецца пра забойства Джалута Даудам ў 251/252 айаце[16] 2-й суры *Карана*: «*І перамаглі іх па волі Алага, і забіў Дауд Джалута, і падараваў яму Алаг уладу і мудрасць …*»

Падрабязна бойка Давіда з Галіяфам апісана ў 17-м раздзеле Першай кнігі Царстваў, у тэксце *Бібліі* можна знайсці паралелі з паданнем з *Тэфсіра*: «*12. А Давід быў сын Эфрацяніна зь Віфляема Юдавага, на імя Ясэя, у якога было восем сыноў … 25. І казалі Ізраільцяне: бачыце гэтага чалавека, што выступае? ён выступае, каб ганіць Ізраіля; калі б хто забіў яго, адарыў бы таго цар вялікім багаццем, і дачку сваю выдаў бы за яго, і дом бацькі ягонага зрабіў бы свабодным у Ізраіле … 34. І сказаў Саўл Давіду: раб твой пасьвіў авечкі ў бацькі свайго, і калі, бывала, прыходзіў леў або мядзьведзь і задзіраў авечку ў статку, 35. дык я гнаўся за ім і нападаў на яго і адбіраў з пашчы ягонай; а калі ён кідаўся на мяне, дык я браў яго за касмачы і біў яго і забіваў яго … 38. І апрануў Саўл Давіда ў сваю вопратку, і ўсклаў на галаву ягоную медны шалом, і надзеў на яго браню. 39. … І зьняў Давід усё гэта зь сябе … 40. І ўзяў кій свой у руку сваю, і выбраў сабе пяць гладкіх камянёў з ручая, і паклаў іх у пастуховую торбу, якая была зь ім; і з торбаю і з прашчаю ў руцэ сваёй выступіў супроць Філістымляніна … 49. І апусьціў Давід руку сваю ў торбу і дастаў адтуль камень, і шпурнуў з прашчы і пацэліў Філістымляніну ў лоб, так што камень упіўся ў лоб ягоны, і ён упаў тварам на зямлю*»[17].

Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў *Бібліі* галоўныя героі названы «Давід, Саўл, Галіяф»[18] («Давід, Шауль, Гальят»[19]), у *Каране* — «Дауд, Талут і Джалут». Такім чынам, у тэксце падання з *Тэфсіра* Р223 імя *Дауда* напісана ў біблейскай форме «*Давід*». Імёны Джалут і Та-

лут утвараюць пару, такія сугучныя імёны характэрны для вусных паданняў. Прычым, калі імя Джалут з'яўляецца перадачай біблейскага «Галіаф», то імя Талут не паходзіць ад біблійнага «Саўл». На думку М. Піятроўскага, яно ўтворана ад арабскага корня *твл* — «быць доўгім», што робіць акцэнт на фізічнай моцы Талута[20]. Можна меркаваць, што на паходжанне імя паўплывала фальклорная традыцыя.

Паданне, змешчанае ў *Тэфсіры* Р223, нельга пазначыць простым пераказам біблейскага тэксту. Ёсць несупадзенні, напрыклад, паводле падання з *Тэфсіра*, Давід папрасіў панцыр для абароны: «*Дайце мне панцыр, паспрабую я з ім у імя Бога [схапіцца]*». У Бібліі, наадварот, Давід зняў з сябе панцыр: «*І апрануў Саўл Давіда ў сваю вопратку, і ўсклаў на галаву ягоную медны шалом, і надзеў на яго браню … І зьняў Давід усё гэта зь сябе …*» Можна меркаваць, што ў апошнім выпадку Давід больш спадзяваўся на заступніцтва Бога, таму для перамогі над ворагам яму не абавязкова было мець браню.

Аповед, змешчаны ў *Тэфсіры*, больш нагадвае вуснае паданне пра быліннага героя-асілка: «*Давід узяў камень і ў сэрца ўдарыў, навылёт праз сэрца прашыў, і войска пачало біц[ца]. І Джалута забіў, і войска пабіў*». У параўнанні з гэтым тэкстам урывак з *Бібліі* выглядае больш рэалістычным: «*І апусьціў Давід руку сваю ў торбу і дастаў адтуль камень, і шпурнуў з прашчы і пацэліў Філістымляніну ў лоб, так што камень упіўся ў лоб ягоны, і ён упаў тварам на зямлю*».

На нашу думку, паданне, змешчанае ў *Тэфсіры* Р233, з'яўляецца мусульманскай інтэрпрэтацыяй біблейскага сюжэта, на якую паўплывала яшчэ нейкае вуснае паданне, што існавала ў мусульманскім фальклоры. Невядома, было гэта вуснае паданне да ўзнікнення *Карана* ці ўзнікла ўжо пазней. У *Каране* гэты багаты сюжэт перададзены вельмі сціпла.

Тэкст пра бойку *Талута* з *Джалутам* згадваецца таксама ў змесце *Тэфсіра* з калекцыі бібліятэкі Вільнюскага універсітэта[21]. Такім чынам, біблейскія паданні ў мусульманскай інтэрпрэтацыі, якія часцей сустракаюцца ў *Кітабах*, можна знайсці і ў *Тэфсірах*.

Вельмі папулярнымі ў татараў былі маленькія малітоўнікі — ***Хамаілы.*** *Хамаіл* — у перакладзе з арабскай мовы азначае «тое, што носяць пры сабе», а таксама «талісман», «амулет». Беларускія татары *Хамаіламі* называлі кнігі малога фармату, у якіх былі сабраны малітвы на арабскай і цюркскай мовах, асобныя суры ці айаты *Карана*, тлумачэнні рэлігійных абрадаў, а таксама парады па лячэнні хвароб, тлумачэнні сноў, календары шчаслівых і нешчаслівых дзён, гадзін. Звычайна ў *Хамаіле* арабскія і цюркскія тэксты суправаджаліся тлумачэннямі на беларускай або польскай мовах, прычым беларускія тэксты не былі свабоднымі ад паланізмаў, а польскія не пазбаўлены беларускіх моўных асаблівасцей.



Вылучаюць Хамаілы «молінскія», «фалдзейскія» і універсальныя (самая вялікая група). Першыя прызначаліся для мул («мол»), змяшчалі малітвы і тлумачэнні абрадаў, другія служылі варажбітам, знахарам (фалдзеям), змяшчалі астралагічныя табліцы і магічныя рэцэпты супраць розных хвароб.

Узорам для *Хамаілаў* беларускіх татараў былі рукапісныя кнігі, прывезеныя з мусульманскіх краін, напрыклад, асманскай Турцыі, хаця назва «*Хамаілы*» ў мусульманскім свеце не выкарыстоўвалася для малітоўнікаў.

Значная частка *Хамаілаў* прысвечана апісанню абрадаў і паслядоўнасці іх выканання. Абрады былі прысвечаны самым важным момантам у жыцці чалавека: нараджэнню, наданню імя (абрад надання імя — азан — лічыўся больш значным, чым нараджэнне), шлюбу і смерці.

З-за дамінавання ў сістэме духоўнага жыцця людзей рэлігійнай свядомасці ўвага была сканцэнтравана на смерці, пасмяротным судзе, раі і пекле. Часта тэксты рукапісных кніг набывалі форму напамінаў пра вечнае замагільнае жыццё, пра адказнасць людзей за свае ўчынкі, даваліся перасцярогі: «*Калі не хочаш трапіць у пекла, кожнай ранішняй малітвай 7 разоў спявай (далей на арабскай мове): «Гасподзь наш…»; «Калі не хочаш у Судны дзень страх зазнаць, кожнай ранішняй малітвай 7 разоў спявай (далей на арабскай мове): «Гасподзь наш, даруй нам …*»[22]

Частка тэкстаў была прысвечана варажбе, якая была характэрна для быту беларускіх татараў. Варажбой займаліся фалдзеі, людзі, якім прыпісваліся асаблівыя незвычайныя здольнасці. Гэта маглі быць вернікі сталага ўзросту, якія ведалі мусульманскую літургію і лекавыя расліны. Яны чыталі над хворым малітву і пісалі магічныя формулы для амулетаў. Аднак былі і прафесіяналы, якія лячылі за плату. Яны атрымлівалі сваё майстэрства ў спадчыну і маглі, як лічылася, зносіцца з светам духаў[23].

Татары-мусульмане верылі, што значны ўплыў на лёс чалавека аказваюць «планеты», з якіх сем уплывае на сем дзён тыдня, а дванаццаць — на 12 месяцаў[24]. Калі ведаць, у якім месяцы і дні нарадзіўся чалавек, можна даведацца пра яго будучыню, высветліць імя дэмана, які яму шкодзіць. Для гэтага фалдзеі адкрывалі фал[25], гэта значыць варажылі на падставе складання гараскопа[26]. У *Хамаіле* Р402 з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі можна знайсці прыклады мусульманскай варажбы, якая захоўвалася ў культуры беларускіх татараў: «*Аліфовы фал*», заснаваны на варажбе па літарах імя чалавека, і «*Сулейманавы фал*», які быў указаны Пракокам Сулейманам (Саламонам)[27].

У залежнасці ад месцазнаходжання нябесных свяцілаў выпадалі шчаслівыя і нешчаслівыя дні і гадзіны. У Хамаіле Р402 на аркушах 68б — 74б змешчаны «астралагічны каляндар», з якога можна таксама даведацца, што інфармацыю пра спрыяльныя і неспрыяльныя дні паведаў Мусе (Майсею) сам Бог: «*Ай, Муса, у годзе дваццаць чаты-*

*ры дні ёсць. У тыя дні дзіця народзіцца — недаўгавечнае [будзе]. У тыя дні ў дарогу ехаць — здаровым не прыехаць. У тыя дні захварэць — не ачуняць. У тыя дні ў войска пайсці — здаровым не прыйсці. У тыя дні працу рабіць — тая праца не пойдзе на пажытак».*

Іншай пашыранай разнавіднасцю магіі была лячэбна-засцерагальная, якая была цесна звязана са знахарствам і з'яўлялася часткай народнай медыцыны. Лячэнне праводзілася некалькімі метадамі, пра іх распавядаецца ў асобніку Р402. Напрыклад, з дапамогай чытання над хворым малітваў (метад чытання малітваў над хворым ужываўся не толькі ў мусульманскай культуры): «*Цяжарнай жанчыне гэта співаць*» (Арк. 95б). Спалох, сурокі і іншыя захворванні лячылі «акурваннем»: «*Гэта курыць ад «шайтанаваґа заражэння»*» (Арк. 96б); «*ад радзімца малых дзяцей курыцца*» (Арк. 97а). Знахар спальваў «нуску» — маленькі аркуш з тэкстам малітвы; можна было абысціся і без акурвання, а аркуш з тэкстам малітвы проста «*каню ад сурокаў у грыву ўвязаць*» (Арк. 98б).

Для лячэння хворых знахары таксама выкарыстоўвалі цудадзейную ваду. Невялікія кавалачкі паперы з напісанымі арабскімі формуламі (нускі) клалі ў талерку з вадой, надпіс змываўся, а замоўленую ваду давалі хвораму: «*Гэта напісаць, ад ферэевай*[28] *заразы піць*» (Арк. 97б). Метад лячэння вадой, якой быў змыты запісаны тэкст, быў знаны сярод сямітаў яшчэ ад старазапаветных часоў[29]. Пра працягласць хваробы можна было даведацца наступным чынам: «*напісаць на паперы гэту дуа*[30] *і на ваду пусціць. Калі на бераг вады пойдзе — здаровы будзе; калі на сярэдзіну пойдзе — доўга хварэць будзе; а калі патоне — памрэ*» (Арк. 98б).

Спажыванне алкагольных напояў традыцыйна лічылася спакусай д'ябла, якому мусульманін павінен супрацьстаяць, каб не трапіць у пекла. Аднак у *Хамаіле* апошняй чвэрці XIX ст. (Р404) з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі, прысвечаным парадам па лячэнні хвароб, сярод рэкамендацый, якія звязаны з мусульманскімі традыцыямі, можна знайсці і парады з выкарыстаннем алкагольных напояў («*Ад трасцы ў новым гаршку жабу высушыць і з водкай піць*»), што носяць адбітак звычаяў мясцовых хрысціян.

Паводле ўяўленняў беларускіх татараў, жыццё было неспакойным і трывожным: ферэі шкодзілі чалавеку, прыносілі розныя хваробы, насылалі сурокі на людзей і на жывёлу. Аднак цудадзейныя словы малітваў баранілі ад усіх няшчасцяў: аркушы са словамі малітваў спальвалі (акурвалі хворых), клалі ў ваду (яна станавілася лячэбнай), іх насілі як талісман: «*Гэту дуа напісаць, ад розных хвароб, прыгод з сабой насіць — Пан Бог сцерагчы будзе ад ферэяў*» (Арк. 93б). Нашэнне амулетаў з магічнымі формуламі (напісанымі вершамі з Карана[31], малітвамі) — прыклад спалучэння элементаў мусульманскай рэлігіі з язычніцкай традыцыяй нашэння талісманаў для абароны ад злых духаў[32].



Такім чынам, у Хамаіле Р404 з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі можна знайсці цытаты з Карана і малітвы, якія выкарыстоўваліся вернікамі ў якасці цудадзейнага сродку (мусульманскія традыцыі), малюнак з узорам амулета, а таксама «рэцэпты» лекаў з ужываннем алкаголю (уплыў мясцовых звычаяў) і парады па лячэнні з дапамогай раслін (вядома ў культурах розных народаў).

У навукова-папулярнай літаратуры рукапісныя кнігі татараў былога ВКЛ называюць ***Кітабамі***. Слова «*Кітаб*» у перакладзе з арабскай мовы азначае «кніга». Аднак беларускія татары называлі *Кітабамі* не ўсе свае кнігі, а толькі адну разнавіднасць — спецыяльныя зборнікі, у якіх змяшчаліся паданні пра Прарока Мухамада, апісанні абрадаў, рытуалаў мусульман, маральна-павучальныя апавяданні і палемічныя творы.

Шырокае распаўсюджванне ў *Кітабах* знайшла турэцкая легенда «Мерадж» («лесвіца», «пад'ём»). Паданне звязана з сюжэтамі старажытных міфаў пра падарожжы ў краіну памерлых. Яно распавядае пра тое, як Мухамад паляцеў на крылатым кані на нябёсы, наведаў мусульманскі рай і пекла[33].

***Паўкітаб*** — гэта не толькі «малы *Кітаб*», але, на нашу думку, своеасаблівы від рукапісаў беларускіх татараў, які сваім зместам набліжаецца да *Хамаіла*. У *Паўкітабах* можна сустрэць розныя варажбітныя тэксты.

З прыняццем ісламу «неарабскія народы» ўспрынялі таксама і элементы арабскай культуры, частка арабскіх звычаяў і тэрміналогіі знайшла адлюстраванне ў варажбе, якая пачала распаўсюджвацца ў краінах Блізкага і Сярэдняга Усходу. У арабаў з дамусульманскіх часоў былі папулярнымі апавяданні аб паводзінах крумкача.

У *Паўкітабе* апошняй трэці XVIII ст. з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі змешчаны «Гузгун фал»[34], прадказанне па паводзінах крумкача[35]. Пераклад першай часткі прадказання: «*1) Як крук*[36] *крычыць — усю весць кажа; 2) Калі ў палёце крук пэўным голасам будзе клікаць, потым, сеўшы на зямлю, таксама будзе крычаць — трэба сцерагчыся… ад непрыяцеля альбо ад разбойніка…; 3) [Калі адкуль-небудзь] прыляцеўшы і на зямлю сеўшы, зямлю клююочы, «крук-крук» будзе такім жа чынам і голасам клікаць, потым паўторна ўзняўшыся, яшчэ на зямлю сеўшы, будзе клікаць — тады да трох дзён сцерагчыся трэба і ад'язджаць; 4) Калі, на дрэва сеўшы, крылы распусціць і, патрэсваючы крыламі, «крык-крык» пэўным чынам і голасам будзе клікаць — можаце з нечым сутыкнуцца, але твой верх будзе; 5) Калі адкуль-небудзь прыляцеўшы перад табой, прыціснуўшы крылы, неспакойна сядзець будзе і сам пачне на цябе паглядаць — хоць бы сеў есці, пакінуўшы, ад'язджай; 6) Калі чалавек хоча ведаць, добра ці дрэнна (яму будзе), ён павінен прыглядацца, якім чынам і якім голасам кліча (крумкач); 7) Калі крумкач тонкім голасам крычыць — для таго, хто чуе, — няшкодна. Калі «тан-тан» тым чынам кліча, хто*

*[чуе] … азначае; 9) Калі адкуль-небудзь прыляцеўшы… — таму… указвае гора; 10) Калі … на нозі паглядаць будзе — жаданы чалавек прыйдзе»*[37].

Крумкачовае прадказанне належыць таксама да фальклору і вераванняў цюркскіх народаў, якія захаваліся ў жыцці беларускіх татараў з далёкага мінулага. У многіх народаў існуе шмат арніталагічных прымет і звычаяў, напрыклад, зязюля лічыцца сімвалам часу, бусел — шчасця, арол — улады, сокал — высакароднасці. Крумкач лічыўся вешчуном і шанаваўся ў славян і арабаў як чароўная птушка, якой прыпісваліся прадказальныя здольнасці[38].

На думку А. Дразда, блізкасць да турэцкай літаратуры пацвярджаецца лексікай цюркскага паходжання, выкарыстанай ў прадказанні[39]. Яшчэ адным доказам цюркскага паходжання фала служыць структура пабудовы тэкстаў прадказання, якая адпавядае схеме, характэрнай найбольш архаічнаму тыпу апавядання ў цюркамоўнай літаратуры.

У *Паўкітабе* апошняй трэці XVIII ст. з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі змяшчаецца таксама найбуйнейшы антытрынітарны твор, які складаецца з чатырох палемічных тэкстаў на польскай мове, напісаных арабскім пісьмом[40]. Тэксты накіраваны супраць хрысціянскага догмату Тройцы і боскай прыроды Ісуса. Цікава, што ў гэтых палемічных тэкстах сустракаюцца цытата з *Брэсцкай Біблii* 1563 г. і каля 140 вершаў са *Старога* і 20 з *Новага Запаветаў Нясвіжскай Біблii* С. Буднага 1572 г.[41]

Найбольш папулярным у татараў быў арыянскі пераклад С. Буднага — *Нясвіжская Біблія* 1572 г., таму што погляды аўтара гэтага перакладу і яго інтэрпрэтацыя Святога Пісання былі блізкія татарам ВКЛ. Прываблівала татараў менавіта *Нясвіжская Біблія* тым, што асноўнай крыніцай перакладу С. Буднага быў старажытнаяўрэйскі арыгінал, таму татары лічылі гэты пераклад найбольш дакладным. Сведчаннем папулярнасці *Нясвіжскай Біблii* ў татараў ВКЛ з'яўляецца экземпляр Біблii з арабапісьмовымі нататкамі на польскай, цюркскай і арабскай мовах, які захоўваецца ў бібліятэцы Варшаўскага універсітэта[42].

З'яўленне цытат з *Нясвіжскай Біблii* ў палемічных тэкстах мусульманскай рукапіснай кнігі паказвае, што беларускія татары былі дасведчаны ў духоўных спрэчках, звязаных з Рэфармацыяй, ведалі хрысціянскую літаратуру, што была распаўсюджана ў ВКЛ.

У сваёй рэлігійнай літаратуры татары часта выкарыстоўвалі кнігі, якія, на думку мусульман, Бог паслаў чатыром пракорам: *Тора* была паслана Мусе (Майсею), *Псалмы* — Давіду (Дауду), *Евангелле* — Ісусу (Ісе) і *Каран* — Мухамаду, прычым *Каран*, паводле ісламу, быў выніковай кнігай у адносінах да ранейшых твораў[43].

Паводле ісламу, яўрэі і хрысціяне ў *Старым* і *Новым Запаветах* сказілі тэкст, таму што пісалі іх «сваімі рукамі», у адрозненне ад іх Мухамад дэкламаваў слова непасрэдна ў форме, перададзенай яму ад Бога праз анёла Джабраіла (Гаўрыіла)[44]. Але беларускія татары прынялі *Стары Запавет* як дапаўненне да поглядаў *Карана*, з біблейскіх тэкстаў запазычвалі палажэнні, што былі блізкія да іх рэлігійных поглядаў, кампанавалі біблейскія тэксты з мусульманскімі, з *Біблii* бралі таксама матэрыял для дыскусій з хрысціянамі і яўрэямі[45].



Узорам для кніжнасці беларускіх татараў была сярэдневяковая рэлігійная літаратура з мусульманскага Усходу: з Паволжа, Крыма, а часцей з асманскай Турцыі. У літаратуру татараў ВКЛ увайшлі тэксты арыентальнага паходжання: пераклады з арыентальных моў на польскую і беларускую мовы (самая вялікая колькасць тэкстаў), пераказы ўсходніх тэкстаў, а таксама цюркскія і арабскія творы на мовах арыгіналаў. Тэксты мясцовага паходжання ўяўлялі сабой адаптаваныя творы з літаратуры ВКЛ на польскай мове, а таксама самадзейную творчасць.

У перакладах захоўвалася мусульманская тэрміналогія, аднак сустракаліся і выпадкі ўжывання хрысціянскай тэрміналогіі замест мусульманскай. П. Сутэр адзначыў у *Тэфсірах* XVIII—XIX ст.[46] побач з мусульманскай тэрміналогіяй (айат, сура і інш.) ужыванне польскіх слоў з хрысціянскай тэрміналогіі («rozdział» — айат, сура)[47]. Акрамя таго, у *Тэфсірах* неаднаразова згадваецца Тройца, хаця ў арабскім арыгінале ўказанняў на Тройцу няма. Слова «Алаг» у *Тэфсірах* перакладаецца як «Бог».

Пры даследаванні *Кітабаў* В. Несцяровіч заўважыў, што слова «Алаг» выкарыстоўваецца толькі ў цытатах з усходніх арыгіналаў, а ў беларускіх тэкстах для пазначэння паняццяў мусульманскай рэлігii выкарыстоўваюцца словы «Бог, Пан Бог, прарок, энгел, рай, пекла, грэх, душа»[48].

Асобныя элементы старажытнай культуры (варажба, вера ў ферэяў, амулеты), што ўзыходзяць да язычніцтва, адлюстраваны ў магічных тэкстах *Паўкітабаў* і *Хамаілаў*. Арабская мусульманская культура прадстаўлена ў свяшчэннай кнізе іслама *Каране*, *Тэфсіры*, а таксама ў малітвах. Цытаты з *Карана* на арабскай мове, а таксама малітвы на арабскай і цюркскай мовах з тлумачэннямі на польскай і беларускай сустракаюцца ва ўсіх тыпах рукапісных кніг беларускіх татараў.

Некаторыя тэксты зведалі ўплыў мясцовых хрысціянскіх традыцый: ужыванне хрысціянскай тэрміналогіі ў перакладах Карана, цытаты з польскага перакладу *Біблii* ў палемічных тэкстах, лячэбныя парады з ужываннем алкаголю. У асобных тыпах рукапісных кніг можна прасачыць спалучэнне элементаў традыцый мусульманскай, хрысціянскай і старажытнай язычніцкай культур (*Кітабы*, *Хамаілы*).

Можна нават казаць пра наяўнасць асобных элементаў іудзейскай кніжнай культуры (якая ўспрымалася праз хрысціянскую), маючы на ўвазе, актыўнае выкарыстанне татарамі тэкстаў са *Старога Запавету*, цікавасць менавіта да пераклада *Біблii* са старажытнаяўрэйскага арыгінала, мусульманскія інтэрпрэтацыі біблейскіх гісто-

рый (бойка Давіда і Джалута). У адкланенні догмату Тройцы погляды іудзеяў былі блізкія мусульманам і хрысціянам-антытрынітарыям.

Аналіз зместу рукапісных кніг, разгляд асобных тэкстаў дазваляюць зрабіць наступныя высновы: Прататыпамі кніг беларускіх татараў былі арабскія і цюркскія рэлігійныя кодэксы, але іх змест набыў спецыфічныя мясцовыя рысы. Нягледзячы на тое што рукапісныя кнігі беларускіх татараў з'яўляюцца мусульманскімі рэлігійнымі кнігамі і іх змест адлюстроўвае прынцыпы і традыцыі ісламу, у іх тэкстах перш за ўсё маюцца прыклады спалучэння элементаў розных культурных традыцый: язычніцтва (варажба, вера ў ферэяў, амулеты), мусульманства (змест адлюстроўвае прынцыпы і традыцыі ісламу), іудаізма (цікавасць менавіта да перакладу *Біблії* са старажытнаяўрэйскага арыгінала) і хрысціянства (ужыванне хрысціянскай тэрміналогіі ў перакладах Карана, цытаты з польскага перакладу *Біблії* ў палемічных тэкстах, лячэбныя парады з ужываннем алкаголю).

У рукапісных кнігах адлюстраваны культурныя традыцыі асобнай этнічнай групы, а разам з тым культурныя і рэлігійныя працэсы, якія адбываліся ў ВКЛ.

1 З XIX ст. татары карысталіся таксама рускай, а ў паслясавецкі перыяд і літоўскай мовамі.

2 Некаторыя даследчыкі адзначалі ў якасці прычын страты роднай мовы таксама і іншыя акалічнасці, напрыклад змешаныя шлюбы (Мухлинскій А. Изследованіе о происхожденіи литовскихъ татаръ. СПб, 1857. С. 29; Канапацкі І. Гістарычныя лёсы татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы // Іслам і умма (абшчына) татар-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы на мяжы тысячагоддзяў: Матэрыялы VI Міжнар. навук.-практ. канф. Мн., 2001. С. 6.

3 Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры / Уклад і падрыхт. тэксту Т.С. Голуб. Мн., 1992. С. 112.

4 Borawski P. Asymilacja kulturowa Tatarów w Wielkim Księstwie Litewskim // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 1992. XXXVI. S. 163—191; Drozd A. Wpływy chrześcjańskie na literaturę Tatarów w dawnej Rzeczypospolitej // Pamętniki literacki. Wroclaw, 1997. Rocz. 88. Zesz. 3. S. 3, 5—6; Suter P. Alfurkan Tatarski. Der litauisch-tatarische Koran-Tefsir. Köln; Weimar, Wien, 2004. S. 2, 105.

5 Drozd A. Piśmiennictwo i muhiry Tatarów polsko-litewskich / Drozd A., Dziekan M. M., Majda T. Warszawa, 2000. S. 12—16.

6 Асобныя арабскія тэрміны ўвайшлі ў мову беларускіх татараў праз турэцкую (асманскую) мову і вымаўляліся па-турэцку.

7 У Хамаілах прыводзіўся традыцыйны набор тэкстаў з Карана: тэксты першай, другой сураў (з другой суры звычайна перапісваўся толькі пачатак), 35-й, 59-й (з 17(18) айата), 112-й—114-й. Дарэчы, у Хамаіле ЧЗ1814 з калекцыі Гродзенскага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі большая частка тэкстаў пададзена з падрадковым перакладам на беларуска-польскую мову (такая форма размяшчэння тэкстаў характэрна для Тэфсіраў).



8 Рукапісы беларускіх татараў канца XVII — пачатку XX стагоддзя з калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі: Каталог / Уклад.: І. А. Ганчарова, А. І. Цітавец, М. У. Тарэлка. Мн., 2003. (На правах рукапісу.)

9 Suter P. Alfurkan Tatarski … S. 28.

10 Сярод першых збораў рукапісных кніг Бібліі на Беларусі Дзесяціглаў, створаны ў 1502—1507 гг. у Вільні і Супраслі асветнікам Мацеем Дзесятым, Пяцікніжжа, перапісанае дзякам Фёдарам у 1514 у Вільні, зборнік біблейскіх кніг Ісуса Навіна, Суддзяў, Руфі, Царстваў і Эсфіры пачатку XVI ст. і Віленскі зборнік, які па апошніх даных датуецца першай палавінай XVI ст. (Францыск Скарына: Спадчына і пераемнікі: Анат. бібліягр. паказ. / Нац. б-ка Беларусі; аўт.-склад. Г. Я. Галенчанка; Рэд. Т. І. Рошчына. Мн., 2002. С. 7—12).

11 Антонович А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968. С. 19.

12 Drozd A. Staropolski przekład Koranu // Świat Islamu. 1995. № 1. S. 4; Jankowski H., Łapicz Cz. Klucz do raju: Księga Tatarów litewsko-polskich z XVIII wieku. Warszawa, 2000. S. 17; Suter P. Alfurkan Tatarski … S. 12.

13 Suter P. Alfurkan Tatarski … S. 126.

14 Рукапісы беларускіх татараў канца XVII — пачатку XX стагоддзя… С. 13.

15 Пераклад на сучасную беларускую мову (дакладней пераказ) зроблены на аснове транслітарацыі, складзенай М. Тарэлкам.

16 Айат — верш з Карана.

17 Біблія Кнігі Сьвятога пісаньня Старога і Новага Запавету: кананічныя: у беларускім перакладзе / Пераклад Васіля Сёмухі. 1-е выд. Duncaville, 2002. С. 396—398.

18 Маюцца на ўвазе пераклады на царкоўнаславянскую і польскую мовы, зробленыя з лацінскіх і грэчаскіх перакладаў.

19 Пераклады са старажытнаяўрэйскай мовы.

20 Пиотровский М. Б. Коранические сказания. М., 1991. С. 139.

21 Мишкинене Г. Каталог арабскоалфавитных рукописей / Мишкинене Г., Намавичюте С., Покровская Е. Вильнюс, 2005. № 4. С. 11—12.

22 Хамаіл (Р402) апошняй чвэрці XIX ст., арк. 12а (ЦНБ НАН Беларусі).

23 Мишкинене Г. Фольклорное наследие литовских татар и его взаимодействие с фольклором белорусов и поляков // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства і літаратуразнаўства: Матэрыялы IV Міжнар. навук. канф. Віцебск, 1997. Ч. 2. С. 352.

24 Паводле рукапісаў беларускіх татараў, пад «планетамі», якія ўплываюць на сем дзён тыдня, меліся на ўвазе нябесныя целы, а пад «планетамі», што ўплываюць на 12 месяцаў, — задыякальныя сузор'і. Падрабязней пра гэта гл. у артыкуле: Szachno-Romanowicz S. Planetne dualary Tatarów polskich (tatarskie teksty magiczno-ochronne w chamaile Aleksandrowicza) // Rocz. Tatarów Pol. 1997. T. 4. S. 13, 15.

25 Слова «фал» прыйшло да беларускіх татараў з арабскай праз цюркскую мову і азначала «прадказанне, звязанае з будучым лёсам чалавека».

26 Kryczyński S. Tatarzy litewscy: Proba monografii hist.-etnogr. // Rocz. Tatarski. 1938. T. 3. S. 284.

27 Падрабязна пра гэты фал гл. у артыкуле: Кожинова А., Тарелко М. Восточнославянские диалектные черты в рукописи «Фал Соломона о двена-

дцати планетах» // Jezyk i kultura na pograniczu polsko-ukrainsko-bialoruskim / In-t Europy Srodkowo-Wschodniej. Lublin, 2001. S. 145—158.

[28] Ферэй — злы дух.

[29] Drozd A. Piśmiennictwo … S. 46.

[30] Дуа — малітва, просьба, заклік.

[31] Каран з’яўляецца ахоўнай і цудадзейнай кнігай для кожнага мусульманіна, але найбольш прыдатнымі дзеля гэтай мэты лічыліся тэксты суры Фаціха, Аль-Бакара і Аль-Іхлас, падборкі з іх выкарыстоўваліся як талісман (Ислам: Энцикл. слов. / АН СССР. Ин-т востоковедения. М., 1991. С. 211, 214).

[32] Александрович-Мишкинене Г. Фольклорное наследие литовских татар (на материале арабскоалфавитных рукописей середины XVII в.) // Вывучэнне і захаванне культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі: Матэрыялы III Міжнар. навук.-практ. канф. Мінск, 1999. С. 127.

[33] А. Антановіч вылучыў пяць спісаў гэтай легенды ў Кітабах беларускіх татараў (Антонович А. К. Белорусские тексты … С. 137); Г. М. Мерэдыт-Оуэнс і А. Надсан знайшлі спіс гэтай легенды ў Кітабе 1831 г. з кнігазбору Брытанскай бібліятэкі ў Лондане (Meredith-Owens G. M., Nadson A. The Byelorussian Tartars and their Writings // J. of Byelorus. studies. 1970. Vol. 2, № 2. P. 162—163); В. Несцяровіч — у Кітабе Хасяневіча 1832 г. з недзяржаўнага кнігазбору (Несцяровіч В. І. Кітаб 1832 года: палеаграфія, змест, графіка, арфаграфія // Весн. Віцеб. дзярж. ун-та. 2001. № 2. С. 84). Спіс легенды змешчаны ў Кітабе другой палавіны XIX ст. (11Рк15) з кнігазбору Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

[34] Kuzgun (*турэцк.*) — крумкач.

[35] Падрабязней гл. у артыкуле: Тарэлка М. У., Цітавец А. І. Прадказанне па паводзінах крумкача ў арабаграфічным рукапісе з фонду Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі // Здабыткі. Мн., 2002. Вып. 5. С. 121—130.

[36] Крук — крумкач, груган (Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 16 / НАН Беларусі. Ін-т мовазнаўства. Мн., 1997. С. 182).

[37] Тэкст пашкоджаны.

[38] Борейко В. Е. Грищенко В. Н. Экологические традиции, поверья, религиозные воззрения славянских и других народов. Т. 2: Птицы. 2-е изд. [Киев], 1999. С. 5, 134.

[39] Drozd A. Ornitomancja Tatarów Polskich // Rocznik Tatarów Polskich. 2. 1994. S. 36

[40] Мову тэкстаў можна вызначыць як віленскую пальшчызну, што ўзнікла ў выніку адаптацыі вясковым насельніцтвам рэгіянальнага варыянта польскай літаратурнай мовы ВКЛ (Тарэлка М.У. Структура арабаграфічнага тэксту на польскай мове: Аўтарэф. дыс. ... / Бел. дзярж. ун-т. Мн., 2004. С. 11—12).

[41] Там жа. С. 9—11.

[42] Drozd A. Piśmiennictwo …. S. 31.

[43] Jankowski H., Łapicz C. Klucz do raju … S. 23.

[44] Drozd A. Piśmiennictwo …. S. 13.

[45] Drozd A. Wpływy chrześcjańskie na literaturę Tatarów w dawnej Rzeczypospolitej // Pamętniki Literacki. Wroclaw, 1997. Rocz. 88, zesz. 3. S. 32—33; Мишкинене Г. Полемика между мусульманами и иудеями (на материале арабскоалфавитных рукописей литовских татар середины XVII в.) // Krakowsko-Wileńskie Studia Slawistyczne. 1997. T. 2. S. 234—249.



[46] П. Сутэр даследаваў Тэфсір 1725 г. (Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане), Тэфсір 1811 г. (Бібліятэка факультэта арыенталістыкі С.-Пецярбургскага універсітэта), Тэфсір XVIII ст. (Бібліятэка Інстытута ўсходазнаўства РАН, С.-Пецярбург.), Тэфсір канца XIX ст. (прыватная калекцыя І. Канапацкага) (Suter P. Alfurkan Tatarski … S. 555).

[47] Suter P. Alfurkan Tatarski … S. 118.

[48] Несцяровіч В. Старажытныя рукапісы беларускіх татар (Графіка. Транслітарацыя. Агульная характарыстыка мовы. Фразеалогія). Віцебск, 2003. С. 37.

# ТЭКСТАЛОГІЯ. ПАЛЕАГРАФІЯ

*І. П. Клімаў*

## ЗМЕСТ, КАМПАЗІЦЫЯ І ЖАНР «ПРАДМОВЫ» ВАСІЛЯ ЦЯПІНСКАГА

Васіль Цяпінскі пераклаў і выдаў недзе ў 1570-х гг. на Беларусі Евангелле[1]. Да друкаванага выдання ён даслаў прадмову, якая захавалася толькі ў адзіным рукапісе. Гэта 4 лісты (памерам ≈ 20 × 30 см), прыплеценыя да друкаванага Евангелля ў вялікім канвалюце (памер in folio), што быў створаны ў 1580 г. у Супрасльскім манастыры. Почырк, якім напісана прадмова, сустракаецца і на іншых старонках канвалюта, з чаго вынікае, што рукапіс Прадмовы не з'яўляецца аўтографам В. Цяпінскага, а належыць манастырскаму пісцу. Мажліва, што існаваў друкаваны арыгінал твора, з якога і быў зроблены спіс[2].

Упершыню пра «Прадмову» В. Цяпінскага згадаў архімандрыт Іосіф у 1861 г.[3], але навуковаму свету гэты твор стаў вядомы толькі пасля публікацыі яго тэксту ў 1890 г., здзейсненай П. Уладзіміравым[4]. Пасля таго твор з рознай ступенню дакладнасці неаднойчы публікаваўся[5] і нават падаваўся фотатыпічна[6], але яго крытычнае выданне пакуль што адсутнічае. Няма таксама поўнага і беспамылковага прачытання гэтага цікавага твора, яго літаратурнага аналізу[7].

Да Прадмовы звярталася шэраг даследчыкаў, аднак ступень яе вывучанасці ўсё яшчэ застаецца недастатковай. Нягледзячы на наяўнасць фрагментарных (а часта нават памылковых) пераказаў зместу Прадмовы ў розных падручніках і працах[8], асноўная ідэя, кампазіцыйныя і жанравыя асаблівасці твора спецыяльна не разглядаліся[9]. Відаць, пэўнай перашкодай тут сталі спецыфічны сінтаксіс і своеасаблівая вобразнасць твора, якія замінаюць хуткаму зразуменню тэксту. Першы даследчык твора М. В. Доўнар-Запольскі наогул палічыў Прадмову чарнавіком, які не закончаны ці не апрацаваны аўтарам[10]. Таму асаблівую важнасць набывае правільная інтэрпрэтацыя зместу, высвятленне жанру і даследаванне кампазіцыі твора.

Яшчэ ў 1899 г. выйшла невялікае, але вельмі грунтоўнае даследаванне М. В. Доўнар-Запольскага па біяграфіі В. Цяпінскага, дзе даволі падрабязна разбіраўся змест Прадмовы і вызначаліся асноўныя ідэі твора[11]. Даследчык вельмі ўдала спалучыў аналіз Прадмовы з разглядам актавых крыніц (у асноўным тых, што захаваліся ў Метрыцы ВКЛ), дзе згадваўся Цяпінскі. Гэта дазволіла яму ахарактарызаваць светапогляд Цяпінскага і асвятліць шматлікія аспекты яго жыцця, перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасці, пра якія амаль нічога не было вядома. Гэты разбор цалкам захоўвае сваю вартасць і дагэтуль. У далейшым амаль усе пераказы зместу твора паслядоўнічалі сцэнарыю, распрацаванаму М. В. Доўнар-Запольскім.



Аднак ён падышоў да «Прадмовы» В. Цяпінскага як да гістарычнай крыніцы, літаратурны аналіз твора застаўся па-за ўвагай даследчыка. На недастатковасць такога падыходу ўжо ўказвалася[12], ён не дазваляе раскрыць змест твора, яго літаратуна-мастацкія асаблівасці і ў выніку адэкватна зразумець ідэі і мэты аўтара.

Дадзенае даследаванне з'яўляецца спробай сюжэтна-кампазіцыйнага і жанравага аналізу помніка. Аналіз яго зместавай структуры і мастацкай спецыфікі мае значэнне для ацэнкі Прадмовы як літаратурнага твора, што дазволіць ацаніць твор і як гістарычную крыніцу.

У далейшым Прадмова цытуецца паводле арыгінала з уласным разбіццём на сказы. Арфаграфія (але не графіка) цытат адпавядае арыгіналу, надрадковыя знакі ўсюды скасаваны, выносныя літары ўнесены ў радок і ўзяты ў дужкі, скарочаныя напісанні не раскрываюцца, прапушчаныя ў тэксце літары аднаўляюцца, але ў гэтым выпадку бяруцца ў квадратныя дужкі.

**1. Склад тэксту.** Хаця ўжо выказвалася думка, што Прадмова — гэта твор, незакончаны ў літаратурных адносінах, аднак яна не атрымала ніякага абгрунтавання. Няма падстаў лічыць, што вядомы цяпер тэкст Прадмовы — гэта чарнавік ці неапрацаваны тэкст. Паводле некаторых асаблівасцяў у змесце, кампазіцыі і функцыі твора трэба меркаваць, што «Прадмова» В. Цяпінскага была надрукавана разам з Евангеллем і, магчыма, уваходзіла ў склад больш буйнога прадмоўнага комплексу твораў, што суправаджаў гэтае Евангелле[13].

Перш за ўсё неабходна звярнуць увагу на дадатковую частку, якая змешчана напачатку рукапісу, на арк. 1. Яна звычайна ігнаруецца пры публікацыі тэксту твора, але паводле сэнсу звязана з ім. Разуменне твора, як і яго інтэрпрэтацыя, немагчымы без уліку гэтай часткі.

Рукапіс помніка добра чытэльны, яго палеаграфічныя асаблівасці ўжо былі разгледжаны[14].

**2. Графічная рубрыкацыя тэксту.** Рукапіс помніка мае падзел на абзацы і сказы, што дасягаецца выкарыстаннем трох графічных прыёмаў: а) абзацнага водступу і чырвонага радка, б) вялікай літары напачатку сказа, в) знакаў прыпынку ў сказе і напрыканцы яго.

У помніку было выкарыстана ўсяго чатыры знакі прыпынку: коска, тонкая кропка, тлустая кропка, тлустая кропка з дзвюма нахіленымі рыскамі над ёй. Першыя два знакі функцыянальна ўзаемазаменныя і ставяцца ў межах сказа (на мяжы словазлучэнняў ці больш буйных сінтагмаў), два другія знакі ставяцца напрыканцы сказаў (як правіла, гэта перыяды ці складаныя сказы). Вялікая літара пішацца з чырвонага радка і (ці) пасля двух апошніх знакаў прыпынку (тлустай кропкі, тлустай кропкі з дзвюма нахіленымі рыскамі). Абзац (чырвоны радок) пачынаецца з вялікай літары і новага радка.

Тэкст паміж чырвонымі радкамі называецца абзацам, а паміж вялікімі літарамі ўнутры абзаца — параграфам. Адпаведна, рубрыкацыя твора будзе мець наступны выгляд:

| абзацы | параграфы | сказы | абзацы | параграфы | сказы |
|---|---|---|---|---|---|
| I | — | 1 | | 2 | 16 |
| II | — | $2^{a}$ | | 3 | 17 |
| III | — | $2^{b}$ | | 4 | 18 |
| IV | — | 3—4 | | 5 | 19—22 |
| V | — | 5 | X | — | 23 |
| VI | 1 | $6^{a\text{-}b}$ | XI | 1 | 24 |
| | 2 | 7—8 | | 2 | 25 |
| | 3 | 9—11 | | 3 | 26—30 |
| | 4 | 12 | | 4 | 31—$32^{a}$ |
| VII | 1 | $13^{a}$ | XII | 1 | $32^{b}$—37 |
| | 2 | $13^{b}$ | | 2 | 38 |
| VIII | — | 14 | | 3 | 39—40 |
| IX | 1 | 15 | | | |

Унутры двух абзацаў XI (паміж § 2 і 3) і XII (паміж § 2 і 3) існуе значны прагал у сярэдзіне радка. Тут, магчыма, у друкаваным арыгінале твора існаваў абзац, які, відаць, быў скасаваны перапісчыкам. Гэта было зроблена ў мэтах эканоміі месца: напрыканцы спіса ён пачаў эканоміць радкі, каб змясціць увесь тэкст[15].

Затое шмат абзацаў прыпадае на першую старонку рукапісу — на ёй змешчаны жанрава і функцыянальна розныя тэксты: загаловак, дзве цытаты, фрагмент прадмовы. Нягледзячы на сваю разнароднасць, яны змястоўна звязаныя як з тэкстам далейшай прадмовы, так і з друкаваным Евангеллем.

**3. Зместавая структура твора.** З графічнымі, прасторавымі паказчыкамі рубрыкацыі тэксту — абзацамі, параграфамі і сказамі — карэлююць семантычныя, зместавыя кампаненты. Да ліку такіх можна аднесці адносна самастойныя фрагменты твора — часткі і адрэзкі. Адрэзак — гэта паслядоўнасць сказаў, што характарызуецца пэўнай сэнсавай завершанасцю і тэматычнай аднастайнасцю. Сярод візуальных паказчыкаў адрэзку адпавядае абзац ці параграф. Частка — гэта інтэгральная сэнсавая адзінка, якая ўтвараецца на базе адрэзкаў шляхам аб'яднання іх у сэнсава-тэматычныя адзінствы. У частках развіваецца пэўная тэма, афармляецца і завяршаецца пэўная думка ці ідэя. Апрача таго, кожнай частцы ўласціва тая ці іншая мадальнасць апавядання (звяртанне ў мн. ці адз. ліку, ад 1-й ці 2-й асобы, суадносіны з момантам гутаркі і яе рэальнасцю і г. д.). Падзел твора на часткі не выклікае асаблівых цяжкасцей, паколькі зместавая структура карэлюе з графічнай.

Помнік складаецца з 7 буйных кампазіцыйных частак, умоўна названых: «уступ» (абзацы I—IV), «прэзентацыя» (V—VIII), «выкрыванне» (IX § 1—3), «сведчанні» (IX § 4—5 — XI § 1—2), «звяртанне» (XI § 3—4), «запавет» (XII § 1) і «даканчанне» (XII § 2—3), іх аб'ём не роўны паміж сабой (у прапорцыі, адпаведна: 1/10 : 1/5 : 1/10 : 7/20 : 1/10 : 1/10 : 1/20). Кожная частка тэматычна закончана, сюжэтны пераход да суседніх частак існуе толькі паміж «прэзентацыяй» і «выкрываннем» і, у меншай ступені, паміж «звяртаннем» і «запаветам». Сувязь паміж усімі часткамі забяспечваецца лексічна (праз адсылкавыя словы), граматычна (праз злучнікі і часціцы) і візуальна (паслядоўным размяшчэннем адна за адной). Як будзе паказана далей (гл. п. 4), некаторыя з гэтых частак магчыма аб'яднаць у больш буйныя кампазіцыйныя адзінствы.



**3.1. »Уступ».** Гэтая частка аб'ядноўвае рознафункцыянальныя і ў некаторых адносінах разнародныя кампаненты: загаловак (1), два эпіграфы ($2^{a—b}$), звяртанне да чытача (3—4). У загалоўку гаворыцца пра катэхізіс для дзяцей Хрыстовых, пад якім разумеюцца менавіта хрысціяне, без адрознення ва ўзросце[16]. У якасці эпіграфа выступаюць дзве цытаты з царкоўнаславянскага Апостала (1-е Пятра 2:2; 1-е Карынф. 14:20)[17]. Кароткае звяртанне да чытача (ці хутчэй яго папярэджэнне) падзяляецца на два няроўныя кампаненты: у першым ($3^{a—b}$) апавяданне вядзецца ад імя калектыўнага множнага, у апошняй (4) аўтар ужо гаворыць ад свайго імя.

Магчыма, усе гэтыя тэксты — рэшта больш буйнога твора, які належаў В. Цяпінскаму і які служыў пачатковай часткай яго выдання. Аднак паколькі гэты твор страчаны, то гэтая частка, што змяшчаецца напачатку, выконвае функцыю ўступу ў тэкст астатняй прадмовы. Ва ўсялякім выпадку, усе названыя кампаненты суадносяцца і з тэкстам астатняй прадмовы, і з некаторымі тэкставымі фрагментамі друкаванага Евангелля.

**3.2. Першая частка: «прэзентацыя».** Менавіта ў гэтай частцы рэалізуецца утылітарная функцыя прадмовы. Тут аўтар прадстаўляе ўласнае выданне, паведамляе пра спосаб яго выдання і перакладу, мэты выпуску ў свет, акрэслівае аўдыторыю сваіх чытачоў.

«Прэзентацыя» пачынаецца з загалоўка ($5^{b}$) і складаецца з 3 сэнсава звязаных паміж сабой адрэзкаў (6—8, 9—11, 12) і аднаго адрэзка (13—14), што стаіць крыху асобна ад іх, але злучае гэтую і наступныя часткі з «уступам».

Загаловак твора паводле сваёй лексічнай і граматычнай структуры дакладна пераймае загалоўкі Паўлавых пасланняў (гл. 5.2), якія зрабіліся папулярнымі ў тагачаснай пратэстанцкай літаратуры.

У 1-м адрэзку аўтар прадстаўляе *мою в□роу* (друкаванае Евангелле) *народоу своємоу роускому* і выказвае спадзяванне, што чытачы гэтую веру *потве(р)дять, а єстли є(ст) в чо(м) блу(д)на оны то поправя(т)* (6). В. Цяпінскі характарызуе духоўную якасць свайго перакладу, выкананага з Боскай дапамогай *зъ зычливости ку моєи очизне* ($8^{a}$). Пры гэтым ён адзначае нядбайнасць пра пераклад і выданне Св. Пісьма праваслаўнага духавенства:

тыя, *которымъ бы то властнеи учинити пристоєло, митрополитове вл(д)ки и нихто з учоны(х), чере(з) та(к) многіи ча(с) не хот□ли* (8[b]).

У 2-м адрэзку В. Цяпінскі падкрэслівае, што гэтая праца была выканана ім за ўласны кошт і запатрабавала значных выдаткаў, вывучэння *кни(г) стари(г) давни(х)*, высілкаў па арганізацыі друкарні, *ач вельми(м) сто(л) ве(д)же пре(д)се и до(л)жачисе* (9[b]). Пры гэтым беларускі пратэстант усведамляў, што, як русін, ён *не вло(х) не н□мець або не доктор, и ниякіи постановеньи межи попы* (10)[18], але *зъ и(х) зносре(д)коу* ён будзе *своєи руси оуслоугуючии* (10). У сваёй працы В. Цяпінскі сустрэўся з чалавечай варожасцю, калі *такою невдячностью, взгардою, а некоторыі вместо помочи або дяки, и зазростью платити хот□ли* (11[a]). Аднак ён па-хрысціянску даруе ўсім сваім нядобразычліўцам, жадаючы ім выратавання душы і імкнучыся ім *оупреимо(ст) ср(д)ца моєго и(м) показова(т)* (11[d]).

У 3-м адрэзку аўтар зноў вяртаецца да характарыстыкі свайго перакладу, указваючы яго крыніцу (царкоўнаславянскі тэкст, што выкарыстоўваецца для набажэнства) і прынцып перакладу (*слово о(т) слова*), а таксама аб'ём (*єv(г)лия писа(н)я стго ма(т)фея, и стго марка, и початокъ лоуки*) і спосаб выканання (*в тои убогои моєи дроука(р)ни о(т) мене имъ выдруковано*), прызначэнне перакладу (*для л□пшого и(м) розсоу(д)коу на(д)то и для и(х) самихъ цвиче(н)я, в то(м) неледа оучоно(м), єзыкоу слове(н)скомъ*) (12). Ён таксама адзначае, што выданне дыглоты не было лёгкай справай (12[a]).

Як бачна, першым тром адрэзкам гэтай часткі ўласцівы сэнсавыя паўторы: аўтар вяртаецца да папярэдняй тэмы, часткова пераказваючы яе і пашыраючы новымі дэталямі. У адрозненне ад гэтых адрэзкаў 4-ы апавядае пра катэхізіс, які дасылаецца напачатку друкаванага Евангелля (13[a]). Катэхізіс прызначаецца для духоўнага выхавання народа: з дапамогай катэхізіса *ку мо(ж)неиши(м) наоука(м) в слове своє(м), ку стато(ч)ному ро(з)судку, и ку оумеєтности па(н) оучини(т) и взбоудить* (13[b]). Патрэбу ў гэтым абумовіла *обачива(н)є речеи жалосны(х)*, якое *кгва(л)то(м) слова до устъ гони(т)* (14) — гэтак задаецца пераход на наступнай часткі.

**3.3. Другая частка: «выкрыванне».** У «выкрыванні» (15—17) немагчыма вылучыць асобныя адрэзкі, тым не менш гэта самастойная частка, што характарызуецца кампазіцыйнай завершанасцю і тэматычнай аднастайнасцю.

У «выкрыванні» малюецца карціна духоўнага і адукацыйнага заняпаду, які *запокаранємъ панскимъ* апанаваў *та(к) велики(х) княжа(т), таки(х) пано(в) значны(х), такъ мно(г)[о] дето(к) неви(н)ны(х), мужо(в) з жонами. в тако(м) зацномъ руско(м), а злаща пере(д) тымъ довстино(м) оучоно(м) народе* (15). Прычынай заняпаду В. Цяпінскі называе *єзыка своєго славнаго занедба(н)є, а просто взъгардоу*, так што *вжо некоторие и писмо(м) се свои(м), а злаща в слове бжемъ. встыдаю(т)* (16). У выніку *оная ясная их в слове бжьєм мдрость … от них отишла*, што прывяло да



бядотнага адукацыйнага стану праваслаўнага духавенства, калі *и тыє што се межи ними зову(т) духовными, и учители, см□ле мовлю, намнеи єго не вмею(т), намнеи єго вырозуме(н)я не знаю(т), ани се в не(м) цвича(т). але и ани школы коу науце єго, нигде не маю(т)* (17), чаму вымушаныя звяртацца да замежнага ці польскага пісьменства.

Малюючы жаласлівыя карціны заняпаду, Цяпінскі меў на ўвазе не проста недахоп пісьменнасці ці адукаванасці ў тагачасным беларускім грамадстве, а нізкі ўзровень разумення царкоўнаславянскага тэксту Св. Пісьма ў праваслаўным асяроддзі. Гэтым самым ён імкнуўся падкрэсліць вартасць і патрэбу свайго выдання, дзе паралельна перакладу быў надрукаваны царкоўнаславянскі тэкст.

**3.4. Трэцяя частка: «сведчанні».** Бядотнаму стану Русі, намаляванаму ў папярэдняй частцы, супрацьпастаўлены наступны раздзел (18—25) са «сведчаннямі» мінулага росквіту славян, які стварае выразны кантраст да карціны іх цяперашняга заняпаду. Кантраст дасягаецца колькасцю прыкладаў са славянскага мінулага. Багатая рыторыка са складаным сінтаксісам аздабляе кожны прыклад.

У гэтай частцы аўтар прывёў «сведчанні», якія так ці інакш характарызуюць духоўныя якасці даўняга славянства, размеркаваўшы іх наступным чынам: 1) сведчанні розных асоб і народаў аб духоўнай велічнасці славян у мінулым, прычынай чаго, як робіць аўтар выснову, была высокая ступень шанавання славянамі духу ды літары Св. Пісьма і павага да старажытных перакладчыкаў Бібліі (18—22); 2) прыклады дабрадатнасці славян, засведчаныя пісьмовымі помнікамі, вынікам чаго сталася ўсеагульнае прызнанне іх мудрасці (23); 3) сведчанне «прыкладу вядомага» — уплыву славянскага перакладу Св. Пісьма на перакладчыцкую дзейнасць Еўропы пад час Рэфармацыі (24—25). Адпаведна гэтаму, «сведчанні» выразна падзяляюцца на 3 вялікія адрэзкі.

Напачатку 1-га адрэзка аўтар бярэ сабе ў сведкі і хадатайнікі святых Івана Залатавуснага і Рыгора Багаслова[19], якія жахнуліся б, калі б пабачылі, *яко окраса и оздоба народу ихъ, в потомстве и(х) о(т)нята, а просто загинула* (18). Аўтар падкрэслівае, *яко то бы(л) зацныи, славныи, остріи, довстипныи наро(д) и(х) в умеєтности. и яко многокро(т) посторонніє, учоныє. народы, и(х) мдрость мусели похваля(т), и овше(м) се о(т) нихъ оучи(т)* (19). Гэтыя вартасці даўняга славянства, на думку Цяпінскага, вынікалі з высокай павагі да Св. Пісьма, што было перакладзена на царкоўнаславянскую мову і чыталася *не о(д)но въ и(х), але и по вс□(х) церква(х) сербски(х), моско(в)ски(х), волоски(х), булъга(р)ски(х), ха(р)вацки(х), і ины(х)*[20] (20). Пераклад гэты меў шмат здатнасцяў, сярод якіх бадай што самымі галоўнымі былі дакладнасць і эквівалентнасць арыгінала (21). Тут аўтар адзначае адпрыродную кемлівасць і адоранасць славянства, *которы(м) а што може(т) бы(т) природже(н)шого одно не*

*ру(с)*, і выказвае спадзяванне, што каб славяне *бы были в читаню писм свои(х) они(х) беглішими*, то *се не плонно и(м) приводило* (22).

У 2-м адрэзку (23) В. Цяпінскі пераходзіць да ацэнкі былога славянства з рэлігійных пазіцый. Прыклады дзеля гэтага бяруцца, як зазначае аўтар, з помнікаў пісьменнасці (*што се та(м) пише(т) паметниками*), якія сведчаць аб здатнасці і дасведчанасці старажытнага славянства. У прыватнасці, ён пералічвае: «сіноды» з Папам Рымскім, якія мелі славяне ў мінулым[21]; выратаванне сваіх «братоў» ад ерасяў і настаўленне іх у веры; навучанне розным мовам; вядзенне праведнага жыцця; шанаванне сваіх «вучыцеляў»[22].

У 3-м адрэзку В. Цяпінскі прыгадвае *то(л)ко оди(н) явны(и), ясныи а ве(ч)ноє паме(ти) годныи прикла(д) …, а которі(и) и бе(з) писма вси(м) в□домыи значныи а праве ви(до)мы(и) єсть* (24[a]), маючы на ўвазе значэнне славянскага перакладу Св. Пісьма для Рэфармацыі[23]. Самабытнасць такога перакладу аўтар лічыць *гоины(м) даро(м)ъ*, пададзеным славянам *дле та(к) великоє светобливости своеє* прама ад Бога, а не ад зямных уладароў і народаў, хай сабе і вядомых вялікай вучонасцю (24[b])[24]. Перакладам Св. Пісьма на ўласную мову славяне пераўзышлі не толькі старажытныя народы, але і *на(м) недалеки(х), влохо(в) немцов поляко(в) фра(н)цуѕо(в) ганклико(в) гишпано(в). а коро(т)ко мовечи на(д) вси(х) на свете хр(с)тия(н)ски(х) народо(в)* (24[c]). В. Цяпінскі падкрэслівае, што славяне *подлу(г) науки ап(с)льскоє, свои(м) влосны(м) єзыко(м) о(т) та(к) давного ча(с)у слово боже выложили, и мели, и на(м) зоставили* (24[d]). Таму славянскі пераклад натхніў іншыя народы на тое, каб перакладаць і чытаць Св. Пісьмо *свои(м) те(ж) єзыко(м) прирожоны(м)* (25).

Як бачна, абедзве часткі, «выкрыванне» і «сведчанні», аб’яднаны адзінай тэмай становішча славянскай духоўнасці ў сучасным і мінулым. Аўтар быццам параўноўвае два перыяды славянскай гісторыі: культурны ўздым, вынікам якога з’явіўся пераклад Св. Пісьма на родную мову, і культурны заняпад, пад час якога няма пашаны новаму перакладу Св. Пісьма на родную мову (відавочна, маецца на ўвазе евангельскі пераклад В. Цяпінскага).

Захапленне В. Цяпінскага бліскучай мінуўшчынай славянства, высокім узроўнем іх асветы ды духоўнасці ў даўнія часы нагадвае міф пра «залаты век», распаўсюджаны сярод гуманістаў. Панегірык славянству спатрэбіўся аўтару для стварэння кантрасту паміж мінулым росквітам і сучасным заняпадам. Гэтым самым уводзіцца, напэўна, упершыню ў беларускай літаратуры ідэя адраджэння, прычым адразу звязаная з паняццямі культуры, мовы і пісьменства. Таму некаторыя сучасныя аўтары адзначаюць нечаканую сугучнасць прадмовы В. Цяпінскага адраджэнскаму дыскурсу[25], што, зразумела, з’яўляецца мадэрнізацыяй.

Другі міф, які прысутнічае ў «сведчаннях», адбіўся ў падкрэсленай ролі славянскай традыцыі перакладаў Св. Пісьма для распаўсюджання Рэфармацыі, калі пад прыкладам славян усе іншыя народы Еўропы пачалі перакладаць і чытаць Св. Пісьмо на сваёй мове. Гэта яскрава рэфармацыйны міф, які мог быць народжаны толькі ў асяроддзі славянскіх пратэстантаў.



У сувязі з гэтым В. Цяпінскі выкладае асобныя гістарычныя факты ў скажоным выглядзе, які хутчэй адлюстроўвае заходнія ўяўленні пра славянства. Так, пад старажытным славянскім перакладчыкам В. Цяпінскі разумее зусім не Кірыла, а Ераніма (каля 340(50)—420)[26]. І гэта пры тым, што справа Кірыла-Канстанціна была акцэптавана пратэстантамі і ўжывалася ў якасці антыкаталіцкага аргумента ў рэлігійнай палеміцы XVI ст.[27] Адпаведна, Цяпінскі перабольшвае старажытнасць царкоўнаславянскага перакладу (ён выкананы *пере(д) тисе(ч)ю л□(т)* (маргіналія, a—b)), яго памер і крыніцы[28], нарэшце, фальсіфікуе вядомасць пра ўсходняе славянства (*русь*) сярод старажытных народаў[29]. У такой самай ступені перабольшана значэнне царкоўнаславянскага перакладу Св. Пісьма для справы Рэфармацыі[30]. Такім чынам, звесткі пра славянскую мінуласць падаюцца аўтарам у той версіі, у якой яны могуць спрыяць перакананню чытача.

**3.5. Чацвёртая частка: «звяртанне».** Гэтая частка (26—32) уяўляе сабой звяртанне да чытача, нават прамы заклік да пэўнай аўдыторыі. У адрозненне ад папярэдніх частак, тут вызначаны адрасат, які не толькі акрэслены займеннікам *вы* і ўводнай канструкцыяй *о зацныє панове* (у клічным склоне), але і падкрэслены на працягу ўсёй часткі рэгулярным ужыткам дэйктычных элементаў накшталт займеннікаў *вы* і *ваш* у розных склонавых формах.

«Звяртанне» падзяляецца на 3 невялікія адрэзкі: 1) заклік да «зацных паноў» кіравацца хрысціянскімі вартасцямі (26—28), 2) просьба паўплываць на духоўных правадыроў народа вучыцца Слову Божаму (29) і 3) прыклад такой вучобы ў выглядзе школ дзеля навучэння Навуцы Слова Божага і запавет іх будучыні (30—31). Разгортванне гэтых сэнсавых элементаў вызначаецца паслядоўнасцю і градацыяй.

У 1-м адрэзку В. Цяпінскі заклікае «зацных паноў», *которі єсте… якобы оцами по таки(х) фалебны(х) пре(д)ка(х) свои(х) позостали*, параўняцца на самой справе са сваімі велічнымі продкамі. Ён падкрэслівае ў гэтым вядучую ролю арыстакратыі: *то(л)ко вы сами тому з мл(с)ти ку очизне вашои помочи бысте могли* (26). На думку Цяпінскага, гэта з’яўляецца хрысціянскім абавязкам арыстакратыі, якая правадырнічае над астатнім народам у справах «хрысціянскай навукі»: *простота члвка бе(д)ного посполитого. на ва(с) очи завж(д)ы оудавала, и удає(т), и за вами иде(т). в тую потребу о(т)чизны вашоє в простоту грубую, про недостато(к) науки, бра(т)и вашоє. прикладо(м) свои(м) милосерны(м)* (27). Заклікаючы «зацных паноў» паслужыць *прикладо(м) свои(м) милосерны(м)*, ён апелюе да іх свядомасці і хрысціянскіх пачуццяў: *єсли єсть што милости брате(р)скоє у ва(с). гды(ж) межи всими люцкостями ничого не є(ст) такъ власного а*

*злаща богобоиному члвку яко улитова(н)є. котори(м) оуказуємъ по собе неякоє по добе(н)ство добротливости бжеє* (28).

У 2-м адрэзку В. Цяпінскі просіць «зацных паноў» прымусіць праваслаўнае духавенства (*митрополита вашого, владыкъ и учителеи ваши(х)*) адукоўваць і сябе, і народ, пры чым не ў навуцы зямных карысцяў (*не по(д)купо(в) не посуло(в) для поседа(н)я столиць оди(н) пере(д) други(м). не до жи вотеи і привильє(в), оди(н) на(д) другого обвароване(и)ши(х)*), а ў Слове Божым (29[a]). На такое вучэнне, лічыць аўтар, патрэбна накіраваць фундушы *з маєтностеи, и іменеи о(т) ваши(х) пре(д)ко(в) имъ не на марнотрацства, не на строи, и што такого, але дле наукъ наданы(х)* (29[b]).

У 3-м адрэзку выкладаецца канкрэтны «прыклад», якому мусяць паслядоўнічаць «зацныя панове»: адкрыццё школ для Навукі Слова Божага, прычым навукі не павярхоўнай, а глыбокай і ўсеабдымнай. В. Цяпінскі гаворыць пра такія школы, як справу рэалізаваную: *школы заложити, и науку слова бжего … выдвигнути братьи вашои хотели и усиловали* (30). Будучае гэтых школ ён *не о(д)ному которому, але вси(м) … богопоинои пи(л)ности, ростропности, и ве(р)ности поручаю и зоставую* (31), выказваючы згоду, калі Навука Слова Божага *до ко(н)ца згине(т), з нею згину(т). або єсли чере(з) вашь ретунокъ буде(т) выдвигнена з вами и з нею выбринуть* (31)[31]. Гэтым спадзяваннем аўтар задае тэматыку наступнай часткі.

**3.6. Пятая частка: «запавет».** Гэта невялікая частка (32—37), у якой цяжка вызначыць асобныя адрэзкі. Але яе можна лічыць кульмінацыяй усяго твора і ключом да ўсёй Прадмовы. Гэта найбольш інтымная частка твора, якая раскрывае вобраз аўтара ў нечакана лірычным аспекце і надае глыбокі духоўны сэнс усяму твору. Тут аўтар гаворыць ужо толькі пра сябе, пра свае хваляванні і адчуванні. Мінулае і лёс свайго народа, памкненні «зацных паноў» і захады непрыяцеляў адыходзяць назад; на першы план выступаюць адносіны паміж асобай і Справядлівым Суддзёй, *пере(д) котори(м) вси стати мусимъ* (36). Думка аб непазбежнай адплаце за зямныя ўчынкі праводзіцца аўтарам у шэрагу рытарычных выказванняў на традыцыйную для рэлігійных твораў тэму «пра сумоту свету». У гэтай частцы сугучны дзве тэмы: «сумота свету» і адплата за зямныя ўчынкі.

Напачатку В. Цяпінскі згадвае пра ўласную няўдзячнасць, за якую нават не спадзяецца прасіць сабе міласці ад Бога: *єсли на то(т) ча(с) за ншю невдячность мл(с)рдья бы бжего не было тую казнь о(т) на(с) о(т)далити* (32[b]). Ён указвае на заганнасць свету, калі *везде вси р□чи злыми ро(з)су(д)ками такъ су(т) попсованы, и(ж) не може(т) бы(т) ничого такь добре поведено. на ш[то] бы потвар не могла бы бы(т) оучинена* (33[a]). У прыватнасці, ён адзначае, што *Ани … жадинъ о(т) то(г)[о] чого се ра(з) хвати(т) о(т)ступи(т) не хоче(т)* (33[b]), дадаючы, што *єще те(ж) ижь посполите быває(т). же живого члка, в дарехъ а злаща своєго або собе знаємого, лю(ди) скромне и бе(з) образы зноси(т)*



*не могу(т), прото абы(х) и при правдивои повести зоста(л) и злого мнима(н)я ушолъ* (34). Застаецца толькі здагадвацца, наколькі гэтыя апісанні крыўдаў і заганаў свету маюць дачыненні да біяграфіі аўтара[32].

Аднак нават пад ціскам складаных жыццёвых абставін маральнае аблічча Цяпінскага застаецца нязменным. Ён трымаецца хрысціянскіх ідэалаў, пакутніцкі не хоча спыняць сваіх крыўдзіцеляў: *таки(х) ни уси(л)ною прозбою, ни плонны(м) забега(н)ємъ, а ни лаго(д) ными і прибавляючими доводы спирати хочу* (35). Аўтар упэўнены, што выканаў свой жыццёвы хрысціянскі абавязак у поўнай меры, паводле ўласных сілаў і разумення (*учинивши пови(н)ности своєи досы(т)*), звяртаецца *до маєстату бжего* (36), перад якім ані не сумняваецца, што *оньи справедливыи су(д)я ре(ч) ншю пофали(т), хотя єє та(к) непріятели взга(р)жають и выкидаю(т)* (37). Няясна, наколькі гэтае звяртанне да «маестату бажага» з'яўляецца літаратурным прыёмам, што ўвасабляе канчатковы і непадкупны суд на ўсялякую чалавечую дзейнасць, і наколькі служыць вобразам смерці (магчыма, блізкай?), перад якой аўтар імкнецца ўпарадкаваць свае маральныя справы. Аўтар быццам дае ацэнку сваёй зямной працы (у ліку якой, відавочна, знаходзіцца і пераклад Евангелля), падсумоўвае вынікі свайго жыцця ў святле будучага прысуду яго грахоў Справядлівым Суддзёй.

**3.7. Шостая частка: «даканчанне».** Гэта заключная частка (38—40) твора, якая ў аднолькавай ступені суадносіцца са зместам «прэзентацыі» і са зместам «запавету». Паводле свайго зместу, «даканчанне» носіць этыкетны характар[33] і залучае цытаты і рэмінісцэнцыі з Новага Запавету. Дзве спасылкі на евангельскія цытаты адзначаны на палях.

У 1-м адрэзку (38—39) В. Цяпінскі (у мн. ліку) звяртаецца да *побо(ж)ного чито(л)ника* з просьбай *дле х(с)а* даравацьяму магчымыя памылкі (у евангельскім перакладзе?): *што выступно(г)[о], або з стороны науки, або з стороны на(с)*, каб чытач *то(г)[о] не приписова(л) ншои злости але люцкои кре(в)кости а неумеє(т)ности. а и(ж) бы дле х(с)а о(т)пустилъ* (38), *нехаи на(с) не соромоти(т), але на(с) нехаи в то(м) хр(с)тия(н)ске напоминає(т)* (39).

Таксама 2-і адрэзак (40) уяўляе сабой яшчэ адно звяртанне (таксама ў мн. ліку) да чытача з просьбай дараваць нядобразычліўцам аўтара. Ён, у прыватнасці, заклікае *вси(х) побо(ж)ны(х) дле х(с)а* не толькі не выступаць *проти(в) ты(м) которіє на(с) щипа(н)ємь огижа(н)єм преследую(т)* (40[a]), але і наадварот, зычыць *и(м) всего добра* і хіба што разам з аўтарам прасіць Бога, *абы се упамятали а збавени были* (40[b]).

**4. Кампазіцыя твора.** Як бачна, твор В. Цяпінскага мае дастаткова складаную кампазіцыю. Непасрэдная задача прадмовы — прэзентацыя друкаванага Евангелля — займае адносна сціплае месца і рэалізуецца толькі напачатку («прэзентацыя», 1—3 адр.) і, здаецца, крыху напрыканцы («даканчанне», 1 адр.) помніка. Астатні аб'ём (за выключэннем

«уступу») прыпадае на асобны дыскурс, які толькі ўскосна звязаны з выданнем евангельскага перакладу і значна шырэйшы паводле свайго зместу. Друкаванае Евангелле стала для аўтара толькі падставай, каб выказацца наконт сваёй працы, вызначыць яе значэнне і лёс.

Гэты выклад залучае 4 часткі: «выкрыванне», «сведчанні», «звяртанне» і «запавет», менавіта яны і ўтвараюць цэнтральны сюжэт твора, што выходзіць за рамкі звычайнай прадмовы. Астатнія часткі Прадмовы, што апавядаюць пра друкаванае Евангелле, толькі акаляюць і аздабляюць гэты сюжэт. Тут узнікае пытанне пра жанр твора.

**5. Жанр твора.** Жанравая кваліфікацыя твора В. Цяпінскага ўскладнена тым, што прадмова не мае ўласных сталістычных і кампазіцыйных прыкмет, а запазычвае іх у іншых жанраў. Прадмова — гэта дапаможны, функцыянальны твор, што палягчае чытачу знаёмства з асноўным творам і засваенне яго зместу. У друкаваным пісьменстве ВКЛ таго часу прадмова мела пераважна утылітарны характар (паведамленне выходных звестак ці абставін стварэння або выдання кнігі) і выяўляла дастакова абмежаваны набор літаратурных рыс.

«Прадмова» В. Цяпінскага толькі ў некаторых адносінах нагадвае сабой прадмовы тагачасных кірылічных друкаў[34]. Фармальная задача Прадмовы — прэзентацыя друкаванага Евангелля — адсунута ў творы на задні план і займае сціплае месца. Звесткі пра мэту і задачы перакладу, яго адрасаванасць і выкарыстаную тэхніку падаюцца ў творы амаль што мімаходзь. Цэнтральным у Прадмове з'яўляецца іншы сюжэт, нашмат больш значны і паводле закранутых тэм, і паводле кампазіцыі, і паводле аб'ёму (займае 3/5 твора). Яму ўласціва пэўная публіцыстычнасць (сувязь з праблемамі рэчаіснасці, накіраванасць на канкрэтныя дзеянні), імкненне пераканаць чытача (у высокай духоўнасці славян — у «сведчаннях», у дабрачціваcці і набожнасці аўтара — у розных месцах, але асабліва ў «запавеце» і «дакончанні»), павучальнасць (заклік да «зацных паноў» — у «звяртанні»), эмацыйнасць. Разам з тым аўтар пазбягае гістарычна-побытавай канкрэтыкі, значымых дэталяў, максімальна абагульняючы сваё апавяданне. Нават пра сябе ён паведамляе мінімум звестак, вельмі няпэўна гаворачы пра сваіх нядобразычліўцаў або пра цяжкасці сваёй дзейнасці.

Фактычна, у склад Прадмовы ўстаўлены практычна самастойны літаратурны твор. Гэта ўскладняе жанрава-кампазіцыйную кваліфікацыю ўсяго помніка. У адных адносінах ён нагадвае казанне, у іншых — пасланне да чытача.

**5.1. Рысы казальнай кампазіцыі.** Казанне — гэта форма павучання і тлумачэння ў выглядзе прамовы. У эпоху Сярэднявечча і Рэнесансу казанне разглядалася як кшталт рытарычнага тэксту і мусіла будавацца паводле правілаў рыторыкі. Такія правілы прадугледжвалі пэўны парадак кампанентаў (частак) са строга зафіксаванымі функцыямі[35]. Існавалі



розныя погляды на парадак і колькасць кампанентаў, лік якіх мог вагацца ад 3 да 10 і больш. На XVI—XVII стст. стандартнымі часткамі казання ў Еўропе лічыліся thema, introductio (prooemium ці exordium), асноўная частка (часта называная narratio), conclusio (epilogus ці peroratio).

Thema задавала прадмет гутаркі казання і мусіла згадвацца ў кожнай яго частцы. Thema заўжды папярэднічала казанню (у пісаным тэксце часам змяшчалася ў выглядзе эпіграфа) і ўяўляла сабой 1—2 цытаты са Св. Пісьма, твораў айцоў царквы, дагматычных ці гімнаграфічных тэкстаў; толькі ў рэдкіх выпадках яна магла адсутнічаць. У В. Цяпінскага ў якасці thema выступаюць 2 цытаты з апостальскіх пасланняў, якія развіваюцца далей ў тэксце твора.

У introductio адбывалася прэзентацыя тэмы казання, рабіўся першы падыход да яе. У сувязі з гэтым вызначалася аўдыторыя, на якую было разлічана казанне (у Прадмове: *МОНА(р)ХИ(и) слове(н)скои*, *богобоины(м)* (5[b]), *народоу своємоу роускому* (6), *и(х) власны(м) єзыко(м) роускимъ* (7[b]), *ку моєи очизне* (8а), *народоу моєму* (9а), *своєи руси* (10), *о(т) мене имъ* (12[c]) і інш.), акрэсліваўся аўтар казання (у Прадмове: *ВАСИЛЕИ ТЯПИНСКІИ* (5[b]), *русинъ и(х)* (10)), вызначаўся характар прамовы (напрыклад: *пре(д)мова* (5[a]), *обачива(н)є речеи жалосны(х), кгва(л)то(м) слова до устъ гони(т)* (14)), называліся акалічнасці, што паслужылі падставай для казання (аўтар Прадмовы згадвае *мою в□роу … онымъ давни(м) в□комъ славною, пре(д)ко(в) свои(х) оум□єтностью* (6), *одно зъ єv(г)ліи … которая єсть сума законоу бжего. которая … в дроукоу вышла* (7), *єv(г)лия* (12[c]) і інш.). Як бачна, у Прадмове адпаведнікам гэтай часткі можа служыць «прэзентацыя».

Introductio мусіла быць кароткім, каб не замінаць увагу чытача перад больш істотнымі рэчамі. Таму казнадзею раілася зацікавіць сваю аўдыторыю нейкай байкай ці прыпавесцю або выслоўем, што аднаразова мусіла падвесці яе да асноўнай думкі казання. Аднак «прэзентацыя» ў В. Цяпінскага мае дастаткова значны памер і крыху шырэйшую тэматыку, што, відаць, было выклікана спецыфікай прадмовы.

Асноўная частка казання (narratio) мусіла мець найвялікшы памер. У ёй адбывалася раскрыццё тэмы праз доказы ці тлумачэнні, таму вялікая ўвага тут надавалася аргументацыі. Найчасцей кампазіцыя гэтай часткі вызначалася шэрагам аднародных аргументаў, якія змяшчаліся ў парадку паслядоўнасці, градацыі ці кантрасту. Пры аргументацыі аўтар мог звяртацца да сучаснай яму рэчаіснасці ці гісторыі. Менавіта такія рысы ўласцівы дзвюм часткам Прадмовы: «выкрыванню» і «сведчанням». Гэтыя часткі, як было ўжо адзначана (гл. 3.4), аб'яданы агульнай тэмай — адлюстраваннем стану славян у сучаснасці і мінуласці.

Традыцыйна асноўная частка казання ўключала такія кампаненты, як: propositio (ці probatio), дзе выкладалася асноўная думка твора; divisio (dispositio ці partitio), дзе асноўная думка падзялялася на часткі, што па-

лягчала яе больш яснае, усебаковае і дэталёвае разуменне; confutatio (ці refutatio), дзе адбывалася абвяржэнне памылковых ці супрацьлеглых поглядаў; confirmatio, дзе адбывался зацвярджэнне, замацаванне выкладзеных у propositio поглядаў. У В. Цяпінскага бадай што немагчыма знайсці дакладных адпаведнікаў такім кампанентам, хаця ў якасці propositio мог выступаць 14-ы сказ (нездарма ён вылучаны ў асобны абзац).

Нявыкарыстанай у В. Цяпінскага засталася такая частка казання, як conclusio, дзе казнадзей рабіў аптымістычную выснову з разгляду thema. Магчыма, што ў якасці conclusio выступае «запавет».

Напрыканцы Прадмовы змешчана «дакончанне» — частка, якая можа служыць прыкладам captatio benevolentiae, аднаго з найбольш важных кампанентаў сярэднявечнага казання і ўвогуле рытарычнага твора. У captatio benevolentiae аўтар мусіў здабыць сабе прыхільнасць з боку сваёй аўдыторыі. Дзеля гэтага ён прасіў у чытача паблажлівасці да сябе і сваёй працы, прабачэння за магчымыя памылкі і недахопы, звяртаў яго увагу на значнасць задачы, што стаяла перад аўтарам. Адным з трывалых прыёмаў тут было прыпісванне сабе недасканаласці і нявартасці з мэтай стварэння кантрасту да велічнасці вынікаў гутаркі. Іншым прыёмам была дэманстрацыя сваіх хрысціянскіх якасцей — сціпласці, пакорлівасці, цярплівасці. Абодва гэтыя прыёмы выкарыстаны ў «дакончанні». Праўда, паводле патрабаванняў рыторыкі, captatio benevolentiae звычайна ішло напачатку казання, тады як у Прадмове гэты кампанент змешчаны напрыканцы. Але гэта магло быць абумоўлена рознымі фактарамі: спецыфікай самой Прадмовы, жаданнем аўтара суаднесці «дакончанне» з «запаветам» і «прэзентацыяй», уплывам ліставальнай кампазіцыі.

**5.2. Рысы ліставальнай кампазіцыі.** За выключэннем «уступу», многія часткі Прадмовы выяўляюць некаторыя рысы, уласцівыя лісту, пасланню да чытача, якія набліжаліся ў гэтых адносінах да Паўлавых лістоў. Загаловак твора (5[b]), якім пачынаецца 1-я частка, утрымлівае імя адпраўшчыка, г. зн. аўтара (*ВАСИЛЕИ ТЯПИНСКИИ*), адрасата ў Д. скл. (*ЗАЦНОИ МОНА(р)ХИ(и) слове(н)скои, а злаща богобоины(м)*) і прывітанне ў Н. скл. (*ласка и покои о(т) бга оца и пна ншего и(с)а х(с)а*)[36]. Апошні адрэзак твора (у 6-й частцы) завяршаецца словам *Аминь* (40[d]), якое выступала напрыканцы апостальскіх пасланняў (і казанняў).

Фармуляр ліста быў асвячоны аўтарытэтам апостальскіх пасланняў, у прыватнасці, Паўлавых. Ужываўся ён таксама ў лацінкавым друку ВКЛ[37]. Да формы ліста аўтар казання звяртаўся ў тых выпадках, калі не меў магчымасці ў голас прамовіць свой опус перад грамадой, напрыклад, з прычыны хваробы, выгнання ці зняволення. Выбар (або імітацыю) Цяпінскім формы ліста можна вытлумачыць блізкасцю гэтага жанру да гутарковага акта[38]. Напрыклад, пераход да 5-й часткі (*а ту(т) вжо конець речи моеи чиню* 32[a]) мае сэнс толькі ў сітуацыі вуснай камунікацыі



(напрыклад, зачытванне тэксту). Аўтар уводзіць тут некалькі маркераў завяршэння маўлення (*Которую замыкаючи* (32[b]), *На остато(к)* ‘напрыканцы, пад канец’ (40[a])), што стварае эфект «дапісвання», «працяглага канца», як у некаторых апостальскіх пасланнях.

Прадмова В. Цяпінскага нагадвае апостальскія пасланні таксама сваім ўсхваляваным тонам, наяўнасцю шматлікіх звяртанняў да чытача (4-я і 6-я часткі), вядзеннем апавядання ад імя то адной (*я*), то калектыўнай (*мы*) асобы, пераходам ад 1-й (*мы*, *наш*) да 2-й (*вы*, *ваш*) асобы. Як і ў Паўлавых пасланнях, у творы Цяпінскага можна адшукаць даволі шмат аўтабіяграфічных момантаў, якія падаюцца вядомымі чытачу.

Аўтабіяграфізм складаў адметную асаблівасць пратэстанцкіх прадмоў[39]. Уласная біяграфія ўспрымалася пратэстантамі як паралель да іншага, вышэйшага жыцця, прыклад паслугавання Богу ў зямным жыцці і доказ Божага натхнення, якое кіруе жыццём верніка. Менавіта аўтабіяграфізм быў тым новым, што прынесла Рэфармацыя ў прадмову[40].

Прадмоўная рыторыка — гэта «рыторыка персанальнага матыву»[41]. Аўтар проста вымушаны рабіць інсінуацыі, каб зацікавіць чытача, прыцягнуць яго ўвагу[42]. Напэўна, з гэтага ўсе моманты, што тычацца персоны аўтара, выступаюць у Прадмове ў максімальна закамуфляваным і зашыфраваным выглядзе. Ствараецца ўражанне, што гэтае пасланне было адрасавана да пэўнай аудыторыі, добра знаёмай з фактамі біяграфіі аўтара, а значыць, гэта была даволі вузкая аўдыторыя. Але можна разглядаць такую падачу як сродак парэмізацыі, абагульнення, пры якім факты ўласнай біяграфіі становяцца толькі прыкладам, прыпавесцю да нейкіх больш агульных заканамернасцяў, а таму і не патрабуюць канкрэтызацыі. Пратэстанты верылі, што Божым наканаваннем біяграфія асобы становіцца часткай гісторыі[43].

**6. Ідэя твора.** Цэнтральная ідэя Прадмовы — пашырэнне Навукі Слова Божага сярод народа[44], дзеля чаго В. Цяпінскім і было перакладзена і выдадзена Евангелле[45]. Прэзентацыя друкаванага Евангелля падпарадкавана гэтай ідэі і выступае хутчэй як выпадковая акалічнасць, што спрыяе раскрыццю гэтай галоўнай ідэі твора. Патрыятычная ідэя, якую, пачынаючы з прац М. В. Доўнар-Запольскага, знаходзілі ў творы розныя аўтары на працягу ўсяго XX ст.[46], з’яўляецца хібнай мадэрнізацыяй. Тое, што прымалася за патрыятызм, на самой справе было праявай рэлігійных пачуццяў беларускага пратэстанта. Рэлігійны светапогляд прасякае ўвесь твор, па-рознаму развіваючыся ў кожнай кампазіцыйнай частцы, і ў той самы час знітоўвае іх у адзінае цэлае.

Пераклад Св. Пісьма разглядаецца аўтарам як гістарычная і маральная падзея, як з’ява, адрасаваная грамадству і асобе. У той жа час выкананне перакладу і яго выпуск у свет для пратэстанта XVI ст. быў высакароднай місіяй па распаўсюджанні Слова Божага. Ён верыў, што менавіта такая праца па прасвятленні сэрцаў і адукацыі душаў прынясе

яму справядлівую адплату перад немінучым і непадкупным прысудам пасля смерці. У Прадмове аўтар уздымаецца да духоўнага асэнсавання сваёй працы, здзяйсняе акт самапазнання, як асоба і хрысціянін. Менавіта гэта надае ўсяму твору ідэйную і тэматычную цэласнасць і завершанасць, нягледзячы на яго кампазіцыйную складанасць.

Выпускаючы ў свет уласны пераклад Евангелля, В. Цяпінскі не мог абысціся без уласнага звяртання да чытачоў, у якім не толькі прадставіў сваё выданне, але і выклаў ды апраўдаў учынкі і памкненні свайго жыцця. Таму ў апошніх частках Прадмовы, і асабліва ў «запавеце», твор становіцца не столькі ўжо выкрыццём духоўнага заняпаду сучаснага аўтару грамадства, колькі адлюстраваннем ўнутранага светаадчування аўтара[47]. Гэта разам і аўтабіяграфія, і апраўданне свайго жыцця, apologia pro vita sua.

У Прадмове В. Цяпінскі, апавядаючы пра свае пачуцці і хваляванні, выяўляе сваё аблічча хрысціяніна. Бог для яго — апошняя інстанцыя, куды чалавек скіроўвае свае думкі і памкненні і адкуль зыходзіць апошні прысуд на чалавечыя справы і ўчынкі. Згодна з пратэстанцкай і, у прыватнасці, кальвініцкай дактрынай, ён лічыць Бога далёкім і строгім Суддзёй, перад якім чалавек мусіць трапятаць.

Асабістае вырАтаванне для В. Цяпінскага не адасабляецца ад працы дзеля славы Божай. Але шматклопатная дзейнасць па распаўсюджванні Слова Божага ў выглядзе евангельскага перакладу прынесла аўтару сумоту і роспач. Такая дзейнасць не толькі сустрэла процідзеянне, пераслед і нядобразычлівасць, але і сутыкнулася з няўдзячнасцю — відаць, з боку паплечнікаў ці патэнцыяльных атрымальнікаў працы перакладчыка. Гэты матыў прысутнічае ў многіх частках Прадмовы, што ставіць пытанне пра наяўнасць у творы скразной тэмы.

**7. Скразная тэма твора.** Скразная тэма ў Прадмове задаецца эпіграфам напачатку твора. У першай цытаце з Апостала чытач вуснамі ап. Пятра заклікаецца палюбіць «славеснае малако» так моцна, як любяць матчына малако немаўляты, каб узрасці на ім дзеля будучага выратавання (душы). Пад «славесным малаком» тут яўна разумеецца Слова Божае, у прыватнасці, пераклад Евангелля, які здзейснены В. Цяпінскім. Другая цытата вуснамі ап. Паўла заклікае чытача быць паўналетнім розумам і толькі злаваць, як дзеці, — хутка забываючы і даруючы крыўду[48]. Гэты сэнс невыпадковы ў творы Цяпінскага. Тэма злавання і крыўды, як зайздрасці ды супрацьдзеяння, вельмі актуальная для Прадмовы і гучыць амаль у кожнай яе частцы.

Ужо ва «ўступе» аўтар выказвае гатоўнасць *для тоє правды чого єстли бгъ допустить уте(р)п□ти* (3[d]), а напачатку «прэзентацыі» ён згадвае тых, якія *такою невдячностью, взгардою, а некоторыі вместо помочи або дяки, и зазростью платити хот□ли* (11[a]). У «запавеце» ён ганіць сваю сучаснасць, калі *везде вси р□чи злыми ро(з)су(д)ками такъ су(т) попсованы, и(ж) не може(т) бы(т) ничого такъ добре поведено.*



*на ш[то] бы потвар не могла бы бы(т) оучинена* (33[a]). Тут жа ён не без гаркоты адзначае хцівасць блізкіх: *ани те(ж) жадинъ о(т) то(г)[о] чого се ра(з) хвати(т) о(т)ступи(т) не хоче(т)* (33[b]). У «дакончанні» аўтар гаворыць пра сваю справу, што *єє та(к) неприятели взга(р)жають и выкидаю(т)* (37), а яго самаго *щипа(н)ємь огижа(н)єм преследую(т)* (40[a]). Без сумнення, гэтыя радкі сведчаць аб пэўных перашкодах, якія зазнала дзейнасць В. Цяпінскага пры перакладзе і выданні Евангелля. Безасабовасць і неканкрэтнасць гэтых выказванняў можа быць вытлумачана тым, што яны тычацца паплечнікаў-аднаверцаў Цяпінскага.

Варта адзначыць, што тэма крыўды і варожасці ўзнікае зноў, на гэты раз у эпіграфе да друкаванага Евангелля, які змешчаны на тытульным лісце. Там ў дзвюх цытатах з евангеліста Іаана згадваюцца тыя людзі, якім больш даспадобы цемра і злое, чым святло і добрае. Вуснамі Ісуса Хрыста выдавец папярэджвае тых, хто адвернецца ад Слова Божага, пра суддзю ў апошнія дні свету ў выглядзе гэтых жа слоў; суд жа будзе ў прыходзе на іх душы святла. Як бачна, гэтая тэма была вельмі актуальная для аўтара, калі ён гаворыць на працягу ўсёй Прадмовы і вяртаецца да яе ў эпіграфе напачатку Евангелля.

Тэкстам В. Цяпінскага ўласціва драматычнае бачанне свету, дзе купка абраннікаў, якім адрыта Боская ісціна, пакутуе ад уціску і праследу. Такое светаадчуванне было характэрна для сект[49].

**Заключэнне.** «Прадмова» В. Цяпінскага, якая, магчыма, была перапісана з друкаванага арыгінала, мае выразную графічную структуру, што карэлюе са зместавымі асаблівасцямі помніка. У творы можна вылучыць сем буйных кампазіцыйных частак, апошнія шэсць з якіх утвараюць два кампазіцыйныя адзінствы. Адно з іх фактычна ўяўляе асобны сюжэт, устаўлены ў склад другога. Цэнтральная ідэя твора — рэлігійная (Навука Слова Божага), асветніцкі і патрыятычны аспекты ў ім носяць дапаможны характар. Вялікае значэнне для разумення генезісу твора маюць драматычныя матывы, што гучаць у розных месцах Прадмовы. У жанравых адносінах Прадмова выяўляе рысы і казальнага твора, і ліста, што тлумачыцца як яе шматмэтавай накіраванасцю, так і спецыфікай пісьмовай культуры той эпохі.

1 Як вынікае з тытульнага ліста помніка, В. Цяпінскі збіраўся апублікаваць увесь Новы Запавет у 2 частках, аднак нейкія ўмовы прымусілі яго выпусціць толькі палову Тэтраевангелля (так паведамляецца ў Прадмове), а да нашых дзён дайшла яшчэ меншая колькасць евангельскага тэксту, які абрываецца на 14-м раздзеле Евангелля паводле Марка. Помнік цяпер выдадзены: Evanhelije in der Übersetzung des Vasil Tjapinski um 1580: Facsimile und Kommentare. Paderborn; München; Wien; Zürich, 2005. S. 9—132.

2 Клімаў І. П. Пытанне паходжання і складу «Прадмовы» В. Цяпінскага ў святле кніжнай культуры XVI ст. // Матэрыялы Трэціх міжнародных кнігазнаўчых чытанняў «Кніга Беларусі: Повязь часоў» (Мінск, 16—17 верасня 2003 г.). Мн., 2005. С. 118—131.

3 Иосиф, архимандрит. Малороссийский перевод Четвероевангелия // Духовная беседа. 1861. Т. 13. С. 399.

4 Владимиров П. В. Предисловие Василя Тяпинского к печатному евангелию, изданному в Западной России около 1570 года // Киевская старина. 1889. № 24. Приложение. С. 3—8.

5 Пералік публікацый гл.: Клімаў І. Нарыс фаналагічнай сістэмы «Прадмовы» Васіля Цяпінскага // Маладыя гуманітарыі Беларусі. Мн., 1996. Вып. 2. С. 27—28; Клімаў І. П. Пытанне паходжання і складу … С. 119, спас. 3. З таго часу з'явілася некалькі новых публікацый: поўная — Хрэстаматыя беларускай літаратуры XI — пачатку XX стагоддзяў і класікі / Склад. Л. А. Ламека, Н. У. Ламека. Мн., 2004. С. 57—61; Evanhelije in der Übersetzung des Vasil Tjapinski … S. 2—8a (паралельна фотапублікацыі рукапісу там змешчаны набор тэксту кірыліцай і яго пераклад на нямецкую мову), ва ўрыўках — Булыка А. М., Мінакова Л. М., Станкевіч А. А. Красамоўства ў Беларусі: Хрэстаматыя. Мн., 2002. С. 40—42.

6 У існуючых публікацыях гэта: Лабынцев Ю. А. Описание изданий Несвижской типографии и типографии Василия Тяпинского. М., 1985. С. 61—67; Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны / Склад. У. Г. Кароткі. Мн., 1991. С. 140—146; Evanhelije in der Übersetzung des Vasil Tjapinski … S. 2—8.

7 Хаця фрагментарныя пераклады твора з'яўляюцца яшчэ напачатку XX ст. (гл.: Клімаў І. П. Пытанне паходжання і складу… С. 119, спас. 5), аднак на беларускай мове больш-менш поўны пераклад твора з'явіўся толькі нядаўна (выкананы А. Бразгуновым). Новы пераклад таксама выканалі У. Кароткі і Ж. Некрашэвіч-Кароткая (гл.: Цяпінскі В. Прадмова да Евангелля // Роднае слова. 2005. № 8. С. 14—16). Нядаўна з'явіўся і поўны пераклад твора на нямецкую мову, здзейснены вядомым нямецкім славістам Г. Ротэ (гл.: спас. 5), які, на жаль, таксама не пазбег памылак і недакладнасцяў.

8 Гл.: Дабрынін М. К. Беларуская літаратура: Старажытны перыяд. Мн., 1952. С. 170—171; Вольскі В. Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізма. Мн., 1958. С. 102—109; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии и Литвы: Избранные произведения XVI — нач. XIX в. / Сост. Н. А. Алексютович. Мн., 1962. С. 83; Ахрыменка П. П., Ларчанка М. Р. Старажытная беларуская літаратура. Мн., 1968. С. 80—85; Майхровіч С. К. Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV—XVII ст. Мн., 1980. С. 80—83; Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд / Пад рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. Мн., 1985. С. 187—189; 1996. С. 200—205.

9 Бадай што адзінае выключэнне складаюць экскурсы А. Коршунава, гл.: Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 Т. Т. 1. З старажытных часоў да канца XVIII ст. Мн., 1968. С. 222—333; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі Беларусі. Мн., 1968. С. 56—62.

10 Довнар-Запольский М. В. В. Н. Тяпинский, переводчик евангелия на белорусское наречие // Известия Отделения русского языка и словесности Императорской академии наук. 1899. Т. 4. Кн. 3. С. 1034, 1042. Гэтую думку падтрымалі і іншыя даследчыкі, гл.: Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967. С. 202; Кароткі У. Рыцар слова Божага: «Прадмова» Васіля Цяпінскага да Евангелля // Роднае слова. 2005. № 8. С. 13—14.



11 Довнар-Запольский М. В. В. Н. Тяпинский, переводчик евангелия… С. 1031—1064. Артыкул без змен перадрукаваны ў кн.: Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи: Собрание трудов в 2 томах. Киев, 1909. Т. 1. С. 232—256.

12 Клімаў І. Даследаванне М. В. Доўнарам-Запольскім дзейнасці і светапогляду В. Цяпінскага // Чацвёртыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні (г. Рэчыца, 18—19 верасня 2003 г.): У 2 Ч. Ч. 1. М. В. Доўнар-Запольскі: Жыццё і навуковая спадчына. Гомель, 2004. С. 164—173.

13 Абгрунтаванне такой гіпотэзы гл.: Клімаў І. П. Пытанне паходжання і складу … С. 127—131.

14 Клімаў І. Нарыс фаналагічнай сістэмы … С. 28—29.

15 Тэкст помніка, як гэта было прынята ў старажытнай кніжнасці, упісваўся на папярэдне разлінаваную старонку. Таму на 1-й старонцы было разлінавана 23 радкі, на наступных — 29 радкоў і толькі на апошняй старонцы — 31 радок.

16 Клімаў І. П. Пытанне паходжання і складу … С. 128—129.

17 Друкаванае Евангелле таксама суправаджаюць два эпіграфы на тытульнай старонцы (гл. спас. 7). Пра ролю эпіграфаў у пратэстанцкім кнігадруку XVI ст. гл.: Клімаў І. П. Пытанне паходжання і складу … С. 129—130.

18 Магчыма, што ў гэтай фразе зашыфраваны гістарычныя асобы, так ці інакш звязаныя з выдавецкай справай: *влохом* (г. зн. італьянцам) названы Альд Пій Мануцый (1449—1515), славуты італьянскі выдавец, *немцем* — Швайнпольт Фіёль, выхадзец з Турынгіі, які ўпершыню выпусціў кірылічныя друкі ў Кракаве, *доктором* — Францыск Скарына, *в лекарских и иных науках доктор*, а *постановеныи межи попы* — гэта, напэўна, Сымон Будны, які стаў святаром у адной з кальвінісцкіх грамад ва ўладаннях Мікалая Радзівіла.

19 Іван Залатавусны (каля 347 — 407), знакаміты царкоўны казнадзей, пісьменнік і аскет. Рыгор Багаслоў (каля 328 — каля 389), знакаміты царкоўны казнадзей, пісьменнік і тэолаг, ураджэнец г. Назіянза. Абодва яны былі візантыйцы, так што В. Цяпінскі сфальсікаваў этнічную прыналежнасць гэтых вядомых айцоў царквы (ці памыліўся, гл.: Довнар-Запольский М. В. В. Н. Тяпинский, переводчик евангелия … С. 1049). Насуперак М. Доўнар-Запольскаму (Довнар-Запольский М. В. В. Н. Тяпинский, переводчик евангелия … С. 1042, 1049), які меркаваў, што імем Рыгора названы Рымскі Папа Рыгор Вялікі (каля 540 — 604), аўтар тлумачэнняў на Евангелле, Залатавусным быў названы хутчэй Рыгор Багаслоў, больш таленавіты і літаратурны як пісьменнік. Выбар Цяпінскім гэтых постацей тлумачыцца, напэўна, тым, што менавіта яны былі сучаснікамі Ераніма, які ў 380 г. наведваў Антыёхію і Канстанцінопаль і мог слухаць казанні гэтых бліскучых прамоўцаў.

20 З гэтага пераліку народаў вынікае, што Цяпінскі вядзе гаворку пра царкоўнаславянскі пераклад, які аднолькава выкарыстоўваюць як праваслаўныя, так і каталікі-глагаляшы ў Харватыі.

21 Пад «сінодамі» разумеюцца каталіцкія саборы, што адбываліся пад найменнем усяленскіх. Каталіцкія біскупы са славянскіх земляў (Харватыі / Ілірыі, Чэхіі / Багеміі і інш.) удзельнічалі ў працы гэтых сабораў ужо пачынаючы з Латэранскіх 1123, 1139, 1179 і 1215 гг. (хаця не заўжды іерархі са славянскіх правінцый былі славянамі). Аднак хутчэй за ўсё тут маецца на ўвазе ўдзел у саборах заходняй царквы прадстаўнікоў ад усходніх славян, праваслаўных. Так, ужо ў працы Ліёнскага сабора 1245 г. удзельнічаў Пётр, «архібіскуп Русі», паводле па-

ходжання — ігумен кіеўскага манастыра Спаса на Бярэставе, самачынна пастаўлены пры падтрымцы чарнігаўскага кн. Міхала, які валодаў Кіевам, на мітрапаліта. Пад ціскам татараў Пётр уцёк разам з Міхалам у Венгрыю, адкуль і быў накіраваны ў Ліён. Аднак на другім Ліёнскім саборы 1274 г., дзе была здзейснена спроба заключэння каталіцкай уніі з візантыйскай царквой, пасланцы ад усходнеславянскага праваслаўя адсутнічалі, таксама як і на Віенскім саборы 1311 г. і Пізанскім саборы 1409 г. На Канстанцкі сабор 1414—1418 гг. прыбыла ў 1418 г. прадстаўнічая дэлегацыя біскупаў з ВКЛ на чале з Рыгорам Цамблакам, балгарынам, таксама самачынна пастаўленым захадамі кн. Вітаўта на мітрапаліта Кіеўскага. На наступным Базельскім саборы 1431—1449 гг. прадстаўнікоў ад усходнеславянскіх епархій не было, аднак туды ў 1433 г. быў пасланы з Візантыі грэк Ісідор, які ў 1436 г. стаў кананічным Кіеўскім мітрапалітам і прысутнічаў у складзе вялікай дэлегацыі маскавітаў на знакамітым Ферарска-Фларэнцыйскім саборы 1438—1439 гг., дзе вырашаўся лёс уніі каталіцтва з праваслаўем.

22 Не зусім ясна, з якімі гістарычнымі фактамі карэлююць гэтыя «прыклады», што пералічаны В. Цяпінскім. Пад ерасямі могуць разумецца розныя плыні ці рухі, накшталт багумілаў, вальдэнсаў, гуситаў і інш., якія пашыраліся сярод славян у эпоху Сярэднявечча. Шанаванне сваіх «вучыцеляў» можа мець на ўвазе павагу да Кірылы і Мяфодзія.

23 Аргумент аб укладзе славянства ў Рэфармацыю быў уведзены ў еўрапейскую рэлігійную палеміку славутымі гуманістамі Флакам Ілірыкам і Янам Ласкім. Шмат каму з пратэстантаў у Рэчы Паспалітай імпанавала думка, што славяне раней за немцаў аднавілі старажытную апостальскую традыцыю, што «славянская іскра падпаліла нямецкі стос» (Tazbir J. Reformacja w Polsce: Szkice o ludziach i doktrynie. Warszawa, 1993. S. 38). Спасылаючыся на постаці Ераніма ці Кірыла і Мяфодзія або Яна Гуса польскія і беларускія нававерцы лічылі сябе спадкаемцамі легендарнай славянскай царквы, якая дзякуючы старажытнаму славянскаму перакладу ўтрымала евангельскую звестку ў яе незакаламучанай чысціні (Tazbir J. Reformacja w Polsce … S. 38). У гэтым рэчышчы было натуральна сцвярджаць, што рэфармацыйныя ідэі ўсталяваліся ў Рэчы Паспалітай дзякуючы ўласнай традыцыі, а не імпарту лютарскіх, кальвінскіх ці сацыніянскіх ідэй з-за мяжы.

24 В. Цяпінскі асабліва падкрэслівае, што ўласны пераклад Св. Пісьма славяне атрымалі не толькі *мимо папу ри(м)ско(г)[о]* (у чым можна бачыць антыпапісцкую накіраванасць твора пратэстанта), але і *мимо ины(х) часо(в) наоуче(н)ши(х) народо(в)). в либіи в антиохіи в пе(н)таполіи, сыцыліи в месопотаміи, в палестыне в финицыи, и и(н)де*. Фанетычнае аблічча гэтых назваў указвае на паходжанне з польскай мовы, а сам іх пералік запазычаны з нейкай гістарычнай працы. Напрыклад, блізкі набор назваў сустракаецца пры пераліку ўладанняў сыноў Ноя ў візантыйскай хронiцы Георга Амартала (2-я пал. IX ст.), вядомай таксама ў царкоўнаславянскім перакладзе (Истрин В. М. Книгы времянныя: Славянский перевод хроники Георгия Амартола. Птг., 1920. С. 58—59). Там згадваюцца: у надзеле Сіма — Месапатамія і Фінікія, у надзеле Хама — Лівія і Кюрын / Кірэна (Κυρηνη — галоўны горад Кірэнаікі, мясцовасці на ўсход ад заліва Сідр, паміж Егіптам і Тунісам), апошні быў вядомы ў антычнасці таксама як Пяцігорад / Пентаполія (Πενταπολις), у надзеле Яфета — шэраг астравоў, сярод якіх прысутнічае Сіцылія (Σικελια), гл.: Georgii Monachi chronicon / Edit. C. De Boor. Lipsiae, 1904. Vol. 1—2. P. 20. Гэты пералік



быў устаўлены ў «Аповесць мінулых гадоў», а таму прысутнічае ў большасці старажытных летапісаў даўняй Русі, гл. напр.: ПСРЛ. Т. 1. С. 1—2 (Лаўрэнцьевы спіс), Т. 2. С. 3 (Іпацьеўскі спіс), Т. 30. С. 7 (Уладзімірскі спіс), Т. 33. С. 10 (Халмагорскі спіс), Т. 38. С. 11 (Радзівілаўскі спіс) і інш. У некаторых летапісах у надзел Яфета магла ўстаўляцца таксама Антыёхія. Так, у Кірыла-белазёрскім спісе замест Іоніі (у «Аповесці» *и часть всячьскыіа страны нарицаіємоую Иωнию*) выступае Антыёхія: *часть Ассирийская страны, нарицаемую Антиохъ* (ПСРЛ. Т. 26. С. 9).

25 Гл.: Нарысы гісторыі народнай … С. 58—60; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай … Т. 1. С. 227 і наст.; Лойка А. Зацнасць і слава Васіля Цяпінскага // Крыніца. 1995. № 4. С. 4—5.

26 Так, В. Цяпінскі лічыць перакладчыка славянінам (Салунскія браты былі грэкамі, тады як менавіта Ераніма сярэднявечная легенда лічыла славянінам), гаворыць пра яго, як пра адзінага перакладчыка (Мяфодзій заўжды фігураваў разам з Кірылам-Канстанцінам), у дэталях гл.: Клімаў І. П. Еранім як «славянскі перакладач»: Патрыятычнае фальсікаванне старажытнасці ў адным старабеларускім творы XVI ст. // VIII Міжнародныя Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні, прысвечаныя Дням славянскага пісьменства і культуры. (Мінск, 23—26 мая 2002 г.): Матэрыялы чытанняў. Мн., 2003. Ч. 2. С. 85—92.

27 «Кірыла-мяфодзіеўскі» аргумент ужывалі ў XVI—XVII стст. польскія пратэстанты дзеля доказу той тэзы, што хрысціянства ва Усходняй Еўропе не паходзіць з рымскага боку ці спрадвеку заставалася ў апазіцыі да Рыма (гл.: Tazbir J. Reformacja w Polsce … S. 32). Гэты погляд знаходзіў падтрымку нават сярод каталіцкіх хранiстаў. Так, Сымон Старавольскі вызнаваў дзейнасць Кірыла і Мяфодзія за антытрынітарскую; а Павел Пясецкі наогул пісаў аб тым, што Польшча разам з усёй славяншчынай жадала прыняць крыж з рук гэтых двух апосталаў славянства (Tazbir J. Reformacja w Polsce … S. 32). Пясецкі таксама піша, што пазней іх традыцыі засталіся адноўленыя «праз французаў і ўлохаў» (італьянцаў); гэтыя народы часам вызнаваліся ў Польшчы як рассаднікі нававерства: кальвінізму (французы) і антытрынітарства (італьянцы), гл. Tazbir J. Reformacja w Polsce … S. 30—31.

28 У прыватнасці, В. Цяпінскі ў зносцы дадае, што тады цалкам быў перакладзены як Стары, так і Новы Запавет, прычым з арыгінальных моў, адпаведна, з яўрэйскай і грэчаскай: *з гевреиского ве(т)хіи а з греческо(г)[о] новы(и) заве(т) то є(ст) всю библею* (зноска, b—g). Гэта фальсіфікацыя аўтара. На самой справе славянскія і нават лацінскія перакладчыкі карысталіся пры перакладзе Старога Запавету пераважна Септуагінтай, і толькі пратэстанты пачалі шырока звяртацца да яўрэйскіх тэкстаў. У зносцы выкарыстоўваюцца тэрміны *ветхіи* і *новыи завет*, а таксама *вся библея*, амаль невядомыя праваслаўнаму славянству, яны выкрываюць знаёмства аўтара з еўрапейскай традыцыяй. Разам з тым ён дэманструе і веданне праваслаўнай тэрміналогіі: у асноўным тэксце фігуруюць тэрміны *тетра єvглие* і *апостолъ* (20). У дэталях пра досвед В. Цяпінскага ў біблеістыцы гл.: Клімаў І. П. Цяпінскі аб царкоўнаславянскіх перакладах біблейскіх тэкстаў // Веснік БДУ: Серыя 4. Мн., 1994. № 3. С. 22—25.

29 У В. Цяпінскага ў спісе краін і народаў, якія захапляліся старажытнай вучонасцю славян (ці Русі), фігуруюць антычныя назвы (гл. спас. 24). Такое «ўдаўненне» гісторыі славянства — не фальсіфікацыя, а праявы тагачасных геаграфічных міфаў, што ўзнікалі ў заходнееўрапейскай навуцы і, магчыма, папулярызаваліся ў пратэ-

станцкіх колах (Флак Ілірык). Паводле гэтых міфаў, антычная Ілірыя і яе насельніцтва — ілірыкі — у эпоху Сярэднявечча і Рэнесансу атаясамліваліся са славянамі. Такія погляды падзялялі, у прыватнасці, Цыпрыян Базылік і Сымон Будны. Абодва паслядоўна перакладалі лац. *Illyria*, *Illyrici* як *Słowieńska ziemia*, *Słowacy* (Базылік, гл.: Zoltán A. Oláh Miklós *Athila* című munkájának XVI. századi lengyel és fehérorosz fordítása. Nyíregyháza, 2004. L. 39) ці *słowianie* (Будны, які ў сваім перакладзе Біблії 1572 г. грэч. μεχρι του ʽΙλλυρικου (Рымл. 15:19) перакладае *do słowian*).

[30] Яшчэ А. Коршунаў адзначаў, што Цяпінскі «часам даходзіць да ідэалізацыі і міжвольнага перабольшвання культурных заслуг славян» (Нарысы гісторыі народнай … С. 58).

[31] Савецкія аўтары на месца Навукі Слова Божага ставілі радзіму ці айчыну, гл. напр.: Гісторыя беларускай дакастрычніцкай … Т. 1. С. 227.

[32] Наконт загадкавага выразу *живого чоловека в дарехъ* гл.: Клімаў І. П. «Живого чоловека в дарех»: Адно няяснае месца ў «Прадмове» Васіля Цяпінскага // Беларуская мова ў другой палове XX ст.: Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 22—24 кастрычніка 1997 г.). Мн., 1998. С. 86—87.

[33] Падобныя кампаненты былі ўласцівы прадмовам таго часу, гл.: Кароткі У. Г. Беларускія прадмовы і пасляслоўі другой палавіны XVI — першай палавіны XVII ст. // Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны. Мн., 1991. С. 11—12.

[34] Пра іх тэматыку і змест гл.: Сазонова Л. И. Книги кириллической печати во второй половине XVI века между Римом и Москвой // Гусева А. А. Издания кирилловского шрифта второй половины XVI века: Сводный каталог в 2 кн. / Под общ. ред. Л. И. Сазоновой. Москва, 2003. Кн. 2. С. 1257—1267.

[35] Murphy J. J. Rhetoric in the Middle Ages: A history of rhetorical theory from Saint Augustine to the Renaissance. Berkeley; Los Angeles; London, 1974. P. 299—242; Briscoe M. G. Artes praedicandi; Jaye B. H. Artes orandi. Turnhout, 1992 (Typologie des sources du moyen áge occidental. Fasc. 60) P. 11—76; Korowicki I. Stan kaznodziejstwa prawosławnego na przełomie ww. XVI—XVII w państwie Litewsko-Polskim. Warszawa, 1935.

[36] Прапанаваны нядаўна У. Кароткім новы сэнсавы падзел загалоўка Прадмовы (гл.: Цяпінскі В. Прадмова да Евангелля // Роднае слова. … С. 14), хаця і цікавы, як мастацкая знаходка, аднак не адпавядае арыгіналу і адвольна змяняе яго, пазбаўляючы яскравай асаблівасці — Паўлавага фармуляра.

[37] Напрыклад, у польскім перакладзе Біблії, выкананым Сымонам Будным і надрукаваным у 1572 г. у Нясвіжы, змешчана дэдыкацыя выдаўцоў — Гектара і Альбрэхта Кавячыньскіх. Дэдыкацыя афармлена ў выглядзе ліста, які выдаўцы быццам дасылаюць мецэнату праз сваё выданне. Дэдыкатары згадваюць аб звычаі прысвячаць пераклады важных кніг заможным асобам — так рабіў яшчэ Св. Лука-евангеліст. Яны дзякуюць новаму фундатару за дапамогу і выражаюць надзею на такую дапамогу і ў будучыні, спадзяюцца, што моцныя гэтага свету і надалей застануцца ў правільнай веры і пазбегнуць кантакту з аблуднымі навукамі. Ліст заканчваецца просьбай прыняць дар і яго абараняць.

[38] Клімаў І. П. Тэорыя заходнееўрапейскага ліста ў часы Сярэднявечча і Рэнесансу // Беларускі археаграфічны штогоднік. Мн., 2003. Вып. 4. С. 113—126.

[39] Dunn K. Pretexts of authority: The rhetoric of authorship in the Renaissance preface. Stanford / Calif., 1994. P. 42—46, 165, fn. 5.



[40] У дарэфармацыйныя часы прадмовы да Св. Пісьма выступалі, як тэксты экстракананічнай натуры, месца якіх было ў дадатку, у іх не знаходзілася месца аўтабіяграфізму, хаця яны маглі змяшчаць аўтабіяграфічны матэрыял. Пратэстанты парушылі гэтую традыцыю. Іх жыццё і дзейнасць, пераход у новую веру, які ўспрымаўся як прасвятленне і духоўнае вырастанне, давала падставы на гэта. Таму можна згадзіцца, што прадмоўна-каментарны комплекс пратэстанцкіх публікацый «паказвае сябе як індывідуалізаваны і таму «аўтарызаваны» феномен» (Dunn K. Pretexts of authority … P. 42), г. зн., у нечым аўтабіяграфічны для перакладчыка-каментатара. Выданне Св. Пісьма для пратэстанта «з’яўляецца нагэтулькі ж духоўнай аўтабіяграфіяй, як і тэалагічная summa, партрэтам, такім жа парывістым і хаатычным, як і само яго жыццё, тое, якое яшчэ можна паказаць чытачу» (Dunn K. Pretexts of authority … P. 42). Аднак у адрозненнне ад усіх ранейшых прадмоў, аўтабіяграфічныя згадкі ў прадмовах пратэстанцкіх аўтараў выстройваюцца ў сістэмную канцэпцыю (гл.: Dunn K. Pretexts of authority … P. 43). Канцэпцыя гэтая заключаецца ў паралелізме інтэлектуальнага і духоўнага жыцця (гл.: Dunn K. Pretexts of authority … P. 45), калі факты біяграфіі аўтара суадносяцца з іншым, вышэйшым, жыццём. І таму ўласная біяграфія ўспрымаецца пратэстантам як прыклад і доказ — прыклад служэння Богу ў зямным жыцці і доказ Божага натхнення, якое кіруе яго жыццём.

[41] Dunn K. Pretexts of authority … P. 2.

[42] «Апавядальнік, які «інсінуе», — гэта апавядальнік з персанальным матывам. <…> … ён вымушаны канструяваць свой уласны інсінуацыйны аповед, каб стымуляваць адносіны да сваёй аўдыторыі…», гл.: Dunn K. Pretexts of authority … P. 2.

[43] Dunn K. Pretexts of authority … P. 46.

[44] Навука Слова Божага мае ў творы 2 значэнні: шырокае (хрысціянскае веравучэнне) і вузкае (выклад Св. Пісьма, у прыватнасці, здзейсненае выданнем В. Цяпінскага).

[45] Гэта было мімаходзь адзначана М. Доўнар-Запольскім, гл.: Довнар-Запольский М. В. В. Н. Тяпинский, переводчик евангелия … С. 1042, таксама Клімаў І. Даследаванне М. В. Доўнарам-Запольскім … С. 166.

[46] Гл.: Нарысы гісторыі народнай … С. 58, 60—61; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай … Т. 1. С. 227—231, 233; Ахрыменка П. П., Ларчанка М. Р. Старажытная беларуская літаратура … С. 83; Клімаў І. Даследаванне М. В. Доўнарам-Запольскім … С. 169—170. Савецкае літаратуразнаўства падкрэслівала грамадзянскія, асветніцкія аспекты твора і памяншала яго рэлігійную накіраванасць.

[47] Гэта ўжо адзначалася даследчыкамі, якія называлі твор «рэквіем самаахвяравання» (Ахрыменка П. П., Ларчанка М. Р. Старажытная беларуская літаратура … С. 84). У сваім творы Цяпінскі «даносіць да нас сацыяльную псіхалогію душы і чаканні людзей тагачаснага грамадства» (Майхровіч С. К. Нарыс гісторыі старажытнай … С. 82).

[48] Гэтая цытата добравядома царкоўнаславянскай агіяграфічнай літаратуры: у свой час яна была ўкладзена ў вусны непаўналетняга Барыса старажытным стваральнікам жыцця пра Барыса і Глеба (XI ст.), калі асуджаны на смерць Барыс моліць сваіх забойцаў дараваць яму жыццё.

[49] Такое светаадчуванне ўласціва і творам С. Буднага, гл. Kamieniecki J. Szymom Budny: Zapomniana postać polskiej Reformaciji. Wrocław, 2002. S. 149—150, 162—163.

***А. І. Груша***

# ГІСТОРЫЯ ВЫВУЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ І ЎКРАІНСКАЙ КІРЫЛІЦКАЙ ПАЛЕАГРАФІІ ДА 1920-х гг.*

Першапачатковыя метады палеаграфічнага аналізу ўзніклі з мэтай судовай экспертызы дакументаў (у дадзеным выпадку трэба адрозніваць экспертызу почырку**, якая не адносіцца да палеаграфіі, ад экспертызы пісьма; да палеаграфіі мае адносіны толькі апошняя).

Першыя звесткі аб палеаграфічнай экспертызе ў пісьмовых крыніцах датуюцца XVI ст. У 1531—1532 гг. віленскі ваявода і канцлер ВКЛ Альбрэхт Марцінавіч Гаштольд сумесна з іншымі суддзямі разглядаў цяжбу паміж гаспадарскім дваранінам Васілём (Васькам) Пятровічам Заройскім і свяшчэннікам («папом») царквы Св. Спаса г. Мазыр Мялешкам аб Барысаўскім «востраве» (зямлі) у Мазырскай воласці. У якасці падставы на валодан-

* У артыкуле аналізуюцца толькі абагульняючыя даследаванні. Працы, у якіх даецца пераважна апісанне палеаграфіі помнікаў, у прадмет разгляду не ўваходзяць.

** Прыклады, якія прыводзяць даследчыкі для ілюстрацыі «практычнай» палеаграфіі, адносяцца менавіта да экспертызы почырку, а не пісьма (гл., напрыклад: [1, с. 29—30]; [2]). Даныя аб экспертызе почырку на тэрыторыі ВКЛ адносяцца да першай паловы XVI ст. У 1533 г. віцебскі ваявода, маршалак, ваўкавыйскі, мерацкі і аболецкі дзяржаўца Мацей Войтэхавіч Янавіча разглядаў цяжбу паміж баярынам князя Юрыя Сямёнавіча слуцкага Лецкам Есманавічам і менскім мешчанінам Яцкам Пашкавічам аб невяртанні доўгу. У якасці довяду Лецка паклаў распіску, у якой Яцка абавязваўся выплаціць да Сёмай суботы пазычаныя 100 коп грошай. Распіска была змацавана пячаткамі «войтовича» і самога Яцкі. Прычым сцвярджалася, што тэкст распіскі быў напісаны рукой Яцкі. «И мы (суддзя. — *А. Г.*) пытали того мещанина меньского Яцка Пашковича: «Што противку того мовиш?». И онъ поведилъ: «Какъ есьми тых ста копъ гр(о)ш(ей) в него позычалъ, так и листа того ему есьми на то не давалъ ани есьми его своею рукою писалъ, и печать то не моя». Тады суддзя загадаў Яцку напісаць «минуту» (у дадзеным выпадку выканаць узор пісьма). Зроблена гэта было «для доведанья, и если бы то его писанья листъ былъ». Калі «минута» была выканана і разгледжана «экспертамі», у якасці якіх выступалі асобы, што ведалі почырк Яцкі, аказалася, што пісьмо належыць яму, «нежли онъ вже руку свою отъменивалъ» (г. зн. змяняў пісьмо) [3, p. 123]. Аб спробе экспертызы почырку паведамляе крыніца віцебскага паходжання за студзень 1540 г. Прыкладна ў 1539—1540 гг. той жа Мацей Войтэхавіч Янавіча вёў судовы працэс паміж віцебскімі мяшчанамі Гурэчкам Навумавічам Кузановым і яго маці, з аднаго боку, Дземянцеем Ескавічам Чаглеевічам і яго «бурснікам» (калегам) Васкам Грыдкавічам аб невяртанні доўгу. У якасці довяду істцовы бок (Гурэчка і яго маці) прадставілі «вызнаный» ліст, які быў нібы напісаны адказчыкамі бацьку Гурэчкі Навуму і падпісаны дзякам Ескам Клінцом. Каб праверыць подпіс Клінца быў запрошаны свяшчэннік царквы Св. Духа, у якога Клінец вучыўся «грамоте». Але свяшчэннік паведаміў, што Клінец, калі быў «вырасткам», сапраўды вучыўся ў яго — але не скарапісу, якога ён сам не ведаў, а ўстаўному пісьму [4. Л. 124].



не Барысаўскім «востравам» Мялешка прыводзіў прывілей, які нібыта быў выдадзены вялікім князем Свідрыгайлам (1430—1432) і запісаны ў царкоўным Евангеллі. Другі судовы бок — Васіль Заройскі — даводзіў, што Евангелле было прывезена з «Масквы» і ўкладзена ў царкву пасля праходжання некалькі дзесяткаў год пасля смерці Свідрыгайлы. Канчатковае рашэнне было вынесена суддзямі пасля правядзення экспертызы дакумента. Аказалася, што пісьмо прывілея з'яўляецца «новым» — «не мушным» (г. зн. не старым), а яго тэкст напісаны не ў адпаведнасці з дзелавым стылем дакументаў («не водлуг справы канцляреиское») [5. Л. 557—558 адв.].

Такім чынам, адным з экспертаў выступіў тут канцлер ВКЛ. Трэба думаць, што ў прыняцці канчатковага рашэння адыгралі і пэўныя довады (праўда, не зафіксаваныя ў крыніцы) самога В. П. Заройскага, які незадоўга да гэтага, а мабыць, і на час разгляду цяжбы, служыў у канцылярыі ВКЛ дзякам, г. зн. пісарам ніжэйшага рангу*. Ад прыватных асоб у канцылярыю паступала вялікая колькасць дакументаў, якія былі выдадзены яшчэ пры Вітаўце (1392—1430), Свідрыгайле, Жыгімонце Кейстутавічы (1432—1440) з мэтай іх пацвярджэння. Гэтыя дакументы падлягалі экспертызе з пункту гледжання іх аўтэнтычнасці. І А. М. Гаштольд як кіраўнік канцылярыі, праз рукі якога часта праходзілі гэтыя дакументы, і Заройскі як былы дзяк, які непасрэдна адказваў і за іх экспертызу, і за падрыхтоўку пацвярджэнняў, мелі спецыяльныя веды, навыкі і вопыт, каб адрозніць «старое» пісьмо ад «новага».

Менавіта супрацоўнікі канцылярыі, а таксама пісары розных службовых асоб, у першую чаргу прадстаўнікоў мясцовых улад, з'явіліся першымі «практычнымі» палеографамі. Але ў далейшым такую экспертызу маглі праводзіць спецыяльна падрыхтаваныя юрысты.

У сярэдзіне 1590-х гг. у Вількамірскім павеце (Віленскае ваяводства) слухалася некалькі спраў паміж сёстрамі Мікалаевай Служчынай Гальшкай і Марцінавай Камароўскай Беатай Кміцянкамі, з аднаго боку, і князем Рыгорам Сангушкам-Кашырскім, з другога, аб фальсіфікацыі дакумента, выдадзенага нібыта ў 1541 г., які служыў для Сангушкі-Кашырскага падставай

* Аб абавязках дзякоў гл. больш падрабязна [6, с. 30, 40—43]. Як дзяк В. П. Заройскі вядомы па крыніцах з 1508 г. [7, p. 259], [8, s. 125] па 1519 г. [8, s. 125]. Кар'еру ж ён пачынаў у якасці дзяка мітрапаліта Кіеўскага і ўсея Русі Іоны (1506) [7, p. 175]. Прыкладна ў 1509 г. разам з іншымі службовымі асобамі дасылаўся «пописывати земли» ВКЛ. Яго і пісара Федкі Міхайлавіча Святошы ўчастак перапісу былі вызначаны такім чынам: Навагародак, Свержань, Нясвіж, Клецк, Слуцк, Тураў, Гарадок, Пінск [7, p. 315]. У крыніцах згадваецца і як дваранін [6, с. 18]. Валодаў с. Тулятовічы Мазырскага павета, дваром у Мазыры і пустаўшчынамі ў Навагародскім павеце (якія, відавочна, у далейшым былі заселены людзьмі) (1508, 1510) [7, p. 259, 392—393]. Згаданы ў Перапісе войска ВКЛ 1528 г., згодна з якім выстаўляў два коннікі, відавочна, сярод якіх аднаго з Навагародскага павета [9, с. 57, 64].

для невяртанні сумы грошай. Справа ў тым, што частка тэксту — да пячаткі і пісарскага подпісу — была змыта ці сцёрта, у выніку чаго пергамін (з якога быў выраблены дакумент) стаў тонкім і «льснился», паверх жа змытага тэксту быў напісаны новы. Важна іншае. Істцовым бокам было заўважана і ўстаноўлена, што новы тэкст напісаны «свежым» чарнілам, праз якое праглядвалася «*такое писмо, яко за давных веков од лет петидесят и пети не писывано*» (тут і далей вылучана намі. — *А. Г.*), у прыватнасці, некаторыя «*литеры... стародавные значные*». Безумоўна, з дакладнасцю да года па адных толькі даных графікі вызначыць даўнасць пісьма немагчыма. Падставай для вызначэння часу старога тэксту з'явілася, відаць, пакінутая некранутай фальсіфікатарам дата дакумента. Хто праводзіў экспертызу дакумента, невядома. Але магчыма ў якасці эксперта маглі выступіць адвакаты істцовага боку: стольнік Вількамірскага павета Даніэль Львовіч і Валентын Сырвід [10, с. 9—19][*].

Да XVII ст. адносяцца даныя аб экспертызе пісьма кніг. У 1605 г. кіеўскі мітрапаліт Іпацей Пацей прадставіў на экспертызу магістрата г. Вільні старую кнігу, якая нібыта была знойдзена ў царкве мястэчка Крэва. Гэта кніга была напісана «писмом уставным» і змяшчала ў сабе апісанне Флярэнційскага сабора, а таксама грамату кіеўскага мітрапаліта Місаіла да папы Сікста IV за 14 сакавіка 1476 г., у якой прадстаўнікі праваслаўнага духавенства і знаці ВКЛ выказвалі сваё прызнанне Флярэнційскай уніі і прасілі заступніцтва перад каталікамі. Пацей меў намер надрукаваць грамату, а для таго каб у праціўнікаў уніі не ўзнікалі сумненні ў аўтэнтычнасці самой граматы, прасіў членаў магістрата засведчыць кнігу сваімі подпісамі, а факт сведчання запісаць у магістрацкія кнігі, што і было зроблена [12, с. 197—198]. Цяжка сказаць, ці праводзілася сапраўдная экспертыза кнігі і граматы, а калі і праводзілася, то наколькі кваліфікавана і аб'ектыўна. Праз некалькі

[*] Калі не памыляемся, упершыню матэрыялы гэтай крыніцы ўведзены ў навуковае абарачэнне А. К. Цітовым, але інтэрпрэтацыя некаторых яе месцаў дадзена гэтым даследчыкам не правільна (памылковыя год, аб'ект цяжбы, сцвярджаецца, што ў якасці эксперта выступіў Валентын Сырвід, хоць у крыніцы прама аб гэтым не гаворыцца) [11, с. 161]. Названая крыніца мае цікавасць і з іншага пункту гледжання. Згодна з ёй, старое пісьмо было «выцерта» ці «вымыта» [10, с. 11, 12, 15], а хутчэй за ўсё сцёрта пры дапамозе нейкага хімічнага рэчыва. У выніку пергамін стаў тонкім, «льснил», «и блясъ значный на нем» быў [10, с. 12]. Адзначаная крыніца можа сведчыць аб тым, што ў ВКЛ былі вядомы хімічныя сродкі знішчэння чарніла з паверхні пергаміну. Справа ў тым, што чарніла глыбока пранікае ў скуру і хімічна яе змяняе. Таму змыць яго не так ужо і лёгка. З мэтай выдалення чарніла з пергаміну ў краінах Заходняй Еўропы распрацоўваліся спецыяльныя рэцэпты, некаторыя з іх трымаліся ў сакрэце. У Англіі, напрыклад, чарніла распускалі мешанінай з малака, сыру і неабпаленай вапны.



год ананімны аўтар абвінавачваў уніятаў у фальсіфікацыі кніг, якія нібыта пісалі «под датою старою, письмом старым» [13, с. 32—33].

Да практычнай палеаграфіі трэба аднесці капіраванне старых тэкстаў, а таксама іх пераказ, паколькі ўсё гэта падразумявае валоданне пэўнымі палеаграфічнымі навыкамі. «Практычнымі» палеографамі, у прыватнасці, у канцы XVI — пачатку XVII ст. выступілі перапісчыкі кніг Метрыкі ВКЛ XV—XVI стст. Грандыёзная акцыя па іх перапісцы была задумана і ажыццёўлена пад кіраўніцтвам тагачаснага канцлера ВКЛ Л. І. Сапегі.

Своеасаблівую палеаграфічную працу праводзілі, у прыватнасці, работнікі павятовых земскіх судоў ВКЛ (узніклі ў 1565—1566 гг.), упісваючы ў земскія кнігі старыя дакументы і выдаючы на падставе ўпісанняў выпісы («відымусы»).

Да практычнай палеаграфіі варта аднесці таксама і фальсіфікацыю дакументаў, праўда, такую, якая падразумевала ўзнаўленне асаблівасцей графікі пісьма таго часу, за які гэтыя дакументы выдаваліся.

Для навуковай палеаграфіі ў параўнанні з практычнай характэрна выкарыстанне больш дасканалых метадаў вывучэння пісьма, звяртанне да больш старажытных крыніц, пэўная сістэма іх адбору і крытыкі. Усё гэта садзейнічае вылучэнню палеаграфічных ведаў у асобную галіну і рашэнню такіх задач, якія былі запатрабаваны інтарэсамі не толькі сённяшняга дня.

Беларуская і ўкраінская кірыліцкая палеаграфія доўгі час не была прадметам спецыяльнай увагі і разглядалася або ў рамках агульнай кірыліцкай палеаграфіі, або ўсходнеславянскай.

Асаблівасцю гістарыяграфіі, у прыватнасці, усходнеславянскай кірыліцкай палеаграфіі з'яўляецца яе ізаляванасць ад праблем вывучэння развіцця і пашырэння пісьма іншых сістэм, у прыватнасці, найбольш бліжэйшай, да таго ж маючай агульнае паходжанне з кірыліцкай — лацінскай. Між тым кірыліцкае пісьмо і лацінскае прайшлі аналагічныя этапы развіцця. Для іх абодвух характэрны агульныя заканамернасці і асаблівасці развіцця. У гэтай сувязі ўяўляецца цалкам відавочным, што для даследчыкаў кірыліцы былі б у вышэйшай ступені карыснымі назіранні і высновы лацінскіх палеографаў, а таксама іх метады і прыёмы даследавання. Мэтазгодным з'яўляецца ў некаторых выпадках і ўвядзенне агульнай навуковай тэрміналогіі.

Нягледзячы на тое што дасягненні ў вывучэнні лацінскага пісьма значна пераўзыходзяць вопыт вывучэння ўсходнеславянскай кірыліцкай палеаграфіі, у галіне апошняй існуюць значныя напрацоўкі: на базе шырокага кола крыніц устаноўлены асноўныя графічныя віды пісьма, іх агульныя прыкметы, храналогія і г. д. (у рамках палеаграфіі вывучаліся іншыя знешнія прыкметы рукапісаў, якія ў далейшым сталі прадметам вывучэння новых самастойных навук).

У развіцці навуковай усходнеславянскай кірыліцкай палеаграфіі можна вылучыць два асноўныя перыяды: 1) з пачатку XIX ст. да 1950-х гг., г. зн.

пачынаючы з ліста А. М. Аленіна (у далейшым прэзідэнта Акадэміі мастацтваў і дырэктара Публічнай бібліятэкі ў Пецярбургу) да вядомага збіральніка старажытнасцей А. І. Мусіна-Пушкіна адносна надпісу XI ст. на Тмутараканскім камяні, у якім ён змясціў аналіз пісьма гэтага помніка, даказваючы яго аўтэнтычнасць; 2) з 1950-х гг. да сённяшняга дня. Для абодвух перыядаў характэрна асноўная накіраванасць на практычнае, дакладней, навукова-практычнае выкарыстанне матэрыялаў палеаграфіі. Аднак другому перыяду ўласцівы значна большы акцэнт не толькі на пошук у графіцы пісьма датавызначальных прыкмет, але і тлумачэнне паходжання гэтых прыкмет з пункту гледжання іх гістарычнага развіцця.

Даследаванне «беларускага» пісьма (праўда, пад якім можна і хутчэй за ўсё трэба разумець украінскае пісьмо) уваходзіла ў навуковыя планы В. М. Ундольскага (1815—1864), якія ён так і не рэалізаваў [14, с. 43].

«Літоўска-рускае», «заходнерускае» ці «беларускае» пісьмо, з аднаго боку, і «маларускае» ці «паўднёварускае» пісьмо, з другога, адрозніваў І. Дз. Сахараў — аўтар першага дапаможніка па ўсходнеславянскай палеаграфіі. Даныя аналітычнага характару па гісторыі беларускага і ўкраінскага пісьма ў гэтага аўтара яшчэ дастаткова бедныя. Ён адзначаў, што беларускае пісьмо ўтварылася з кніжнага паўустава; яно адрозніваецца ад рускага пісьма, але і тое, і другое пабудаваны на агульнай аснове стараславянскага паўустава. Значыць, першапачатковая крыніца беларускага і рускага пісьма была агульнай. Арэал пашырэння беларускага пісьма Сахараў абмяжоўваў наступнымі рэгіёнамі: Вільня, Гродна, Магілёў, Смаленск, Мінск, Слуцк, Полацк, Коўня, Трокі. У гісторыі беларускага пісьма Сахараў вылучаў два перыяды: 1) XIV—XV стст. — калі яно існавала ў сваім паўустаўным напісанні; 2) XVI—XVII стст. — калі беларускае пісьмо мела скарапіснае напісанне. Такім чынам, у аснову перыядызацыі гісторыі беларускага пісьма названым аўтарам быў пакладзены від пісьма [15, с. 9—11].

Па сцвярджэнні Сахарава, украінскае (маларускае ці паўднёварускае) пісьмо вядома па актах, якія захаваліся з XVI ст. Гэта пісьмо, як і беларускае, утварылася з кніжнага паўустава і адрознівалася ад рускага пісьма «звязным неразборлівым почыркам». У яго аснове — тое ж стараславянскае пісьмо. Украінскае пісьмо было пашырана ў Кіеве, Астрогу, Пераяслаўлі, Батурыне і Чарнігаве. Па вызначэнні Сахарава, украінскае пісьмо перажыло два перыяды: 1) XVI — пачатак XVII ст. — калі яно мела паўустаўное напісанне; 2) XVII — першая чвэрць XVIII ст. — калі яно характарызавалася скарапісным напісаннем*. Значыць, у аснове падзелу гісторыі ўкраінскага пісьма на перыяды ляжыць, як і ў выпадку з беларускім пісьмом, яго графічны від [15, с. 12—13].

* У іншым месцы І. Дз. Сахараў піша аб з’яўленні ўкраінскага скарапісу ў канцы XVI ст. [15, с. 16—17].



Пачатак навуковага вывучэння ўкраінскага, а таксама беларускага кірыліцкага пісьма трэба адносіць да канца XIX ст., і звязаны ён з выхадам у свет у 1899 г. палеаграфічнага альбома пад назвай «Палеаграфічны зборнік. Матэрыялы па гісторыі паўднёварускага пісьма ў XV—XVIII стст. …» [16].

У прадмове да альбома ўкраінскі даследчык І. М. Каманін зрабіў спробу прасачыць развіццё «паўднёварускага», г. зн. украінскага, скарапісу XV—XVIII стст. Скарапіс, які функцыянаваў на тэрыторыі Украіны, амаль нічым не адрозніваўся ад беларускага, што і дае нам падставы адлічваць гісторыю вывучэння беларускага пісьма ад названай працы.

І. М. Каманін адзін з першых палеографаў, хто стаў надаваць належную ўвагу скарапіснаму пісьму. Абгрунтоўваючы ўключэнне ў склад «Палеаграфічнага зборніка» ўзораў скарапіснага пісьма, ён сцвярджаў, што як устаў, так і скорапіс аднолькава важныя для гісторыі пісьма і ніводны з іх не можа быць праігнараваны даследчыкам. «Калі ў каліграфіі мы бачым панаванне тэорыі і традыцыі пісьма, бачым ступень дасканаласці, да якой у той ці іншы час магло дасягнуць гэта пісьмо, — то яна (г. зн. каліграфія) уяўляе сабой як бы статыку пісьма; у какаграфіі (г. зн. хуткае пісьмо. — *А. Г.*), якая праследуе адну хуткасць пісьма, выпрацоўваюцца такія рысы, якія ў далейшым уваходзяць ва ўсеагульнае выкарыстанне, замацоўваюцца звычаем і змяняюць ранейшую тэорыю пісьма; у какаграфіі мы можам такім чынам назіраць працэс развіцця скорапісу, так сказаць, дынаміку пісьма» [17, с. 4—5].

Заслуга Каманіна заключаецца, галоўным чынам, не ў тым, што ён прывёў напісанні, якія былі характэрны для скорапісу XV—XVIII стст. [17, с. 8—11] (хоць гэта таксама вельмі важна), але паспрабаваў растлумачыць іх паходжанне. Галоўнымі фактарамі развіцця пісьма ён лічыў культурны працэс, а таксама «агульны закон», паводле якога «думкі, па меры свайго зараджэння ў мозгу, шукаюць і адначасовага выражэння сябе і ў мове, і ў пісьме; адсюль этымалагічныя і сінтаксічныя спрашчэнні ў мове, адсюль жа — развіццё скорапісу і нават з’яўленне стэнаграфіі ў пісьме. Думка, слова і пісьмо імкнуцца прыйсці да ўзгодненага і па магчымасці адначасовага праяўлення, як амаль аднячасовымі з’яўляюцца адчуванні і рэфлектыўныя дзеянні» [17, с. 5]. Такім чынам, Каманін не падзяляў пісьмо паводле сфер выкарыстання, хаця кірунак развіцця розных тыпаў пісьма быў розны.

Каманіна, відавочна, трэба назваць першым прадстаўніком сацыялагічнага кірунку* ў кірыліцкай палеаграфіі, які вялікае значэнне ў раз-

* Адна з праблем сацыялагічнага кірунку ў палеаграфіі — гэта вывучэнне ролі сацыяльных і культурных умоў у з’яўленні, пашырэнні і эвалюцыі пісьма, метадаў навучання пісьму [18, с. 35]. Адным з вядомых даследчыкаў гэтага кірунку з’яўляецца венгерскі палеограф І. Хайнал [19, с. 18—30].

віцці пісьма надаваў метадам навучання. Форма літар і спосаб іх напісання, г. зн. «почырк» [17, с. 6], як лічыў вучоны, выпрацоўваюцца навучальнай установай — школай, пад уплывам ці ўласнай, роднай культуры, ці чужой, якая прынесена звонку. «... Пры навучанні пісьму школа ці асобныя яе прадстаўнікі перадаюць сваім выхаванцам з пакалення ў пакаленне характар пісьма з тымі ўдасканаленнямі і спрашчэннямі ў спосабе выяўлення літар, якія выпрацоўваюцца практыкай і часам», — піша даследчык. Пры гэтым ён дабаўляе, што паводле пісьма можна вызначыць і школу і ступень развіцця культуры той ці іншай народнасці [17, с. 6].

Каманін вызначыў асаблівасці развіцця пісьма ў рамках культурнага працэсу. На яго думку, пры натуральным спрашчэнні пісьма пад уплывам айчыннай культуры змены ў напісанні літар адбываюцца надзвычай марудна, не парушаючы агульнага характару пісьма, пры ўздзеянні чужой культуры напісанне літар мяняецца рэзка, а разам з тым змяняецца і папярэдні характар пісьма; пісьмо набывае новыя знешнія рысы [17, с. 6].

Уласцівасцю методыкі Каманіна з'яўляецца ўлік вынікаў параўнальнага аналізу паўднёварускага скорапісу з рускім скорапісам і лацінскім пісьмом.

У развіцці паўднёварускага скорапісу Каманін вылучыў чатыры перыяды. Нас цікавяць толькі тры першыя з іх: 1) другая палова XV ст.— першая палова XVI ст. [17, с. 6]; 2) другая палова XVI ст. — да канца XVI — пачатку XVII ст.*; 3) да другой паловы XVII ст.** (на правым беразе Дняпра) і да сярэдзіны XVIII ст.*** (на левым).

Для першага перыяду ўласціва свабоднае і самастойнае развіццё культуры, якая нават уздзейнічала на «Паўночную Русь», г. зн. на Расію і Літву. Гэты перыяд характарызуецца падабенствам скорапісу да паўустава. Кожная літара з'яўляецца натуральным развіццём свайго «першавобраза» ў паўуставе і ва ўставе. Падобная з'ява характэрна для пісьма рукапісаў Вільні, Любліна, Кракава і іншых заходніх гарадоў у канцы XV — пачатку

* У адным месцы Каманін завяршае гэты перыяд пачаткам XVII ст. [17, с. 7], у другім — пачынае наступны перыяд канцом XVI ст. [17, с. 13].

** Тут таксама ёсць непаслядоўнасць. У адным месцы адзначана, што перыяд заканчваецца другой паловай XVII ст. [17, с. 7], у другім — канцом трэцяй чвэрці XVII ст. [17, с. 13].

*** Аб тым, што гэты перыяд працягваецца да другой паловы, г. зн. да сярэдзіны XVIII ст., Каманін адзначае ў трох месцах [17, с. 7, 13, 17]. Аднак у іншым месцы ён піша пра ўзмацненне рускага ўплыву (якое служыць пачаткам чацвёртага перыяду) у пачатку XVIII ст. «З пачатку ж XVIII ст., а яшчэ дакладней пасля падзей 1709 г., паўночнарускі ўплыў узмацніўся на поўдні Расіі; праяўленне гэтага ўплыву і пранікненне яго нават у школу павінна быць прызнана пачаткам чацвёртага перыяду ў гісторыі развіцця паўднёварускага почырку…» [17, с. 17].



XVI ст. Пісьмо яшчэ пазбаўлена староннягa ўплыву. Гэты перыяд Каманін назваў услед за І. І. Сразнеўскім перыядам «устаўнога скорапісу».

Даследчык адзначае адсутнасць падабенства паўднёварускага скарапіснага пісьма з заходнееўрапейскім лацінскім. У выніку параўнання скарапіснай кірыліцы Украіны з рускім скорапісам Каманін хоць і знаходзіць шмат падобных рысаў, але і выяўляе паміж імі значныя адрозненні. У адрозненне ад рускага скорапісу, які развіваецца больш шпарка, паўднёварускі скорапіс характарызуецца архаічнасцю. Свабодны ад знешняга ўплыву, ён захоўвае запаветы роднай даўніны і доўга ўтрымлівае рысы ўстаўнога скорапісу, у той час як рускі скорапіс рана трапіў пад чыйсьці ўплыў (мабыць, усходні), у выніку якога выпрацаваў дзве галоўныя асаблівасці: няроўнасць і кручкаватасць [17, с. 7—8]. Асноўная роля ў развіцці пісьма названага перыяду належала духавенству (як беламу, так і чорнаму), якое займалася навучаннем пісьму, перапіскай кніг («як прафесіяй»), а таксама складаннем юрыдычных дакументаў [17, с. 9—10]. Дарэчы, менавіта Каманіну належыць увядзенне ў навуковае абарачэнне (з вуснай інфармацыі М. Ясінскага) матэрыялаў адной крыніцы за 1540 г. (з Метрыкі ВКЛ 228), што паходзіць, відавочна, з Віцебска, у якой гаворыцца пра навучанне ўстаўному пісьму святарам [17, прим., с. 10]*.

У другі перыяд паўднёварускі скорапіс трапляе пад уплыў заходнееўрапейскага пісьма, праваднікам якога служылі: 1) новыя судова-адміністрацыйныя ўстановы, якія займаліся падрыхтоўкай кадраў і прад'яўлялі да пісьма патрабаванні заходнееўрапейскай каліграфіі (у прыватнасці, польскай, якая засвоіла характар гатычнага пісьма); 2) польскі этнаграфічны элемент, а таксама каталіцкія і пратэстанцкія школы, якія з'явіліся на тэрыторыі Украіны пасля Люблінскай уніі (1569); 3) духавенства, якое было «падпарадкавана» ўплыву Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. Наогул, як лічыць Каманін, пад уплывам заходнееўрапейскай цывілізацыі змяніўся ўвесь лад жыцця. У такіх умовах не магло захоўваць нацыянальных рысаў і паўднёварускае пісьмо, якое набывала «знешні характар генетычнага лацінскага пісьма» і ўтрымлівала наколькі гэта было магчыма старую форму літар. Месцам развіцця новага пісьма былі судова-адміністрацыйныя ўстановы, а таксама каталіцкія і пратэстанцкія школы. Гэтаму перыяду Каманін прысвоіў назву «гатычны» [17, с. 13].

Па сцвярджэнні вучонага змены ў пісьме адбыліся не адразу. Каля 1560-х гг. скарапіснае пісьмо захоўвае падабенства з уставам, і толькі каля 1580-х гг. яно пачынае хутка мяняцца [17, с. 10]. Змены

* Па нашых даных гэты дакумент з'яўляецца найбольш раннім дакументам беларускага паходжання, дзе сустракаюцца тэрміны «скорапіс», «скарапіснае пісьмо», «устаўное пісьмо» [4. Л. 124].

адбываюцца ў літарах «б», «в», «г», «д», «ж», «з» («зямля»), «и», «у», «ч», «ъ», «фіта», «амега» [17, с. 10—11].

Для гэтага перыяду характэрны невялікі памер літар, памяншэнне колькасці прыёмаў пры напісанні літар, акругласць напісанняў многіх з іх, памяншэнне колькасці надрадковых літар, больш цеснае размяшчэнне радковых літар пры адсутнасці іх звязнасці [17, с. 11, 12].

Вынікі параўнання паўднёварускага скорапісу з рускім адзначанага вышэй перыяду паказалі наступнае. У паўднёварускім скорапісе з'яўленне новых форм літар адбываецца больш шпарка, націск пяра (амаль аднолькавы як у верхняй, так і ніжняй частках літар) моцны, кантраст паміж тоўстымі і тонкімі лініямі даволі значны, літары пішуцца без нахілу, стаяць блізка адна ад адной і маюць амаль аднолькавую вышыню, для канцоў літар (ніжнія вынасныя элементы) уласціва «схільнасць» да загінання ўправа [17, с. 11]. Параўноўваючы паўднёварускі скорапіс з гатычным польскім (лацінскім) пісьмом, даследчык адзначыў іх блізкасць у «спосабе напісання», а менавіта: і той, і іншы маюць аднолькавы націск пяра і як вынік аднолькавая таўшчыня ліній, амаль роўная вышыня літар, прамое становішча іх у радку, наяўнасць загінаў канцоў ніжніх вынасных элементаў літар у правы бок, што служыла пачаткам будучай звязнасці пісьма [17, с. 12].

Для трэцяга перыяду ўласціва выкарыстанне «канцылярска-гатычнага» пісьма, «характар» якога змяняецца дзякуючы дзейнасці брацкіх школ [17, с. 13, 17]. Гэты перыяд Каманін называе «школьным» ці «лацінскім».

Сярод найбольш уплывовых школ, дзе фарміраваліся рэгіянальныя варыянты пісьма і якія служылі ўзорам для другарадных і пазнейшых, Каманін вылучае астрожскую, уладзімірскую, кіеўскую і луцкую [17, с. 13—17]. Першай Каманін прысвоіў права першынства на графіку «б», якая складалася з выгнутай рыскі і трохвугольнай пятлі (з гэтай школы яна пераходзіць ва ўсе іншыя школы і ўстановы) [17, с. 14], а чыгіранскай (казацкай) — на графіку фітападобнай «в» і «ж» з адной толькі правай вуглаватай пятлёй (якія толькі пазней з'явіліся ў кіеўскім і валынскім пісьме) [17, с. 16]. Характэрныя асаблівасці новага кіеўскага пісьма (пачынае фарміравацца з пераўтварэннем у Богаяўленскім брацтве і школе пры ім у першай чвэрці XVII ст.) — фітападобная «в», «г» з ніжнім вынасным элементам, запазычаныя з лацінскіх азбук «м» і «т» [17, с. 14], а луцкага пісьма другой паловы XVII ст. — «д» з трыма петлямі (адна з якіх — верхняя — незавершаная), «г» і «б» са «згібамі», што цягнуцца ўверх [17, с. 15].

Пэўная абстрагаванасць Каманіна ад пісьма, якое было пашырана на тэрыторыі ВКЛ, абумовіла неабгрунтаванасць некаторых яго палажэнняў, якія, у прыватнасці, звязаны з устанаўленнем рэгіянальных варыянтаў пісьма. Такія занадта агульныя прыкметы пісьма, як «выразнасць», «роўнасць



літар», іх прыгажосць і прастата, «рэзкасць» літар, закругленасць, вузкасць, вуглаватасць і г. д., самі па сабе не могуць служыць у якасці вызначальных.

Усё гэта, аднак, не перашкаджае бачыць у асобе Каманіна першага вучонага, які заклаў трывалыя метадалагічныя асновы ў вывучэнне ўкраінскага і беларускага кірыліцкага скорапісаў.

У пазнейшых навучальных дапаможніках па палеаграфіі, у якіх разглядаюцца беларускі і ўкраінскі скорапісы, адчуваецца пэўная залежнасць іх даных ад матэрыялаў Каманіна, якая, у прыватнасці, спарадзіла наступнае выказванне А. І. Сабалеўскага: «Гэты скорапіс («паўднёва-заходнерускі», г. зн. украінска-беларускі. — *А. Г.*) у другой палове XVI ст. пачынае пераўтварацца ў іншы, пераважна паўднёварускі (г. зн. украінскі. — *А. Г.*), паколькі ён выкарыстоўваецца галоўным чынам у помніках паўднёварускага паходжання» [20, с. 60]. Якім чынам адзін рэгіянальны скорапіс мог пераўтварыцца ў іншы, вучоны не растлумачыў.

Між тым у працы Сабалеўскага «Славяна-руская палеаграфія» (1901; 1908, 2-е выд.), дзе было змешчана працытаванае выказванне, ёсць шэраг важных заўваг, пераважна тых, якія адносяцца да скорапісу. Сабалеўскі адзначыў рэзкае адрозненне паміж паўночнарускім і «паўднёва-заходнерускім» скарапіснымі «тыпамі почыркаў» XV—XVII стст. [20, с. 58]. «Паўднёва-заходне-рускі» скорапіс першай паловы XV ст. яшчэ блізкі да паўустава, але з другой паловы XV ст. укараняецца і на працягу першай паловы XVI ст. пануе асаблівы тып скорапісу, які быў выпрацаваны ў вялікакняжацкай канцылярыі пад уплывам лацінскага пісьма. Нягледзячы на канстатацыю лацінскага ўплыву на названы тып скорапісу, вучоны адзначае прысутнасць у ім літар, якія па форме былі ідэнтычныя літарам рускага паўустава XIV—XV стст. і літарам паўднёваславянскага паўустава. Сабалеўскі звярнуў увагу на характэрныя асаблівасці напісання скарапісных «д», «р», «ц», «щ» з вельмі доўгімі хвастамі; «ъ» і «яць» з вялікімі верхнімі часткамі і г. д. [20, с. 60].

Сабалеўскі адзначыў бегласць паўднёварускага скорапісу XVII ст. (у які, нагадаем, на яго думку, «пераўтварыўся» «паўднёва-заходнерускі» скорапіс) і што літары ў ім часта звязваюцца адна з адной; прывёў варыянты яго асобных літар [20, с. 61]. Менш увагі вучоны надаў «паўднёва-заходне-рускім» уставу і паўуставу.

Праблемы беларускай і ўкраінскай палеаграфіі закрануў і В. М. Шчэпкін — аўтар кнігі «Падручнік рускай палеаграфіі» (1918 г., перавыдадзены ў 1967 і 1999 гг. пад назвай «Руская палеаграфія»). Важным дасягненнем Шчэпкіна з'яўляецца тое, што ён паспрабаваў звязаць развіццё беларускага і ўкраінскага скорапісаў з працэсамі развіцця дзяржаўнасці. Фарміраванне беларускага і маскоўскага скорапісаў ён звязваў з другім паўднёваславянскім уплывам, з'яўленне якога супала з падзелам Рускай зямлі на два дзяржаўныя саюзы: Літоўскі і Маскоўскі. Гэтыя саюзы адчувалі і перапра-

цоўвалі названы ўплыў асобна адзін ад аднаго і таму неаднолькава. Па гэтай прычыне з эпохі паўднёваславянскага ўплыву графіка заходнерускай і ўсходнерускай дзяржаў пачынае разыходзіцца. «Да эпохі паўустава почыркі заходняй і паўднёва-заходняй Расіі мала адрозніваюцца ад почыркаў наўгародскіх, маскоўскіх і іншых велікарускіх, хаця пад канец і некалькі адрозніваюцца ад іх па сваёй манеры і знешняму выгляду, што тлумачыцца вельмі дробнымі адрозненнямі арнаментальнага характару ў напісанні літар». Апрача таго, як лічыў Шчэпкін, заходні і паўднёва-заходні ўставы ў XIII і XIV стст. у адрозненне ад велікарускага былі менш адрэзаны ад балканскіх уплываў, таму ў іх ужо ў XIII і XIV стст. часам выкарыстоўваюцца аднабаковае «ч» і «амега» з высокай сярэдзінай [21, с. 131—132].

У адрозненне ад А. І. Сабалеўскага, В. М. Шчэпкін лічыў, што ў віленскім (заходнерускім) скорапісе (ці скорапісе літоўскай велікакняжацкай канцылярыі) з самага пачатку мацней пачалі адчувацца паўднёваславянскія ўплывы, што паслужыла прычынай з'яўлення ў ім манерна-дэкаратыўных «размахаў», якія ў большасці накіраваны не ўверх, а ўніз. Скорапісы Маскоўскай дзяржавы і ВКЛ пачынаюць, на яго думку, разыходзяцца ў XV ст., і ўжо ў XVI ст. яны незалежна адзін ад аднаго ствараюць новыя напісанні літар, якія адрозніваліся ад паўустаўных [21, с. 150].

Віленскі скорапіс Шчэпкін разглядаў толькі да XVI ст. (уключна). На думку вучонага, ён грунтаваўся на паўуставе XIV—XV стст. пры ўдзеле паўднёваславянскіх уплываў. Для яго было характэрна: 1) наяўнасць доўгіх і манерных хвастоў (вынасных элементаў), якія ў большасці накіраваны ўніз; 2) наяўнасць у «ж», «ук» і «ъ» хвастоў, якія накіраваны ўверх; 3) невялікая свабода ўзмаху пяра; 4) адсутнасць адмысловых скарачэнняў; 5) адсутнасць звязных напісанняў літар; 6) наяўнасць таго ж складу вынасных літар, што і ў паўуставе. У кіеўскім (ці паўднёварускім) скорапісе Шчэпкін вылучаў наступныя рысы: 1) значную безадрыўнасць пісьма (чым яна пераўзыходзіла маскоўскі скорапіс) і набліжэнне яго да курсіўнага пісьма; 2) частковыя спрашчэнне і манернасць пісьма; 3) акругласць пісьма; 4) накіраванасць хвастоў літар пераважна ўніз; 5) наяўнасць невялікай колькасці скарачэнняў і вынасных літар [21, с. 156].

Беларускае пісьмо аналізавалася Я. Ф. Карскім. Вынікі аналізу змешчаны ў дзвюх яго працах: «Беларусы. Мова беларускага народа. Вып. 1. Гістарычны нарыс гукаў беларускай мовы» (1908; 1955, 2-е выд.) [22] і «Славянская кірылаўская палеаграфія» (1928; 1979, 2-е выд.) [23].

Карскі прасочваў устаў да XVII ст. і падзяляў яго на найстаражытнейшы (XI—XIV стст.) і новы (XV—XVII стст.). Галоўнай асаблівасцю самага старажытнага ўстава ён называў прыкмету, калі вышыня літар і сярэдняя шырыня іх аднолькавыя; ва ўставе пазнейшага часу літары значна вузейшыя і стаяць даволі блізка адна ад адной. Літары самага старажытнага ўстава не адрозніваюцца асаблівай таўшчынёй,



пераходы ад тоўстых ліній да тонкіх паслядоўныя і не рэзка кідаюцца ў вочы, у той час як у навейшым уставе тоўстыя лініі літар пішуцца асабліва тлуста. Яшчэ адной рысай, якая адрознівае старажытны ўстаў ад пазнейшага, ён назваў суразмернасць ніжніх і верхніх частак літар; у больш ранніх рукапісах верхнія часткі становяцца ўсё меншымі, гарызантальныя перакладзіны літар усё вышэй, а ў некаторых літарах, як «и» і «н», гэтыя перакладзіны нават мяняюць свой кірунак [23, с. 170].

Вучоны не бачыў адрозненняў паміж пісьмом старажытнага заходнерускага ўстава і пісьмом іншых усходнеславянскіх рукапісаў. Па яго назіраннях, яно было даволі шырокім, умераная таўшчыні, разгоністым, даволі буйным [22, с. 49—50]. Характарызуючы асаблівасці напісання асобных літар XIII ст., даследчык, у прыватнасці, адзначаў наяўнасць у «ж», што пішацца ў пяць прыёмаў, даволі маленькай верхняй часткі, якая часам можа зусім знікаць [22, с. 50], выкарыстанне літары «н», у якой перакладзіна, што пачынаецца ўверсе левай мачты, часам не дасягае нізу правай, а спыняецца пасярэдзіне яе і нават вышэй [22, с. 52], узнаўленне ў некаторых рукапісах ётаванага «е» з некалькі прыпаднятай, а часам і некалькі скошанай перакладзінай [22, с. 50], некаторае павышэнне перакладзіны «и» ў пачатку стагоддзя і значнае павышэнне ў канцы стагоддзя [22, с. 50], узнаўленне перакладзіны «ю» вышэй сярэдзіны ў помніках канца XIII ст. [22, с. 52].

З'яўленне паўустава Карскі адносіць, калі меркаваць па датах прыведзеных ім крыніц, да апошняй чвэрці XIV ст. Галоўнымі прыкметамі паўустава даследчык называе страту геаметрычнага прынцыпа будовы літар (прамыя лініі дапускаюць крывізну, крывыя не заўжды супадаюць з правільнай дугой); непаслядоўнасць тыпу пісьма (з'яўленне закругленняў замест вуглоў, вуглаватасці замест акругленняў, непрапарцыянальнасці замест суразмернасці); пэўная варыянтнасць напісання адных і тых жа літар; даволі далёкае ці, наадварот, вельмі блізкае размяшчэнне літар адна супраць другой*; як правіла, невялікія памеры пісьма; большая колькасць скарачэнняў [22, с. 56—57], [23, с. 171].

На думку Карскага, заходнерускі паўустаў мае нямала рысаў падабенства з усходнерускім, хаця і характарызуецца адначасова і істотнымі адрозненнямі [22, с. 57]. Вучоны вылучае старэйшы паўустаў (другая палова XIV ст.** — сярэдзіна XV ст. [22, с. 58]) і навейшы ці малодшы паўустаў (увесь астатні перыяд). Заходнерускі малодшы паўустаў больш па-

* Праўда, у іншай працы ён піша толькі наступнае: «Літары адстаяць адна ад адной даволі далёка, паколькі пісалі даволі хутка, размашыста» [23, с. 171].

** Дакладней, апошняя трэць XIV ст., але ва ўсякім выпадку не канец стагоддзя [22, с. 57], паколькі ў працы прыводзіцца помнік паўустаўнога пісьма за 1383 г. [22, с. 56]. У іншай жа працы адзначаецца наступнае: «… час панавання паўустава, пачынаючы з другой паловы XIV ст.» [23, с. 171].

добны да паўднёваславянскага, чым да рускага, а ў параўнанні з апошнім ён адрозніваецца большай блізкасцю да ўстава XIV ст. [22, с. 67].

З'яўленне скорапісу вучоны адносіць да апошняй чвэрці XIV ст. [22, с. 76]. Пры гэтым ён адзначае, што скарапісныя помнікі яшчэ ў XV ст. з'яўляліся рэдкімі. Паводле вызначэння Карскага, найстаражытнейшы скорапіс яшчэ вельмі блізкі да паўустава і адрозніваецца ад яго параўнальна невялікім памерам літар, значнай іх шырынёй і размашыстасцю, некаторай кручкаватасцю асобных напісанняў. Толькі паступова з'яўляюцца асаблівыя напісанні літар [22, с. 76], [23, с. 174].

Іншыя назіранні даследчыка за скорапісам не адрозніваюцца арыгінальнасцю. Як і Шчэпкін, графічныя адрозненні заходнерускага і ўсходнерускага скорапісаў Карскі звязваў з культурнымі ўплывамі. Аднак па праблеме, адкуль прыйшоў гэты ўплыў: з захаду ці з поўдня, ён падтрымліваў Каманіна. Услед за апошнім Карскі пісаў аб уздзеянні на заходнерускі скорапіс гатычнага пісьма. Супярэчнасць праяўляецца ў тым, што даследчык адначасова сцвярджаў аб панаванні і ў «Літоўскай Русі», і ў візантыйцаў, і ў паўднёвых славян агульных прыкмет пісьма: акруглых рухаў, манернасці, дэкаратыўнасці, формы хвастоў, г. зн. тых прыкмет, якія служылі для Шчэпкіна аргументам на карысць уплыву на віленскі скорапіс паўднёварускага пісьма. У адрозненне ад Каманіна механізм уздзеяння заходняга ўплыву Карскі бачыў у іншым. «Часта здаралася адной і той жа асобе пісаць па-лаціне, па-польску і па-руску», — пісаў вучоны. Карскі адзначыў тыя прыкметы, якія адрозніваюць заходнерускі скорапіс ад усходнерускага [23, с. 175—176].

Літаратура і крыніцы


1. Черепнин Л. В. Русская палеография: Учеб. пособие для вузов. М., 1956.
2. Иванова В. И. Экспертиза частного акта в XVII в. // Вспомогательные исторические дисциплины. 1983. Вып. 15.
3. Lietuvos Metrika (1528—1547). 6-oji Teismų bylų knyga (XVI a. pabaigos kopija) / Spaudai par. S. Lazutka, I. Valikonytė ir kt. Vilnius, 1997.
4. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. КМФ-18 (Літоўская метрыка). Спр. 228.
5. Там жа. Спр. 17.
6. Груша А. Службовы склад і структура канцылярыі ВКЛ 40-х гадоў XV — першай паловы XVI ст. // Metriciana: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага княства Літоўскага. 2001. Т. 1.
7. Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 8 (1499—1514). Užrašymų knyga 8 / Par. A. Baliulis, R. Firkovičius, D. Antanavičius. Vilnius, 1995.
8. Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku: Spisy. T. 11: Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku. Spisy / Oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba. Kórnic, 1994.





9. Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 г. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 523. Кніга Публічных спраў 1 / Падрыхт. А. І. Груша, М. А. Вайтовіч, М. Ф. Спірыдонаў. Мн., 2003.
10. Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 32. Акты Вилькомирского гродского суда. Вильна, 1907.
11. Цітоў А. Пячаткі старажытнай Беларусі: Нарысы сфрагістыкі. Мн., 1993.
12. Архив Юго-Западной России, издаваемый Временною комиссиею для разбора древних актов, высочайше утвержденною при киевском, подольском и волынском генерал-губернаторе. Ч. 1. Т. 7: Памятники литературной полемики православных южно-руссцев с латино-униатами. Киев, 1887.
13. Нікалаеў М. Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X—XVIII стагоддзях. Мн., 1993.
14. Жуковская Л. П. Развитие славяно-русской палеографии (в дореволюционной России и в СССР). М., 1963.
15. [Сахаров И. Д.]. Чтения из русской палеографии. [М., 1854]. № 1.
16. Палеографический изборник. Материалы по истории южнорусского письма в XV—XVIII вв., изданные Киевской комиссией для разбора древних актов. Киев, 1899. Вып. 1.
17. Каманин И. Главные моменты в истории развития южнорусского письма в XV—XVIII вв. // Палеографический изборник. Материалы по истории южнорусского письма в XV—XVIII вв., изданные Киевской комиссией для разбора древних актов. Киев, 1899. Вып. 1.
18. Романова В. Л. Рукописная книга и готическое письмо во Франции в XIII—XIV вв.: По материалам собрания рукописных книг Государственной Публичной библиотеки им. М. Е. Салтыкова-Щедрина. М., 1975.
19. Киселева Л. И. Готический курсив XIII—XV вв. Л., 1974.
20. Соболевский А. И. Славяно-русская палеография. С 20 палеографическими таблицами. 2-е изд. СПб., 1908.
21. Щепкин В. Н. Русская палеография. 3-е доп. изд. М., 1999.
22. Карский Е. Ф. Белорусы. Язык белорусского народа. Вып. 1: Исторический очерк звуков белорусского языка. М., 1955.
23. Карский Е. Ф. Славянская кирилловская палеография. М., 1979.

# ГЕНЕАЛОГІЯ

***С. А. Рыбчонак***

## РАДАВОДНАЯ СПРАВА ШЛЯХЕЦКАГА РОДУ МІЦКЕВІЧАЎ

Радавод Адама Міцкевіча ў бок яго нашчадкаў добра вядомы. Разам з тым радавод шляхецкага роду Міцкевічаў не стаў да сённяшняга часу прадметам грунтоўных даследаванняў айчынных спецыялістаў па генеалогіі. Сярод архіўных дакументаў каштоўнай крыніцай для вырашэння гэтай задачы з'яўляецца справа Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу (далей — ДДС) аб дваранскім паходжанні роду Міцкевічаў (НГАБ. Ф. 319. Воп. 2. Спр. 1991).

Справа мае вокладку блакітнага колеру (у Мінскім ДДС так абгорнуты ўсе справы незацверджаных у дваранстве родаў), расшыта (гэта значыць, мае абмежаванні выкарыстання і капіравання). У ёй ёсць 92 аркушы (па нумарацыі 1—85а, з якіх — некаторая літарная), асобныя лісты крыху заплямлены (відаць, з-за падмакання). Усе аркушы захаваліся дастаткова добра (без пашкоджанняў), таму можна сцвярджаць пра поўны комплекс дакументаў справы (больш падрабязней гл. дакумент 22 нашай нумарацыі). У межах фонда (319 «Мінскі дваранскі дэпутацкі сход») справа аднесена да катэгорыі «асабліва каштоўных». Аўтографаў Адама Міцкевіча ў ёй няма, таму на падрабязным археаграфічным апісанні яе выгляду спыняцца не будзем. Таксама адзначым, што ў справе ёсць дакументы на лацінскай, польскай і рускай мовах.

Коратка нагадаем гісторыю складання справы. З канца XVIII ст. Беларусь апынулася ў складзе Расійскай імперыі, і агульнае расійскае заканадаўства было распаўсюджана на яе тэрыторыі. Згодна з «Жалаванай граматай дваранству» (1785) у губернскіх цэнтрах былі створаны дваранскія дэпутацкія сходы, а ў іх структуры — асобныя вывадовыя камісіі, што займаліся разглядам усіх радаводных пытанняў. Калі буйныя і мажныя магнацкія роды напачатку сабатавалі працу згаданых вывадовых камісій, то шматлікая збяднелая шляхта на пач. XIX ст. найхутчэй кінулася пацвярджаць свой дваранскі статус. Не выключэннем тут быў і, як мы ўбачым далей, дасведчаны судоўца Мікалай Міцкевіч — бацька Адама. Менавіта па яго хадайніцтве (гэтае хадайніцтва ў справе не захавалася) Гродзенскі ДДС разглядаў вывад роду Міцкевічаў і прыняў адпаведную пастанову ў 1804 г.

Як адзначалася, умовы прызнання ў дваранстве Расійскай імперыі былі не вельмі складанымі, і пастановы ДДС было дастаткова. З пач. 1830-х гг. (у сувязі з вялікай колькасцю фальсіфікацый дваранскіх радаводаў і розных іншых прычын, што адкрыліся ў дзейнасці ДДС заходніх губерняў) умовы прызнання сталі больш жорсткімі, а канчатковае зацвярджэнне стала прэрагатывай Дэпартамента герольдыі пры Правячым Сенаце.



Пры апісанні дакументаў радаводнай справы мы прыводзім аркуш, які дакумент атрымаў у справе, назву разнавіднасці дакументаў, неабходныя звесткі (сапраўднасць дакумента, наяўнасць подпісаў і г. д.).

Арк. 1 — тытульны — «Справа № 104. Дакументы Міцкевічаў». Гэтак пачынаецца асобная ўкладная справа з канкрэтнымі дакументамі-доказамі, раней была прашыта і апячатана.

1) 1а—1а адв. — Дабравольны квітацыйны запіс ад Францішка Верашчакі Яну і Марыянне з Лешчылоўскіх Міцкевічам на выкуп у апошніх 2 пустак у Прудах, што былі здадзены ў заставу Міцкевічам памерлымі Буткоўскімі. Датаваны 20.03.1739. Арыгінал.

2) 2—2а — Сведчанне, выдадзенае ад в[ыконваючага] а[бавязкі] навагрудскага маршалка павятовага суддзі Вяржбоўскага, што прадстаўнікі роду Рымвід-Міцкевічаў (пералічаны нашчадкі Яна, у т. л. Адам, Міцкевічы), «… жительствуя с древних времен в здешнем уезде и владея земными имениями с населенными крестьянами, никогда к подушному окладу не принадлежали и ныне не принадлежат …». Датавана 03.09.1840. Арыгінал.

3) 3—4 — Выпіс з актавай кнігі Гродзенскага земскага суда ад 14.03.1696 з актыкацыяй прадажнага запісу ад Валенція Грыгор'евіча Міцкевіча Крыштафу Міцкевічу на маёнтак Міцькоўцы Гродзенскага пав. за 5 000 зл. пол. ад 03.06.1695. Копія. З арыгіналам звяраў сталаначальнік Цярпіцкі. Выпіс быў выдадзены 16.09.1841 па просьбе губернскага сакратара двараніна Юзафа Папроцкага.

4) 5—6адв. — Выпіс з кніг ГТ ВКЛ Гродзенскай кадэнцыі ад 25.06.1789 з актыкацыяй генеалогіі Міцкевічаў (згаданы прадстаўнікі роду ад родапачынальніка Адама да Мікалая М.). Актыкацыю рабіў Юзаф Маркевіч, шамбелян ЯКМ, патрон Міцкевічаў. Маюцца арыгінальныя подпісы суддзяў Трыбунала, аб згоднасці з кнігамі засведчыў рэгент актавы ГТ ВКЛ Тамаш Серафіннік Красоўскі. Копія, маецца пячатка Трыбунала. Даты складання дакумента ці выдання копіі няма.

5) 7—8адв. — Выпіс з кніг ГТ ВКЛ Гродзенскай кадэнцыі ад 25.06.1789 з актыкацыяй тэстаманіяльнага запісу шляхты і абывацеляй Лідскага пав. Адаму, Юзафу, Стэфану і Базылю, дзядзькам, і Мікалаю, пляменніку, Міцкевічам аб паходжанні з Радуньскай парафіі Лідскага пав. ад Валенція Міцкевіча ад 10.08.1787. Актыкацыю рабіў Юзаф Маркевіч, шамбелян ЯКМ, патрон Міцкевічаў. Маюцца арыгінальныя подпісы суддзяў Трыбунала, аб згоднасці з кнігамі засведчыў рэгент актавы ГТ ВКЛ Тамаш Серафіннік Красоўскі. Копія, маецца пячатка Трыбунала. (Адзначым вялікае падабенства выгляду дакументаў 4 і 5, у т. л. афармленне подпісаў. — *С. Р.*)

6) 9—10адв. — Выпіс з актавай кнігі Гродзенскага земскага суда от 14.02.1785 з актыкацыяй тэстамента Яна Крыштофавіча Міцкевіча ад

04.05.1768. Копія. З арыгіналам звяраў сталаначальнік Цярпіцкі. Выпіс быў выдадзены 16.09.1841 па просьбе губернскага сакратара двараніна Юзафа Папроцкага. На адвароце апошняга аркуша маецца завярэнне, зробленае членам камісіі «Высочайше утвержденной в 3 день ноября 1842 года» гродзенскім павятовым страпчым 30.07.1851 (подпіс неразборлівы).

7) 11—12 — Выпіс з актавай кнігі Гродзенскага земскага суда от 28.01.1785 з актыкацыяй прадажнага запісу ад Якуба і Адама, родных братоў Міцкевічаў, роднаму ж брату Стэфану Міцкевічу на маёнт. Міцькоўцы Гродзенскага пав. за 3 000 зл. пол. ад 05.06.1784. Копія. З арыгіналам звяраў сталаначальнік Цярпіцкі. Выпіс быў выдадзены 16.09.1841 па просьбе губернскага сакратара двараніна Юзафа Папроцкага. На ліцавым баку апошняга аркуша маецца завярэнне, зробленае членам камісіі, «Высочайше утвержденной в 3 день ноября 1842 года» гродзенскім павятовым страпчым 30.07.1851 (подпіс неразборлівы). (Адзначым вялікае падабенства выгляду дакументаў 3, 6 і 7. — *С. Р.*)

8) 13—14адв. — Выпіс з актавай кнігі Навагрудскага земскага суда ад 2.07.1781 з актыкацыяй прадажнага запісу ад Міхала Сасіновіча Марыянне, маці, Якубу, Адаму, Юзафу, Стэфану і Базылю, сынам, на фальв. Гарбатовічы ў Навагрудскім ваяв. за 1 000 зл. пол. ад 20.04.1770. Актыкацыю рабіў Людвік Грэчыха, каморнік Навагрудскага ваяв., патрон Сасіновіча. Маюцца арыгінальныя подпісы суддзяў, аб згоднасці з кнігамі засведчыў рэгент земскі навагрудскі Ігнаці Туганоўскі. Пячаткі няма, хоць і напісана, што выпіс завераны пячаткай Навагрудскага земскага суда. Як вынікае з тэксту, прадажны запіс быў актыкаваны першы раз 13.08.1770 у Навагрудскім гродскім судзе, а другі раз — спосабам пераносу 02.07.1781 у земскім судзе, адкуль і зроблены выпіс. Копія. На адвароце апошняга аркуша маецца завярэнне аб адпаведнасці арыгіналу, зробленае навагрудскім павятовым страпчым 17.05.1852.

9) 15—16адв. — Выпіс з актавай кнігі Навагрудскага гродскага суда ад 19.09.1787 з актыкацыяй прадажнага запісу ад Крыштофа і Хрысціны Міцкевічаў і Грыгорыя і Марыянны Малюшыцкіх Адаму Букрэю на маёнт. Вольца Букрэеўская Навагрудскага ваяв. за 200 зл. пол. ад 23.04.1700. Копія. Дата выдання выпісу не пазначана, маецца пячатка і завяральны подпіс Каэтана Абуховіча, рэгента (?). На адвароце апошняга аркуша маецца завярэнне аб адпаведнасці арыгіналу, зробленае навагрудскім павятовым страпчым 17.05.1852.

10) 17—17адв. — Выпіс з актавай кнігі Навагрудскага гродскага суда ад 19.09.1787 з актыкацыяй заставы ад Крыштофа і Хрысціны Міцкевічаў і Грыгорыя і Марыянны Малюшыцкіх Крыштафу Дашкевічу на маёнт. Вольца Букрэеўская Навагрудскага ваяв. на тры гады за 200 зл. пол. ад 1696. Копія. Актыкаваў Людвік Грэчыха, каморнік і патрон Міцкевічаў. Дата выдання выпісу не пазначана, маецца пячатка і завяральны подпіс Каетана Абуховіча, рэгента (?). На адвароце апошняга аркуша маецца завярэнне аб адпаведнасці арыгіналу, зробленае навагрудскім павятовым страпчым 17.05.1852.



11) 18—19адв. — Выпіс з пратаколаў судовых Навагрудскага земскага суда ад 15.02.1802 аб прызначэнні Барбары з Сапліцаў, удаве Адама Міцкевіча, і дзецям апекуноў. Копія. Згоднасць з арыгіналам заверыў рэгент Францішак Сямірадзкі, унізе і на адвароце аркуша маецца завярэнне аб адпаведнасці арыгіналу, зробленае навагрудскім павятовым страпчым 17.05.1852.

12) 20—20а адв. — Выпіс з метрычнай кнігі аб народжаных па Навагрудскім касцёле з запісам аб хрышчэнні Казіміра-Юрыя, сына Мікалая і Барбары з Маеўскіх Міцкевічаў, за 07.03.1804. Выпіс зроблены 11.06.1832, завераны 20.06.1832 кс. Хлявінскім, дэканам навагрудскім, і 3.08.1832 асэсарам Віленскай рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыі Мамертам з Тульштына Гербуртам. Копія.

13) 21—21а адв. — Выпіс з метрычнай кнігі аб народжаных па Варанчанскім парафіяльным касцёле з запісам аб хрышчэнні Юзафа, сына Феліцыяна і Дэахары з Кадлубаеў Міцкевічаў, за 10.05.1814. Выпіс зроблены 04.06.1832, завераны 16.07.1832 Дыянісіем Хлявінскім, дэканам навагрудскім, і 26.10.1832 асэсарам Віленскай рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыі Мамертам Гербуртам. Копія.

14) 22—22а адв. — Выпіс з метрычнай кнігі аб народжаных па Варанчанскім парафіяльным касцёле з запісам аб хрышчэнні Феліцыяна, сына Адама і Вікторыі з Сапліцаў Міцкевічаў, за 17.05.1789. Выпіс зроблены 01.08.1840 і завераны варанчанскім кс. П. Дзяржкоўскім. 10.11.1840 выпіс заверыў дэкан навагрудскі Мікалай Чапрацкі, а 30.09.1841 — асэсар Віленскай рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыі Ян Маркевіч. Копія.

15) 23—24 — Выпіс з метрычнай кнігі аб народжаных па Варанчанскім парафіяльным касцёле з запісам аб хрышчэнні Гіпаліта, сына Адама і Вікторыі з Сапліцаў Міцкевічаў, за 10.01.1797. Выпіс зроблены 01.08.1840 і завераны варанчанскім кс. П. Дзяржкоўскім. 10.11.1840 выпіс заверыў дэкан навагрудскі Мікалай Чапрацкі, а 30.09.1841 — асэсар Віленскай рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыі Ян Маркевіч. Копія.

На арк. 24а пачынаецца ўласна справа аб дваранстве, дзе маецца перапіска і іншыя дакументы, раней была прашыта і апячатана.

16) 25—25адв. — Пасямейны спіс роду Рымвід-Міцкевічаў герба «Порай», дзе згаданы 5 яго прадстаўнікоў, у т. л. Адам М. Спіс складзены 1.06.1832 і падпісаны Феліцыянам Адамавічам Міцкевічам, засведчаны навагрудскім маршалкам Канстанцінам Радзівілам. Арыгінал.

17) 26—26 адв. — Лінія (генеалогія) роду Міцкевічаў, схематычны чорна-белы малюнак, родапачынальнікам паказаны Адам Міцкевіч,

заканчваецца генеалогія Мікалаем — бацькам Адама, усяго паказана 10 каленаў, 69 асоб. Ідэнтычна дакументу 4*. Маюцца арыгінальныя подпісы толькі двух суддзяў Трыбунала (Сапегі і Прушынскага), аб згоднасці з кнігамі засведчыў рэгент актавы ГТ ВКЛ Тамаш Серафіннік Красоўскі. Копія**. Звяртае ўвагу факт, што ў апошнім калене намаляваны толькі Мікалай (бацька Адама), нібыта для яго спецыяльна малявана. Даты складання дакумента ці выдання копіі няма.

18) 27 — на развароце — Пасямейны спіс роду Міцкевічаў гербу «Наленч», пазначаны 2 прадстаўніка. Не мае дачынення да генеалогіі ўказанага роду Міцкевічаў, трапіў у справу памылкова. Без даты.

19) 28 — на развароце — Генеалогія і доказы на шляхецтва роду Міцкевічаў. Без даты***. Апошняя дата, што згадана ў дакуменце 29.11.1804 (дата вываду Міцкевічаў у Гродзенскім ДДС). Генеалогія пададзена ад Валенція да сыноў Мікалая Францішка, Адама і Аляксандра.

20) 29—30 — на разваротах. 1832. Гэта пераклад на рускую мову дакумента 16. Копія.

21) 31—31адв. — на разваротах «пакаленны роспіс і доказы роду Рымвідаў-Міцкевічаў». Дата складання адсутнічае, апошняя дата, што згадана ў дакуменце, 20.12.1832 (дата далучэння ў Гродзенскім ДДС). Генеалогія пададзена ад Валенція да Францішка, Адама, Аляксандра і Казіміра-Юрыя — сыноў Мікалая, і Юзафа, сына Феліцыяна, Міцкевічаў. Копія, «зверыў Вышкоўскі». Мяркуем, што датуецца 1832 (гл. дакумент 25).

22) 32—33адв. — Рэестр папераў і дакументаў справы Міцкевічаў. Дата складання не пазначана, апошні згаданы дакумент датаваны 19.06.1842. У рэестр уключаны 34 дакументы (найперш падаём нумарацыю з рэестра, у дужках — згодна нашай нумарацыі), у т.л. 1 (16), 2 (19, тут ён датаваны 1804), 3 (9), 4 (1), 5 (8), 6 (4 і 17)****, 7 (5), 8 (10), 9 (11) 10 (24), 11 (20), 12 (25), 13 (26), 14 (12, 13), 15 (27), 16 (28), 17 (29), 18 (30), 19 (31), 20 (32), 21 (33), 22 (35), 23 (14, 15), 24 (2), 25 (34), 26 (36), 27 (39), 28 (38), 29 (3), 30 (6), 31 (7), 32 (37), 33 (40), 34 (41). Як бачым усе дакументы, што значыліся ў рэестры, у справе захаваліся, хоць і былі крыху пераблытаны*****.

* Гл. спасылку да пункта 6 рэестра.

** На развароце злева ўнізе надпісана па-польску: «1789 г. чэрвеня 25 дня перад судом Трыбунала Галоўнага ВКЛ станавіўся патрон яснавяльможны пан Юзаф Маркевіч тую генеалогію да актаў падаў».

*** Тут не згаданы Казімір-Юрый, які нарадзўся ў 1804 г, а таксама дзеці Адама — Феліцыян і Гіпаліт, таму мяркуем, што складаў сам Мікалай каля 1804 г.

**** Літаральны тэкст пункта 6 рэестра — «поколенная роспись Мицкевичей 1789 июня 25 дня в Главном Трибунале явленная (в двух экземплярах)». Таму 6 = 4+17.

***** Па гэтай прычыне мы апрацавалі справу па парадку аркушаў і былі вымушаны зрабіць сваю нумарацыю дакументаў.



Тут ёсць нават больш дакументаў, бо рэестр быў складзены ў 1842, а перапіска цягнулася да 1859.

23) 34—35 — Вывад шляхецтва роду Міцкевічаў у Гродзенскім ДДС 29.11.1804. Копія. Даты выдання копіі няма.

24) 36 — Цэдула з канцылярыі Віленскага універсітэта ў Гродзенскі ДДС ад 08.02.1826, дзе сказана: «… сим свидетельствуем, что доказательство о дворянском происхождении Адама Николаева сына Мицкевича, представленное в выписке из книг городских Новогрудского уезда за подписанием новогрудского регента Мартина Кмита от 2 октября 1815 года за № 445, находится при делах сего ж университета».

25) 37—37адв. — Цэдула навагрудскага маршалка Канстанціна Радзівіла ў Гродзенскі ДДС з хадайніцтвам аб разглядзе просьбы Гіпаліта Міцкевича аб далучэнні да роду нованароджаных Юзафа Феліцыянавіча і Казіміра-Юрыя Мікалаевіча Міцкевічаў. 15.12.1832.

26) 38—38адв. — Просьба Гіпаліта Міцкевіча навагрудскаму маршалку К. Радзівілу аб далучэнні да роду нованароджаных Юзафа Феліцыянавіча і Казіміра-Юрыя Мікалаевіча Міцкевічаў. 10.11.1832.

27) 39—39адв. — Пастанова Гродзенскага ДДС аб разглядзе просьбы Гіпаліта Міцкевіча. 20.12.1832. Пастанавілі: далучыць.

28) 40 — Цэдула камісіі, «высочайше учрежденной для ревизии действий Гродненского ДДС», у Гродзенскі ДДС от 08.05.1836, дзе сказана: «… возвращая в оное собрание дело о происхождении рода Мицкевичев, признанного в дворянстве по определению 29 ноября 1804 года, просит: истребовав от Мицкевичев, документы, вошедшие во состав означенного определения, препроводить обще с делом в оную комиссию на ревизию».

29) 41—41адв. — Пастанова Гродзенскага ДДС ад 11.05.1836 аб запатрабаванні ад Міцкевічаў арыгінальных дакументаў.

30) 42 — Цэдула навагрудскага маршалка Мікалая Вольскага ў Гродзенскі ДДС з прадстаўленнем арыгінальных дакументаў Міцкевічаў. 19.08.1836.

31) 43—44 — Просьба Гіпаліта Адамавіча Міцкевіча навагрудскаму маршалку М. Вольскаму аб перасылцы арыгінальных дакументаў у канцылярыю Гродзенскага ДДС. 03.08.1836. У гэтым прашэнні пералічаны наяўныя дакументы роду Міцкевічаў (першы нумар з прашэння Міцкевіча, другі — з нашай нумарыцы): 1—4, 2—17, 3—9, 4—8, 5—1; далей 6—10, 7—5, 8—11.

32) 45—47адв. — Пастанова Гродзенскага ДДС ад 28.08.1836 аб разглядзе 8 (?) арыгінальных дакументаў роду Міцкевічаў.

Гэта надзвычай важны дакумент, таму мы спынімся на ім падрабязна. Як заўважыла камісія ДДС, Міцкевічы прадставілі 4 дакументы, што ўжо ўвайшлі ў пастанову Гродзенскага ДДС 29.11.1804 (гэта — 1, 4(+17),

8, 9), а таксама тры новаадшуканыя — 5, 10, 11). Агульна атрымліваецца 8 арыгінальных дакументаў, бо 4 і 17 асобныя дакументы, хаця і сцвярджаюць адно і тое ж*. Вывадовая камісія палічыла, што не ўсе патрэбныя дакументы былі прадстаўлены і пастанавіла: абавязаць Міцкевічаў прадставіць усе дакументы і метрыкі, завераныя духоўным начальствам.

33) 48—49 — Пастанова Гродзенскага ДДС ад 15.11.1837, дзе гаворыцца: паведаміць Віленскай рэвізійнай камісіі, што Міцкевічы патрэбныя дакументы не прадставілі.

34) 50—50адв. — Пастанова Гродзенскага ДДС ад 09.08.1841, дзе вырашана: даслаць прадстаўленыя метрыкі ў Віленскую рымакаталіцкую кансісторыю для пацвярджэння.

35) 51—51адв. — Просьба Феліцыяна Адамавіча Міцкевіча ў Гродзенскі ДДС аб разглядзе справы і прадстаўленні патрэбных метрык і сведчання. 05.08.1841. Дарэчы, Феліцыян прадставіў толькі дзве метрыкі (сваю і брата Гіпаліта) і сведчанне навагрудскага маршалка ад 03.09.1840 аб неналежнасці Міцкевічаў да падатнага стану. Месца жыхарства Феліцыяна пазначана наступнае: маёнт. Кульбачын Лідскага пав. княгіні Сцыпёнавай. (Запомнім гэта імя. — *С. Р.*) Гл. таксама дакумент 34.

36) 52 — Цэдула Віленскай рыма-каталіцкай кансісторыі ў Гродзенскі ДДС ад 30.09.1841 аб засведчанні хросных метрык Феліцыяна і Гіпаліта Міцкевічаў.

37) 53—54 — Пастанова Гродзенскага ДДС ад 23.10.1841, дзе сказана: доказы далучыць, справу накіраваць у рэвізійную камісію для разгляду.

38) 55—55адв. — Просьба Фелікса Адамавіча Міцкевіча ў Гродзенскі ДДС з прадстаўленнем на разгляд трох новых доказаў шляхецтва. 17.10.1841.

*Заўвага*: Засяродзім увагу на новых доказах Феліцыяна-Фелікса: гэта дакументы 3, 6 і 7.

39) 56—57адв. — Пастанова Гродзенскага ДДС ад 11.10.1841, дзе вырашана: за атрыманыя з Вільні метрыкі спагнаць з Міцкевічаў патрэбныя пошліны.

40) 58—59 — Цэдула рэвізійнай камісіі ў Гродзенскі ДДС ад 11.01.1842, дзе сказана: «… комиссия, признавая такие доказательства согласными с правилами […] полагает определение оного собрания о дворянстве Мицкевичев 29 ноября 1804 и дополнительные резолюции 20 ноября 1832 да 23 октября 1841 годов состоявшиеся почитать основательными, с тем чтобы представлены были к делу заверенные по надлежащему метрики о крещении Николая Яковлева и сыновей его Франца, Адама и Александра. За сим, внеся Мицкевичев в подлежащий список для представления Временному присутствию герольдии, уведомить о том и депутатское собрание».

* Таму і пазначаны ў рэестры справы за адным пунктам 6, але «ў двух экземплярах». Гл. таксама пункт 31 — у прашэнні Міцкевіча пазначаны пяць старых дакументаў (па яго нумарацыі 1—5) і тры новаадшуканых (6—8).



41) 60—60адв. — Пастанова Гродзенскага ДДС ад 19.06.1842, дзе сказана: абавязаць Міцкевічаў прадставіць неабходныя метрыкі.

42) 61 — Цэдула навагрудскага павятовага маршалка ў Мінскі ДДС аб паведамленні магчымасці выдаць двараніну Феліцыяну Адамаву Міцкевічу даведку, што ягоныя дакументы прадстаўлены ў Дэпартамент герольдыі Правячага Сената для канчатковага разгляду. 31.03.1844.

43) 62—62адв. — Пастанова Мінскага ДДС ад 29.05.1844, дзе падкрэслена: «… из дела же видно, что Мицкевичи, требуемых комиссиею метрик и переводов с документов по настоящее время не представили».

44) 63—64адв. — Пастанова Мінскага ДДС ад 08.06.1851, дзе гаворыцца: «По рассмотрении этого дела оказалось: а) представленные к делу документы заключаются в выписях, каковые не заверены по принадлежности уездными стряпчими; б) из документов этих видно, что Мицкевичи доказывают дворянское свое происхождение по владению предками недвижимым имением с крестьянами Мицьково называемым, положенным в Гродненском уезде, но о действительности оного существования […] удостоверения не имеется; в) при этом же деле не имеется копий с документов и переводов с оных писанных на установленной гербовой бумаге, и д) нет свидетельства уездного предводителя дворянства […] определили: […] обратиться к новогрудскому уездному предводителю дворянства, чтобы обязал подпискою Фелицияна и Гиполита Мицкевичей к немедленному представлению в сие собрание копий документов и переводов с оных …» Пастанавілі: абавязаць Міцкевічаў прадставіць усе вышэйпазначаныя пункты.

45) 65 — Цэдула Навагрудскага павятовага страпчага Выгоўскага ў Мінскі ДДС з дасланнем завераных дакументаў роду Міцкевічаў, атрымана 27.05.1852. Гаворка ідзе пра дакументы 8—11, на якіх маецца запіс аб завярэнні, датаваны 1852.

46) 66—66адв. — Цэдула Гродзенскага павятовага страпчага ў Мінскі ДДС ад 22.07.1852, дзе гаворыцца: «Присланные ко мне … четыре документа, служащие доказательством дворянства фамилии Мицкевичей при сем в депутатское собрание возвращая с надлежащим двух документов Комиссии для поверки актов посвидетельствованием, имею честь уведомить, что как книги Главного Трибунального Суда за 1789 год хранятся в особо устроенном архиве в г. Вильне с давнего времени, то последние два документа Комиссиею не посвидетельствованы». Тут згадваюцца дакументы 6 і 7, што былі завераны 30.07.1851. Зыходзячы з тэксту дакумента пра віленскі архіў можна меркаваць, што згадваюцца таксама дакументы 4, 5 і 17.

47) 67—67адв. — Распіска дваран вак. Гарбатовічы Феліцыяна і Гіпаліта Адамавічаў Міцкевічаў, дадзеная прыставу 2-га стану Навагрудскага пав., што яны абавязаны прадставіць у Мінскі ДДС неабходныя дакументы. 18.08.1851.

48) 68—68адв. — Цэдула Гродзенскага губернскага праўлення ў Мінскі ДДС, што маёнт. Міцькова ў Гродзенскім пав. не існуе. 22.09.1851.

49) 69 — Цэдула навагрудскага маршалка ў Мінскі ДДС ад 23.11.1851 з дасланнем распіскі Феліцыяна і Гіпаліта Адамавіча Міцкевічаў.

50) 70—71 — Пастанова Мінскага ДДС ад 07.12.1856. У сувязі з тым, што Міцкевічы не выканалі патрабаванні пастановы ад 08.06.1851 (дакумент 44), пастанавілі практычна тое ж, у т. л. даслаць адпаведныя цэдулы ў патрэбныя ўстановы (гл. наступныя дакументы).

51) 72—73адв. — Цэдула Мінскага ДДС у Навагрудскі земскі суд ад 20.12.1856 з абавязаннем Феліцыяна і Гіпаліта Адамавічаў Міцкевічаў, што пражывалі ў вак. Гарбатовічы, прадставіць неабходныя дакументы.

52) 74—75 — Рапарт прыстава 2-га стану Навагрудскага пав. у Навагрудскі земскі суд ад 16.03.1857, дзе гаворыцца: «… Фелициян и Гиполит Адамовы Мицкевичи умерли».

53) 76—76адв. — Рапарт Навагрудскага земскага суда ў Мінскі ДДС з дасланнем распіскі Сузанны Міцкевіч, што патрабаванні Мінскага ДДС аб прадстаўленні дакументаў ёй паведамлены. 02.04.1857.

54) 77 — Распіска Сузанны Міцкевіч. 07.03.1857.

55) 78 — Цэдула Гродзенскага губернскага праўлення ў Мінскі ДДС ад 17.07.1857, дзе сказана: «… Правление честь имеет уведомить, что населенного крестьянами имения Мицьковце рода Мицкевичей не существует, а хоть подобного названия находится в Волковыском уезде, но таковое как шесть старожилых лиц той же деревни под присягою показали, состояло во владении рода Сцыпионов, и более 70 лет как отдано на фундуш Реплянского римско-католического костела…»

56) 79—80адв. — Цэдула Мінскага ДДС у Навагрудскі земскі суд ад 04.02.1859. Пастанавілі: «… оному суду предложить, дабы обязал дворянку Сузанну Мицкевич, как к немедленному доставлению в сие собрание объяснения, где по настоящему распределению губернии и уездов существует имение Мицьковце и не переменило ли оно своего названия, так равно документов, затребованных сим собранием…»

Падчас росшукаў адкрылася, што Сузанна Міцкевіч пражывае ў маёнт. Дварэц Слонімскага пав. Гродзенскай губ.

57) 81 — Распіска Сузанны Міцкевіч ад 27.07.1859, дзе гаворыцца: «… требование Минского дворянского депутатского собрания […] мне объявлено, и так как муж мой шесть лет тому назад как Волею Божею по старости лет умер, то документов о произхождении рода Мицкевичей от меня вовсе не зависит к представлению, а с таковым требованием прошу обратится к Иосифу Мицкевичу, катори жительствует в Новогродском уезде в имении Горбатовичах, а где имение Мицьковце существует мне неизвестно».



58) 82—82адв. — Распіска Юзафа Феліцыянавіча Міцкевіча, дадзеная прыставу 2-га стану Навагрудскага пав. ад 06.09.1859, дзе гаворыцца: «… отношение Минского дворянского депутатского собрания […] мне объявлено, следствием чего поясняю, что все документы на дворянское происхождение рода Мицкевичей, какие только находились, представлены в Минское дворянское депутатское собрание, более же документов у него никаких нет и представить не может, равно где находилось или находится имение Мицьковце не сведущ. По личной просьбе неграмотного Иосифа Мицкевича вместо его расписался дворянин Баранцевич».

59) 83—83адв. — Рапарт прыстава 2-га стану Навагрудскага пав. у Навагрудскі земскі суд ад 06.09.1859 з дасланнем распісак Юзафа і Сузанны Міцкевічаў.

На адвароце аркуша маецца рэзалюцыя суда: адшуканыя звесткі з распіскамі накіраваць у Мінскі ДДС.

60) 84—84адв. — Рапарт Навагрудскага земскага суда ў Мінскі ДДС з дасланнем распісак (тлумачэнняў) Юзафа і Сузанны Міцкевічаў. 11.09.1859.

61) 85 — Рапарт Варанчанскага тысяцкага прыстава 2-га стану Навагрудскага пав. ад 02.07.1859, дзе гаворыцца: «… по делу вислания Зузану Мицкевичову она в имении Горбатович не находится, она жительствуе в имении Дворце в стане Женчелском*».

На гэтым справа аб дваранстве заканчваецца, бо апошні аркуш (85а) пусты. Як бачым, працэс зацвярджэння Міцкевічаў у дваранстве, распачаты ў 1804 яшчэ бацькам паэта Мікалаем Міцкевічам, цягнуўся 55 гадоў і скончыўся нічым. Нягледзячы на тое, што Міцкевічы тройчы (у 1836 Гіпаліт і двойчы ў 1841 Феліцыян) прасілі аб разглядзе доказаў і прадстаўлялі доказы на шляхецтва, патрэбных згодна з расійскім заканадаўствам дакументаў яны так і не прадставілі, і род Міцкевічаў (Рымвідаў-Міцкевічаў) у дваранстве імперыі зацверджаны не быў.

Цяпер зоймемся справамі генеалагічнымі. Што ж змяшчае рэальная генеалогія Міцкевічаў. Уважлівы аналіз сведчыць, што рэальная генеалогія павінна быць у вывадзе 1804. Яшчэ вядомы генеолаг Дважачэк заўважыў, што практычна ўсе доказы шляхецтва, прадстаўленыя пасля апублікавання вядомых указаў 1830-х і пачатку працы рэвізійнай камісіі, фальсіфікаваныя, тое ж мы пісалі ў метадычным дапаможніку «Крыніцы па генеалогіі Беларусі»**.

* Відавочна, маецца на ўвазе Дзятлаўская вол. Слонімскага пав.

** Рыбчонак С. А. Крыніцы па генеалогіі Беларусі XVI — пачатку XX ст. Мінск, 2003. С. 32—33.

Справа Міцкевічаў, як бачым, — яскравы прыклад такіх махлярстваў. Канкрэтна гэта тычыцца апошніх доказаў Феліцыяна, звязаных з валоданнем маёнткам Міцькоўцы Гродзенскага пав. Маленькім, але дастатковым доказам іх фальсіфікацыі з'яўляецца дакумент 55. Зважаючы на тое, што Феліцыян адшукаў свае новыя доказы пра Міцькоўцы, калі гасцяваў у княгіні Сцыпіёнавай, зробім вывад: гэтыя доказы спісаны з адпаведных дакументаў Сцыпіёнаў са зменай Ваўкавыскага пав. на Гродзенскі.

Цяпер уважліва прааналізуем вывад 1804 (падаем дакладны пераказ): Крыштоф Міцкевіч, прыдомка Рымвід, сын Валенція, прадзед складальніка вываду, пакінуў сваю дзядзічную аседласць у Радуньскай парафіі Лідскага пав., перасяліўся ў Навагрудскі пав., ажаніўся з Хрысцінай Закржэўскай і атрымаў у пасаг частку фальв. Вольца (Wołca), якую пазней прадаў Адаму Букрэю *(прадажны запіс 23.04.1700, актыкаваны 19.09.1784 у Навагрудскім гродзе)*. Крыштоф пакінуў сына Яна, які валодаў земскімі застаўнымі пасэсіямі (валоданнямі), а менавіта дзвюма пусткамі ў Прудах *(квітацыйны дакумент ад Верашчакі 20.03.1739)*. Ян з Лешчылоўскай* прыжыў пяць сыноў Якуба, Адама, Юзафа, Стэфана і Базыля. Ян памёр, але ўдава з дзецьмі набыла вячыстым правам фальварак Гарбатовічы ў Навагрудскім пав. ад Сасіновіча *(прадажны запіс 20.04.1770, актыкаваны 14.08.1770 у Навагрудскім гродзе і пераносам 2.07.1781 у Навагрудскім земстве)*. Пра тое, што Міцкевічы плацілі падаткі з маёнтка, сведчыць табель абюраты інтраты фальв. Гарбатовічы, якую камісія 23.07.1789 падпісала. Пра тое, што іх папярэднік з Лідскага пав. перасяліўся і тыя мясцовыя Міцкевічы сведчаць і навагрудскіх Міцкевічаў за сваіх сваякоў і нашчадкаў Яна прызнаюць, даказвае лінія (генеалогія), *актыкаваная ў ГТ ВКЛ 25.06.1789*, а таксама *сведчанне шляхецтва нашчадкаў Крыштофа і Яна, 10.08.1789 датаванае, 10.11 таго ж года ў Лідскім земскім судзе актыкаванае*.

Якуб пакінуў сына Мікалая**, які ёсць рэальным (дзейсным) каморнікам мінскім і адвакатам навагрудскіх судоў. Мікалай ажаніўся з Барбарай Маеўскай і мае трох сыноў Францішка, Адама і Аляксандра. Другі сын Яна Адам мае сыноў Феліцыяна і Гіпаліта *(выпіс з пратаколаў судовых Навагрудскага земства 15.02.1802)*. Астатнія сыны Яна Юзаф, Стэфан і Базыль беспатомныя памерлі. «Гэтых Міцкевічаў за шляхту прызнаем і да 1-й часткі радаводнай кнігі ўносім…»

Як бачым набор доказаў невялікі, нагадаем іх яшчэ раз па нашай нумарацыі:

9) прадажны запіс ад Крыштофа і Хрысціны Міцкевічаў і Грыгорыя і Марыянны Малюшыцкіх Адаму Букрэю на маёнт. Вольца Букрэеўская Навагрудскага ваяв. за 200 зл. пол. ад 23.04.1700;

* Вывад яе імя не згадвае, у квіце Верашчакі напісана Марыянна.

** Прозвішча і імя жонкі Якуба і маці Мікалая ў вывадзе не згаданы.



1) дабравольны квітацыйны запіс ад Францішка Верашчакі Яну і Марыянне з Лешчылоўскіх Міцкевічам на выкуп у апошніх 2 пустак у Прудах, што былі здадзены ў заставу Міцкевічам памерлымі Бутkoўскімі, Датаваны 20.03.1739;

8) прадажны запіс ад Міхала Сасіновіча Марыянне, маці, Якубу, Адаму, Юзафу, Стэфану і Базылю, сынам на фальв. Гарбатовічы ў Навагрудскім ваяв. за 1 000 зл. пол. ад 20.04.1770;

11) выпіс з пратаколаў судовых Навагрудскага земскага суда ад 15.02.1802 аб прызначэнні Барбары з Сапліцаў, удаве Адама Міцкевіча, і дзецям апекуноў;

17) лінія (генеалогія) роду Міцкевічаў, актыкаваная 25.06.1789 у ГТ ВКЛ.

Такім чынам, першая генеалогія Міцкевічаў, заяўленая бацькам Адама яшчэ ў 1804, складаецца з шасці доказаў. Дакументы згадваюць Вольцу, Пруды, Гарбатовічы. Ніякіх Міцькоўцаў няма, што яшчэ раз сведчыць пра пазнейшыя падробкі. Больш таго, з шасці заяўленых у 1804 доказаў у справе не хапае апошняга. Гэта *сведчанне шляхецтва нашчадкаў Крыштофа і Яна, датаванае 10.08.1789, актыкаванае 10.11.1789 у Лідскім земскім судзе*. У справе гэтага дакумента няма і таму змест яго нам пакуль невядомы.

Замест ўказанага Міцкевічы прадставілі дакумент 5 — тэстаманіяльны запіс шляхты і абывацеляў Лідскага пав. Адаму, Юзафу, Стэфану і Базылю, дзядзькам, і Мікалаю, пляменніку, Міцкевічам аб паходжанні з Радуньскай парафіі Лідскага пав. ад продка Валенція Міцкевіча, датаваны 10.08.1787, актыкаваны ў ГТ ВКЛ Гродзенскай кадэнцыі 25.06.1789. Як бачым, не супадаюць даты і месцы актыкацыі. Гэтая загадка яшчэ чакае свайго адкрывальніка.

# З ГІСТОРЫІ ДЗЯРЖАЎНЫХ УСТАНОЎ

*А. М. Лукашевич*

## ОРГАНИЗАЦИЯ ГРАЖДАНСКОГО И ВОЕННОГО УПРАВЛЕНИЯ В БЕЛОРУССКИХ ГУБЕРНИЯХ РОССИЙСКОЙ ИМПЕРИИ (1796—1806)

Необходимость более тщательного изучения административного устройства белорусских губерний и организации управления ими в конце XVIII — начале XIX в. связана с наличием в научной и учебной литературе в этих вопросах многочисленных стереотипов и ошибок. В частности, ошибочно считается, что во время Павла I и Александра I в Беларуси существовал институт* генерал-губернаторов и что Минская губерния входила в Виленское генерал-губернаторство. Подобные ошибки являются следствием того, что многие исследователи при изучении вопроса об административном устройстве и организации системы управления ограничивались справочными изданиями (С. Рубинштейна [1] и др.), куда не вошли многие законодательные акты, касающиеся Беларуси. В представленной статье показаны особенности в системе гражданского управления на территории Беларуси и раскрыта организация военного управления.

Институт губернаторов и генерал-губернаторов начал формироваться в России в начале XVIII в. 16 мая 1703 г. генерал-губернатором основанного Петром I С.-Петербурга был назначен А. Д. Меншиков. Губернаторские должности для остальной России были введены 18 декабря 1708 г. — с одновременным разделом территории страны на восемь губерний. «Порубежными и знатными» губерниями, например Азовской и С.-Петербургской, управляли генерал-губернаторы, менее знатными — губернаторы и даже вице-губернаторы.

Власть генерал-губернатора распространялась на дела гражданские и военные: ему подчинялись войска гарнизонов, под присмотром находился суд, полиция, финансы, провиантские и налоговые службы, таможня (с 1764 г.), рекрутские наборы, вопросы строительства и хозяйства, ему также поручалось «следить за состоянием умов» в губернии.

Общий надзор и верховенство оставались за генерал-губернаторами и после появления должности гражданского губернатора, в ведение которого перешло непосредственное управление губернией. С середины 60-х гг. XVIII в. генерал-губернаторам стали подчиняться несколько губерний.

Петровская административная схема оставалась в России практически неизменной до восшествия на престол в 1762 г. Екатерины II. Императрица увеличила количество губерний, основала независимую от генерал-губернатора и гражданского губернатора должность губернского прокурора (мог обжаловать действия любой административной особы, вплоть до генерал-губернатора). Были созданы приказы общественного призрения, которым поручались заботы о народном здоровье и образовании, предоставлены права самоуправления дворянству и городам (1785) [2].

* Под институтом понимаем совокупность должностных лиц и учреждений, наделенных властными полномочиями, закрепленными в законодательном порядке.



В 1772—1795 гг. вся эта система управления постепенно была распространена и на территорию Беларуси, которая в результате трех разделов Речи Посполитой (1772, 1793, 1795) вошла в состав Российской империи. Именно с этого времени в Беларуси появились губернаторы, генерал-губернаторы, а позже и военные губернаторы.

При Екатерине II система управления присоединенными территориями была достаточно сложной: создавались то губернии, то наместничества. Почти все время они находились на особом положении и поэтому управлялись исключительно генерал-губернаторами. На эти должности обычно назначались военачальники. Кроме гражданских дел, генерал-губернаторы командовали войсками, которые размещались в подчиненных им губерниях. На протяжении 1772—1796 гг. проходили непрерывные реорганизации в административном делении «польских» провинций, и поэтому ряд губерний были подчинены одному и тому же генерал-губернатору.

При Павле I было введено единое административное деление империи. Екатерининские наместничества были ликвидированы, и вместо них снова учреждались губернии, общее количество которых достигло 41. Одновременно происходила милитаризация управления. Были введены должности военных губернаторов, которые фактически заменили екатерининских генерал-губернаторов и наместников. Однако в управлении западными губерниями существенных изменений не произошло. По-прежнему в руках одного из военных губернаторов концентрировалось управление большинством губерний.

Система государственного управления времен Павла I была весьма сложной. Существовали проблемы во взаимоотношениях центральных органов управления и деятельностью администрации на местах. Полномочия служебных лиц (генерал-губернаторов, военных губернаторов и начальников губерний) были слабо разграничены. Это вело к многочисленным недоразумениям и даже конфликтам при решении частных вопросов [3, с. 35—64].

Александр I в первые месяцы своего правления в 1801 г. принял меры по разграничению полномочий военных и гражданских начальников [4, т. XXVI, № 19796, 19866], а также пошел на некоторую реорганизацию управления пограничными губерниями. 9 сентября 1801 г. он подписал указ «О восстановлении пяти губерний и о подчинении пограничных губерний военным губернаторам» [4, т. XXVI, № 20004]. В дополнение к существовавшей 41 губернии восстанавливались еще пять

(Пензенская, Олонецкая и по одной в «Малой России», «Литве» и «Белоруссии»). Пограничные губернии и те, что находились на «особенных правах», были разделены на десять частей и подчинены военным губернаторам. Большая часть территории Беларуси была подчинена литовскому (две «литовские» губернии) и белорусскому (две «белорусские» губернии) военным губернаторам. Минская губерния вместе с Киевской была подчинена киевскому военному губернатору. В указе предусматривались основные мероприятия по организации управления в восстанавливаемых губерниях (определение губернских городов, размежевание, назначение служебных лиц, составление штатов и т. д.).

В тот же день, 9 сентября 1801 г., Александр I подписал еще один указ — «О определении губернаторов и о выборе для сего кандидатов в некоторых губерниях» [4, т. XXVI, № 20005]. В нем определялись главные начальники губерний. Киевскому военному губернатору генералу от инфантерии А. С. Феньшу приказывалось «присоединить к управлению его» Минскую губернию, а подольскому военному губернатору генералу от инфантерии А. Г. Розенбергу оставить в своем управлении Волынскую губернию (вместе с Подольской. — *А. Л.*). Литовскому военному губернатору генерал-лейтенанту Л. Л. Беннигсену поручалось управление «на том же основании» и восстанавливаемой губернией (Гродненской. — *А. Л.*). Управляющим гражданской частью в двух малороссийских губерниях назначался генерал от инфантерии С. К. Вязмитинов, а в белорусских — генерал-лейтенант А. М. Римский-Корсаков*. Сенату приказывалось подобрать кандидатов из числа «достойнейших и способнейших» лиц на должности губернаторов и вице-губернаторов и представить их на утверждение.

Требования к каждому претенденту были довольно жесткие: непременное знание законов, административный опыт, ум, честность. Молодой император надеялся избежать ошибок при выборе губернаторов и таким образом положить конец противоправным действиям государственных чиновников. Однако подобные надежды оказались призрачными: найти честного кандидата, который отвечал бы и другим требованиям, было делом не из легких.

Совмещение в одном лице функций военного и гражданского управления накладывало специфику на организацию управления пограничными губерниями. Особенно это проявлялось в военное время. Во время нахождения военных губернаторов на театре военных действий за пределами России роль гражданских возрастала, и губернии

* С этого времени полное наименование должности начальника пограничных губерний звучало следующим образом: киевский (белорусский и т. д.) военный губернатор и управляющий гражданской частью Киевской и Минской (Витебской и Могилевской и т. д.) губерний.



частично получали самостоятельность в управлении [5, ф. 295, оп. 1, д. 51, л. 304—304об., 404, 405об., 410, 412, 438, 440]. Подобная практика управления белорусскими губерниями сохранялась до 1822 г., когда в России был восстановлен институт генерал-губернаторов [3].

Одновременно с развитием гражданского управления на территории Беларуси шло формирование военного управления. При Екатерине II функции органов местного военного управления исполняли дивизии, основанные еще в 1763 г. В 1775 г. на территории Беларуси, присоединенной к России после 1-го раздела Речи Посполитой (1772), была создана Белорусская дивизия [6, с. 339—340]. К 1796 г. в Российской империи существовало 12 дивизий. Дивизии были прообразом военных округов, поскольку через них осуществлялась связь между полками и Военной коллегией. В подчинении дивизионного командира находились войска, расположенные на территории определенного района, за исключением гарнизонных войск и частей артиллерийского ведомства. Последние находились в распоряжении губернаторов (губернаторы также отвечали за сбор средств на содержание войск и управление крепостями). В соответствии с «Учреждением для управления губернией» [4, т. XX, № 14392] (1775) гарнизонные войска перешли в распоряжение дивизионных командиров. Таким образом, в их руках было сосредоточено местное управление как полевыми, так и гарнизонными войсками.

При Павле I местное управление было милитаризировано. Гражданские губернаторы были подчинены военным губернаторам, которые управляли гражданской частью нескольких губерний. В их распоряжение перешли вопросы, связанные с проведением рекрутских наборов и управлением крестьянами. Главными органами местного военного управления с 1796 г. стали военные инспекции. Они заменяли екатерининские дивизии [4, т. XXIV, № 17606]. Части полевых и гарнизонных войск, дислоцированных в мирное время в определенном районе (наименование инспекции показывало, какой территориальный округ она охватывала), были «распределены по инспекторам» [4, т. XXIV, № 17590] и составляли инспекцию. 3 декабря 1796 г. Павел I утвердил «росписание армий» на 12 дивизий: С.-Петербургскую, Московскую, Лифляндскую, Литовскую, Смоленскую, Финляндскую, Украинскую, Екатеринославскую, Таврическую, Кавказскую, Оренбургскую и Сибирскую [4, т. XLIII, ч. 1, № 17006]. Впоследствии название «дивизия» вытеснило наименование «инспекция». Однако в императорских приказах при пароле встречались и первое, и второе наименования. Наконец, 6 октября 1800 г. была создана 13-я инспекция — Харьковская [7, с. 89]. К моменту вступления на престол Александра I было уже 14 инспекций: С.-Петербургская, Московская, Лифляндская, Литовская, Брестская, Смоленская, Финляндская, Украинская, Днепровская, Крымская, Киевская, Кавказская, Оренбургская и Сибирская [7, с. 90].

23 чэрвеня 1948 г., прысвечаным памяці У. І. Пічэты, сказаў: «Ён ніколі не адносіўся да прадмета сваіх даследаванняў абыякава. У. І. Пічэта любіў Беларусь, любіў беларускі народ, востра адчуваў нягоды, якія гэты народ перацярпеў у мінулым, і радаваўся шчасцю, што наступіла для яго ў нашы дні. Любоў да беларускага народа знайшла сваё выяўленне ў той выключнай цікавасці, якую Уладзімір Іванавіч праяўляў да яго культуры, да яго пісьменнасці, да яго мовы. Напярэдадні Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі вялікарускія і польскія шавіністы аднолькава адмаўлялі здольнасць беларускага народа да самастойнага культурнага развіцця і спрачаліся толькі аб тым, якая культура праглыне беларускую народнасць — каталіцкая польская ці праваслаўная велікаруская. У абарону беларускай культуры з усім уласцівым яму запалам выступіў Уладзімір Іванавіч»[8].

Па сённяшні дзень не страцілі сваёй навуковай каштоўнасці работы Пічэты «Беларуская мова як фактар нацыянальнай культуры» (1924), «Беларускае адраджэнне ў XVI стагоддзі»[9], «Адраджэнне Украіны-Русі і Белай Русі ў XVI —пачатку XVII ст.» (1945). Праз 14 год пасля смерці вучонага была ўпершыню надрукавана яго капітальная праца «Культура Беларусі XVI ст.»[10].

У. І. Пічэта высока цаніў дзейнасць беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара, выдатнага гуманіста Францыска Скарыны. Яму прысвечаны такія артыкулы, як «Францішак Скарына і яго працы»[11], «Друк на Беларусі ў XVI і XVII стагоддзях»[12]. У працы «Культура Беларусі ў XVI ст.» Пічэта дае характарыстыку вядомых дзеячаў беларускай культуры таго часу — Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Феадосія Касога, Васіля Цяпінскага, Арцемія.

Вельмі важна, што ва ўводзінах да твора У. І. Пічэта спрабуе вызначыць найбольш істотныя, галоўныя моманты эканамічнай, палітычнай і сацыяльнай гісторыі, якія аказалі ўплыў на ўздым культуры Беларусі. Вучоны прыходзіць да высновы аб тым, што ВКЛ у другой палове XVI ст. перажывала этап значнага эканамічнага ўздыму. Адначасова адбываўся працэс стварэння ўсебеларускага рынку і на яго аснове — кансалідацыі беларускай народнасці. На думку Пічэты, у XVI ст. скончылася фарміраванне беларускай мовы. Вучоны ўпершыню звярнуў асобую ўвагу на змест напісаных Ф. Скарынам прадмоў да біблейскіх кніг і адзначыў, што ў іх «адлюстроўваецца ўся сутнасць яго светапогляду, які дае поўную падставу прылічыць яго да гуманістаў-асветнікаў», прасачыць крытычны рацыяналізм беларускага першадрукара.

Вялікім укладам у развіццё беларускай навукі з'яўляюцца працы У. І. Пічэты па гісторыі права. Вылучыўшы гісторыю дзяржавы і права Беларусі ў самастойную навуковую дысцыпліну, ён садзейнічаў яе станаўленню і паспяховаму развіццю. У артыкуле «Распрацоўка гісторыі літоўска-беларускага права XV—XVI стагоддзяў у гістарыяграфіі»[13] тэарэтычна абгрунтаваў неабходнасць самастойнага вывучэння гісторыі беларускага права. Каштоўнасць гэтай работы вучонага пявялічваецца яшчэ і таму, што ў ёй упершыню дадзены абагульняючы аналіз крыніц па беларускім праве, а таксама зроблены глыбокі па змесце агляд найбольш важных прац па гісторыі права Беларусі і Літвы, якія належаць пяру рускіх і польскіх гісторыкаў і юрыстаў.



На думку даследчыка гісторыі беларускага права І. А. Юхо (выкладзеную ў артыкуле «Владимир Иванович Пичета — первый ректор Белорусского государственного университета» // Веснік БДУ імя У. І. Леніна. Серыя 3. История, философия, право. 1971. № 3), грунтоўнае даследаванне шырокага кола гісторыка-прававых праблем дазволіла У. І. Пічэту не толькі стварыць новую галіну ведаў — гісторыю дзяржавы і права Беларусі, але і вылучыць яе на пачэснае месца ў сістэме гісторыка-прававых навук, паказаць уклад беларускага народа ў развіццё прававой думкі і прававога рэгулявання грамадскіх адносін феадальнай эпохі.

Асобае месца займаюць ненадрукаваныя працы У. І. Пічэты. Да цяперашняга часу прадстаўляе значную цікавасць для даследчыкаў гісторыі Беларусі ненадрукаваная кніга «Гісторыя Беларусі» (падручнік для вышэйшых навучальных устаноў) у двух тамах, рукапіс якой захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Храналагічныя рамкі кнігі ахопліваюць перыяд са старажытных часоў да адмены прыгоннага права. Гэта работа была выканана аўтарскім калектывам у складзе І. Ф. Лочмеля, А. П. П'янкова, К. М. Палікарповіча, М. М. Нікольскага, У. І. Пічэты пад кіраўніцтвам акадэміка АН БССР М. М. Нікольскага ў 1940—1941 гг. Рукапіс кнігі «Гісторыя Беларусі» ўтрымлівае 990 старонак машынапіснага тэксту (другі ці трэці экземпляр. — *Э. І.*), з іх 664 старонкі напісаны У. І. Пічэтам.

У суправаджальнай запісцы жонкі У. І. Пічэты — А. П. Пічэты, якая перадала рукапіс у Мінск, у Нацыянальную бібліятэку Рэспублікі Беларусь (раней называлася Рэспубліканскай бібліятэкай БССР імя У. І. Леніна — *Э. І.*), гаворыцца, што летам 1943 г. у Маскве У. І. Пічэта, вярнуўшыся з эвакуацыі, перадаў рукапіс Ц. С. Гарбунову, які працаваў тады сакратаром ЦК КПБ па ідэалогіі (у суправаджальнай запісцы памылкова ўказана: «З Аддзела агітацыі і прапаганды ЦК партыі Беларусі»). Па невядомых прычынах, гэтая праца не была апублікавана. Можна меркаваць, што П. К. Панамарэнку і Ц. С. Гарбунову не падабалася канцэпцыя гісторыі Беларусі, створаная У. І. Пічэтам. Першая частка падручніка ахоплівала перыяд ад першабытнага ладу да 1861 г. і была адрэдагавана У. І. Пічэтам, ім жа ўнесены значныя дапаўненні да асобных глаў, якія былі напісаны іншымі аўтарамі. Рукапіс першай часткі падручніка складае 45 друкаваных аркушаў. Адной з вартасцей рукапісу з'яўляецца тое, што ў ім змешчаны каштоўны падрабязны гістарыяграфічны агляд (больш за 50

старонак машынапіснага тэксту), аўтарам якога быў У. І. Пічэта. У гэтым аглядзе вучоны дае характарыстыку працам вядомых гісторыкаў М. А. Ражкова, М. К. Любаўскага, М. С. Грушэўскага, А. Е. Праснякова, Ст. Кутшэбы і Я. Каланкоўскага.

Разглядаючы працы М. К. Любаўскага У. І. Пічэта сцвярджаў: «Любаўскім адзначаны супярэчнасці ўнутры шляхецкага саслоўя, але ён не заўважыў асноўнай класавай супярэчнасці ў перыяд феадалізму — сялянства і феадалаў … Любаўскі лічыць Вялікае княства Літоўскае дзяржавай феадальнага тыпу, аднак разумеў тэрмін «феадалізм» як арганізацыю палітычнага характару»[14].

На думку У. І. Пічэты, развіццё вытворчых сіл у Беларусі, пачынаючы з другой паловы XVI ст. да падзелаў Рэчы Паспалітай, яшчэ чакала свайго даследчыка. Указаўшы на адзіную работу М. В. Доўнар-Запольскага «Сацыяльна-эканамічная структура Літоўска-Беларускай дзяржавы ў XVI—XVIII сталеццях», ён адзначае, што яна напісана без навуковага апарату, што падрывае яе каштоўнасць[15].

Разглядаючы работу М. В. Доўнар-Запольскага «Старонка з гісторыі прыгоннага права XVIII—XIX стст.» (1906), У. І. Пічэта падкрэслівае, што памешчыкі пераводзілі сялян на чынш і прымушалі іх шляхам адпрацовак выплачваць яго ім. «М. В. Доўнар-Запольскі, знаёмячы з падобнай арганізацыяй гаспадаркі ў маёнтку Шчорсах гр. Храптовічаў, бачыць у падобнага роду феадальна-прыгонніцкіх эксперыментах мерапрыемства, якое адлюстроўвае клопат Храптовічаў аб селяніне. Буржуазны гісторык арганічна не мог зразумець прыгонніцкі характар мерапрыемстваў уладальнікаў Шчорсаў»[16].

Аналізуючы працы савецкіх гісторыкаў 1939—1940 гг., У. І. Пічэта заўважае, што буржуазная гістарыяграфія, якая цікавілася галоўным чынам пытаннямі сацыяльна-палітычнага развіцця ВКЛ, амаль не закранала класавых адносін і класавай барацьбы. Калі яны часам закраналі вызваленчую барацьбу беларускага народа, то разглядалі яе як барацьбу рэлігійную, не ўлічваючы таго, што ў Сярэднявеччы класавая барацьба непазбежна прымае рэлігійную афарбоўку.

У гістарыяграфічным аглядзе У. І. Пічэта выказвае думку, што публікацыя работ І. Ф. Лочмеля «Нарысы гісторыі барацьбы беларускага народа супраць польскіх паноў» (М., 1940) і «Барацьба беларускага народа супраць інтэрвентаў» (Мн.,1940) — вялікае дасягненне савецкай беларускай гістарыяграфіі. Яны адкрываюць цікавыя старонкі ў гісторыі беларускага народа і яго вызваленчай барацьбы супраць феадальна-прыгонніцкай эксплуатацыі і нацыянальнага прыгнёту.

Вядомы гісторык-славіст У. Д. Каралюк адзначаў: «Не будучы беларусам, У. І. Пічэта аказаўся менавіта тым рускім гісторыкам, які, дзякуючы сваёй навуковай падрыхтоўцы і любві да славянскага беларускага народа, змог стаць на чале ўзніклай беларускай гістарычнай школы … Менавіта ў Беларусі Уладзімір Іванавіч сфарміраваўся як адзін з буйнейшых арганізатараў савецкай гістарычнай навукі»[17].



На думку пераважнай большасці гісторыкаў еўрапейскіх краін, даследаванні У. І. Пічэты па праблемах гісторыі Беларусі з'яўляюцца сур'ёзным укладам у гістарычную навуку, а іх аўтара правамерна называюць класікам гэтай навукі. Шматлікія працы У. І. Пічэты дабратворна паўплывалі на развіццё навукова-даследчай работы ў розных галінах гісторыі Беларусі ад старажытнасці да першай паловы XX ст., будзілі думку, садзейнічалі стварэнню шматлікай манаграфічнай літаратуры.

[1] Пичета В. И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. М., 1958; *Ён жа*. Гісторыя Беларусі. Ч. I. М.—Л., 1924; *Ён жа*. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961. С. 122—123; *Ён жа*. Великое княжество Литовское (XIII—XVI вв.) // История СССР. Т. I. С древнейших времен до конца XVIII в. М., 1939. С. 278; *Ён жа*. Труды Ю. В.Готье по истории Литвы, Белоруссии, Украины и славянских народов // Доклады и сообщения истфака МГУ им. М. В. Ломоносова. Вып. 1. М., 1945. С. 18; *Ён жа*. Институт холопства в Великом княжестве Литовском в XV—XVI вв. // Исторические записки. Т. 20. М., 1946. С. 58.

[2] Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. … С. 326.

[3] Там жа.С. 327.

[4] Там жа.С. 327.

[5] Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа … С. 167.

[6] Пичета В.И. История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии. Ч. I. (До конца XVI в.). Мн., 1927. С. 107.

[7] Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. … С. 379.

[8] Ученые записки Института славяноведения АН СССР.Т. I. М., 1949. С. 9—10.

[9] Чатырохсотлецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 132—156.

[10] Пичета В. И. Белоруссия и Литва … С. 633—714.

[11] Савецкая Беларусь. 1925. № 292, 293. 24 і 25 снежня.

[12] Чатырохсотлецце беларускага друку … С. 228—261; 284—327.

[13] Полымя. 1926. № 8. С. 169—178; 1927. № 2. С. 125—155.

[14] История Беларуссии: В 2 Т. Т. I. / Под ред. В. И. Пичеты. С. 69—70. Рукапіс знаходзіцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь.

[15] Там жа. С. 96—97.

[16] Там жа. С. 98.

[17] Королюк В. Д. Владимир Иванович Пичета //Вопросы истории. 1970. № 8. С. 76—77.

# ДАКУМЕНТАЛЬНЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

## ЛІСТ ПАПЫ КЛІМЕНТА V 1310 г. АБ СТАНОВІШЧЫ Ў ЛІВОНІІ І Ў СУСЕДНІХ КРАІНАХ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIII — ПАЧАТКУ XIV ст.

Сярод важных дакументаў для распрацоўкі гісторыі Беларусі пачатку XIV ст. асаблівае месца займае ліст Папы Клімента V (1305—1314) ад 19 чэрвеня 1310 г. Ён з’явіўся як вынік нарастання супярэчнасцей паміж трымя магутнымі чыннікамі, якія дзейнічалі ў тагачаснай Лівоніі: Нямецкім ордэнам, Рыжскім арцыбіскупам і местам Рыгаю. Абвастрэнне адносін паміж імі з цягам часу прывядзе да канфлікту, у які будуць уцягнуты і суседзі, у тым ліку польскія і беларускія княствы.

Для разумення і адэкватнай інтэрпрэтацыі дакумента неабходна коратка разгледзець гістарычныя перадумовы яго ўзнікнення і прынамсі схематычна акрэсліць падзеі, якія знайшлі ў ім адлюстраванне. Як вядома, назваю Лівонія раней абазначалася тэрыторыя, якая ўключае абшары сучасных Латвіі і Эстоніі. Найменне з’явілася ў XIII ст. у сувязі з пачаткам нямецкай каланізацыі земляў, якія здавён былі заселены фінавугорскімі і балцкімі плямёнамі: лівамі, эстамі, земгаламі, латгаламі ды інш. Гэтыя плямёны былі ў палітычнай залежнасці ад суседніх усходнеславянскіх княстваў. Полацкая дзяржава, напрыклад, кантралявала шлях па Дзвіне аж да яе вусця і мела юрысдыкцыю над лівамі[1].

Гісторыя нямецкай каланізацыі Прыбалтыкі фармальна пачалася каля 1184 г., калі ў вусце Дзвіны з адной з купецкіх выправаў прыбыў святар Майнард. Місіянер паходзіў з Зегенбургскай абшчыны (тэрыторыя Гальштайна) Ордэна аўгустынцаў. Місійны абшар Майнарда ляжаў у сферы юрысдыкцыі Полацка. Таму, атрымаўшы дазвол і нават падарункі ад полацкага князя Уладзіміра, місіянер пачаў пропаведзь сярод ліваў. Спадарожнічаў яму пры гэтым цыстэрцыянец Тэадорых. Адначасова з місійнай працай было разгорнута будаўніцтва замкаў у Ікскюлі і Гольме — паселішчах на Дзвіне. У Ікскюлі (Ікшкеле) размясцілася сядзіба Майнарда, які ў 1186 г. Брэменскім мітрапалітам Гартвікам (1184—1207) быў пасвячоны ў біскупы. Папа Клімент III (1187—1191) дзвюма буламі ад 25 верасня і 1 кастрычніка 1188 г. падпарадкаваў Брэменскаму арцыбіскупу, апрача біскупстваў у Любеку, Шверыне і Рацэбургу, таксама Ікскюльскае біскупства «на Русі» (in Ruthenia)[2]. У 1196 г. Майнард, які быў ужо ў гадах, памёр, а на яго месца быў пасвячоны ў 1197 г. абат аднаго з цыстэрцыянскіх кляштараў у Гановеры Бертольд. Ён занадта заўзята, з ужываннем гвалту, прыступіў да навяртання мясцовых паганцаў — ліваў і неўзабаве загінуў у сутычцы з імі.

У 1198 г. быў пасвячоны ў біскупы брэменскі канонік Альберт, а Ікскюльскае біскупства было пераўтворана ў Лівонскае. Альберт адразу ж



распачаў актыўную дзейнасць па аднаўленні страчаных пры ягоным папярэдніку пазіцый Лівонскага касцёла і дасягнуў у гэтым значных поспехаў. У 1201 г. пачалося будаўніцтва Рыгі і ў яе была перанесена з Ікскюля біскупская рэзідэнцыя, а таксама кляштар канонікаў рэгулярных. Тады ж распачалося і ўзвядзенне кляштара цыстэрцыянцаў у вусці Дзвіны, ля Старой Дзвіны (сёння — частка тэрыторыі Рыгі Vecdaugava), каля схілу гары св. Міколы за 10,5 км на поўнач ад цэнтра сучаснай Рыгі. Але афіцыйнай датай заснавання кляштара лічыцца 1205 г., калі, магчыма, пачалося яго інтэнсіўнае будаўніцтва. Спярша тут магла быць збудавана капліца для пілігрымаў, якія прыбывалі з-за мора. Кляштар ад пачатку будаваўся з умацаваннямі, бо меў стратэгічнае значэнне, ахоўваючы падыходы да Рыгі. Паблізу ў вусці Старой Дзвіны была ўладкавана гавань для караблёў біскупа. Першаму абату кляштара цыстэрцыянцаў, якім стаў Тэадорых, «Хроніка Лівоніі» Генрыка Латышскага прыпісвае пад 1202 г. стварэнне брацтва рыцараў Хрыстовых, якое пазней атрымала назву Ордэна мечаносцаў[3]. Брацтва грунтавалася на статуце тампліераў і падпарадкоўвалася біскупу. Яго афіцыйнай мэтай была ахова касцёла ў Лівоніі. Паступова Ордэн стаў касцяком нямецкіх збройных фарміраванняў у гэтым краі. З цягам часу мечаносцы зробяцца самастойнай палітычнай сілай, якая пачне ўваходзіць у супярэчнасць з Рыжскім біскупам і Рыгаю.

Рыжскі біскуп і Ордэн мечаносцаў, а таксама занятыя імі землі былі непасрэдна падпарадкаваны Рымскаму Папу. Апрача таго, на свецкую юрысдыкцыю над Лівоніяй прэтэндавалі імператары Святой Рымскай імперыі, якія нярэдка ўступалі ў канфлікт з папамі. У 1207 г. Альберт атрымаў Лівонію ў лен ад імператара Філіпа, тым самым здабыў права кіраваць ёю ад імя свецкай улады. Непасрэдна пасля гэтага Ордэн мечаносцаў пачаў патрабаваць ад біскупа трацiны Лівоніі і ўсіх заваяваных тэрыторый, а таксама трацiну тых земляў, якія будуць заваяваны ў будучыні. Сярод захопленых у гэты час земляў апынуліся і полацкія ўдзелы ў Лівоніі Герцыке і Кукейнос, што выклікала шэраг захадаў у адказ з боку Полацка і стала прычынай далейшага абвастрэння сітуацыі ў рэгіёне. Біскуп задаволіў патрабаванне братоў Хрыстовага рыцарства толькі трацiнай земляў у Лівоніі. Таму паміж Ордэнам і Рыжскім біскупствам пачалася барацьба, якая з цягам часу будзе рабіцца ўсё больш зацятай. Паступова Ордэн дамогся таго, што яму была аддадзена трацiна ўсіх земляў, а Рыжскі біскуп і біскупы на новазаваяваных землях атрымалі дзве трацiны. З 1221 г. пасля паўстання здабыла незалежнасць ад улады біскупа Рыга. Места заняло важную ролю ў гандлі на Балтыцы, у ім была створана гарадская рада, яно займела таксама свае правы, герб, а з часам і акрэсленую адміністратыўную тэрыторыю — Рыжскую патрыманіяльную акругу, якая межавала з землямі цыстэрцыянскага кляштара ў Дзюнамюндэ.

Біскупскія ўладанні і ўлада яшчэ больш пачалі змяншацца пасля таго, як Ордэн мечаносцаў пасля паражэння пад Шаўлямі ў 1236 г. зліўся з аселым у Прусіі Нямецкім ордэнам, стаўшы яго філіяй пад назваю — Лівонскі ордэн. Так, пры падзеле Курляндыі Лівонскі ордэн атрымаў ужо дзве траціны яе тэрыторыі, а Курляндскі біскуп толькі адну. Праз нейкі час Ордэн прыбраў да рук усю Земгалію. Ордэнская тэрыторыя стане пераўзыходзіць плошчаю ўсе лівонскія біскупствы разам з Рыжскім, якое з 1253 г. будзе пераўтворана ў арцыбіскупства. Уладанні Лівонскага ордэна будуць укліньвацца ў тэрыторыю, падлеглую арцыбіскупу і дзяліць яе на дзве часткі, а Курляндскае біскупства — на тры[4]. Больш таго, ордэнскія браты намагаліся паставіць лівонскія біскупствы і касцёлы ў залежнасць ад сябе, што прыводзіла да канфліктаў з біскупамі і з першым Рыжскім арцыбіскупам Альбертам Суэрберам (1253—1273). У лісце Папы Клімента V у віну Лівонскаму ордэну ставіцца знішчэнне сямі біскупстваў, сярод якіх называюцца дзве катэдры, якія знаходзіліся на тэрыторыі Полацкага княства, — Сялёнская (Зялёнская) і Русінская, а таксама біскупства, заснаванае ў дзяржаве Міндава — Літоўскае (Летоўскае). Ордэн імкнуўся таксама падпарадкаваць сабе і гандаль па Дзвіне, таму ён намагаўся завалодаць стратэгічна важным цыстэрцыянскім кляштарам, які займаў ключавое становішча ля дзвінскага вусця. 9 лютага 1263 г. майстар Лівонскага ордэна Вернер на чале рыжанаў, разбіўшы ў начной бітве жамойцкага князя Траняту, паставіў пытанне пра валоданне кляштарам. У адказ на гэта абат кляштара Вільгельм у тым жа годзе заключыў дамову з Рыгаю, паводле якой ён абавязваўся нікому не прадаваць і не перадаваць кляштар без згоды рыжскага магістрата і рыжанаў. Натуральна, што спробы Лівонскага ордэна падпарадкаваць сабе гандаль па Дзвіне, закранулі інтарэсы не толькі Рыгі, але і Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ), а найбольш Полацка і Віцебска. Таму Рыжскі арцыбіскуп, Рыга і ВКЛ пачынаюць усё часцей дзейнічаць супроць Ордэна разам.

Першы значны канфлікт паміж двумя бакамі адбыўся ў 1268—1269 гг., калі ордэнскія браты наважыліся нават схапіць і трымаць пад вартаю першага Рыжскага арцыбіскупа[5]. Гэткі ж лёс напаткаў і трэцяга арцыбіскупа Ёгана II фон Фехтэн (1284—1294), які сядзеў у вежы аднаго з ордэнскіх замкаў яшчэ калі быў рыжскім прэпозітам, а затым быў яшчэ раз схоплены будучы ўжо арцыбіскупам[6]. Новае змаганне ператварылася, па-сутнасці, у грамадзянскую вайну. Яно пачалося ў 1297 г. і доўжылася да 1330 г. Выбухнуў канфлікт у адсутнасць арцыбіскупа Ёгана III, графа са Шверына (1295—1300), які выехаў з Лівоніі, каб падлячыць зламаную нагу. Фармальнай падставай для пачатку барацьбы сталася будаўніцтва рыжанамі з-за паводкі падчас крыгаходу на рацэ Дзвіна ўмацаванай плаціны і моста да яе. Яшчэ не скончыўся тэрмін дзеяння мірнай дамовы, з цяжкасцю заключанай пры пасрэдніцтве рыжскіх канонікаў, калі ордэнскія браты змушаны былі выбірацца са свайго замка ў горадзе — двара св. Юргена (сёння — Konventa sēta), а большая частка Рыгі была спалена. Арцыбіскупу, які тым часам вярнуўся ў Рыгу, удалося ненадоўга працягнуць замірэнне. Але калі вырак прызначаных дзеля разбору спрэчкі трацейскіх суддзяў (самога арцыбіскупа і Дорпацкага біскупа) выпаў на карысць рыжанаў і яны ўзнавілі прыпыненае на час замірэння будаўніцтва моста, а перамовы пра мір скончыліся безвынікова, то варажнеча разгарэлася з новай сілай[7]. Рыжане занялі і разбурылі замак св. Юргена, узялі ў палон замкавага комтура і 60 братоў ды прысудзілі іх да смерці. У сваю чаргу, Ордэн, выкарыстаўшы ўмацаваныя млыны Бертольда і Новы (Букулцкі) у прадмесці, учыніў напад на Рыгу. Умацаваныя млыны затым будуць служыць Ордэну як сродак ціску на Рыгу.



Яшчэ адну спробу дабіцца замірэння між бакамі зрабілі ў лістападзе 1297 г. ганзейскія пасланнікі. Яно павінна было доўжыцца да 6 студзеня 1298 г., а за гэты час належала зноў правесці перамовы аб міры. Але калі Ордэну стала вядома пра пагадненне паміж яго ворагамі: Рыжскім арцыбіскупам, Дорпацкім і Эзельскім біскупамі ды местам Рыгаю, ён пачаў дзеянні супроць іх. Спачатку выступіў супроць Эзельскага біскупа, захапіў ягоны замак Леаль і разбіў войска, узначаленае яго войтам. Трымаючы пад пагрозай Рыгу з дапамогаю ўмацаваных млыноў, ордэнскія рыцары рушылі супроць арцыбіскупа, авалодалі арцыбіскупскімі замкамі Трэйдэнам і Кукейнасам і захапілі яго самога, а затым на доўгі час заняволілі ў Фэліне. Дорпацкі біскуп яшчэ раней дасягнуў міру з Ордэнам. У тым жа годзе ў змаганнях паміж Ордэнам і Рыгаю быў разбураны кляштар у Дзюнамюндэ. Толькі часткова цыстэрцыянцам удалося яго аднавіць. У 1298 г. рыжане заключылі дамову з ВКЛ і ў красавіку разам з войскамі княства нанеслі паражэнне Ордэну каля Новага млына, затым 23 чэрвеня яны акружылі і захапілі яго. Быў разбураны і млын Бертольда. На дапамогу лівонскім братам былі накіраваны вялікія сілы з Прусіі, якія 24 чэрвеня разбілі войска ліцвінаў і рыжанаў. Ордэну ўдалося таксама амаль цалкам ізаляваць Эзельскага біскупа, заключыўшы пагадненне з яго васаламі і старэйшымі капітула. У гэтай сітуацыі праціўнікі Ордэна звярнуліся за падтрымкай да Рымскага Папы Баніфацыя VIII. Сваім лістом ад 7 студзеня 1299 г. Папа выклікаў у Рым вялікага майстра Ордэна разам з некаторымі іншымі ордэнскімі кіраўнікамі. Але неўзабаве 13 чэрвеня таго ж года ён адмяніў гэты выклік пры паведамленні пра замірэнне між Ордэнам і арцыбіскупам. Пазней стала вядома, што да гэтага замірэння ордэнскія браты гвалтам змусілі арцыбіскупа, які быў у іх вязнем. Арцыбіскупа вызвалілі, мабыць, у сувязі з новым замірэннем між Ордэнам і Рыгаю, дасягнутым у ганзейскім горадзе Любеку на пачатку 1299 г. і трываючым да 6 снежня таго ж года. Адразу ж пасля вызвалення ён паспяшаўся за дапамогай ў Рым. У пачатку 1300 г. з пісьмовымі скаргамі-мемарыяламі пра злоўжыванні Ордэна звярнуліся ў Рымскую курыю таксама Эзельскі біскуп і Рыга. Трэці мемарыял быў прадстаўлены прадстаўніком арцыбіскупа. У гэты ж час у Рым выправіліся і прадстаўнікі земгалаў[8].

Толькі смерць арцыбіскупа Ёгана III у 1304 г. на нейкі час адвяла пагрозу суда ад Лівонскага ордэна. Ягонаму наступніку, папскаму капеляну Ізарну Таккону, які ўвогуле імкнуўся да прымірэнчых дачыненняў з Ордэнам, удалося толькі дамагчыся вяртання ордэнскімі рыцарамі арцыбіскупскіх уладанняў. У 1302 г. ён быў прызначаны Лундскім арцыбіскупам і адышоў ад лівонскіх спраў. Арцыбіскупская пасада заставалася вакантнаю да сакавіка 1304 г. і толькі 21 сакавіка быў прызначаны на яе папскі спаведнік францішканец Фрыдрых. У той жа дзень арцыбіскупам Ізарнам, які тады быў у Рыме, была зроблена спроба судова вырашыць супярэчнасці між Ордэнам і Рыжскім арцыбіскупствам. Але гэта не прывяло да міру. Паводле пазнейшых сведчанняў, Рыга звярнулася да Папы з апеляцыяй на гэтае рашэнне[9]. У тым жа 1304 г. Ордэну ўдалося ўцягнуць біскупаў, капітулы і васалаў Эзеля і Дорпата, а таксама дацкіх васалаў у Эстоніі ў гэтак званы Дорпацкі саюз, фармальна накіраваны супроць «няверных, а менавіта супроць русінаў і паганцаў літвінаў». Але саюз гэты абвяшчаўся прымусовым і абавязваў прыяднацца да яго і тых, хто заставаўся ад яго ў баку, у прыватнасці Рыжскага арцыбіскупа. Паказальна таксама, што у дамове згадваюцца і рыжскія гараджане, «якія асмеляцца, не зважаючы на гэтае пагадненне, весці гандаль з русінамі ці паганцамі»[10]. Такім чынам, саюз, па сутнасці, быў скіраваны супроць рыжскіх праціўнікаў Ордэна. 26 мая 1305 г. абат Дзюнамюндэ Ліберт, відаць, пад ціскам ордэнскіх братоў і з-за цяжкага становішча кляштара, змушаны быў прадаць яго за 4 000 кёльнскіх марак Ордэну, і 26 ліпеня рыцары ўжо занялі кляштар. Гэта паставіла пад пагрозу ўвесь гандаль па Дзвіне і адрэзала Рыгу ад мора. Якраз у гэты час у Лівонію прыбыў арцыбіскуп Фрыдрых. Ён адразу ж узяўся за вырашэнне спраў і пачаў змаганне з Ордэнам і ўжо 14 верасня скіраваў у курыю скаргу і апеляцыю супроць ордэнскіх братоў. Арцыбіскуп паяднаўся з рыжанамі, якія неўзабаве пасля яго прыезду аднавілі сваю дамову з ВКЛ. У 1307 г. ён выехаў у Авіньён, дзе тады знаходзілася рэзідэнцыя новага Папы Клімента V, каб асабіста займацца лівонскімі справамі ў курыі. Пасля ад'езду Фрыдрыха Лівонія зноў робіцца арэнаю зацятай барацьбы. У краіне зноў з'яўляецца войска з ВКЛ. Але пасля яго паражэння перад брамаю Рыгі, само места мусіла шукаць міру з Ордэнам, згодна з якім рыцарам перадаваліся рыжскія ўладанні ў Курляндыі і на Эзелі. У 1309 г. войска з ВКЛ зноў было ў Лівоніі[11].

Як бачым, Нямецкі ордэн нажыў сабе ворагаў не толькі ў самой Лівоніі і ў Прусіі, дзе былі яго галоўныя асяродкі, але і ў суседніх краінах. Так, у той час, калі арцыбіскуп Фрыдрых паспяхова вырашаў справы свайго арцыбіскупства і места Рыгі ў папскай курыі, туды дайшла вестка пра брутальныя дзеянні ордэнскіх рыцараў на Гданьскім Памор'і. Падзеі на гэтай тэрыторыі, якія папярэднічалі «гданьскай разні» і акупацыі, разгортваліся гэткім чынам. На паморскія землі ад 1269 г. прэтэндавала брандэнбургская марка. Пагрозу агрэсіі крыху стрымала збліжэнне Памор'я да



Вялікапольшчы, давершанае заключэннем дамовы ў 1282 г. Паводле гэтай дамовы, Памор'е пасля смерці Меставіна II увайшло ў склад дзяржавы вялікапольскага князя Пшэмысла II. У 1294 г. ён заняў гэтую зямлю. Пасля смерці Пшэмысла II, забітага з намовы брандэнбургскіх маркграфаў, улада ў Вялікапольшчы і на Памор'і перайшла да Уладзіслава Лакеткі.

Лучнасць Памор'я з іншымі часткамі Польшчы захоўвалася таксама пры чэшскім панаванні ў 1300—1306 г. Але Вацлаў III Чэшскі паабяцаў Гданьскае Памор'е брандэнбургскім маркграфам у замен на іншую зямлю. Пасля яго смерці большасцю польскіх земляў, якія былі пад чэшскім панаваннем, авалодаў Уладзіслаў Лакетак. У канцы 1306 г. ён заняў і Памор'е, апярэдзіўшы брандэнбургскіх маркграфаў, хоць, магчыма, нейкую частку паморскіх земляў ўсё ж паспелі ўзяць пад сваю ўладу брандэнбургцы. У 1308 г. маркграфы наважыліся на захоп Гданьскага Памор'я. Заняты іншымі справамі Лакетак не змог прыйсці на дапамогу Гданьску і вырашыў папрасіць падтрымкі ў Нямецкага ордэна. Ордэнскія браты адбілі брандэнбургскае войска, але потым, пасля выдалення з Гданьскага замка польскай залогі, 13 лістапада занялі горад і ўчынілі ў ім разню. Затым войска Ордэна прыступіла да сістэматычнага заваявання ўсяго Гданьскага Памор'я[12].

Паведамленне пра «гданьскую разню» прыйшло ў Авіньён хутчэй за ўсё з асяроддзя Уладзіслава Лакеткі, хоць пра апошнія падзеі на Гданьскім Памор'і былі інфармаваны і ў Лівоніі. Ва ўсякім разе ў лісце Клімента V ад 19 ліпеня 1310 г., які з'явіўся перш за ўсё дзякуючы стараннямі Рыжскага арцыбіскупа Фрыдрыха, апошняе абвінавачванне на адрас Ордэна сфарміравана на падставе гэтага паведамлення. Тым не менш, нягледзячы на актыўнасць Фрыдрыха, выкананне ліста асобамі, якім яно было даручана, зацягвалася. Здаецца, Рыжскім арцыбіскупам была выкарыстана і магчымасць паўздзейнічаць на пазіцыю пантыфіка ў час правядзення Сусветнага сабора ў Віенне на Роне (1311—1312), дзе разбіралася справа Ордэна тампліераў, падрыхтоўкі крыжовага паходу і касцёльнай рэформы. І справа канфлікту арцыбіскупа Фрыдрыха з Нямецкім ордэнам, безумоўна, знайшла тут разуменне. Ва ўсякім разе, 11 мая 1311 г. Клімент V замест Равенскага каноніка Альберта з Медыялана, які з невядомых прычын не мог прыступіць да выканання ліста ад 1310 г., прызначыў папскага капеляна і каноніка з Лаона Францішка дэ Маліяна і надзяліў яго тымі ж паўнамоцтвамі. Паколькі нічога невядома пра дзейнасць па выкананні папскага даручэння і другога адрасата памянёнага ліста — Брэменскага арцыбіскупа, то выпадае лічыць, што ўвесь цяжар расследавання правінаў Ордэна лёг на Францішка дэ Маліяна. Ужо летам 1311 г. ён апынуўся ў Рызе, хутчэй за ўсё, разам з арцыбіскупам Фрыдрыхам[13]. Ва ўсякім разе іхняя прысутнасць тут у канцы ліпеня засведчана дакументальна[14]. Так, 18 і 22 ліпеня адпаведна Францішак дэ Маліяна і арцыбіскуп Фрыдрых абвясцілі экскамуніку Лівонскаму ордэну. Экскамуніка Францішкам дэ Маліяна была накладзена пасля таго, як Ордэн не выка-

наў ва ўстаноўлены тэрмін патрабавання пра вяртанне Дзюнамюндскага кляштара. Расследаванне злоўжыванняў ордэнскіх братоў пачалося пазней. Прыкладна з лютага да жніўня 1312 г. Францішак дэ Маліяна правёў допыт сведкаў на падставе 230 артыкулаў абвінавачванняў супроць Ордэна. Гэтыя артыкулы былі хутчэй за ўсё падрыхтаваны ў папскай курыі і змяшчалі ў сабе абвінавачванні са скаргаў, якія паступілі туды з Лівоніі раней. Аўгуст Серафім, які апублікаваў захаваныя часткі пратакола допыту 1312 г., вызначыў, што 25 першых яго артыкулаў адпавядаюць абвінавачванням, пералічаным у лісце Клімента V ад 19 ліпеня 1310 г., артыкулы 26—78 складзены на падставе мемарыяла пракуратараў арцыбіскупа Ёгана III ад 1300 г., артыкулы 79—126 — на падставе мемарыяла места Рыгі з таго ж года, артыкулы 127—162 — на падставе мемарыяла Эзельскага біскупа Конрада. Астатнія артыкулы 163—230 былі складзены, верагодней за ўсё, на падставе абвінавачванняў, высунутых супроць Ордэна пісьмова ці вусна арцыбіскупам Фрыдрыхам у 1310—1311 гг. падчас яго знаходжання ў Авіньёне пры папскай курыі[15].

Такім чынам, ліст Папы Клімента V ад 19 чэрвеня 1310 г., які публікуецца ніжэй, з'яўляецца даручэннем Брэменскаму арцыбіскупу Ёгану і равенскаму каноніку, папскаму капеляну Альберту расследаваць праступкі і злачынствы Нямецкага ордэна ў Лівоніі, фактычна быў выкананы толькі ў 1312 г. іншай асобай — Францішкам дэ Маліяна. У дакумент уключана частка тых абвінавачванняў, якія потым будуць прадстаўлены на допыце ў 1312 г. Яны адлюстроўваюць шэраг гістарычных падзей, з якіх сярод іншага вялікую цікавасць для гісторыі Беларусі ўяўляюць звесткі пра Полацкае княства і біскупствы на яго тэрыторыі, інфармацыя пра неназванага па імені «караля паганцаў» і заснаваны ім Летоўскі катэдральны касцёл, а таксама згадка пра выгнанне «на землі паганцаў» 100 000 земгалаў. Акт звязаны з іншымі дакументамі канца XIII — пачатку XIV ст., якія датычаць унутрылівонскіх узаемадачыненняў і адносін Лівоніі з суседнімі краінамі, перад усім — з памянёнымі мемарыяламі Рыжскага арцыбіскупа Ёгана III, Эзельскага біскупа Конрада і места Рыгі з 1300 г., пратаколам допыту 1312 г. і інш., утвараючы з імі пэўны комплекс, дзе змест кожнага асобнага дакумента дапаўняецца і тлумачыцца зместам іншага.

Публікуемы акт ужо ўведзены ў навуковы ўжытак. Друкаваўся лацінскі тэкст акта з перакладам на беларускую мову яго фрагментаў, якія змяшчалі звесткі пра караля Міндава і пра Полацк, з фотавыявай арыгінала[16]. У дадзенай публікацыі прадстаўлены поўны беларускі пераклад дакумента з уступам, які ўтрымлівае інфармацыю пра гістарычныя падзеі, звязаныя з ім. Тэкст папскага ліста публікаецца згодна з Міжнароднымі правіламі[17], публікацыі сярэднявечных лацінскіх дакументаў. Спачатку падаюцца даты часу і месца, затым кароткі рэгест. У легендзе вылучаюцца часткі, пазначаныя скаротамі; **Ар.** (звесткі пра арыгінал), **Коп.** (звесткі пра копіі), **Выд.** (публікацыі дакумента), **Факс.** (факсіміле / фотавыявы дакумента), **Рг.** (публікацыі рэгестаў дакумента), **Lit.** (найбольш важныя працы, у якіх апісваецца або даследуецца дакумент).



У ніжнім «паверсе» легенды даецца больш шырокае апісанне арыгінала.

1310 чэрв. 19. — Авіньён

*Папа Клімент V даручае Брэменскаму арцыбіскупу Ёгану і Равенскаму каноніку майстру Альберту з Мілана правесці расследаванне супроць Нямецкага ордэна з прычыны цяжкіх праступкаў супроць Касцёла ды іншых злачынстваў*

**Ар.:** *Перг. (78,5 x 53,5+6,5), свінцовая була Клімента V, прывешаная на канапляным шнурку, Кракаў, Biblioteka Czartoryskich, Sz. 2, Nr. 85* — **Коп.:** *У рэгістрах Клімента V, Ватыкан, Archivio Segreto Vaticano, Reg. Vat. 57. f. 113v, ep. 412 (R)* — **Выд.:** *a) Ioannis Długossii seu Longini, canonici Cracoviensis, Historiae Polonicae libri XII. T. III. Cracoviae, 1876. P. 62; b) Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae in quo pacta, foedera, tractatus pacis… nunc primum ex archivis publicis eruta ac in lucem protracta exhibuntur / Ed. M. Dogiel. T. V. Vilnae, 1759. P. 33, Nr. 37; c) Livoniae commentarius ab Antonio Possevino, S. J., scriptus. Nunc primum editus e codice Bibliothecae Vaticanae, addito prooemio et adspersis nonnullis annotationibus / Ed. Napiersky C. E. Riga, 1852. S. 8; d) Liv-, Esth-, und Curländisches Urkundenbuch nebst Regesten / Hrsg. von F. G. von Bunge. [Abt. 1] Bd. II. Reval, Riga, 1855. Sp. 47, Nr. 630; e) Vetera monumenta Polonie et Lithuanie gentiumque finitimarum historiam illustrantia maximam partem nondum edita ex tabulariis Vaticanis deprompta, collecta ac serie chronologica disposita ab Augustino Theiner. T. I. Romae, 1860. P. 119, Nr. 204; f) Pommerellisches Urkundenbuch / Hrsg. von Max Perlbach. Danzig, 1881. S. 605, Nr. 687; g) Regestum Clementis papae V ex vaticanis archetypis sanctissimi domini nostri Leonis XIII pontificis maximi iussu et munificentia nunc primum editum cura et studio monarchorum ordinis S. Benedicti. X t. Rom, 1885—1892. T. V. S. 169, Nr. 5544; h) Seraphim A. Das Zeugenverhör des Franciscus von Moliano (1312) (Quellen zur Geschichte des Deutschen Ordens o. N.). Königsberg, 1912. S. 167; i) Simson P. Geschichte der Stadt Danzig. IV Bde. Danzig, 1913—1918. Bd. IV. S. 28, Nr. 64; k) Preussisches Urkundenbuch. Politische (Allgemeine) Abteilung. Bd. II / Hrsg. von M. Hein und E. Maschke. Gräfe und Unzer, 1939. S. 6, Nr. 13; Mindowe, rex Lithowiae, in litteris et testimoniis = Міндаў, кароль Літовіі, у дакумэнтах і сьведчаньнях / Ed. Alieś Žlutka. Miensci, 2005. P. 90. Nr. III.4* — **Факс.:** *Каляровая фатаграфія арыгінала ў: Mindowe, rex Lithowiae, in litteris et testimoniis = Міндаў, кароль Літовіі, у дакумэнтах і сьведчаньнях.* **Рг.:** *Liv-, Esth-, und Curländisches Urkundenbuch nebst Regesten. Bd. II. Regesten. S. 24, Nr. 728. Bd. VI. Regesten. S. 33; Russisch-Livländische Chronographie von der Mitte des neunten Jahrhunderts bis zum Jahre 1410 / Verfasst von Bonnell E. St. Petersburg, 1862. S. 102; Lemmens L. Die Franziskanerkustodie Livland und Preußen. Beitrag zur Kirchengeschichte der Gebiete des Deutschen Ordens. Düsseldorf, 1912. S. 111, Nr. 408; Regesta Lithuanie ab origine usque ad Magni Ducatus cum Regno Polonie unionem. T. I: Tempora usque ad annum 1315 complectens / Recensuit Henricus Paszkiewicz. Varsovie, 1930. S. 168, Nr. 813* — **Lit.:** *Wadding L. Annales minorum seu trium ordinum a S. Francisco institutorum. XXXII Vol. Quaracchi, 1931—1964. Vol. VI. S. 174; Voigt J. Geschichte Preußens von den ältesten Zeiten bis zum Untergange der Her-*

*rschaft des Deutschen Ordens. IX Bde. Königsberg, 1827—1839. Bd. IV. S. 245, 612; Caro J. Geschichte Polens. T. II—V. 1300—1506. Gotha, 1863—1888. T. II. S. 61; Perlbach M. Zur Vorgeschichte des Bischofs Johannes I. Clare von Samland (1310—1320) // Altpreußische Monatsschrift. 38. 1901. S. 555; Abraham W. Powstanie organizacyi kościoła łacińskiego na Rusi. T. I. Lwów, 1904. S. 150; Haller J. Die Verschwörung von Segewold (1316) // Mitteilungen aus dem Gebiete der Geschichte Liv-, Est- und Kurlands. 20. 1907/10. S. 131; Seraphim A. Das Zeugenverhör des Franciscus von Moliano (1312). Einleitung. S. II; Lemmens L. Aus der Geschichte der deutschen Franziskaner im Ordenslande Preußen // Mitteilungen des Copernicus-Vereins. 20. 1912. S. 61; Lemmens L. Die Franziskanerkustodie Livland und Preußen. S. 405, 408; Simson P. Geschichte der Stadt Danzig. Bd. I. S. 45; Friedrich W. Der Deutsche Ritterorden und die Kurie in den Jahren 1300—1330. Diss. phil. Königsberg, 1915. S. 33; Tymieniecki K. Proces polsko-krzyżacki z lat 1320—1321 // Przegląd historyczny. 21. (Ser. II. T. I). 1917/18. S. 82; Roth W. Die Dominikaner und Franziskaner im Deutsch-Ordensland Preußen bis zum Jahre 1466. Diss. phil. Königsberg, 1919. S. 100, 140*

*А напісаны выразным каліграфічным канцылярскім гатычным курсівам. Сляды разліноўкі. Пазначкі і надпісы: пад тэкстам* LXXX, *на загіне справа* pro Io[anne] et A[lberto] de […] non bene sano *і ніжэй* Io[anni] de […]. *На адвароце* Transsumpta est per aud. […] *і пазнейшыя пазначкі* Clementis V annos *далей* Pontificatus 5-o, *затым* Livoniae No 57 *і* No 43, Revisum 1730. *Да сярэдзіны загіну пергаміну на канапляным шнурку прывешана свінцовая була*

Тэкст з А

Clemens [a)] [1] episcopus, servus servorum Dei [a)], venerabili fratri Iohanni, archiepiscopo Bremensi [2], et dilecto filio magistro Alberto de Mediolano, canonico Ravennatensi, capellano nostro, salutem [b)] et apostolicam benedictionem [b)].

In vinea domini licet immeriti cultores positi et custodes, sic in ipsius culture salubrisque custodie nos debemus ministeriis exercere, ut in ipsa infatigabiliter operantes, extirpandis vitiorum spinis et peccatorum tribulis, que superficiem eius interdum obumbrare conantur, necnon plantandis virtutum germinibus, in quibus altissimus delectatur, fervore spiritus et diligenti sollicitudine intendendo, ipsam ab illis presertim offensionum discriminibus tueamur, que sub pietatis specie cautius subintrantes difficilius precaventur. Sane tam predecessorum nostrorum Romanorum pontificum, quam nostris continuatis successive temporibus ex clamore valido et insinuatione famosa ad audientiam sedis apostolice est deductum, quod preceptores et fratres hospitalis sancte Marie Theotonicorum, ad hec solum per sedem eandem in Rigensi, Livonie et Pruscie provinciis constituti, ut ecclesias ac personas ecclesiasticas aliosve catholice fidei professores vallo fortitudinis munientes, ipsos a paganorum et scismaticorum tueantur incursibus, et ad dilatandum ibi catholice fidei nomen et cultum iugiter elaborent, in gravem prothdolor nostri Redemptoris iniuriam, fidelium cunctorum obprobrium et eiusdem fidei detrimentum facti sunt hostes domestici et familiares sunt redditi inimici, non insurgentes pro Christi nomine adversus hostes fidei, sed in eorundem favorem, quod stupet auditus, variis calliditatum generibus dimicantes potius contra Christum, ad id precipue, prout evidentia facti ostendere dicitur, intendentes, ut ecclesiis omnibus earumque facultatibus aliisque bonis fidelium dictarum partium eorum usibus applicatis, in rerum amplitudine contabescant, propter quod, dimissa Christi militia, immo [c)] contra Christi fideles armis nequitie bellum miserabile conserentes [d)], nonnullos archiepiscopos, qui fuerunt pro tempore, aliosque prelatos et personas ecclesiasticas in dignitatibus constitutas illarum partium, non absque iniectione manuum in ipsos, Dei timore postposito, temere, violenta, detestabili et sacrilego ausu capere, diris mancipare carceribus, et alias eis graves corporales afflictiones inferre dampnabiliter presumpserunt, ac de quatuordecim ecclesiis suffraganeis, quas Rigensis ecclesia metropolis partium earundem habere consueverat, septem totaliter deleverunt, septem aliis in tali statu dimissis, ut plus sint dedecori et pudori decentie pastoralis, quam si penitus non adessent. Nam de quatuor earum eiectis canonicis, in eis canonice institutis, fratres sui ordinis pro canonicis in dictis ecclesiis locaverunt, quos in eisdem de facto instituunt et destituunt sicut volunt, et tales eorum confratres pro canonicis se gerentes eligunt in episcopos, quos iidem preceptores et fratres mandant de suis confratribus eligendos: Electi vero taliter falsa, immo verius, confirmatione [e)] aliqua non [e)] obtenta [f)] in episcopos se faciunt consecrari, nullam obedientiam eidem Rigensi ecclesie locorum metropoli facientes. In residuis autem tribus cathedralibus ecclesiis vacantibus intrudunt personas, quas volunt, etiam minus dignas, de quibus per potentie sue abusum electionem faciunt celebrari, ac de modo et forma electionum huiusmodi, nulla examinatione premissa, per antedictos fratres sui ordinis pro episcopis se gerentes [g)] electos huiusmodi in episcopos faciunt consecrari. Omnia bona earundem ecclesiarum, que insignes consueverant habere pontifices cum solennibus capitulis, latis et magnis facultatibus et redditibus habundantes, propriis usibus non absque pernitioso earundem ecclesiarum dispendio enormiter applicando, seque, ut liberius in predictam metropolim et ecclesias, ceterosve prelatos et fideles provinciarum et partium predictarum valeant desevire, eorumque munitiones, castra, terras, iurisdictiones et iura proprie subicere [h)] dicioni, eisdem paganis nequam amicitie federe unientes [i)], ac publicum eis adversus dictos fideles impendentes auxilium, consilium et favorem, ferrum, arma, equos et alia mercimoniorum genera, per que dicti pagani fideles eosdem possint acerbius impugnare, vendunt et per alios ipsis vendi permittunt, quodque gravius est, iidem preceptores et fratres non solum a confinibus eorundem paganorum, in quibus contra illorum incursus debuissent se murum defensionis opponere, in detrimentum fidelium recesserunt, sed quoddam castrum eiusdem Rigensis ecclesie eisdem paganis pro certa quantitate pecunie venundantes. Regnum Plochech [k)], quod quondam rex Plochensis [l)] ad fidem Christi conversus, prolem non habens legitimam, eidem ecclesie Rigensi contulerat pro anime sue salute, dictis paganis non absque iactura multitudinis innumerose fidelium dimiserunt , cuius occasione due solennes cathedrales, Zeloviensis [m)] [3] videlicet et Ruthueniensis [n)] [4] ecclesie consistentes in regno predicto totaliter sunt delete, quibus castro et regno ad manus dictorum infidelium taliter devolutis, dicti pagani, a locis confini-

um repulsis fidelibus, magnam partem dictarum provinciarum tunc fidelium multitudine populosam[o)] in solitudinem redegerunt, eisdem fidelibus partim peremptis gladio, partim eorundem paganorum miserabili iugo suppositis perpetue servitutis, quodque detestabilius est, si quando iidem preceptores et fratres offendendi paganos sub cuiusdam umbre pallio velint ostendere se gerere voluntatem, illos fraudulenter impugnant, ut ex eorum facto fideles atrocius impugnentur, eosdem paganos ex tenuis prede dampno modico ad destruendum reliqua castra eiusdem Rigensis provincie pravis nocendi artibus irritantes. Fertur etiam de ipsis execrabile facinus, dirum nephas, quod cum rex paganorum [5] cum suis subditis fuisset ad fidem Christi conversus, ac diversos episcopos successive et presbyteros seculares ac fratres predicatorum et minorum ordinum in toto regno suo ordinasset ad extirpationem errorum et illuminationem ac plantationem orthodoxe fidei permansuros, iidem preceptores et fratres, pro pudor! velut eiusdem fidei subversores quosdam eorundem episcoporum, presbyterorum et fratrum exinde deici, quosdam vero interfici latentibus et occultis studiis procurarunt, et taliter pagani etiam ad fidem conversi, lumine veritatis abiecto, errores, proth dolor! pristinos resumpserunt, et sic quondam Lechoniensis [p)] ecclesia cathedralis, in dicto regno consistens, cum sua civitate et diocesi non absque multorum fidelium animarum et corporum deplorando periculo miserabiliter fuit deleta. Populum etiam christianum terre Semigallie habentem episcopum et presbyteros orthodoxos, qui eis sacramenta ecclesiastica ministrabant, iidem preceptores et fratres totaliter deleverunt, nobiliores eiusdem terre, quos ad convivium invitarant, proditionis infande sevitia mutilatione capitum perimentes, reliquam multitudinem populi dicte terre, ultra quam centum milia fidelium utriusque sexus, ad terras paganorum crudeliter profugarunt, dictique fideles eorundem paganorum in depressionem fidei perpetue sunt redditi servituti, propter quod episcopatus Semigallie, qui per septem dietas amplam diocesim obtinebat, totaliter de medio fuit sublatus: et ut omnino impediatur ampliatio fidei in partibus prelibatis, et proponendi verbum Dei facultas quelibet subducatur, ex eo, quod fratres ordinis minorum castri Brunsberg [6] eiusdem Rigensis provincie predicationi dictorum paganorum instantes verbum Dei continue diffundebant, ac quidam frater dicti ordinis iugiter per paganos discurrens, virtute verborum et operum coruscando, die quolibet multos paganos cognitione vere fidei illustratos sacre regenerationis lavacro innovabat, eisdem fratribus minoribus de dicto loco ignominiose deiectis, eundem locum funditus destruxerunt, nullos omnino eiusdem verbi predicationi insistere permittentes, ecclesias quoque, oratoria et capellas edificari pro neophitis non permittunt, ita quod dicti neophiti in rudimentis fidei non instructi, ac in ecclesiis cum orthodoxis participium non habentes, nec in fide, nec in moribus fidelibus sunt conformes. Pessimum etiam ritum eorundem paganorum sectantes, confratres suos, si quos contingit interdum in hostili congressu vel conflictu aliquo vulneribus sauciari, contra morem eiusdem fidei orthodoxe, priusquam expirent, impietate quadam sevissime feritatis extingunt, eorum corpora flammarum incendio concremando. Ac ut premissa et alia eorum detestabilia



scelera eiusdem sedis effugiant notionem, universos fideles, clericos et laicos, cuiuscunque dignitatis aut status existant, ad exponendum querelas de ipsis, tantarum persecutionum necessitate cogente, ad sedem apostolicam accedentes crudeliter persecuntur, mortem eis per se et alios inferendo, sicut hec in personis quondam magistri Alesii [q)], doctoris decretorum, plebani plebis Thorunensis, et aliorum quam plurium, quos redeuntes de Romana curia, ad quam venerant contra eos, crudeliter occiderunt, dicuntur liquido apparere. Nec dum finem premissis enormitatibus imponentes, sed mali esse et boni credi sub pallio ignorate nequitie cupientes, passus et itinera debita, per que de civitate Rigensi exitus et reditus ad eandem quadam necessitate inevitabili peraguntur, sub ea faciunt custodia detineri, ut non nisi personis, quas volunt, gressus ex ea pateat vel regressus, sicque dicta civitas exitum et reditum liberum non habendo, cuiusdam obsidionis anguste dispendia cogitur deplorare: ad quam quidem obsidionem, preclusis itinerum quorumcunque vestigiis, fortius angustandam quoddam castrum a superiori parte, ac portum monasterii Dunamundensis Cisterciensis ordinis eiusdem Rigensis diocesis, in quo eadem Rigensis ecclesia ius obtinet patronatus, ab inferiori parte eiusdem civitatis consistentia, absque quibus civitatem eandem nec per terre, nec per maris vestigia nullus potest ingredi vel exire, quoddam [r)] illicito emptionis titulo, cum monasteriorum alienatio sacris prohibita sit canonibus, et etiam ipsius monasterii Dunamundensis per pie memorie Gregorii pape VIIII [7] predecessoris nostri privilegium speciale cuiuslibet alienationis contractus foret specialiter interdictus, temeritate propria occuparunt et detinent occupata, propter que in eisdem provinciis, in quibus ecclesiam suam fetu nove prolis ad fidem converse Dominus ampliabat, familiari peste intestinam exercente sevitiam, non solum fides radicata et fundata non proficit, sed ex persecutione domestica deficit et, nisi celeri occurratur remedio, nomen ibi deperit christianum. Novissime vero ad nostrum pervenit auditum, quod dicti preceptores et fratres hospitalis eiusdem dilecti filii nobilis viri Wladislai [8] Cacrovie [s)] et Sandomirie ducis terram hostiliter subintrantes, in civitate Gdansco ultra decem milia hominum gladio peremerunt, infantibus vagientibus in cunis mortis exitium inferentes, quibus etiam hostis fidei pepercisset. Iidem quoque preceptores et fratres quam plura alia detestanda dicuntur committere, quorum series se nimis extenderet, si singulariter singula presentibus clauderentur. Nos igitur, qui disponente Domino eiusdem dominice vinee regimini [t)] presidemus, desiderantes, ut in ea virtutum palmites convalescant, succisis tribulis vitiorum, attendentes quoque, quod premissa, que de dictis preceptoribus et fratribus referuntur, utpote perniciosa et fidei nostre contraria, immo cunctorum Christi fidelium cordibus inimica, sub dissimulatione transire salva conscientia nequeamus, considerantes etiam, quod in talibus debite correctionis differre remedium nichil esset aliud, quam licentiam sceleribus indulgere, discretionem vestram, de quorum circumspectionis industria plenam in Domino fiduciam obtinemus, hortandam attente duximus et monendam, vobis per apostolica scripta districte precipiendo mandantes, quatinus ad partes illas, seu ad loca illarum partium, que vobis pro executione hui-

usmodi negotii videri poterunt magis apta, vos personaliter conferentes et habentes pre oculis solum Deum, contra predictos preceptores et fratres eiusdem hospitalis in dictis provinciis et partibus consistentes super premissis omnibus et singulis, necnon super articulis, quos sub bulla nostra vobis destinamus inclusos, ac super aliis criminibus et excessibus, super quibus eos inveneritis publice diffamatos, inquiratis diligentius veritatem, eaque diligenter et sollicite inquisita, quecunque inveneritis, in scriptis redacta ac sufficienter instructa nobis sub sigillis vestris procuretis fideliter intimare. Ceterum castrum et monasterium Dunamundense, quod dicti preceptores et fratres, ut premittitur, sub cuiusdam emptionis colore detinent occupatum, per eosdem preceptores et fratres facientes expeditum et liberum omnino dimitti, ipsum usque ad eiusdem sedis beneplacitum prefate sedis nomine teneri, ac per personas ydoneas et fideles, quas ad hoc eligendas industria vestra perspexerit, faciatis cum diligentia custodiri. Ut autem ad premissorum executionem eo liberius intendere valeatis, quo maiori fueritis per nos [u)] auctoritate muniti, vobis invocandi ad premissa omnia et singula exequenda, ubi et quando expedire cognoveritis, tam prelatorum, quam etiam principum et aliorum secularium, cuiuscunque conditionis vel status existant, vel quacunque dignitate prefulgeant, auxilium et succursum. Contradictores quoque et rebelles, necnon testes, quos ad hoc duxeritis convocandos, per excommunicationis, suspensionis et interdicti, necnon privationis privilegiorum eisdem concessorum a sede predicta, sententias compescendi tam de duabus dietis in concilio generali quam de aliquo extra suam civitatem et diocesim, nisi in certis exceptis casibus, et [v)] illis ultra unam dietam a fine sue diocesis ad iudicium non vocando, et aliis quibuscunque constitutionibus, que vestre possent in hac parte iurisdictioni vel potestati, eiusque libero exercitio quomodolibet obviare, aut si testes, quos ad hec evocari contigerit, fuerint predicatorum vel minorum aut aliorum ordinum quorumcunque, vel si predictis ordinibus a predicta sede indultum existat, quod predictorum ordinum fratres ad perhibendum testimonium in quibuscunque causis vel negotiis compelli non possint, seu si dictis preceptori [x)] et fratribus ab eadem sit sede indultum, quod excommunicari, suspendi vel interdici non possint per litteras apostolicas non facientes plenam et expressam, ac de verbo ad verbum de indulto huiusmodi mentionem, et quibuslibet aliis indulgentiis, privilegiis et litteris apostolicis quibuscunque in quacunque forma verborum concessis, per que presentibus non expressa vel totaliter non inserta premissorum executio possit quomodolibet impediri, nequaquam obstantibus, plenam vobis concedimus tenore presentium facultatem. Quod si non ambo hiis exequendis potueritis interesse, alter vestrum ea nichilominus exequatur.

Datum Avinione XIII kalendas iulii, pontificatus nostri anno quinto.

**4.**

[a-a]) *адс. у R* [b-b]) *адс. у R* [c]) nunc *R* [d]) conferentes *R* [e-e]) *нап. па сцёртым інш. поч., цёмна-карычн. атр. A* [f]) obt *нап. па сцёртым інш. поч., цёмна-карычн. атр. A* [g]) gerentibus et *R* [h]) *далей памылкова ўстаўлена* servituti *R* [i]) inientes *R* [k]) Plothech *R* [l]) Plothensis *R* [m]) *магчыма, трэба чытаць* Zeloniensis. *Гл.: Abraham. Powstanie … I. S. 151, хоць Seraphim. Zeugenverhör … S. 169 прапануе чытанне* Czeloviensis. *Дзве першыя літары слова ў A напісаны па сцёртым, відаць, замест* Go, Goloviensis *R*, Zeloviensis *a* [n]) Pucheniensis *R*, Ruthenensis *a* [o]) copiosam *R* [p]) Lethoviensis *R, a* [q]) Alexii *R* [r]) quodam *R* [s]) *так у A, R, трэба чытаць* Cracovie [t]) *адс. R* [u]) per nos fueritis *R* [v]) et in *R* [x]) preceptoribus *R*



[1]) *Клімент V, Рымскі Папа (1305—1314)* [2]) *Ёган I Гранд, Брэменскі арцыбіскуп (1308—1327)* [3]) *Сялёнскае біскупства, якое было заснавана ў 1218 г. на тэрыторыі зямлі Сялёніі, падпарадкаванай Полацкаму княству. Першым яго біскупам стаў Бернард. Гл.: Bender I. De Livonie, Estonie, Prussie vicinarumque terrarum episcopis sec. XIII apud Germanie ordinarios peregrinantibus commentatio. Brunsbergae, 1866. P. 11—12* [4]) *Русінскае біскупства, якое існавала на тэрыторыі Полацкага княства ў 1240—1250-х гг. і ў 1255 г. было ўключана ў склад наваствoранай Рыжскай мітраполіі. Гл.: Theiner. Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae … T. I. P. 61, Nr. 124* [5]) Mindowe — *відавочна, Міндаў, кароль Літовіі (1253—1263)* [6]) *Брунсберг, места ў прускай правінцыі Вармія, заснаванае каля 1240 г. Сёння — Braniewo ў паўночнай Польшчы на мяжы з Калінінградскай вобласцю Расіі. Францішканцы (меншыя браты) з'явіліся ў Брунсбергу ў 1296 г., дзе ім выдзеліў пляц на пабудову кляштара тагачасны Вармійскі біскуп Генрык, але без згоды гараджанаў, што прывяло да бунту, які быў падтрыманы Нямецкім ордэнам. Францішканцы былі змушаны пакінуць места, а новы пляц для будаўніцтва быў выдзелены ўжо ў 1301 г. па-за гарадскімі мурамі. Вялі місійную працу ў Земгаліі, асабліва паспяхова ў 1310 г.* [7]) *Грыгорый IX, Рымскі Папа (1227—1241)* [8]) Уладзіслаў Лакетак, нарадзіўся ў 1260 ці 1261 г., памёр у 1333 г. Ад 1267 г. — князь Ленчыцкі і Куяўскі, ад 1288 г. — Серадзкі, у 1296—1300 гг. — Вялікапольска-Паморскі, у 1288—1292 гг. і ад 1305 г. — Сандамірскі, ад 1306 г. — князь Кракаўскі, Паморскі і Куяўскі, ад 1314 г. — Вялікапольскі, ад 1320 г. — Польскі кароль.

Клімент, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебнаму брату Ёгану, арцыбіскупу Брэменскаму і ўмілаванаму сыну майстру Альберту з Медыёлана, кананіку Равенскаму, нашаму капеляну, збаўленне і апостальскае бласлаўленне.

Пастаўленыя дзеля дагляду і аховы вінаградніку Пана, хоць таго і не заслугоўваем, мы павінны здзяйсняць сваё служэнне так, каб належна даглядаць і ахоўваць яго, нястомна працуючы ў ім, вырываючы калючкі заганаў і церні грахоў, што часам намагаюцца яго заглушыць, а таксама насаджаючы парасткі цнотаў, якія цешаць Усявышняга, ды з духовым запалам і руплівасцю сцерагчы яго найперш ад тых нягод і шкодаў, што пад выглядам карысці пакрыёма прабіраюцца ў яго і таму цяжэй выводзяцца. Сапраўды, як у часы папярэдніх нам Рымскіх пантыфікаў, так і потым у наш час да слыху апостальскага пасада дайшлі гучныя нараканні і ганебныя скаргі пра тое, што прэцэптары і браты шпіталя Святой Марыі Нямецкага ордэна, пастаўленыя тым жа пасадам у Рыжскай, Лівонскай і Прускай правінцыях толькі на тое, каб ахоўваць касцёлы і духавенства ды іншых вызнаўцаў каталіцкай веры, засланяючы іх мурам мужнасці ад нападаў паганцаў і схізматыкаў, ды рупліва працаваць дзеля пашырэння ў тых краях вызнавання і

шанавання каталіцкай веры, о гора!, на вялікую знявагу нашага Адкупіцеля, на ганьбу усіх вернікаў і шкоду для той жа веры зрабіліся хатнімі ворагамі, дамовымі непрыяцелямі. Яны не паўстаюць за імя Хрыста супроць ворагаў веры, а чыняць тое, ад чаго слупянее розум: ужываючы розныя хітрыкі на карысць тым жа [ворагам веры], яны змагаюцца хутчэй супроць Хрыста, імкнучыся, як з відавочнасцю паказваюць самі факты, перад усім да таго, каб аддадзеныя ім у валоданне касцёлы і ўсе касцёльныя ўладанні, а таксама маёмасці вернікаў тых краёў, якія, нягледзячы на дастатак усяго, прыходзілі ў заняпад. Таму, распусціўшы войска Хрыстовае і, больш таго, уступаючы ўжо ў ганебную вайну са сваёй злачыннай зброяй супроць вернікаў Хрыстовых, яны з гнюснай і бязбожнай зухваласцю, не баючыся Бога, наважыліся гвалтам падняць руку на некаторых арцыбіскупаў, якія былі ў той час, ды іншых прэлатаў і касцёльных асоб, пастаўленых на адпаведныя годнасці ў тых краях, асмеліліся схапіць і трымаць іх у вязніцах ды наносіць цяжкія цялесныя пашкоджанні. З чатырнаццаці суфраганных касцёлаў, якія Рыжскі мітрапалітальны касцёл меў раней у тых краях, сем яны цалкам знішчылі, а сем іншых пакінулі ў такім стане, што святыні гэтыя існуюць хутчэй на ганьбу і сорам для пастырскай годнасці, чым калі б іх зусім не было. Бо ў чатырох з гэтых касцёлаў, выгнаўшы адтуль кананічна пастаўленых канонікаў, яны замест іх пасадзілі братоў свайго Ордэна, якіх de facto ставяць і здымаюць у тых жа святынях, як ім захочацца. І гэтых сваіх братоў, што лічаць сябе канонікамі, яны потым абіраюць біскупамі, а іх тыя ж прэцэптары і браты наказваюць выбіраць са сваіх сабратаў. Абраныя гэткім чынам, з несапраўдным зацвярджэннем, а правільней кажучы, не атрымаўшы ніякага зацвярджэння, яны намагаюцца пасвяціцца затым на біскупаў, якія не прызнаюць ніякай падлегласці таму ж мітрапалітальнаму для тых месцаў Рыжскаму касцёлу. У трох астатніх вакантных катэдральных касцёлах яны незаконна ставяць тых асоб, якіх яны хочуць, нават не годных для гэтага, і для якіх, злоўжываючы сваёю ўладай наладжваюць выбары ды, не зрабіўшы папярэдняй праверкі спосабу і формы гэтых выбараў, праз памянёных братоў свайго Ордэна, якія ўжо лічаць сябе біскупамі, пасвячаюць такіх абраннікаў на біскупаў. Усе маёмасці тых жа самых касцёлаў, што раней мелі выдатных біскупаў з правамоцнымі капітуламі, валодалі вялікімі маёмасцямі ды атрымлівалі прыбыткі, яны, са згубнымі стратамі для тых касцёлаў, нахабна забралі ў сваё карыстанне. А каб можна было вальней лютаваць у дачыненні да памянёнай мітраполіі і касцёлаў, прэлатаў і вернікаў у памянёных правінцыях і краях, а іх умацаванні, замкі, землі, юрысдыкцыі і правы паддаць сваёй уладзе, яны злачынна заключаюць пагадненні з тымі ж паганцамі і, адкрыта падтрымліваючы іх, а таксама дапамагаючы парадаю і спрыяннем супроць згаданых вернікаў, прадаюць і дазваляюць іншым прадаваць жалеза, зброю, коней ды іншыя тавары гэтым паганцам, дзякуючы чаму, тыя больш смела могуць нападаць на тых жа вернікаў. І што яшчэ больш прыкра, тыя ж прэцэптары і браты не толькі на шкоду вернікам адступілі ад межаў з тымі ж паганцамі, дзе яны павінны былі б паставіць мур абароны супроць іхніх набегаў, але за пэўную суму грошай прадалі замак таго ж Рыжскага касцёла гэтым паганцам. Каралеўства П(о)лотэк, якое П(о)лоцкі кароль, навернуты да хрысціянскае веры, не маючы законных нашчадкаў калісьці перадаў таму ж Рыжскаму касцёлу дзеля збаўлення сваёй душы, яны [браты Нямецкага ордэна] пакінулі памянёным паганцам, і з гэтай прычыны два выдатныя катэдральныя касцёлы, а менавіта Зялёнскі і Русінскі, якія існавалі ў згаданым каралеўстве, былі цалкам знішчаны. А пасля таго, як гэты замак і каралеўства такім чынам перайшлі ў рукі паганцаў, названыя паганцы, выгнаўшы з памежных мясцін верных, абярнулі ў пустку большую частку тых краёў, заселеную тады вялікай колькасцю верных, а саміх гэтых верных часткова перабілі мячом, а часткова аддалі пад ганебнае ярмо вечнай няволі. І што яшчэ больш ганебна, калі тыя ж прэцэптары і браты хочуць пад нейкім выглядам паказаць, што збіраюцца пабіць паганцаў, яны падступна нападаюць на іх, каб з-за гэтага тыя яшчэ больш люта нападалі на вернікаў, такім чынам, мала пашкодзіўшы тым жа паганцам і ўзяўшы мізэрную здабычу, сваімі падступнымі і шкоднымі дзеяннямі яны падбіваюць іх да зруйнавання астатніх замкаў той жа Рыжскай правінцыі. Апавядаюць таксама пра іхняе агіднае злачынства, страшны грэх, што калі кароль паганцаў разам са сваімі падданымі быў навернуты да веры Хрыстовае, і затым паставіў ва ўсім сваім каралеўстве асобных біскупаў і свецкіх прэзбітэраў а таксама братоў Ордэна, прапаведнікаў і меншых братоў, якія павінны былі застацца там на выкараненне аблудаў, прасвятленне і насаджэнне сапраўднай веры, тыя ж прэцэптары і браты [Нямецкага ордэна], о ганьба!, як руйнавальнікі той жа веры пастараліся некаторых з гэтых біскупаў, прэзбітэраў і братоў схаванымі, таемнымі захадамі адтуль выгнаць, а некаторых нават забіць. І такім чынам, паганцы, нават навернутыя да веры, адкінуўшы святло праўды, о гора!, зноў прынялі даўнія аблуды, а былы Летоўскі катэдральны касцёл, які існаваў некалі ў памянёным каралеўстве, разам са сваім местам і дыяцэзіяй, з годнаю шкадавання небяспекай для душаў і целаў многіх вернікаў быў акрутна зруйнаваны. Таксама хрысціянскі народ зямлі Земгаліі, што меў біскупа і прававерных прэзбітэраў, якія спраўлялі касцёльныя сакраменты, тыя ж прэцэптары і браты цалкам знішчылі, запрасіўшы на банкет знатнейшых людзей гэтай зямлі, яны па-здрадніцку і з нечуванай лютасцю сцялі ім галовы, а рэшту — вялікую колькасць народа памянёнай зямлі, звыш ста тысяч вернікаў абаякага полу, без жалю выгналі на землі паганцаў, і згаданыя вернікі на згубу веры былі аддадзены гэтым паганцам у вечную няволю. Таму біскупства Земгаліі, якое мела дыяцэзію з абсягам на сем дзён шляху, было цалкам знішчана. А каб увогуле перашкодзіць пашырэнню веры ў памянёных краях і адабраць любую магчымасць абвяшчэння слова Божага, яны дашчэнту зруйнавалі замак Брунсберг, ганебна выгнаў-

шы адтуль братоў з Ордэна меншых [братоў], і цяпер увогуле не дазваляюць нікому займацца прапаведваннем слова Божага, бо меншыя браты з гэтага замка той жа Рыжскай правінцыі рупліва прапаведавалі сярод памянёных паганцаў і нястомна абвяшчалі слова Божае, а адзін брат згаданага Ордэна заўсёды працаваў сярод гэтых паганцаў ды вылучаўся святасцю слоў і спраў, штодня адраджаючы вадою хросту тых, хто ўжо быў прасветлены пазнаннем сапраўднай веры. Не дазваляюць яны таксама будаваць для неафітаў касцёлы, малельні і капліцы, таму згаданыя неафіты, не навучаныя пачаткам веры і не маючы ўдзелу ў касцёлах разам з прававернымі, ні ў веры, ні ў звычаях не падобныя да вернікаў. А яшчэ, наследуючы найгоршую завядзёнку тых жа паганцаў, яны, калі здарыцца каму з іхніх братоў быць параненым у бітве з ворагамі ці ў нейкай сутычцы, перш чым тыя памруць, без усялякага жалю і з дзікай лютасцю, насуперак звычаю той жа сапраўднай веры забіваюць іх, спальваючы затым целы ў полымі агню. А каб згаданыя раней ды іншыя жахлівыя іх злачынствы не дайшлі да ведама таго ж святога пасада, яны жорстка праследуюць і забіваюць самі ці рукамі іншых усіх верных, духоўных і свецкіх, якой бы годнасці або стану яны не былі, калі тыя, змушаныя гэтым праследаваннем, вырушаюць да апостальскага пасада, каб звярнуцца са скаргамі на іх. Пра гэта яскрава сведчыць прыклад нябожчыка майстра Алесія, доктара права, Торуньскага пробашча і шмат іншых асоб, якіх яны бязлітасна забілі пры вяртанні з Рымскай курыі, да якой тыя выправіліся са скаргамі супроць іх. Не спыняючы памянёныя злачынствы, але жадаючы схаваць іх і, застаючыся ліхімі, паказаць, што добрыя, яны трымаюць варту ля неабходных пераходаў і шляхоў, якімі пры пільнай патрэбе можна выйсці з места Рыжскага да той жа курыі і вярнуцца назад, каб уваход і выхад з яго быў вольны толькі асобам, пажаданым для іх. І таму памянёнае места, не маючы вольнага ўваходу і выхаду, змушана цярпець страты ад гэтай цяжкай аблогі. А каб узмацніць аблогу, яны перакрылі ўсе шляхі да яго ды нахабна захапілі і трымаюць замак ля вышэйшай часткі места і порт Дзюнамюндскага кляштара цыстэрцыянцаў Рыжскай дыяцэзіі ля ніжэйшай яго часткі, над якім Рыжскі касцёл мае правы патраната. І таму цяпер ніхто ні сушаю, ні морам не можа ні ўвайсці, ні выйсці з таго ж места. Зрабілі яны гэта, спасылаючыся на нейкі акт куплі, відавочна, незаконны, бо адчужэнне кляштараў забаронена святымі канонамі, да таго ж ўсялякі кантракт адчужэння самога Дзюнамюндскага кляштара быў спецыяльна забаронены адмысловым прывілеем светлай памяці Папы Грыгорыя VIII, нашага папярэдніка. Таму ў гэтых правінцыях, дзе Пан памнажаў свой Касцёл нараджэннем новага, навернутага да веры, патомства, калі там пачала лютаваць гэтая хатняя зараза, не толькі не развіваецца далей ужо ўкаранёная і моцна ўсталяваная вера, але цяпер пры такім праследаванні яна гіне, і калі хутчэй не запабегчы хваробе дзейснымі лекамі, то ў памянёных краях загіне сама назва хрысціянства. Нядаўна ж да нашага слыху дайшло,



што, сказаныя прэцэптары і браты таго ж шпіталя, прабраўшыся як ворагі на зямлю ўмілаванага сына нашага, шляхотнага мужа Уладзіслава, князя Сандаміра і Кракава, у горадзе Гданьску забілі мячом звыш дзесяці тысяч чалавек, несучы смерць нават немаўлятам у калысках, якіх пашкадаваў бы і вораг веры. Тыя ж прэцэптары і браты ўчынілі шмат іншых злачынстваў, пералік якіх быў бы занадта вялікі, калі б усе яны былі змешчаны ў гэтым лісце. Мы ж, якія з волі Пана ачолілі кіраванне вінаграднікам Панскім, жадаючы, каб у ім набіралі моцы парасткі цнотаў, пасля таго як будуць зрэзаны церні заганаў, а таксама зважаючы на ўсё раней сказанае пра памянёных прэцэптараў і братоў ды ўважаючы гэта шкодным і супярэчным нашай веры, а нават варожым сэрцу ўсіх верных Хрыстовых, не можам безуважна прайсці міма насуперак свайму сумленню і бачым таксама, што адкладаць у такіх выпадках неабходныя захады для выпраўлення становішча было б нічым іншым, як даваць дазвол на злачынствы. Таму, маючы ў Пане поўны давер да вашай разважлівасці і руплівасці, мы настойліва заклікаем і заахвочваем вас, строга наказваючы ў прадпісаннях апостальскага ліста, каб асабіста выправіўшыся да тых краёў або да пэўных месцаў у тых краях, якія вам могуць падацца больш прыдатнымі для выканання гэтай справы, і маючы перад вачыма аднаго толькі Бога, вы старанна шукайце праўды ў дачыненні да ўсяго раней сказанага, а таксама да артыкулаў, якія мы вызначылі для вас, уключыўшы пад нашаю булаю, і да іншых злачынстваў і праступкаў, у якіх вы знойдзеце публічна звінавачанымі згаданых прэцэптараў і братоў таго ж шпіталя, якія знаходзяцца ў памянёных правінцыях і краях. Старанна і пільна даследаваўшы праўду, дакладна паведаміце пра гэта нам, выклаўшы ўсё, што знойдзеце, на пісьме, належным чынам афармíўшы і змацаваўшы сваімі пячацямі. Зрэшты, учыніце так, каб Дзюнамюндскі замак і кляштар, які згаданыя прэцэптары і браты, як сказана раней, пад выглядам куплі захапілі і трымаюць, быў цалкам пакінуты і звольнены тымі ж прэцэптарамі і братамі ды аж да адпаведнага рашэння апостальскага пасада ўтрымліваўся ад імя таго ж пасада, а таксама старанна ахоўваўся прыдатнымі і вернымі асобамі, якіх вы паруліцеся выбраць дзеля гэтага. Але каб больш вольна вы маглі заняцца выкананнем папярэдняга, вас неабходна надзяліць і большай уладаю для гэтага. Таму вам дазваляецца заклікаць на дапамогу і для садзеяння ў выкананні ўсяго папярэдняга, калі будзеце лічыць гэта неабходным, як прэлатаў, так і ўладцаў ды іншых свецкіх, якога б узроўню або стану яны не былі ці якой бы годнасцю яны не вызначаліся. Даём вам гэтым лістом поўную магчымасць утаймавання праціўнікаў і бунтаўнікоў, а таксама сведкаў, якіх вы для гэтага пажадаеце заклікаць, праз выракі экскамунікацыі, суспензіі і інтэрдыкту, а таксама пазбаўленне прывілеяў, дадзеных ім памянёным пасадам. Гэтаму не перашкаджаюць пастанова пра дзве дыеты*,

* Dieda (*лац.*) —адлегласць, якую можна прайсці на працягу аднаго дня.

прынятая на Сусветным саборы, і пастанова пра прызыванне да суда па-за сваім местам і дыяцэзіяй і звыш адной дыеты ад мяжы сваёй дыяцэзіі, хіба толькі ў пэўных выключных выпадках, а таксама некаторыя іншыя пастановы, якія маглі б нейкім чынам супрацьстаяць вашай юрысдыкцыі ці ўладзе і яе вольнаму выкананню або таксама сітуацыя, калі сведкі, якіх давялося б дзеля гэтага заклікаць, былі б з ордэна прапаведнікаў, меншых братоў ці з нейкіх іншых ордэнаў, ці калі гэтым Ордэнам быў бы дадзены прывілей памянёнага пасада, каб браты памянёных ордэнаў не маглі быць прымушаны да дачы сведчання ў нейкіх справах ці цяжбах, або калі згаданым прэцэптару і братам тым жа пасадам дадзены прывілей, што яны не могуць быць паддадзены экскамуніцы, суспензіі ці інтэрдыкту праз апостальскія лісты, якія не робяць поўнага і выразнага даслоўнага напаміну пра такі прывілей і некаторыя іншыя індульгенцыі, прывілеі і апостальскія лісты, якія б яны не былі і ў якой бы слоўнай форме не былі дадзены, у якіх змяшчалася б нейкая, не акрэсленая ці ўвогуле не ўстаўленая ў гэты ліст, перашкода ў выкананні папярэдняга. Калі вы абодва не зможаце ўзяць удзел у выкананні гэтага, хай выканае гэта прынамсі адзін з вас.

Дадзена ў Авіньёне, у XIII [дзень перад] ліпеньскімі календамі, у пяты год нашага пантыфікату.

[1] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии / Введ., пер. и коммент. С. А. Аннинского. М., 1938. С. 455—456; Данилевич В. Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896. С. 113; Беляев И. История Полотска. М., 1872. С. 21; Штыхов В. Г. Города Полоцкой земли. Мн., 1978. С. 59.

[2] Liv-, Esth-, und Curländisches Urkundenbuch nebst Regesten / Hrsg. von F. G. von Bunge. [Abt. 1] Reval, Riga. Bd. I. 1853; Bd. II. 1855, Bd. VI. 1873 (Далей — Bunge).

[3] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии… С. 82.

[4] История Латвийской ССР / Под. ред. К. Я. Страздиня, Я. Я. Зутиса, Я. П. Крастыня и др. В 2 т. Т. 1. Рига, 1952. С. 112.

[5] Esth- und Livländische Brieflade. Dritter Theil. Chronologie der Ordensmeister über Livland, der Erzbischöfe von Riga und der Bischöfe von Leal, Oesel-Wick, Reval und Dorpat. Aus dem Nachlasse von R. von Toll, herausgegeben von Ph. Schwartz. Riga, Moskau, Odessa, 1879. S. 154.

[6] Seraphim A. Das Zeugenverhör des Franciscus von Moliano (1312) (Quellen zur Geschichte des Deutschen Ordens o. N.). Königsberg ,1912. S. 128.

[7] Seraphim A. Das Zeugenverhör … S. VIII.

[8] Ibidem. S. IX—X.

[9] Ibidem. S. X.

[10] Bunge. II. Nr. 608.

[11] Seraphim A. Das Zeugenverhör … S. XI.

[12] Jasiński K. Zajęcie Pomorza Gdańskiego przez krzyżaków w latach 1308—1309 // Zapiski historyczne. T. XXXI. R. 1966. Zesz. 3. S. 11-33.

[13] Seraphim A. Das Zeugenverhör … S. XII—XIII.

[14] Bunge. VI. Nr. 3064.



[15] Seraphim A. Das Zeugenverhör … S. XVII—XXII.

[16] Міндаў, кароль Літовіі, у дакумэнтах і сьведчаньнях = Mindowe, rex Lithowiae, in litteris et testimoniis / НАН Беларусі, Інст. гісторыі, Уклад., пер. на бел. мову, камент. А. Жлуткі. Мн., 2005. С. 90—95.

[17] Normes internationales pour l'édition des documents médiévaux // Folia Caesaraugustana. I. Diplomatica et sigillografia. Zaragoza, 1984. P. 13—16. Гл. таксама іх адаптацыю ў: Жлутка А. Метадычныя рэкамендацыі да публікацыі лацінскіх дакументаў XIII—XIV ст. Мн., 2005.

*Публікацыя А. А. Жлуткі*

— ◇ —

## СУДОВЫЯ ДАКУМЕНТЫ З САМАНАЗВАЙ «СПРАВА» Ў КНІЗЕ МЕТРЫКІ ВКЛ 30

У публікацыю ўключаны 10 дакументаў з кнігі Метрыкі ВКЛ 30 (1480—1546). Паводле нумарацыі публікатара кнігі Метрыкі ВКЛ 30 В. С. Мянжынскага, яны значацца ў ёй пад № 18, 21, 23, 24, 26, 49, 95, 108, 109, 122.

Гэтыя дакументы аб'яднаны не толькі наяўнасцю ў іх аўтэнтычнай назвы «справа», але і «геаграфіяй»: у кожным з публікуемых дакументаў згаданы населеныя пункты, якія адносяцца да тэрыторыі сучаснай Беларусі. Так, у дак. № 1 згадваецца маёнтак (мястэчка) Стваловічы Навагрaдскага пав. і ваяв. (сёння — Сталовічы, цэнтр Сталовіцкага с/с Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.); у дак. № 2 — мястэчка (замак) Любча (тагачасная назва — Любчо Навагрaдскага пав. і ваяв.), сёння — гарадскі пасёлак, цэнтр Любчанскага п/с Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.; у дак. № 3 разам з маёнткам Добрынь («Dobrún Duży»), які сёння знаходзіцца на тэрыторыі Польшчы, згадваецца вёска Гарадзішча Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. (тагачасная назва — Гарадзішча, маёнтак Берасцейскага пав.); у дак. № 4 — вёска Рогач, якая цяпер знаходзіцца ў Камянецкім р-не Брэсцкай вобл. (тагачаснае становішча — маёнтак, каля вышэйзгаданага маёнтка Гарадзішча). А ўвогуле ў публікуемых дакументах згадваецца больш за дзесятак геаграфічных аб'ектаў, датычных тэрыторыі Беларусі.

Публікуемыя дакументы паходзяць з вышэйшай судовай установы ВКЛ. Як вядома, велікакняжацкі (гаспадарскі) суд з'яўляўся вышэйшым агульнасаслоўным судом ВКЛ. Лічыцца, што «да 1564 г. буйныя феадалы карысталіся правам выключнай падсуднасці, іх справы разглядаў велікакняжацкі суд, што ўскладняла пералік (улік? — *В. М., Ю. Н.*) прад'яўляемых ім іскаў дробнымі і сярэднімі феадаламі»[1]. У публікуемых дакументах адбіты судовыя справы, датычныя прадстаўнікоў розных саслоўяў: магнатаў, шляхты, мяшчан, гандлёвага саслоўя («жыдоў»), нават, сялян. Разам з тым з іх вынікае, што, нягледзячы на складанасць прад'яўлення іскаў буйным феадалам, выпадкі падобнага прад'яўлення меліся (гл.: дак. № 3, 4, 8).

Публікуемыя судовыя дакументы даюць матэрыял для вывучэння адпаведнасці судовай практыкі, судовых рашэнняў звычаёваму

праву ВКЛ, а таксама іх дастасавання нормам феадальнага права, выкладзеным у Статуце ВКЛ 1529 г.

У «Методических рекомендациях по изданию и описанию Литовской Метрики» пры выкладанні складання рэдзагалоўкаў да судовых дакументаў ВКЛ патрабуецца ўносіць ў загаловак найменне «вырак» («вырок»)[2]. У «Метадычных рэкамендацыях па публікацыі рукапісных кірылічных крыніц у Беларусі» прыводзіцца наступнае патрабаванне: «Загалоўкі прыгавораў суда будуюцца па наступнай схеме: 1) назва падразнавіднасці — «прыгавор»…»[3] Зразумела, у дадзеных метадычных распрацоўках не ставілася мэта ахапіць усе розныя віды судовых дакументаў, сярод якіх значную частку аптымальна пазначаць найменнямі «рашэнне», «судовы ліст», але не найменнем «вырак», «прыгавор». Да такіх дакументаў належыць і большасць публікуемых намі.

У «Метадычных рэкамендацыях па выданню і апісанню Літоўскай Метрыкі» адзначаецца: «Сярод дакументаў, якія ўзніклі ў працэсе незавершанага суда, выкладанне судовага канфлікту («справа» …»[4], г. зн. што ў іх звяртаецца ўвага на тое, што найменнем «справа» пазначаюцца толькі дакументы, якія ўзніклі ў працэсе незавершанага суда. А ў публікуемых дакументах відаць, што найменнем «справа» абазначалі не толькі дакументы, якія ўзнікалі ў працэсе незавершанага суда, у прыватнасці, адкладзенага або перанесенага судовага працэсу (сярод публікуемых намі да такіх дакументаў адносяцца дак. № 3—5, 10), але і створаныя пасля завяршэння судовага працэсу. Належыць адзначыць, што найменнем «справа» ў судовай практыцы ВКЛ часта абазначаліся (што відаць з дакументаў кніг Метрыкі) сярод дакументаў завершанага суда судовыя дакументы, у якіх, акрамя прыгавору, выкладаліся прэтэнзіі (іскі) старон.

Змест публікуемых дакументаў даволі разнастайны. У большасці выкладаюцца маёмасныя справы, у шэрагу дакументаў разглядаюцца справы па ўладанні маёнткам. Напрыклад, у дак. № 1 фіксуецца тое, што князі Чартарыйскія неаднаразова скардзіліся вялікаму князю на незаконнае валоданне маёнткам княгіняй Астрожскай. Вялікі князь у адпаведнасці са Статутам ВКЛ і звычаёвым правам, з улікам таго, што княгіня неаднаразова не з'яўлялася ў суд на разгляд судовай справы, прыняў рашэнне на карысць князёў Чартарыйскіх (аддаць ім маёнтак). У тэксце дак. № 1 згадваецца рээстр, у прыватнасці, паведамляецца: « И с чимъ тоѐ именьѐ буде*т* | имъ подано, ѐго м(и)л(о)сть каза*л* тому дворенину то все достаточъне на ре*й*|стръ списати. И одинъ ре*й*стръ того попису имъ дати, а друго*й* до ко|роля его м(и)л(о)сти принести». Пад рээстрам маецца на ўвазе спіс нерухомай маёмасці.

У шэрагу дакументаў разглядаюцца справы па вяртанні пазыкі. Так, у дак. № 8 выкладзена грашовая справа берасцейскіх мяшчан М. Каліховіча і С. Несцяровіча супраць двараніна і яго жонкі, пры гэтым на судовы працэс мяшчанамі прадстаўлены лісты і квіты пазы-



кі першага мужа (нябожчыка «пана Яна Авърамовича») жонкі дваранiна, супраць якога вядзецца справа. Паводле рашэння гаспадарскага суда частку пазыкі дваранiну і жонцы належыць выплаціць адразу, а другую частку — сыну нябожчыка, калі ён дасягне паўналецця.

Дакументы друкуюцца паводле тых жа археаграфічных правілаў, якія ўжывалі аўтары ў вып. 6 БАШ.

**1.** ***1546.03.29. [Вільня].*** **— Рашэнне кар. поль., вял. кн. літ. Жыгімонта Аўгуста і Паноў Рады па справе старасцічаў луцкіх кн. Аляксандра Фёдаравіча і кн. Івана Фёдаравіча Чартарыйскіх са старасцінай браслаўскай і веніцкай кнг. Іллінай Канстанцінавіча Астрожскай Біятай аб маёнтку Стваловічы на карысць Чартарыйскіх.**

**Справа старостичо*в* луцки*х* кн(я)з8 Алекса*н*дра а И|вана Чо*р*торыски*х* с кнегинею И*л*иною Остро*з*скою | кнегинею Би8тою о име*н*е Стволовичы | близко*ст* ихъ.|**

Ле*т*(о) Бо*ж*(его) наро*ж*(еня) 1546, м(е)*с*(я)ца ма*рт*(а) 29 де*н*(ь), инди*кт* 4.|

**Г**(о)*с*(по)д(а)рь король его м(и)л(о)*с*ть казалъ записати.

Што пе*р*во сего неодно|кроть жаловали королю его м(и)л(о)сти старостичи луцкии кн(я)зь Але|късандро а кн(я)зь Иванъ Федоровичи Чорторыскии на старостиную бря|словъскую и веницкую кн(е)г(и)ни[*] И*л*иную Косте*н*тиновича Остро*з*скую кн(е)г(и)ни | Бияту.

О томъ, ижъ которое именье Стволовичы дя*д*ко рожоны*й* не|бо*ж*чика кн(я)зя Федора Чо*р*торыского, отъца ихъ, панъ Во*й*на Немиричъ | записа*л* у вене жоне свое*й* кн(е)г(и)ни Ровенъско*й* у тре*х*сотъ копахъ гроше*й* | до жывоте ее, а по животе ее мело де*й* тое именье спасти на о*т*ца | ихъ, небожъчика, кн(я)зя Федора Чо*р*торыского, яко на близкого. И кгды | кн(е)г(и)ни Ровенъское в животе не стало, тогды де*й* тое именье воевода | тро*ц*ки*й*, небожчикъ, кн(я)зь Костенътинъ Ивановичъ Острозъски*й* з ынъши|ми именьи кн(е)г(и)ни Ровенъское к рукам своим взялъ. О чомъ жо | де*й* отецъ ихъ не мо*л*чалъ, як черезъ приятеле*й* своихъ кн(я)зю | || [43 (16)] Косте*н*тину ся впомина*л*, такъ те*ж* де*й* королю его м(и)л(о)сти ста*р*шому отъцу | его кролевско*й* м(и)л(о)*с*ти на него жалова*л*, абы того именья, яко близъкости | его, ему ся поступи*л*.

Нижли де*й* кн(я)зь Костенътинъ за живота своего | того именья ему ся поступити не хоте*л*, а по сме*р*ти де*й* кн(я)зя Костенъти|ново*й* тогды тое именье спало на ма*л*жонъка ее кн(я)зя И*л*ю Костенъ|тиновича Острозъского. Где*ж* де*й* оте*ц* ихъ, небожчикъ кн(я)зь Федо*р* Чо*р*то|рыйски*й*, королю его м(и)л(о)*с*ти ста*р*шому и на ма*л*жонъка ее жалова*л*,| и листы позовъными пере*д* его кролевъскую м(и)л(о)*с*ть его позывал, и очеви|сто з

[*] Так у рукапісе, трэба чытаць «кн(е)г(и)ню».

нимъ у праве стоял. Лечъ дей его кролевъская м(и)л(о)сть на онъ часъ | конъца жадного межи ними в томъ не вчинил. А затымъ дей малжон|ка ее кн(я)зя Или в животе не стало. По котором дей тоė именье Ство|ловичи поспол з ынъшими именьи спало и пришло в руки ее и дочъки ее,| которыи дей именья менить быти малжонъка своего, кн(я)зя Или, ма|теристыми. И тепер дей тое именье близкость ихъ Стволовичи къ | своимъ рукамъ держить и вживаеть, а имъ того именья поступити | не хочеть.

О чомъ жо они, перво сего, на прошлыи роки судовыи, усту|пивъшы в постъ великий, индикъта третего, такъ год вже минулъ,| листы г(о)с(по)д(а)рьскими позовъными перед его милость ее ку праву позывали, | и сами за позваньемъ своимъ до его кролевской м(и)л(о)сти приездили, и перед | его м(и)л(о)стью ся становили, и пилность чинили. А она на тотъ рокъ отъ них | позваный сама из дочъкою своею перед его м(и)л(о)стью стати и росправы в том | з ними приняти не хотела.

Где корол его м(и)л(о)сть на онъ часъ, заховываючи | ‖ [43адв. (16адв.)] ихъ водле обычаю права, децкого Гаврила Рогачовского по нее посылалъ, ко|торый жо в нее был и рокъ ей перед его м(и)л(о)стью стати назначил, на роки судовыи | прошлыи, которыи были о св(е)томъ Михале, индикта четвертого. И кгды тыи | роки судовыи св(е)того Михала пришли, кн(я)зи Чорторыскиė также перед коро|лемъ ėго м(и)л(о)стю ся становили, а отъ нее служебникъ ее Миско до ко|роля его м(и)л(о)сти приездил.

Нижли его м(и)л(о)сть на онъ часъ для хоробы | своее г(о)с(по)д(а)рьское тую справу кн(я)зей Чорторыскихъ с тыхъ роковъ судовыхъ св(е)того | Михала на другими роки судовыи, уступившы в постъ великий на первую неде|лю индикта четвертого, отложыть рачил, в той же моцы, якобы и на | томъ року за онымъ децкимъ мела тая реч конец свой приняти. На кото|рый жо рокъ, отъ короля его м(и)л(о)сти зложоный, уступивъшы в постъ | первое недели, мели они, обедве стороне, за тыми жъ позвы и за децки|мъ, который вжо по ездил, перед королем его м(и)л(о)сть стати и росправу | в томъ съ собою приняти.

То пакъ кн(я)зи Чорторыскиė водле преложеня | оного року, уступивъши в постъ первое недели, перед королемъ ėго | м(и)л(о)стю ся становили и со всимъ доводомъ своимъ ку праву при|слухаючимъ готови были. Нижли она также перед его м(и)л(о)стю не ста|ла, одно служебника своего з листомъ своимъ до короля ėго м(и)л(о)сти | писанымъ присылала, просячи ėго м(и)л(о)сти, абы его м(и)л(о)сть | ėще на который малый часъ до приėханья ее тоė справы рачилъ помъ|кнути а хотячи сама, не мешъкая, до его кролевъской м(и)л(о)сти ся по|спешыти и кн(я)земъ Чорторыскимъ и инъшымъ, которыи ее перед коро| ‖ [44 (17)] ля его м(и)л(о)сть позвали, права достояти.

Якожъ его м(и)л(о)сть того року | за прозбою ее и над обычай права на тыйдень и далей ей отъкладати | рачил.



А она и на тотъ часъ предся перед его м(и)л(о)стю не стала, одно слу|жебника своего Миска до короля его м(и)л(о)сти присылала. Который | водле права жадъное моцы и порученья в той речи с кн(я)зи Чорторыски|ми мовити не мелъ, ани того перед его м(и)л(о)стью оказал. Для чого жъ | кн(я)зи Чорторыскиė просили короля, ėго м(и)л(о)сти, абы его м(и)л(о)сть | вжо болшей того отъволоки чинити имъ не допустил а водъле | статуту земъского в томъ ихъ заховати рачилъ.

А так король его | м(и)л(о)сть, с Паны Радами в томъ обмовивъши и бачечи на то кгдыж | она первей сего яко на позвы, такъ и за децкимъ, и потомъ на роки | отъ короля ėго м(и)л(о)сти зложоные, перед его м(и)л(о)стю ку отъказу кн(я)зем | Чорторыскимъ не стала, ани з зуполною моц(о)ю водле права к тому | часу не прислала, тогды они далей не повинъни шкоды и продлуженя | у справедливости своейназвышъ права приймовати. Гдеж виделосе его м(и)л(о)сти,| за нестатьемъ еė водле статуту, ку увезанью и держанью того именья кн(я)зей | Чорторыскихъ допустити до права.

И для того рачил ėго м(и)л(о)сть дворенина | своего Яна Миколаėвича Гайка тамъ послати. Которому росказал ėго м(и)л(о)сть | тоė именье Стволовичи со всимъ, яко ся у собе маеть, кн(я)земъ Чорторы|скимъ подати и в то ихъ увезати до права.

И с чимъ тоė именьė будет | имъ подано, ėго м(и)л(о)сть казал тому дворенину то все достаточъне на рей|стръ списати. И одинъ рейстръ того попису имъ дати, а другой до ко|роля его м(и)л(о)сти принести.| ‖ [44адв. (17адв.)]

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 42адв. — 44. *Копія канца XVI ст. Праваліс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

**2. *1546.03.29. [Вільня].* — Рашэнне Жыгімонта Аўгуста па справе падчашага гаспадарскага, дзяржаўцы васілішскага пана Мікалая Юр'евіча Радзівіла і маці яго, пані віленскай, з дваранінам гаспадарскім Станіславам Залескім Мядзведзем аб дзесяці службах людзей з вызваленнем апошняга ад выплаты грашовых страт, якія Радзівілы панеслі на гэтых службах за сем гадоў.**

**Справа п(а)ну Миколаю Юревичу Радивилу | и матцė его з дворенином г(о)с(по)д(а)ръским Станиславомъ | Залеским о неочищене десети служобъ людей | от него заставеных Любецких, которие кн(я)зи | Лубецкие отн8ли.|**

Лет(о) Бож(его) нарож(еня) 1546, м(е)с(я)ца март(а) 29 ден(ь), инъдиктъ 4.|

**Г**(о)с(по)д(а)рь корол ėго м(и)л(о)сть казал записати.

Жаловал королю его м(и)л(о)сти за листы | позовными подчаший ėго м(и)л(о)сти державъца василишъский панъ Миколай Юр|евичъ Радивил з матъкою своею п(а)нею виленъскою на дворенина г(о)с-

(по)д(а)рь|ского Станислава Залеского Медведя, через умоцованого своего п(а)на Флери|яна Жабридовъского.

О томъ, што жъ дей онъ заставил небожчику отцу | моему, пану виленскому, десять службъ людей Любецкихъ у шестидесят | копахъ грошей до року Божъего нароженья, котороė в ынъдикъте втором|надцать было, а безъ року тыхъ людей не мел въ его м(и)л(о)сти окупати, которыи ж | ‖ [48 (21)] люди онъ за увяжчоė свое отъ кн(я)жны Ганъны Любецкое был одержал. На шъ|то жъ и листъ свой записный ėго м(и)л(о)сть дал, которымъ ся такъ описал:| естли бы тые люди, на листе его имены описаныи, з моцы п(а)на ви|ленъского вынялъ, онъ то мел ėму очищати.

То покъ дей вжо тому семый | год кн(я)зь Дмитрей а кн(я)зь Иванъ Любецкие тые люди моцно кгвалтомъ | з рукъ отъца моего взяли и в дел ровъный промежи себе з братьею своею | поделили. А онъ водле запису своего тыхъ людей очищати и в моцъ и дер|жанье отъцу моему, а по смерти отъца моего мне ихъ подати не хочет. | Где, того доводячи, и листъ его записаный перед королемъ ėго м(и)л(о)стью покла|дал, просячи, ажъбы Залеский тые люди водле запису своего имъ очистил | и к рукамъ ихъ подал. И за неслуженье службы черезъ вси тые ч(а)сы, и теж што | бы мело приходить платовъ и инъшихъ подачокъ, ажъбы то все | на Залескомъ водле запису ėго ėму сказано было.

И Станиславъ Залеский | перед королемъ ėго м(и)л(о)стю на то поведил, ижъ дей я был увяжъчимъ | кн(я)жне Ганъне Любецкой в Любчо, за суму пенезей ей на брате ее кн(я)зи Бо|гдане Любецкомъ, присужоную. Ино на онъ часъ кн(я)зь Богданъ росказанью | и листомъ ėго кролевъской м(и)л(о)сти противėнъ былъ и увязанья | в той суме поступити ей не хотел. За которую жъ дей противъность | корол его м(и)л(о)сть казал был его самого поймати и осудити. И потомъ дей | есьми в той суме предся за посланьемъ г(о)с(по)д(а)рьскимъ ėе в Любчо увезал. А она | мне за працу мою десять службъ людей у сту копахъ грошей поступила. | Которую жъ я десять службъ людей Любецъкихъ отъцу п(а)ну | Миколаеву у шестидесятъ копахъ грошей заставил и тотъ листъ свой записный | ‖ [48адв. (21адв.)] ėго м(и)л(о)сти дал. Нижли якомъ тые люди пану Юрю заставил я самъ з моцы | ėго м(и)л(о)сти, а нихто инъший тыхъ людей не выймал, лечъ дей панъ виленъский сам | доброволне тыи люди в дел кн(я)зем Любецкимъ поступил. А веджо дей естли | тыи люди были въ его м(и)л(о)сти отъняты, чому ėго м(и)л(о)сть на онъ часъ того | ся мне водле запису моего не въпоминал.

И корол его м(и)л(о)сть казал пытати | пана Миколая, естли бы отец его альбо онъ самъ о томъ не молчали | и листы або справу, которую коло того в себе мел, яко отъцу его тые люди з мо|цы взято, ėстли то жаловано.

И панъ Миколай поведил, иж того жъ часу, яко тыė | люди взяты, врадникъ отъца моего полонъский Васко Луковский вряду замъ|ку Луцкого то оповедил, и подстаростему луцкому то ожаловал, и въ кн(и)ги замъ|ковыи записати дал, и выпис с книгъ того подстаростего перед королемъ его | м(и)л(о)стью покладалъ, который кгды был вычътенъ, тогды ся то з оного | выпису оказало. Ижъ тотъ Васко Луковъский, врядникъ его полонъский, на | кн(я)зей Любецкихъ о то жаловалъ, а не на Залеского.



Чого ж корол ėго м(и)л(о)сть | за впоминанье противъку Залеского пану Миколаю положить не рачилъ.| Нижли казал ėго м(и)л(о)сть пана Миколая пытати, ėстли бы жалоба або | якоė упоминаньė о томъ на Станислава Залеского было.

И панъ Миколай | вказал на то перед его м(и)л(о)стью выписъ кн(я)зя Анъдрея Михайловича Санъ|гушъковича Коширского, старосты луцкого. Ижъ тому годъ, яко был о то | того Залеского перед него ку праву позвал, где онъ передъ нимъ очивисте | стоялъ. Нижли кн(я)зь староста, на онъ часъ в томъ межы ними конца | не вчинивъши, до короля ėго м(и)л(о)сти отъложил, лечъ року, на который бы | они мели перед королемъ ėго м(и)л(о)стью стати и въ томъ межи собою роспра|ву приняти, имъ не ознаймилъ.

А такъ корол его м(и)л(о)сть тыхъ всихъ речей | ‖ [49 (22)] и отъпоровъ ихъ з обу сторонъ выслухавъши, и с П(а)ны Радами в томъ объмо|вивъши, рачил з выроку своего г(о)с(по)д(а)рьского на томъ тую речь заставити. Кгдыжъ | на онъ часъ, коли тыи люди з моцы п(а)на виленъского были выняты | на Залеского не жаловано, ани его о очищėнье тыхъ людей не знайдовано, тогды | ėго м(и)л(о)сть Залеского в тыхъ службахъ и роботахъ и подачкахъ, што бы онъ водьле | запису своего виненъ ėму, оправовати отъ того часу, яко тыи люди в него отняты | и ему не служили ажъ до сего часу, кгды вжо жалоба на него перед кн(я)земъ ста|ростою была, волнымъ вчинити. А што ся ткнеть тоė жалобы п(а)на Миколаевы | отъ году, на што жалоба и выписъ кн(я)зя старостинъ на Залеского вышол, ачъ|кольвекъ бы мел справне Залеский за тотъ год тую шкоду, што ему тыи люди | не служили и платовъ и доходовъ не давали, пану Миколаю оправити и за то | досыть учинити. Нижли пану Миколаю коротъко ся в томъ стало от кн(я)зя | старосты луцкого, который тоė речи смотревъши, а водле статуту ся в томъ не | заховал, и року перед королем ėго м(и)л(о)стью ку той росправе стати имъ не назначил,| одно згола то на вырокъ ėго м(и)л(о)сти зложилъ и выпис дал. Для чого жъ ėго | м(и)л(о)сть и отъ тыхъ шкодъ за тотъ годъ Залеского волнымъ вчинить рачил.| Лечъ естли пан Миколай похочеть, тогды о то с кн(я)земъ старостою мо|вити маеть. А што ся тычеть тыхъ десяти службъ людей, которыи он | пану виленъскому заставилъ, ино его м(и)л(о)сть рачилъ отъ сего дня за шест[ь] | недел рокъ тому зложити. В которомъ часу, межи рокомъ, маеть Залеский | кн(я)зей Любецкихъ о тыи люди позвати и о то с ними мовити, и тыи люди | очистивъши, пану Миколаю на тотъ рокъ подати, або тыи пенези шесть|десят копъ грошей заплатити.| ‖ [49адв. (22адв.)]

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 47адв. — 49. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

**3. *1546.03.29. [Вільня].* — Рашэнне Жыгімонта Аўгуста і Паноў Рады адкласці справу дзяржаўцы магілёўскага пана Фёдара Бакі, гараднічага кіеўскага пана Івана Служкі і іх жонак, а таксама кнг. Васілевай Міхайлавіча Сангушкавіча Зафеі з зямянамі Трокскага павета Васілевай Андрэевіча Лозчынай Тамілай аб маёнтках Добрын (у Берасцейскім павеце), Рогач, Гарадзішча і рэчах рухомых да паўналецця дачкі апошняй.**

**Справа п(а)ну Федору Бацѐ а п(а)ну Ивану | Слу*ж*це и жона*м* *их*, такъже кн(е)г(и)ни Васи*л*евой | Санъгушковича Зофеи зъ Васи*л*евою Лоз*ч*иною | Томилою о то*м*, ижъ небо*ж*чикъ му*ж* ее *из* нею в ы*й*|ме*н*ю *их* материзное Рогачи въеха*л* и забра*л* […][*], […] | и о и*н*шие имена[**], што о*т*ложоно до ле*т* дочки ее.|**

Ле*т*(о) Бо*ж*(его) наро*ж*(еня) 1546, м(е)*с*(я)ца ма*рт*(а) 29 де*н*(ь), индиктъ 4.|

**Г**(о)*с*(по)д(а)рь коро*л* его м(и)л(о)сть рачи*л* казать записати.

Жаловали королю его м(и)л(о)сти | де*р*жавца могилевъски*й*, панъ Федо*р* Бака, а горо*д*ничи*й* киевъски*й*, панъ Иванъ | Слу*ж*ка з жонами своими, а своякиня ихъ кн(е)г(и)гя Васи*л*евая Михай*л*овича Са*н*|кгушъковича кн(е)г(и)ни Зофея за листы ѐго м(и)л(о)сти г(о)*с*(по)д(а)рьскими позо*в*ными, на зе|мянъку повету Тро*ц*кого Васи*л*евую Анъдреевича Лозъчиную Томилу.

О томъ,| ижъ му*ж* ее Васил*ей* Лозка за живота своего поспо*л* з нею в ы*й*менье материзну жонъ ихъ и свою те*ж* по сме*р*ти Анъдреевое Лозъчиноѐ безъ нихъ сами*х* и жонъ ихъ, в томъ ихъ не объсылаючи, моцне въехали. И о побранье в то*м* именью Рогачохъ статъковъ ее властных: пенезе*й* золотыхъ, сребра, пере*л*,| шатъ, ковровъ, цыну котло*в*, медо*в* пресныхъ, збожъя молочоного, коне*й* ѐздны*х* | стадныхъ, челяди нево*л*ноѐ, быдла и к тому о листы, привилья тве*р*дости | на тое жъ именьѐ спо*л*ноѐ Рогацкоѐ, и о листы записныи на до*л*ги тещи ихъ,| и о змолоченьѐ з гумна тамошнего Рогацкого ко*л*ко сотъ копъ жита, и те*ж* | о *й*менье Городище спадокъ ихъ властны*й*, которое му*ж* ее Лозъка без воли *их* | || [51 (24)] за триста копъ грошей прода*л*, и о именьѐ те*ж* Добринъ у повете Берестейскомъ, кото|рое она напротивъку земль ихъ материстыхъ отъменою держить. А они | напротивъку того никотороѐ отъмены отъ мужа ее, ани отъ нее самое | не маютъ, такъ, яко шире*й* на позве ихъ естъ описано.

Гдежъ Лозчиная на то | пере*д* королемъ ѐго м(и)л(о)стью поведила, ижъ она на тотъ позовъ не повинъна | имъ отъказывати, с тыхъ причинъ, ижъ мужу ее в томъ вина дана. И ачъ|кольвек на томъ позве то доложоно, же она восполокъ з нимъ, мужомъ | своимъ, в тоѐ именьѐ

[*] Тут і ніжэй у дакументах крыніцы ўжыты знак скарачэння «  », які азначае і т. д., і інш., далей будзе перадавацца праз […].

[**] Так у рукапісе, трэба чытаць «именя».



въехала, ино она мужу своему была жоною, а где му*ж* ее | въеха*л*, она с нимъ яко жона ѐздила. А звлаща, ижъ дочка ее яко потомо*к* | мужа ее а отъчичъка тыхъ имене*й* ѐще естъ мала и летъ зупо*л*ныхъ не маеть,| и для того она не можеть тепере з ними у право уступовати. И просила, абы | в тыхъ речахъ, яко вечъныхъ, которыѐ ся дочъки ее летъ не дорослое дотычу*т*,| и чого она не повинъна у праве е*й* упустити, отъ тыхъ позвовъ волъна была | вчинена а водле статуту в томъ захована.

А такъ коро*л* ѐго м(и)л(о)сть с Паны | Радами ихъ м(и)л(о)стью в томъ обмовившы, и розумеючи тому, кгдыжъ | у позвехъ ихъ мужу ее вина дана, а она яко з мужомъ тамъ до того име*н*я | уехала, а дочъка ее отъчичъка тыхъ имене*й*, которо*й* яко потомъку мужа ее | то належить, летъ зупо*л*ныхъ ѐще не маеть, тогды рачи*л* ѐго м(и)л(о)сть з выроку | своего г(о)*с*(по)д(а)ръского отъ тыхъ позвовъ ихъ во*л*ною ее вчинити. И рачи*л* его м(и)л(о)сть | тую речь ихъ, о што-ко*л*векъ они ее тепе*р* позывали и яко на позве ихъ опи|сано, до летъ дочъки ее отъложити. А кгды она лета свои мети будеть,| а имъ естли будеть о томъ котороѐ дело, тогды они мають на онъ часъ | дочку ее правомъ в томъ уживати.| || [51адв. (24адв.)]

РДАСА. Ф. 389. Воп. 1. Адз. зах. 30. Л. 50адв. — 51. *Копія канца XVI ст. Правапіс адаптаваны. Публікуецца ўпершыню.*

**4. *1546.03.29. [Вільня].* — Рашэнне Жыгімонта Аўгуста і Паноў Рады прыпыніць справу зямян Трокскага павета Васілевай Андрэевіча Лозчынай Тамілы з дзяржаўцам магілёўскім панам Фёдарам Бакам, гараднічым кіеўскім панам Іванам Служкам і іх жонкамі, а таксама кнг. Васілевай Міхайлавіча Сангушкавіча Зафеяй, дваранамі гаспадарскімі Грынашкам Шалухам і Мікалаем Станіслававічам Скіндзірам для правільнага афармлення «позвы» (павесткі) у суд і ўнясення ў яе імя дачкі — Багданы, як спадчынніцы трэцяй часткі маёнтка Рогач, па завяшчанні бацькі Васіля Лозкі.**

**Справа Васильево*й* Лозъчыно*й* зъ с пано*м* | Фѐдоромъ Бакою, а пано*м* Ивано*м* Слу*ж*кою, и зъ жо|нами ихъ, такъже и*с* кнегинею Васильевою | Со*н*гушковича Зофеѐю о третюю ча*ст*(ь) имѐ*н*я Рогачъ.|**

Ле*т*(о) Бо*ж*(его) наро*ж*(еня) 1546, м(е)*с*(я)ца ма*рт*(а) 29 де*н*(ь), индиктъ 4.|

**Г**(о)*с*(по)д(а)рь коро*л* его м(и)л(о)сть каза*л* записати.

Жаловала королю ѐго м(и)л(о)сти за листы | ѐго м(и)л(о)сти г(о)*с*(по)д(а)рьскими позовъными земянъка повету Тро*ц*кого Васи*л*евая Анъ|дреѐвича Лозъчиная Томила черезъ приятеля своего Ма*р*тина Воло*д*кевича| на де*р*жавъцу могилевъского п(а)на Федора Баку, а горо*д*ничого киевъского Ивана Слу*ж*ку,| и жонъ ихъ, и своякиню ихъ, кн(е)г(и)ню Васи*л*ѐвую Михай*л*овича Санъкгушъковича | кн(е)г(и)ню Зофею, и дворянъ ѐго м(и)л(о)сти г(о)*с*(по)д(а)рьскихъ Гринашъка Шалуху а Миколая | Станиславовича

тое плебании городиловское належачих. А хотя бы дей и вси учасники позвали, тогды не одного мене держачого мели позвати бо нечо много первей того о тое ж имене выбите спокойно держаню право вести зачала. Але с паном Ясенским тогды и ест в позве докладати и позывати мели бо дей [34адв.][…] мою тое имене не арендою якою, але ве[чистым] правом в петисот копах держымъ и показавшы […] або поведал же дей тое право не вобычай права абы […] росправоват зъ стороною. Але толко вам мостям сам[…]новее суд и показую абымъ с тевертым ясней о[…]чыт и розумет рачыли же тое имене от пана Ясенского […] арендою, але вечностю есть нам записано, до которого […]ва если сторона хто што хоче мовити або поз[ва]ти нехай же позовет з нами и пана Ясенского якого […] право вести зачали водлуг декретов трыбунал[ных] не до зоставы або аренды яко они собе зи[…], але до вечности и мы там готовы будемъ […] а за ти и право вечистое за которым пан Ясенский дер[…] тоет лист од яку брала и потвержене г(оспо)дарское […]д неузнаваючы абы сторона што до права мовила […] о чым право бурила. Але присегу пану Заливаце на том […] фундушов[*] от пана Ясенского и листу арендовного не […] яко они в позве жалуют же якобы то ойцу пана [Яс]енского до схованю зошлым плебан городиловский дати […] наказали на што пан Заливака поведиль же […] и с тою присегою не приймуючы за слушный всим […] се то не за теперешнех статуту дело а они прихиляючысе до артыкулу в теперешнем статуте […]го мененом присегу наказали, а иж никто ни за кого терпети не повинен. А то не ему мешат же бы даю до захованю и от тое присеги до суду головного трыбунального апелевал и доводечы тоже того имению [35] тыи ж особы под паном Ясенским доходили не жадною а[…]. Але выбит ему спокойного держаня положил декрета два суду головного трибуналного под датою року тисеча пятсот деветдесят третего м(есе)ца декабра двадцат второго дня, а другий декрет року тисеча пятсот деветдесят четвертого м(есе)ца декабра девятого дня указуючы потом декретами иж тая справа от имене Слижино опо[…] они позывают вжо черз тые декрета скончона ест […]тая маетности пану Ясенскому всказана и пр[…] есть и иж сторона незаховуючысе водлуг тых […] суду головного трибуналного и наншымъ спо[…] позвала не до вечности, але змыслившы собе я[…]ду тогды не повинен болшъ над тые декрета [по]казывати и сторона без пана Ясенского се у справе длив[…]а суд ступовати далей пану Заливаце наказатъ […] беречи собе то за головную речь до суду головного трибуналного от того всказу ихъ м(и)л(ос)ти апелевал нижли […] ему тое апеляцыи допустити не хотел што […]. Андрей Заливака нами осветчывшыся проч от су[…] отышол чого мы будучы сведоми и при чом есмо о[со]бы вси верху писаные были и што слышели на сем кв[и]те на[…] написавшы печати есмо свое приложили и

[*] Фундуш — ахвяраванне, запіс маёмасці або грошай касцёлу.



руками своими подписавшы для подпорыча у справа пану Андрею Заливаце ку записаню до книг кгродских менских даем.

Писан року м(еся)ца и дня выш писаного, у того квиту печатей причиненных шести, а подпису рукъ тыми словы: Ян Остроух власною рукою подписалъ [35адв.], Готардъ Ходорковский власною рукою, Jan Woiszyński ręką wlasną[*], Symon Pawłowicz ręką swą, Piatrz Kamenski ręką wlasną. А которое очевистое сознане особъ в том [кви]те помененых и квит ихъ до книг кгродских менских естъ уписан.

Выпис выдан.

НГАБ. Ф. 1727. Воп. 1. Спр. 1. Л. 33—35адв.

**№ 2**

**1600.03.05. Менск. — Скарга ксяндза Яна Рачынскага на зямяніна маёнтка Сліжын Андрэя Заліваку за збіццё і рабунак шляхціцаў, што былі пры возных пад час дастаўкі позваў.**

[170] Року 1600 м(еся)ца марца пятого дня.

На враде г(оспа)дарском кгродском в замку Менском передо мною Яном Курошом, подстаростим менским, жаловал и оповедал ксендзъ Ян Рачинский, плебан и олтариста[**] городиловский, черз служебника своего Петра Кгутовского тым способом, што ж дей в року тепер идучом тисеча шетсотном м(еся)ца марца четвертого дня послал дей был тот ксендзъ Ян Рачинский возного[***] воеводства менского Офанаса Сижинъского стороною двема шляхтичими: паном Мартином Андреевичом Юринским, паном Бартошом Хмелевским с позвы головными трыбуналными до земенина г(оспо)дарского воеводства менского пана Андрея Костантыновича Заливаки и до малжонки его пани Ганны [170адв.] Яновны Ясенское до именя их двора Слижинского[****] у воеводстве менском лежачого для подания тых позвов головных трыбуналских и кгды дей тот возный с тою стороною верху именем писаною до именя их Слижинского прыехал и тые позвы у ворота того двора Слижинского у великие уездные увоткнул. Тогды в том часе наполнившысе воли свое сам особою своею пан Андрей Костантынович Заливака слугами и подаными своими, которых он имена знает и прозвишча их ведаети того дей возного от тое стороны отогнавшы, тую сторону учьтивых шляхтичов: пана Мартина Андреевича Юринского, земенина воеводства менского, а пана Бартоша Хмелевского побил и помордовал и шкод ли вением их поранил и им дей грабежъ учынил. А то естъ перве у того пана

[*] У тэксце прапушчана імя Шчаснага Яроша.

[**] Алтарыст — святар.

[***] Возны — службовая асоба ў ВКЛ, ніжэйшая пасада выканаўчай улады ў павеце; у яго абавязкі ўваходзіла ўручэнне позваў у суд, агляд месца здарэння, ахвяр злачынства і складанне рэляцыі аб гэтым. У кожным павеце іх было некалькі.

[****] Маёнтак Менскага ваяводства, цяпер в. Сліжын.

Мартина Юринского взял и пограбил: коня шерстию тисавого, купленого за дванадцат коп* грошей, седло козанкое, купленое за две копе грошы, узду, купленую за грошей шет, кордь**, купленый за тры золотых полских, мешок замшовый, а в ним было сорок грошей, нагайку, купленую за тры грошы. У Бартоша Хмелевского взял и пограбиль: ручницу*** коротќую кожю оправную, купленую за две копе грошей, кордь, купленый за два золотых полских, мешокъ, в котором было копа грошей литовских, проховницу****, купленую за чотырнадцат коп литовских; торбы две: одна скуроная з листами, а другая суконная, в которой было две кошули тонких, хлеба два бохана. Яко ж пры том оповеданю и возный воеводства менского Январ Пах до мене подстаростем в року теперешнем тисеча шетсотном м(еся)ца марца пятого дня [171] прышодшы очевисто вызнал и того вызнаня своего квит свой под печатю своею и двема печатми сторонными ку записаню до книг кгродских менских подал. Писаный в тые слова: я, Январ Пах, возный г(оспо)дарский воеводства менского, сознаваю бым квитом моим ижъ в року тепер идучом тисеча шетсотном м(еся)ца марца пятого дня будучы мне взятым от ксендза Яна Рачинского, плебана***** и олтарыста городиловъского, на огледание стороны пры возном збитое. А так, я, возный маючы на тот час пры собе стороною людей добрых двух шляхтичов пана Яна Войтеховича, а пана Петра Михайловича тогды за оказованием виделом на пану Мартину Андреевичу Юринскому рану битую крывавую на чоле подле уха правого рану, а на руках обеюх на запясти раны синие крывавые успухлые, хрыбет и ноги все синево побито. А на Бартошу Хмелевском видем у голове подле правого уха рану синевую битую, хрыбетъ, руки и ноги все синево побито и поведили и ж дей нас киями бито, которое тое збите панъ Мартин Юринский, а пан Бартош Хмелевский менили собе сталое в року теперешнем тисеча шетсотном м(еся)ца марца четверътого дня от земенина г(оспо)дарского воеводства менского пана Андрея Костантыновича Заливаки самого, слуг и подданых его у именю его Слижинском у воеводстве менском лежачом. А так, я, возный тое видене свое на сем квите****** подостатку написавшы под печатю своею и двема печатми сторонными ку записаню до книгъ кгродских менских доношу. Писанъ року, м(еся)ца и дня звыш дописаного, которое тое оповедане и сознане возного до книг кгродских менских ест записано.

НГАБ. Ф. 1727. Воп. 1. Спр. 1. Л. 170—171.

---

* Капа — адзінка лічэння: 1 капа — 60 грошаў літоўскіх, 1 грош — 10 пенязей, 1 грош — 2,57 грама серабра.

** Корд — кароткі меч.

*** Ручніца — пісталет.

**** Парахаўніца.

***** Плябан — адна з назваў каталіцкага святара, кіраўнік касцельнай гаспадаркі.

****** Квіт — запіс аб аплаце грашовай пазыкі або падатку.



### № 3

**1606.02.19. Варшава. — Запіс аб адкладзе да прыезду караля і вялікага князя літоўскага ў Вялікае княства Літоўскае па справе плябана і алтарыста гарадзілаўскага Яна Рачынскага з патомкамі пана Андрэя Залівакі.**

[595] Отложене до Великого князства Литовского* в справе плебана и алтаристы городиловского с потомками Андрея Заливаки о имене Слижино.

Жикгимонт третий божъю м(и)л(ос)тию корол полский ознаймуемъ симъ вырокомъ нашым, ижъ што пры позвал был перед насъ г(оспо)д(а)ра позвом** манъдатом нашымъ, плебан и алтарыста городиловский княз Янъ Рачинский земянку*** нашу повету менского, Анъдреевую Заливачыную Ганъну Ясенъскую и опекуновъ над нею и над детми её, от небожчыка малъжонъка её установленых, уражоны(х) Яна Ясенского, Адама Ванкевича, Юрыя Заливаку, такъ же синов и дочокъ её, Фрыдрыха, Яна, Крыштафа, Лазара, Юрия, Ядвигу, Гелену, Шчасную, Барбару Анъдреевенъ Заливаковъ [595 адв.] о имене Слижыно въ воеводъстве менском лежачое, а до плебании и до алтарыи городиловское яко бы здавна належачое, о которое тое имение Слижыно кгды дей се справа з небожъчыком малъжонкомъ её и з нею самою передь судь трыбуналный**** до Вилни в року прошлом шестисот второмъ прыточыла. Судь трыбуналный коло свецкое з особами духовными, в той справе розъсудъку учынити и згодитисе немогучы, водле науки правное, яко бы дей декрет свой, на узнане нашое г(оспо)д(а)рское одослати мели, о чом шырей тая справа на позве жалобы княза***** Рачинского описана естъ. А такъ тепер, повыйстило лимитацыи на року права у суду нашого прыпалом от стороны позваное з моцъю зуполною, умоцованый их шляхетский Вавжынец Могкилницкий, у суду нашого постановившысе пилност чынил, и стороны поводовое княза Яна Рачинского водле належности до права по тры дни, а над право и четверътого дня, через енерала****** нашого дворъного Яна Кожуховского прывмывати даваль. А кгды се сторона поводовая на дня четвертомъ яко на року завитомъ не озвала, помененый умоцованый позваных, доведъшы поданя позву стороне своей выписомъ с книг кгродъских менъских, сознанога возного Яна Олпоки, домавялсе абы есмо водле артыкулу шетнадъцатого и сорокъ второго з розде-

---

* Так у загалоўку.

** Позва — пісьмовы выклік у суд, які рабіла пападовая старана пазванай.

*** Зямянін — шляхціц, уласнік нерухомай маёмасці, які абавязаны несці земскую воінскую службу вялікаму князю.

**** Галоўны трыбунал ВКЛ — вышэйшы апеляцыйны суд у ВКЛ, рашэнні якога мелі сілу соймавых пастаноў.

***** Князь — ксёндз у XV—XVI стст.

****** Галоўны возны.

лу четверътого о рокох завитых описанного княза Рачинъского внестанъкомъ здавшы сторону позванную от позву року к речы в нем описанное валиным учынили. Мы через паны Рады и врадники нашы тое справы прослухавшы, а бачечы ижъ тая справа от судей трыбуналских кола духовного и светского до нас за двором нашым отослана естъ, тогды на сес часть позваных отъ позву к року волным учынившы туую справу водлугъ арътыкулу трыдцат второго в розделе третем до того часу кгды дат бог шчасливе в панстве нашом Великом княэтве Литовском двором нашым будем откладаем, которая на он часъ розсудъком нашым кончытсе будет што про пакет до книг канцелярейских ест записано. Писанъ у Варшаве лета божъего нарожения тисеча шетсот шостого м(еся)ца *апрыла* деветнадцатого дня.

Остафий Воловичъ
писар[*] и референдар[**]

НГАБ КМФ-18. Воп. 1. Спр. 288. Л. 595—595адв.

[1] НГАБ. Ф. 1727. Воп. 1. Спр. 1. Л. 33—35адв.
[2] Лавцявичюс Э. Бумага в Литве в XV—XVIII вв. Атлас. Вильнюс, 1967. С. 116.
[3] НГАБ. Ф. 1727. Воп. 1. Спр. 1. Л. 170—171.
[4] Лавцявичюс Э. Бумага в Литве в XV—XVIII вв. С. 537.
[5] НГАБ КМФ-18. Воп. 1. Спр. 288. Л. 595—595 адв.
[6] Там жа. Спр. 291. Л. 126—127.
[7] Там жа. Спр. 296. Л. 61—62адв.
[8] Там жа. Спр. 288. Л. 595—595адв.

*Публікацыя А. С. Залівакі*

— ◇ —

## АКТ ВОЛЬНАЙ КАНФЕДЭРАЦЫІ МІНСКАГА ВАЯВОДСТВА АД 12 ЛІПЕНЯ 1792 г.

З усіх шляхецкіх саюзаў Рэчы Паспалітай Таргавіцкая канфедэрацыя 1792 г., як ніводная іншая, упісана чорнымі фарбамі ў гісторыю падзення гэтай шляхецкай рэспублікі. Яна падрыхтавала «дыпламатычны» твар другому падзелу дзяржавы ў 1793 г., бо зварот саміх шляхецкіх сеймікаў за дапамогай Расіі надаў яе ўзброенаму находу легітымны характар і аблічча добраахвотнай згоды мясцовага «народа» на ўступку часткі сваіх зямель у суседнюю імперыю. Што гэта за народ, можна ясна ўсвядоміць са змешчанага ніжэй дакумента.

Публікуемы акт, які фіксуе злучэнне шляхты Мінскага ваяводства ў канфедэрацыю 1792 г., вельмі выразны матывацыяй падстаў,

[*] Пісар — кіраўнік канцылярыі суда і захавальнік актавых кніг.
[**] Рэферэндар — службовая асоба, якая прызначалася вялікім князем; перша-пачаткова прымаў скаргі і перадаваў канцлеру для прадстаўлення вялікаму князю, пазней паведамляў рашэнні вялікага князя на пададзеныя скаргі, назіраў за парадкам падачы скаргаў.



на якіх паўстала тое запрашэнне чужаземных штыкоў і якое заснавала традыцыю «добраахвотнага ўз’яднання». Так што азнаямленне з гэтым дакументам дазволіць у поўнай меры пранікнуцца духам грамадскіх настрояў сярод айчыннай шляхты і яе павадыроў, больш канкрэтна падысці да разгляду адпаведных гістарычных пытанняў і пазбавіцца ад агульнаневыразных спроб падобнага кшталту[1].

У арыгінале канфедэрацкі акт напісаны на польскай мове. Пераклад яго аўтарам публікацыі здзейснены з максімальным захаваннем тагачаснай лексікі і зваротаў. Для паўнаты характарыстыкі ўпамянутых у дакуменце асоб ніжэй змешчаны звесткі пра іх, узятыя з актавых запісаў земскіх і гродскіх судоў. Спіс падпісаўшых акт (727 чалавек) не прыводзіцца з-за яго грувасткасці.

### Акт вольнай канфедэрацыі Мінскага ваяводства 12 ліпеня 1792 года са спісам прысягнуўшых і якія яшчэ ўчынілі прысягу[*]

Ніколі яшчэ мастацтва падману не назіралася сярод нас у такой ступені, у якой мы апынуліся апошнім часам. Што тое мастацтва заўжды бывае фатальным, калі дабрадзейнасць звычайна не запатрабавана, шляхетны народ ужо зведаў. Мастацтвам і абачлівасцю дасталася яму вольнасць, але хцівасць ненасытнага панавання, якая хавала вольны народ у сваёй цэмры, якая рабіла яго сваёй уласнасцю і спадчынай, непрыкметна зрабіла яго няздольным рухацца і ўпарціцца ўласнымі сіламі, а таму яна згінула б хутка разам з пакораным народам і ў тых руінах было б пахавана само імя паляка.

Спасцігнуўшы небяспеку, у якую ўкінута Польшча, задрыжэць павінна чулае сэрца абывацеля, а тым больш пакорна скарыцца справе прадбачання, якое валодае лёсам народаў, якое не толькі дазваляе існаваць Польшчы, але, здаецца, забяспечвае яе будучыню. Аднак перад тым як мы скрочым на тую дарогу, якая будзе накіроўваць нас да ўздыму і забеспячэння Рэчы Паспалітай, на шлях, які вызначаны нам наканаваннем і па якім нас будзе весці разумнасць, глянем крыху ўласнымі вачыма на тыя спакусы, якія зводзілі народ на блуканіну, каб нас асядлаць або згубіць.

Калі ў канцы 1787 года на ўсходзе Еўропы, па суседству з намі, узняўся пажар вайны, то пачулі праведныя палякі, якія ўчынкі падыходзяць Рэчы Паспалітай. Праўда аказалася мілейшай і яснейшай народу. Вольнасць і цэласць Рэчы Паспалітай былі лозунгам народа. Кожны быў гатовы служыць Айчыне і аддаць ёй свой гонар. Забеспячэнне вольнасці панства Рэчы Паспалітай было адзіным жаданнем усіх. Чуў народ, што тыя бязвінныя намеры нікому не маглі быць прыкрымі, бо ён прагнуў толькі спакою і шчасця, а мусячы мужна бараніць сваю цэласць, гатовы, аднак, быць любым і паважаным іншымі. Усё б нахіліла да забеспячэння вольнасці, трываласці і шчасця Рэчы Паспалітай, калі б тады па жаданні народа дайшлі да выніку

[*] Загаловак аўтэнтыка. Рэдакцыйны загаловак не складаўся. — *Рэд.*

краёвыя справы, калі б толькі ў Рэчы Паспалітай самыя правы панавалі, а моц права, падзеленая паміж рознымі магістратурамі, роўнай вагой утрымала б краёвую сілу разам з вольнасцю народа, і ніхто б тады зураднікаў не здолеў бы ні народа падбіць, ні кідаць зерняў нязгоды да суседзяў.

Задрыжэла тады амбіцыя шырокай улады і панавання, умеючая трымфаваць сквапнасцю сярод публічных бедстваў. Заўжды пладавітая ў законапраектах на сквапнасць, на фальш, яна асмелілася збройнай інтрыгай прама скарыць дабрадзейных рэспубліканцаў, іх уласную нявіннасць і саму сілу Рэчы Паспалітай. Сабраўся народ на сеймікі і на ардынацыйны* сейм, якія і так ніколі раней не вылучаліся сур'ёзнасцю і кемлівасцю. Згодна абраныя паслы амаль усе атрымалі аднолькавыя наказы забяспечыць вольнасць панства Рэчы Паспалітай. У розных больш-менш прасторных выразах тыя інструкцыі непакоіліся, каб рыцарскі стан, які спрадвеку ўвасабляў існасць Рэчы Паспалітай і які ніколі не шкадаваў на яе абарону сваёй крыві, застаўся творцам Рэчы Паспалітай, а шляхецкі маёнтак не быў абцяжараны ніякім падаткам. На тых сейміках польскае рыцарства амаль усюды згодна ўзялося павялічыць скарб Рэчы Паспалітай 10-й часткай свайго маёнтка.

Згодна абраныя народам паслы з'ехаліся на час ардынацыйнага сейма ў Варшаву, каб у зборы выбраннікаў не спыняўся той праўдзівы рэспубліканскі дух патрыятызму, які быў у выбаршчыкаў без усякай канфедэрацыі, каб былі павялічаны скарб і войска, забяспечаны вольнасць і цэласць Рэчы Паспалітай, унутраны і знешні пакой згодна з воляй народа. Аднак не тое народу хацелі даваць, а жадалі адвесці яго імкненне ад праўдзівых перспектыў. Патрабаваліся добранадзейныя абывацелі, якія б маглі ўпільнаваць страту даверу адзіназемцаў, трэба было ўкараніць у народ прагу да перамен, ужыць рукі, скарыстаныя на разбурэнне ўсяго, якія б на тых руінах пахавалі гмах няволі і цвярдыняй задуманых сцен засланілі падрыхтаваныя законапраекты. Аднак за кароткі час было немагчыма забрудзіць крывёю моц народа, апанаваць і паваліць Рэч Паспалітую. Трэба было скарыстаць час на такія розныя спосабы, ад якіх немагчыма было адкруціцца без калоту.

Да прац былі дапушчаны тыя, хто не ў сэрцы, а на вуснах меў дабро Рэчы Паспалітай, яе вольнасць і бяспеку. Расцягваючы ў Варшаве час без волі народаў, саюз сеймавай канфедэрацыі даў ім магчымасць для ўсяго. Акт канфедэрацыі абяцаў народу цэласць рэспубліканскага ўрада, трываласць магістратур і ўрадаў, на які б той урад абапіраўся, не менш як і бяспеку ўласнасці. Але, здаецца, што тыя правілы і варункі ў тым акце былі складзены для таго, каб зрабіць адваротнае, скіроўваліся на тое, каб падмануць народ вынаходлівай надзеяй, каб захапіць у свае рукі краёвыя сілы і, ужо маючы ўсё тое ў сваіх руках, разбурыць і зваліць усе шанцы, якія дагэтуль дазвалялі адзінаўладна трымацца Рэчы Паспалітай.

* Звычайны.



Маршалкі канфедэрацыі запісалі ў тым акце прысягу, якую выканалі перад станамі Рэчы Паспалітай у тым, каб плюралізмам не пастанаўлялася ўсё, што не змешчана ў кнізе правоў, а калі б узнікла апазіцыя аднаго сенатара, міністра або пасла, тады рашаць законапраекты тайным галасаваннем. Але пакольку па святасці прысягі, захаваўшай адносна Рэчы Паспалітай далейшую аснову рэчаў, перш за усё рэспубліканскі ўрад апынуўся прычынай пастаянных новаўвядзенняў, то з уласнай мэты аслабіць гонар Рэчы Паспалітай, імкнучыся яго не паправіць, а зваліць, узяліся страшыць народ абсалютызмам магістратуры, складзенай усяго з 30 асоб, хаця маглі абараніць уладу, прымусіўшы прапісаць абавязкі асоб, адным словам, замест таго каб аздобіць магістратуры і як належыць бараніць Рэч Паспалітую, рашылі знішчыць яе, каб адчыніць дарогу самаўладдзю.

Калі ж здарылася прымаць волю народа аб павелічэнні скарбу і войска, якімі народ разумеў распарадзіцца на самога сябе і на ўздым Рэчы Паспалітай, то лоўкія абарачэнцы паспяшалі ўжыць яе на скарэнне Рэчы Паспалітай. Народу ўнушалі, што саму ўладу ў яго адабралі толькі для таго, каб ён ужыў яе супраць самога сябе пад той зачэпкай, быццам бы звалена самаўладства Рэчы Паспалітай. Распачатыя па ўсіх напрамках вопісы новага ўрада запэўнівалі народ у тым, што ён не ўблытаецца ў расстаўленыя сёдлы, пакуль сам жа не пазбавіцца вольнасці. Аднак было бачна, што, смакуючы вольнасць у сваіх правілах, сам рыцарскі стан не жадаў яе выпускаць. Усё распачатае нічым не было завершана. Рэгламент ваеннай камісіі, распачаты пры адкрыцці сейма, не быў завершаны з-за нежадання пакінуць уласцівую рэспубліканскаму стану Рэчы Паспалітай ваенную ўладу. Затым пачалі каваць у якасці правілаў Кардынальныя правы, гаворачы, што народ быццам бы іх не меў і што пастаянныя законы адразу спыняць уціскі пры выбары польска-шляхецкай Рэччу Паспалітай сваіх каралёў. Аднак нават пры моцным дамаганні жадаючых паслоў іх здолелі скончыць прыкладна толькі ў частцы. Падкопам рыхтавалі такія рэчы для таго, каб нечакана зваліць гмах Рэчы Паспалітай, а каб народ тым часам не прыкмеціў унутранай небяспекі, прыняліся спакушаць яго фальшыва пасеянымі чуткамі аб быццам блізкай небяспецы вайны з суседам. Без ведаў, які абяцае выйгрыш, намагаліся ўнушыць абывацелям пад страхам новага падзелу тое, што няма іншага спосабу прадухіліць згубу польскага імя, як толькі паддацца айчынным путам і пазбавіцца вольнасці.

Ужо завяршыўся час двухгадовага сейма, за якім па праву наступаў другі. З боязі, што народ пад прымусам хутчэй праваборцаў, чымсці заканадаўства, выбера новы склад сваіх прадстаўнікоў і руль з даверыўшых рук можа тады выпасці на яго згубу, паслы народа, як яго адвакаты, маючы столькі моцы, колькі народ дазволіў карыстацца скораным людзям, наважыліся бяспраўна і безупынна прадоўжыць даручаную ім моц і, не маючы

права забараніць выбары новых паслоў, загадалі ім засядаць побач з сабой. Аднак народ добра адчуваў, якім небяспечным чыннікам могуць быць для тых, каго яны прадстаўляюць, самі прадстаўнікі, здольныя перавесці свой давер у іншы настрой. Цяжка было адазваць тых, хто хацеў утрымацца пры прысвоенай моцы, цяжка было скінуць тых, хто, ужо атрымаўшы ў свае рукі краёвыя сілы, аказаўся ў стане абываецеляў, вадзіў іх ад адной мяжы да другой, якія далучылі тады з ваяводстваў другі склад паслоў і стварылі ў Рэчы Паспалітай падвоены сейм новым, ніколі не практыкаваным спосабам.

А на пытанне аб спадчыннасці трона пры жыцці пануючага караля ў большасці інструкцый (9/10) народ ясна выразіў сваю волю і жаданне мець вольны выбар каралёў, а сваім прадстаўнікам загадаў чыніць адпаведна. Аднак ворагі Рэчы Паспалітай, ворагі вольнасці яе разумелі тую волю народа так, каб ёю лаўчэй супрацівіцца, каб, ведаючы сілу адданых Рэчы Паспалітай, ужыць на яе запал падманутых людзей, каб знішчыць і лепей ведаць, чым яшчэ больш паспяхова трэба аслабіць вольнасць рыцарскага стану. Гэты намер быў здзейснены адлучэннем неваладарнай шляхты ад прывілеяў шляхецтва, па прывілеях роўных маёмасцю і заможнейшых назвалі арыстакратамі і ўзбудзілі нянавісць да іх, каб, пазбавіўшы шляхецкі стан колькасці і здольнасці заставацца вольным, яшчэ прыдатней яго прыцісануць, каб нельга было абараніць рыцарскі стан і каб, ужыты слабым на згубу Рэчы Паспалітай, ён сам сябе загубіў.

Поўныя амбіцый у новым складзе, спрабуючы раскінуць ва ўсе бакі сетку дэмакратычных праектаў, таксама рашылі ўжыць спакойныя і верныя Рэчы Паспалітай гарады і іх паслоў для раптоўнага накладання кайданоў на ўвесь народ. Прыклад няшчаснага Парыжа быў выстаўлены ўзорам для нашых гарадоў, клубы — узорам парыжскай моды і штодня рассейвалі думкі, небяспечныя для народнага спакою. Зло пашыралася. Добры абывацель, дабрадзейныя паслы імкнуліся ў сеймавай ізбе прадухіліць тую паразу, якая пагражала Рэчы Паспалітай ад жадання тых, хто на супольную абарону шляхецкай вольнасці і да карыстання вольнасцяў рыцарскага стану Рэчы Паспалітай спрабаваў дапусціць мяшчан і пастанавіў карыслівае для іх права. Калі б час разважыў, калі б ён дазволіў мяшчанам разабрацца, то большасць рыцарскага стану даведалася б аб уласнай вінаватасці і які інтарэс звязвае іх з гэтым станам.

Аднак некалькі асоб даўно кавалі супраць Рэчы Паспалітай злачынны спіс*, з дапамогай якога ім доўга ўдавалася дабівацца выніковасці сваіх намераў. Пасля час не дазволіў бы святкаваць падману і на яго скіроўваць усю дзейнасць спіса, аднак ім трэба было завяршыць справу, бо падман мае столькі спосабаў, колькі інтрыга мае спружын. Усё было ўжыта дзеля гэтага, што спрыяла памылцы. Інтрыга была настолькі значнай, што адны запісваліся ў яе не разумеючы, на што ён узбройвае іншых. Аднак кожны лічыўся збаўцам Айчыны.

* Змова.



Сейм пачаўся з лімітацыі*, пад час якой паслы Рэчы Паспалітай раз’ехаліся па правінцыях, не могучы вярнуцца на другі тыдзень пасля адкрыцця сейма, бо па сеймаваму закону першы тыдзень належала скарыстаць на эканамічныя чыннасці, з-за чаго здавалася, што вольнасці Рэчы Паспалітай будуць у небяспецы на працягу гэтага часу. У Варшаве ж засталіся паслухмяныя інтрыганам або тыя, хто быў уцягнуты ў спіс. Праўда, сярод іх была малая жменя і такіх, якія мелі за правіла сваіх паводзін дабрадзейнасць і вернасць Рэчы Паспалітай, якія найбольш абапіраліся на вольнасці, але якія ледзь не апынуліся ахвярамі злачынства.

На 5 мая быў вызначаны дзень выбуху спіса. Аднак прысягнуўшыя яму, убачыўшы, што сябры Рэчы Паспалітай могуць сабрацца і павялічыць свае рады, што розум аслабіць моц падману, здолелі нечакана прыспешыць выкананне сваёй справы. Палкі сталі пад бронь, без паведамлення камісіі выцягнулі гарматы са зброяй, натоўпы грамадства запоўнілі замак і яго ваколіцы. Адных запэўнівалі, што кароль будзе прысягаць на майскую Канстытуцыю, другіх заахвочвалі да абароны выдумкай, што іх сябры прагнуць выразаць шляхецкі стан, іншымі кіравала карысць, бо па іх закліку на згубу Рэчы Паспалітай грошы давалі той самай руцэ, якой той стан толькі з дабрадзейства свайго сэрца даверыў руль чыннасцяў Рэчы Паспалітай. Яны адважыліся запоўніць тлумам сеймавую ізбу, акружылі падманутай чэрню пакоі нашых каралёў, некалі былых галавой і цвярдыняй Рэчы Паспалітай, а трон атачылі афіцэры з гвардыяй і надворнымі каралеўскімі ўланамі. Падман адбыўся такім чынам: пры адкрыцці сеймавай сесіі прамовы пачаліся з чытання неверагодных і знарок падрыхтаваных данясенняў некаторых нашых міністраў пры замежных дварах. Хаця з тых фальшывых і яшчэ меней рассудных лістоў нічога страшнага для краю не магло выпадаць, аднак спіскоўцы прыняліся ўсё выкарыстоўваць у сваіх мэтах, палохалі народ апошняй згубай і для засцярогі польскага імя стараліся схіліць да гвалтоўных яго сродкаў.

Дарэмна вельмі шаноўны і, па ацэнцы абываецеляў, вядомы сваім патрыятызмам адзін пасол даносіў аб спісу супраць Рэчы Паспалітай — дзёрзкім учынкам адважыліся ўзяць верх, стлуміць праўду, зняважыць дабрадзейнасць. Дарэмна значная колькасць сенатараў і паслоў апелявала да народных правоў, да пактаў народа з каралём, да маршалкоўскіх прысяг, дарэмна дамагаліся дыскусіі і паваротy — галасы стаяўшых за права былі заглушаны, а асобы іх запужаны прыкладам парыжскіх гвалтаў. Быў выстаўлены праект Канстытуцыі, які знішчыў манархію Рэчы Паспалітай, які зрабіў гэта нечувана і неразумна, без патрэбнага абмер-

* Абмежаванне часу сесіі.

кавання, без ведання большасці думак, бяспраўна і гвалтоўна, з дапамогай інспірацыі падманутага натоўпу, а не прадстаўнікоў народа, якіх было вельмі мала. Адважыліся караля прывесці да прысягі на вернасць Канстытуцыі, якая знішчыла святасць пактаў, і пад прысягай народу далі каралю права на трон вольнай Рэчы Паспалітай.

Пасля такога прымусу рушылі ў касцёл, дзе тое зборышча, якое нядаўна выконвала прысягу на вернасць Рэчы Паспалітай, адважылася прысягнуць на яе згубу і тады там жа справу, вытанчаную на прымушэнне да няволі Рэчы Паспалітай, са зброяй абвясцілі пераможна створаным спісам. А каб удар па Рэчы Паспалітай быў як мага мацнейшы, каб з грунту было вывернута ўсё, што толькі магло яшчэ адначасова ўмацаваць і захаваць манархію, да Уставы 3 мая далучылі дэкларацыю, у якой дэспатычнымі назвалі ўсе даўнія правы і скасавалі ўсе сучасныя, супраціўныя гэтай Канстытуцыі або якому-небудзь яе артыкулу. Для абароны і апраўдання гвалту загадалі прысягнуць магістратам і войску, а хто, верны Рэчы Паспалітай, не жадаў прысягаць на яе згубу, таго пазбавілі ўрадаў і набыцця рангаў. Загадалі без абурэння цярпець збудаваныя вежы, а хто лічыўся яшчэ вольным, не жадаючым паддацца знянацку і гвалтам абрынутай на яго няволі, таго загадалі судзіць сеймавым судом і хапаць войскам. Няцяжка было выканаць грознае папярэджванне, няцяжка было выкарчаваць з грунту дух вольнасці. Ужо пануканае 60-тысячнае войска Рэчы Паспалітай аказалася выстаўленым у якасці прылады абсалютнай волі на забеспячэнне вольнасці, на сваё забеспячэнне.

Саступіў засмучаны народ гвалту і падману, якімі тым часам песцілі скораных. Але рэспубліканскі дух, дух, які натхняў нашых продкаў, яшчэ жывы ў сэрцах народа настолькі, каб здрада асмелілася яго здзівіць. Толькі на час ён мог паддацца падману, але вольнасці, правоў сваіх і Рэчы Паспалітай народ не жадаў адракацца і рашыў хутчэй згінуць, чымсьці адступіцца ад іх.

Тады мы, ураднікі і абывацелі Мінскага ваяводства, убачыўшы, што для нас няма іншай Рэчы Паспалітай, што сучасны сейм, скліканы на 6 тыдняў, назусім прысвоіў заканадаўчую ўладу і цягнецца ўжо паўтара года, што, зняважыўшы права, ён узурпіраваў і паламаў кардынальныя правы, скасаваў усе шляхецкія вольнасці, а 3 мая 1791 года, перамяніўшыся ў рэвалюцыю і спіс, з дапамогай уланаў, мяшчан і салдат увёў новую форму ўрада, дазволіў каралю вызваліцца ад выкананай перад Рэччу Паспалітай прысягай, пашырыў каралеўскую ўладу, пераўтварыў Рэч Паспалітую ў абсалютную манархію, шляхту без пасэсіі адштурхнуў ад роўнасці і вольнасці, волю народа, выражаную ў інструкцыях ваяводстваў, за нішто палічыў, кару, ворагам Айчыны прызначаную, распасцёр на тых, хто мог супраціўляцца тым беззаконням, прымусіў народнае войска прысягнуць на абарону навязанай няволі, староствы, якія заўжды мацавалі фундуш



Рэчы Паспалітай, пусціў у продаж і выставіў на стварэнне прыватнай рэспублікі, сваім выракам памкнуўся прымусіць ураднікаў Рэчы Паспалітай да прысягі супраць вольнасці і канстытуцый, а не жадаючых прысягаць пазбавіў урадаў, замяніў даўнюю прысягу сенатараў на новую, а сам пад вузлом канфедэрацыі загадаў акрамя сябе сканфедэравацца ўсяму народу для таго, каб тыя кайданы, якія гэты сейм усклаў на нас праз канфедэрацыю, ужо нельга было скінуць іншай канфедэрацыяй, бо ён хацеў нас ублытаць у шкодную вайну супраць Расіі, наймілейшай нашай суседкі, найдаўнешага з усіх нашых сяброў і нашых саюзнікаў і г. д.

А хіба вядома, хто здольны пералічыць гвалты і ўдары сённяшняга сейма і хто будзе без надзеі ў тое, што сейм апамятаецца, хто не ўпэўнены, што нашае цярпенне далей не апынецца апошнім ударам па Айчыне дзёрзкага сейма[?]

Нязвыклыя да кайданоў, разам з няволяй і смерцю ўскладзенымі на нас Канстытуцыяй 3 мая, пратэстуючы ўрачыста супраць спадчыннасці трона, пастаноўленага той Канстытуцыяй 3 мая, супраць пазбаўлення шляхціца без пасэсіі вольнага голасу на сейміках, супраць усіх гвалтаў, якія суправаджалі рэвалюцыю 3 мая, супраць усіх наказаў і прысяг, якія прымушалі нас да падтрымкі Канстытуцыі 3 мая, якія павянчалі Рэч Паспалітую са згубай і якія не варты вольнага чалавека, супраць узурпацыі заканадаўчай улады, якую прысвоіў сабе сённяшні сейм, нарэшце, супраць усіх правоў і пастаноў таго сейма, якім павалена вольнасць Рэчы Паспалітай, і кіруючыся тымі сродкамі, якія для ўздыму Рэчы Паспалітай і нашых свабод пакінулі нам нашыя продкі, па даручэнні застаўшыхся па хатах у ваяводствах братоў нашых мы канфедэруемся і злучаемся неразрыўным вузлом вольнай канфедэрацыі пры веры святой рымска-каталіцкай, пры роўнасці, вольнасці і даўнасці для ўсяе шляхты, а не толькі для аселай, пры цэласнасці межаў панства Рэчы Паспалітай і ёй падлеглых краёў, пры вольным рэспубліканскім урадзе, пры захаванні ў цэласці правоў уніі Вялікага княства Літоўскага з Каронай, пры цэласці шляхецкіх правоў і народнай моцы, імя таварыскасці і прэрагатыў народнай кавалерыі, пры захаванні на ўрадах і рангах тых, каго сучасны сейм за ўпартасць і пратэсты супраць спадчыннасці трона і нова-ўведзенай манархіі пазбавіў урадаў і ваенных рангаў, пры бяспецы, жыцці, гонары, дабры, маёнтках, прывілеях, якія асобам і ўрадам служаць, якія імі па праву занятыя, супраць павелічэння каралеўскай улады, супраць адрыву малейшай часткі края або яе залежнасці, супраць гвалтаў Канстытуцыі 3 мая, якая пераўтварыла Рэч Паспалітую ў манархію, супраць усяго таго, што толькі сейм зрабіў нелегальнага, нарэшце, супраць усіх тых, хто б трымаўся Канстытуцыі 3 мая і хацеў бы сілай яе папіраць, а з гэтай мэтай мы абралі сабе маршалкам Яцэка Путкамера[2], жмудскага цівуна, кавалера ордэна Станіслава, а канцылярыстамі Каспара Кастравіцкага[3], земскага суддзю, Дамініка Заярскага[4], старосту янаўскага, Казіміра Ласку[5], ротмістра, аршан-

скага цывільна-вайсковага камісара, Антона Яблонскага[6], навагрудскага ротмістра, Іосіфа Варанца[7], мастаўнічага, Станіслава Івашкевіча[8], шамбяляна караля.

Паколькі справа ідзе аб вольнасці Рэчы Паспалітай, то мы ствараем канфедэрацкі суд, а сучасны сейм абвяшчаем гвалтоўным, не вартым вольнага народа, які толькі згубны Рэчы Паспалітай і які падпарадкоўвае яе каралю, а таму і бяспраўны, а ўсё, што ён зрабіў процізаконнага і праціўнага вольнасці, абвяшчаем нікчэмным і патрабуем, каб кожны сенатар, міністр і пасол адрокся ад таго сейма на працягу двух месяцаў у гродзе ці земстве, а хто адрачэння не ўчыніць і будзе сейм прадоўжваць, той будзе асуджаны як вораг Айчыны. Абывацелям ваяводства належыць тыя адрачэнні скласці на працягу двух месяцаў.

А паколькі Рэч Паспалітая не можа кранууцца ўласнымі сіламі, то ёй нічога не застаецца, як толькі з даверам аднесціся да вялікай Кацярыны, якая пануе з такой славай і справядлівасцю ў суседнім сяброўскім і саюзным нам народзе, для таго, каб удзельная і самаўладная Рэч Паспалітая засталася непадлеглай і цэлай у сваіх межах, бо яна ад веку ні ад каго не залежала і нічыёй уласнасцю і спадчынай не была. Жадаем вольнасці нашаму народу, бо продкі ў ёй жылі вольнымі, жадаем спакою, бяспекі і ўласнасці, бо шукаем не замяшання і войнаў, а жадаем замацаваць рэспубліканскі ўрад, бо да іншага не здольны прывыкнуць. А каб тыя нашыя намеры спраўдзіліся, то мы прызываем тую вялікую манархіню да спраўнай дапамогі нам.

Вас, браты, заклікаем сканфедэравацца за тую агульную Айчыну, якая гіне і якую вы захаваць можаце. Не аб нас уласна тут ідзе клопат. Бо вы згінеце, калі Рэч Паспалітая будзе гінуць. Памятайце, што, калі дзе паўстае тыранія, там тады выпадкам да сваёй смерці саслізнуць можна, а яе немагчыма унікнуць ні пазней, ні скарэй. Усё тое разам з вольнасцю можа абрынуцца на нас цяжарам дэспатызму.

Складзена ў Мінску 25 чэрвеня 1792 года. […][*]

НГАБ. Ф. 1759. Воп. 1. Спр. 24. Л. 328—344адв. *Аўтэнтык.*

[1] Аніпяркоў В. В. Формы далучэння беларускай шляхты да Таргавіцкай канфедэрацыі // Веснік БДУ. Сер. 3. 2005. № 3. С. 9—14.

[2] Путкамер Яцэк — у 1767 г. генерал-ад'ютант ВКЛ і жмудскі земскі суддзя, у 1771 г. маршалак Жмудскай канфедэрацыі, у 1784 г. жмудскі земскі суддзя, у 1787—1792 гг. жмудскі ціўун (НГАБ. Ф. 1769. Спр. 24. Л. 336; РДАСА. Ф. 389. Спр. 84. Л. 512).

[3] Кастравіцкі Каспар — у 1765 г. і да 1776 г. віцебскі падчашы, у 1774 г. член скарбовай камісіі ВКЛ і суддзя Галоўнага трыбунала княства, з 1792 г. мінскі земскі суддзя (НГАБ. Ф. 1727. Спр. 17. Л. 687; Спр. 24. Л. 336; РДАСА. Ф. 389. Спр. 492. Л. 1768).

[*] Далей подпісы.



[4] Заярскі Дамінік — у 1762—1764 гг. упіцкі чашнік, у 1765 г. намінаваны падстолі, якім быў да 1788 г., у 1774 г. стаў старадубскім гродскім суддзёй, а ў 1792 г. набыў староства Янава (НГАБ. Ф. 1769. Спр. 18. Л. 88; Спр. 24. Л. 18; РДАСА. Ф. 389. Спр. 535. Л. 425).

[5] Ласка Казімір — у 1780—1782 гг. аршанскі ротмістр, у 1792 г. выбраны мінскім цывільна-вайсковым камісарам (НГАБ. Ф. 1769. Спр. 24. Л. 336).

[6] Яблонскі Антон — у 1792 г. навагрудскі ротмістр (НГАБ. Ф. 1769. Спр. 24. Л. 18).

[7] Варанец Іосіф — сын мсціслаўскага краўчага Хрыстафора і Хрысціны Панцэржынскіх, у 1765 г. аршанскі гродскі суддзя, у 1766 г аршанскі гродскі рэгент, пераведзены ў мінскія будаўнічыя, пасаду займаў да 1773 г., а ў 1773 г. выбраны мастаўнічым Мінскага ваяводства (НГАБ. Ф. 1727. Спр. 14. Л. 16; Ф. 1769. Спр. 4. Л. 1441; Спр. 17. Л. 1769 адв.).

[8] Івашкевіч Станіслаў — у 1790—1792 гг. шамбялян караля.

*Публікацыя Я. К. Анішчанкі*

— ◇ —

## «Я ПРЕЖДЕ ВСЕГО БЕЛОРУС…»: ЛІСТЫ Е. РАМАНАВА ДА А. ПЫПІНА (1888—1892)

У Аддзеле рукапісаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Пецярбургу захоўваецца шэраг аўтографаў Еўдакіма Раманавіча Раманава (1855—1922) — яго лісты да дзеячаў расійскай навукі А. Ф. Бычкова, І. П. Карнілава, А. М. Пыпіна.

Пасланні да першых двух адрасатаў з'яўляюцца адзінкавымі, перапіска з А. Н. Пыпіным (Ф. 621 (А. Н. Пыпин). Адз. зах. 728) уяўляе сабой комплекс з 7 лістоў дастатковай інфарматыўнасці. Ліставанне прыпадае на 1888—1892 гг. — найбольш плённы перыяд у жыцці Е. Раманава, калі з 1886 г. ён прызначаецца інспектарам народных вучылішчаў Віцебскай губ. і пачаў выданне «Белорусского Сборника», што і з'явілася нагодай для эпісталярнага дыялогу.

Адрасатам Е. Р. Раманава стаў Аляксандр Мікалаевіч Пыпін (1833—1904) — расійскі літаратуразнаўца, этнограф, адзін з заснавальнікаў гісторыка-культурнай школы расійскай этналогіі. Ён нарадзіўся ў Саратаве, у 1853 г. скончыў Пецярбургскі універсітэт. Фарміраванне светапогляду навукоўца і грамадскага дзеяча адбылося пад уплывам стрыечнага брата М. Р. Чарнышэўскага, што на ўсё жыццё вызначыла ліберальна-дэмакратычныя пазіцыі А. М. Пыпіна. Пасля абароны магістэрскай дысертацыі і стажыроўкі за мяжой ён заняў пасаду экстраардынарнага прафесара Пецярбургскага універсітэта, але ў 1861 г. пакінуў яго разам з К. Д. Кавеліным, У. Д. Спасовічам і М. М. Стасюлевічам у знак пратэсту супраць урадавых мер па падаўленні студэнцкіх хваляванняў. Да 1897 г. А. М. Пыпін не займае аніякіх афіцыйных пасад, актыўна супрацоўнічае з часопісам «Вестник Европы»[1]. У 1891 г. ён быў абраны членам-карэспандэнтам Расійскай акадэміі навук, у 1898 г. — сапраўдным членам.

Асноўная заслуга А. Н. Пыпіна перад славяназнаўствам, па вызначэнні В. К. Бандарчыка, — яго чатырохтомная «История русской этнографии»[2], у апошнім томе якой абагулены і ахарактарызаваны работы па беларускай этнаграфіі і фальклоры. На момант перапіскі гэта выданне яшчэ не пабачыла свет, але А. М. Пыпін атрымаў рэпутацыю аднаго з найбольшых аўтарытэтаў расійскай этналогіі. Цікавасць яго да Беларусі фарміравалася ў кантэксце вядомай расійскай дзяржаўніцкай увагі да краю пасля паўстання 1863 г. Як усе расійскія даследчыкі, у беларускіх гістарычных і традыцыйна-культурных рэаліях ён шукаў доказы «трыадзінства рускага народа» і падставы для выкрыцця шкоднасці польска-каталіцкіх уплываў. Аднак навуковы досвед і светапоглядная шырыня дазволілі яму аднаму з першых прызнаць этнакультурную ідэнтычнасць «беларускага племені», ацаніць заслугі мясцовых заснавальнікаў навуковага беларусазнаўства ад Я. Тышкевіча і І. Грыгаровіча да М. Я. Нікіфароўскага і М. В. Доўнар-Запольскага. Гэта ягоная пазіцыя не засталася па-за ўвагай — С. Венгераў адзначаў адносна А. Н. Пыпіна: «В то время как значительная часть наших славистов, охотно называя себя в теории славянофилами, в действительности впадает в русофильство и крайне одностороннее навязывание всему славянству одной веры и одного «общеславянского» (а на самом деле византийского) миросозерцания, Пыпин относится с величайшим уважением и с полной терпимостью к духовному складу каждой из отдельных славянских народностей. Он является решительным противником поглощения одной народности другой и исходит из идеала совместного развития общечеловеческой культуры и национальных индивидуальностей».

Існаваў, напэўна, яшчэ і асабісты фактар цікавасці А. М. Пыпіна да Беларусі — блізкія кантакты з яе ўраджэнцамі — У. Спасовічам, сябрам і сааўтарам двухтомнай «Истории славянских литератур», Я. Ляцкім, які стаў ягоным зяцем, таксама беларускімі даследчыкамі, сярод якіх быў і Е. Раманаў.

Назіраючы за развіццём беларускіх даследаванняў, А. М. Пыпін не абышоў увагай і выхад у свет такой значнай працы, як «Белорусский Сборник» Е. Раманава, змясціўшы ў № 1 за 1888 г. рэцэнзію на яго першы і другі тамы. Пры высокай ацэнцы выдання, якое «заставляет ожидать обильного вклада в изучение белорусской народности»[3], А. М. Пыпін зрабіў крытычныя заўвагі адносна падыходаў да адбору і навукова-тэкстуальнага афармлення матэрыялаў. Гэта і выклікала палемічны адказ беларускага даследчыка.

Гэты ліст напісаны даволі эмацыянальна, паказальны выказваннямі Е. Раманава аб уласнай нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і матывах даследчыцкай дзейнасці. У тлумачэнні сваёй пазіцыі аўтар падае важныя звесткі з гісторыі падрыхтоўкі зборніка. Як вядома, Аддзяленне рускай мовы і славеснасці Расійскай акадэміі навук, прызнаўшы прысланы яшчэ ў 1884 г. рукапіс «Белорусского Сборника» вартым увагі, адмовіла Е. Раманаву ў фінансавай падтрымцы яго выдання. Тое ж самае было зроблена кіраўніцтвам Віленскай вучэбнай акругі і Магілёўскім статыстычным камітэтам[4]. Кніга была надрукавана толькі праз два гады друкарняй кіеўскай газеты «Заря» і, як сведчыць ліст, у значнай ступені за кошт самога аўтара.



Астатнія лісты адлюстроўваюць з большасці дзелавы характар далейшых кантактаў карэспандэнтаў і з'яўляюцца крыніцай фактаў навуковай дзейнасці Е. Раманава, яго кантактаў і планаў, а таксама яны каштоўны звесткамі, напрыклад, аб яго самаацэнцы і стаўленні да ўласнай вядомасці.

Наогул, нягледзячы на невялікі аб'ём і канкрэтна-прыватную тэматыку кожнага паслання, лісты Е. Р. Раманава да А. М. Пыпіна яскрава малююць мадэль развіцця беларусазнаўства ў другой палове XIX ст. Відавочна, што яго станаўленне адбывалася ў значнай ступені насуперак адсутнасці ў краі навуковых універсітэцка-акадэмічных цэнтраў, што ставіла мясцовых даследчыкаў у фармальна няроўнае становішча з прадстаўнікамі расійскай, украінскай ці польскай навукі. Аб гэтым сведчыць адукаванасць і навуковая падрыхтоўка самога Раманава, вызначаны ім для сябе статус «правінцыйнага работніка», месца якога ў навуковым свеце — быць «гарохам пры дарозе», які скубе кожны жадаючы. Другой важнейшай перашкодай з'яўлялася адсутнасць належных фінансавых сродкаў — праблема, якая неаднойчы акцэнтуецца ў лістах Е. Раманава. Даследчыку даводзілася пераадольваць таксама насцярожанасць ўласнага начальства, службовую занятасць, нападкі малаадукаванай грамадскасці (як у прыкладзе самога Раманава са святаром Нікіфароўскім), навуковых і адміністратыўных «пампадураў».

Аднак сфармуляванае Е. Раманавым крэда сваёй дзейнасці: «Я прежде всего белорус, и цель моей работы — спасти, пока еще не поздно, хоть что-либо из памятников родной мне словесности от гибели …», гатоўнасць да самаахвярных учынкаў і рашучасць адстойваць навуковую ісціну перад такімі аўтарытэтамі як П. А. Бяссонаў, М. В. Каяловіч, М. П. Драгаманаў, А. М. Пыпін — сведчылі аб сацыяльным і навуковым сталенні таго, амаль што першага «свядома-беларускага» пакалення інтэлігенцыі, для якога характэрна ўсведамленне адказнасці перад народам, яго гісторыяй і культурай у мінулым і будучым.

Для публікацыі адпаведна крытэрыю інфарматыўнасці адабраны 6 з 7 лістоў. Усе яны з'яўляюцца аўтографамі, маюць аўтарскае датаванне (за выключэннем ліста № 5). Друкуюцца на мове арыгінала з выкарыстаннем сучасных правілаў рускай арфаграфіі і пунктуацыі, але з захаваннем аўтарскіх стылістычных і лексічных асаблівасцей. Словы, якія напісаны скарочана і не з'яўляюцца агульнапрынятымі, аднаўляюцца поўнасцю. Аднoўленыя словы і іх часткі заключаюцца ў квадратныя дужкі.

**№ 1**

Милостивый Государь Александр Николаевич!

Долгом считаю принести Вам глубокую благодарность за внимание к издаваемому мною Белорусскому Сборнику, отзыв о котором Вы изволили дать в январских книжках «Вестника Европы».

Вопреки Вашему мнению, я вовсе не любитель полемики; тем не менее я могу желать полемизировать с Вами, чьи мнения я привык ставить выше мнений всех прочих моих критиков. Но здесь, в частном письме, я желал бы указать Вам, что некоторые из мнений, высказанных Вами в последней рецензии, неосновательны и неверны.

Вы, напр[имер], назвали **несправедливым**[*] мое утверждение, что печатание песен в два столбца или отделение вертикальными чертами стихов повлекло бы почти двойные расходы по изданию. Может быть, в петербургских типографиях это и так — и тогда лишь приходится жалеть, что не в них я печатал песни — но по отношению к киевским типографиям это мое утверждение **совершенно верно**.

По имеющимся у меня счетам типографии печатание песен в нынешнем виде стоило 12 руб. с листа, печатание же детских песен и припевов в той же книге в два столбца обходилось на 5 руб. дороже. Затем в рукописи, сданной в типографию, стихи были отделены многими вертикальными линиями в первых двух строчках каждой песни. Но типография потребовала за вставку этих черт — только в двух случаях — особую плату по вр[еменным] счетам. Имея в виду, что при печатании 600 экземпляров, на бумаге в 2 руб. 85 коп. стопа, сэкономить на сей последней можно было только несколько рублей, я, скрепя сердце, должен был отказаться от печатания в два столбца и от употребления вертикальных линий. Надобно Вам знать, что для издания первого выпуска я располагал нищенской суммой в **200 р.** Наконец, когда я увидел, при печатании стихов типография делает произвольные переносы, я попробовал в корректурных листах восстановить стихи, но типография не нашла для себя удобным изменять набор, а я, живя в 900 вер[стах] от нее, не мог настоять на исполнении моего желания.

Согласитесь, что Вы не в праве были ни обвинять меня в чем бы то ни было, ни называть мое заявление несправедливым.

Затем Вы назвали **странным упорством** нежелание последовать Вашему совету и печатать в Сборнике произведения запасные и древние — сохранившиеся в рукописях. Но, уважаемый г. профессор, Вы сами в начале рецензии выразились, что почти все издания, задуманные широко, обрываются на самом начале. Кто мне мог бы поручиться, что и с моим Сборником при увеличении его разрядов не случилось бы то же?

[*] Тут і далей выдзеленыя словы і словазлучэнні адпавядаюць падкрэсліванням, зробленым аўтарам лістоў.



Во-вторых, я вынужден заявить, что решительно вся работа по составлению Сборника, переписке материалов, печатанию лежит единственно и всецело на мне. Мои же силы, как и всякого человека, ограничены; при всей моей энергии и выдержке, я не могу справиться с массою работы, тем более что в последнее время и служебные обязанности отнимают весьма много времени.

Впрочем, прочтя III выпуск, Вы увидите, что на стр. 192—196, 433—437 я следовал Вашим указаниям и намерен отчасти следовать в будущем. Но давать подобным произведениям равное место со всеми другими не могу. О вкусах не спорят, может быть, на Ваш взгляд это и странное упорство, но оно вызвано именно этими причинами и, главным образом, желанием не разбрасываться, чтобы по тому самому иметь возможность продолжать по мере сил и возможностей Сборник, и хоть в спрощенных разрядах, но довести его до конца. Не можете же Вы требовать от меня выполнения таких работ, которые не по силам и целым экспедициям. Как член Геогр[афического] Общ[ества][5], Вы это знаете.

Вопрос о Сборнике г. Дмитриева[6], признаюсь, мне очень надоел. Может быть, Вы и правы, может быть, и я прав. De mortibus aut bene aut nihil[7] — и я слагаю оружие. Но будь Вы на моем месте, я уверен — смотрели бы на эту книжечку такими же глазами.

Остается вопрос о «даровом коне». Из первого пункта моего письма Вы могли убедиться, что причина внешних недостатков I выпуска кроется единственно в крайней скудости средств издателя, а никак не в отсутствии желания у него придать Сборнику возможно большую научную ценность. Об этом можно **жалеть**, как это и сделали Вы (апр[ель] [19]86 г.) и Академия наук. Но ставить в вину семейному человеку, получавшему 500 р. жалования, что он не нашел возможным принести в жертву науке 200—300 р. — согласитесь, это несправедливо и весьма легкомысленно со стороны рецензентов. Вас поэтому не должна удивлять отповедь человека, бескорыстно посвятившего 12 лучших лет жизни на собирание белор[усских] народ[ных] произведений и вперед не имеющего намерений прекращать эту свою деятельность, тем более что не Вас она имела ввиду…

Приводя мою тираду со страницы XIII, Вы не захотели обратить внимание на то, что предложение «которые не должны ставиться в вину собирателю, не ищущему и не имеющему от своих изданий ни малейшей материальной выгоды» относится к недостаткам **внешним**. А раз это так, то и «даровой конь» теряет свою пикантность, т. к. именно мое горячее желание — видеть **научную** критику Сборника или, говоря Вашим языком, — требовать, чтобы осмотрены были зубы коня. Вы горько ошиблись, считая меня наивным до способности видеть в ученом критике **недоброжелателя**…

Праца Олага заставалася ў рукапісе, пакуль не была надрукавана ў якасці ўстаўкі ў вялікую гістарычную працу *Rerum ungaricarum* (Базель, 1568) іншага гуманіста — Антона Банфіні (каля 1427 — паміж 1502—1505). Гэты італьянец працаваў у Будзе пры двары венгерскага караля Мацяша Корвіна (1458—1490), што захапляўся рэнесансная культурай і мецэнатстваваў еўрапейскім гуманістам. Менавіта пры яго двары пераасэнсоўваецца роля правадыра гунаў Атылы[7], які ідэнтыфікуецца з самім Корвінам. Атыла трактуецца як мудры і справядлівы ўладар, што праводзіць цэнтралізатарскую палітыку і стварае магутную дзяржаву. Такая трактоўка імпанавала Корвіну, тым больш што ён, паходзячы з беднага шляхецкага роду з Валахіі, не мог пахваліцца прыналежнасцю да арыстакратыі. Легенда пра Атылу прапагандавала каралеўскі аўтарытэт і ідэю самаўладства, якой супрацьстаялі самавольства і пыхамаць магнатаў. Таму Банфіні ў сваёй працы ідэалізаваў Атылу, надзяляў яго гуманістычнымі якасцямі і паказваў як выразніка інтарэсаў народа[8].

Твор Олага працягваў гэтую традыцыю і ствараў прывабны вобраз «караля ўграў». Атыла ў працы з'яўляецца носьбітам станоўчых якасцей, хаця аўтар не пазбаўляе свайго героя і некаторых адмоўных рыс. Аднак яны праяўляюцца зрэдку і не парушаюць у цэлым станоўчай характарыстыкі Атылы. Пры гэтым жорсткія і крывавыя ўчынкі, якія творыць Атыла і яго войска пад час войнаў, аўтар апісвае сціпла і мімаходзь. Маральную адказнасць за іх аўтар цалкам здымае са свайго героя. Атыла з'яўляецца інструментам боскай волі, ён — боскі біч, якім Бог карае хрысціянскія народы за іх грахі. Таму Рымская імперыя, як і асобныя ўладары, не ў стане супрацьстаяць націску Атылы — гэткай, можна сказаць, з'яўляецца гістарычная канцэпцыя Олага.

Венгерскі царкоўнік пачынае жыццяпіс Атылы з бітвы на р. Цісе, калі загінулі угорскія «гетманы», пасля чаго Атыла быў абраны «каралём ўграў». Сваё апавяданне аўтар заканчвае паказам варожасці паміж сынамі Атылы пасля яго раптоўнай смерці ў шлюбную ноч. У 17 невялікіх раздзелах аповесці больш-менш падрабязна апісаны ў асноўным толькі паходы «войска» Атылы на захад: да «французаў» (галаў) з бітвай на Каталаўнскіх палях і да секванаў, а таксама паход на Адрыятыку і ў Італію. Гістарычны матэрыял аздоблены прамовамі галоўнага героя, партрэтамі персанажаў, дадатковымі сюжэтамі і іншымі белетрыстычнымі элементамі. У цэлым твор нагадвае сабой займальны аповед, хаця Олаг ствараў гістарыяграфічную працу, а таму імкнуўся пазбегнуць фантастычных дэталяў і містыкі, спасылаўся на старажытных аўтараў і «угорскія хронікі».

З'яўленне польскага і беларускага перакладаў гэтага твора пра Атылу ў 1570-х гг. невыпадковае. Праца Цыпрыяна Базыліка (каля 1535 — пасля 1591) убачыла свет у час выбараў караля Рэчы Паспалітай, і сімпатыі перакладчыка былі на баку венгерскага прэтэндэнта трансільванскага князя Стафана Баторыя (лар. 16—17). Так, А. Золтан указвае на такую дэталь у апісанні партрэта Атылы, як форма носа: у лацінскім тэксце выступае плоскі нос (*simo naso*), тады як Базылік робіць яго закрыўленым (*nosa zákrzywionego*), што можа быць свядомым адхіленнем перакладчыка, паколькі на вядомых выявах і паводле сведчанняў сучаснікаў Баторый меў арліны нос (лар. 18—19). Пасля абрання Баторыя каралём (1576—1586) у Рэчы Паспалітай абуджаецца цікавасць да венгерскай гісторыі. Як адзначае А. Золтан, некаторыя польскія кніжнікі параўноўвалі Баторыя з Атылам, а вайну з Масковіяй трактавалі як справядлівую, накіраваную на вяртанне Баторыем сваіх спрадвечных



земляў, паколькі, маўляў, венгры выйшлі з-над ракі Югры ў Масковіі (лар. 549)[9]. Некалькі алюзій і сюжэтаў (легенда пра св. Уршулу) з перакладу Базыліка скарыстаў у сваёй польскамоўнай хроніцы і Мацей Стрыйкоўскі (лар. 80—89, 548—550). Відаць, невыпадковым з'яўляецца і пераклад выдання Базыліка, які ў 1558—1570 гг. працаваў на Беларусі, на старабеларускую мову.

Беларускі пераклад дакладна паслядоўнічае польскай версіі Базыліка, які правільна і нават элегантна перадаў лацінскі арыгінал (лар. 17—19). Ужо А. Брукнер ахарактарызаваў старабеларускі пераклад як вельмі літаральны, ледзь ці не транслітарацыю польскага тэксту кірыліцай[10], і з таго часу гэтую думку падзялялі ўсе іншыя даследчыкі (лар. 41—44, 543—544). Сапраўды, перакладчык пільна трымаўся літаральнасці, не дапускаючы адхіленняў ад тэксту, яго скарачэнняў ці пераробак, захоўваючы сінтаксіс і часта нават лексіку свайго польскага арыгінала, што было магчыма дзякуючы роднаснай блізкасці абедзвюх моў. У сучаснасці такая літаральнасць магла б лічыцца нормай перакладчыцкай практыкі[11], аднак для многіх вучоных XIX і пач. XX ст., якія ў старажытным пісьменстве шукалі самабытнасці, яна здавалася праявай неарыгінальнасці і несамастойнасці мыслення перакладчыка. Дзякуючы высокай літаральнасці старабеларускага перакладу, А. Золтан, з улікам лацінскага арыгінала, паспрабаваў рэканструяваць страчаныя фрагменты польскага перакладу Базыліка (лар. 29—37). Справа ў тым, што адзіна ацалелы асобнік кракаўскага старадрука, які захоўваецца цяпер у бібліятэцы Польскай АН у Курніку, мае некалькі пашкоджаных месцаў — напачатку і напрыканцы.

Разам з тым А. Золтан паказаў, што ў некаторых месцах перакладчык спрабаваў знайсці лексічныя замены свайму польскаму ўзорніку (лар. 46—51, 544—546). Аднак нават у гэтым выпадку ён нязменна паслядоўнічаў свайму арыгіналу ў сінтаксісе і колькасці слоў. Пры гэтым для замен перакладчык выкарыстоўваў іншыя паланізмы і толькі зрэдку — усходнеславянскія дыялектызмы (лар. 48, 545). А. Золтан указаў на некаторыя дыялектызмы, паслядоўна праведзеныя ў тэксце: *бусель* (адпавядае польск. *bocian*), *хороший* (для *piękny* ці *cudny*) (лар. 52—54). Далейшыя росшукі ў гэтым кірунку могуць дапамагчы ў рэканструкцыі роднага дыялекту перакладчыка. У той жа час ён не ведаў значэння некаторых польскіх слоў, прапускаючы іх ці перакладаючы памылкова (лар. 56).

А. Золтан канстатуе невысокую зацікаўленасць мовай беларускага перакладу з боку даследчыкаў (лар. 43 і наст.), нягледзячы на тое, што ён быў уведзены ў навуковы ўжытак яшчэ ў канцы XIX ст. Аналіз дзвюх існуючых публікацый помніка[12], выкананых расійскім літаратуразнаўцам А. Весялоўскім у 1888 г. (разам з дзвюма другімі аповесцямі Пазнанскага зборніка) і ўкраінскім даследчыкам В. Мікітасем у 1988 г., паказвае, што ніводная з іх не можа прэтэндаваць на статус крытычнай ці нават хаця б дакладнай. У публікацыі А. Весялоўскага маюцца нярэдкія пропускі слоў і нават сказаў або іх фрагментаў, шматлікія памылковыя прачытанні (лар. 20—23, 550—552). Прычынай такой неахайнасці з'яўляецца недасяжнасць выдаўцу першакрыніцы: тэкст рукапісу быў на яго просьбу скапіраваны іншай асобай у Познані, што тады знаходзілася ў складзе Прусіі, і вычытаны А. Брукнерам (лар. 20—21). Усе астатнія (фрагментарныя) публікацыі твора ў XX ст. грунтаваліся менавіта на тэксце выдання А. Весялоўскага. На яго падставе была выканана і адзіная поўная публікацыя Мікітася, адметная ўкраінізаванай арфаграфіяй, што беспадстаўна

пэратварае твор у помнік украінскай мовы, і няўдалай рэканструкцыяй лакун старабеларускага рукапісу (лар. 24—27, 552—554).

Выданне А. Золтана фактычна з'яўляецца новай крытычнай публікацыяй старабеларускага помніка на падставе рукапісу і яго польскага арыгінала, з улікам лацінскай першакрыніцы. Праца пачынаецца з крытычнага раздзела на венгерскай мове (лар. 11—104). У эдытарскім раздзеле змешчаны цэлыя тры публікацыі: а) старабеларускага тэксту паводле Пазнанскага рукапісу ў выглядзе факсіміле і транслітарацыі кірыліцай (лар. 106-209), пры гэтым транслітарацыя нешматлікіх кароткіх маргіналій рукапісу з тэхнічных умоў апублікавана асобна (лар. 210—211); б) польскага тэксту Цыпрыяна Базыліка паводле адзінага экземпляра кракаўскага выдання 1574 г., таксама ў выглядзе факсіміле і транслітарацыі лацінкай (лар. 214—453); в) паралельнага супастаўлення польскай і старабеларускай транслітарацый, што дазваляе вызначыць важнейшыя адхіленні ад лацінскага арыгінала (лар. 456—538). Выданне заканчваецца працяглым рэзюме крытычнага раздзела на рускай мове (лар. 539—554), што робіць працу аўтара больш дасяжнай славістам.

Факсіміле старабеларускага тэксту змешчана ў адсканаваным і паменшаным выглядзе, а таму не заўжды добра чытэльнае. Хаця транслітарацыя ў пэўнай ступені кампенсуе гэты недахоп, аднак і ў ёй дапушчаны невялікія памылкі, на якія ўжо ўказвалася крытыкай[13]. Некаторыя дробныя адхіленні можна адзначыць і пры транслітарацыі польскага тэксту, напрыклад: *inácżey* (лар. 288) — *inácżej* (лар. 289).

Матэрыялы крытычнага раздзела і рэзюме на рускай мове ўжо друкаваліся венгерскім даследчыкам у розныя часы і ў розных крыніцах на працягу апошніх 15 год. Зведзеныя цяпер пад адну вокладку і забяспечаныя публікацыяй арыгінальных тэкстаў, яны разам ствараюць значнае выданне, якое зацікавіць як літаратуразнаўцаў, так і мовазнаўцаў. Такое выданне ліквідуе недахопы папярэдніх публікацый і ўводзіць у навуковы ўжытак грунтоўна падрыхтаваны тэкст, добра забяспечаны ў тэксталагічных адносінах. Можна сказаць, што славістыка ўзбагацілася каштоўнай працай, якая робіць дасяжным для далейшых даследаванняў цікавы помнік старабеларускай спадчыны.

1 На гэта ўказвае Ст. Пташыцкі, вядомы польскі гісторык і археограф, выдавец летапісу Рачынскага (СПб., 1907), у лісце да А. Весялоўскага (гл.: Веселовский А. Н. Из истории романа и повести: Материалы и исследования. СПб., 1888. С. 130—131) (Сборник ОРЯС Имп. акад. н. Т. 44. № 3), хаця сам Весялоўскі датуе стварэнне рукапісу каля 1580 г.

2 Іх мова дэталёва даследавана (гл.: Jasińska-Socha T. System fleksyjny starobiałoruskich zabytków II połowy XVI wieku: Opowieść o Tristanie; Opowieść o Bowie. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1979). Аднак мова беларускай аповесці пра Атылу застаецца пакуль нявывучанай.

3 Адзінае выключэнне складае аповесць пра Баву, з якой у невядомы час быў зроблены спіс, што трапіў у 2-й пал. XVII ст. у Масковію. Перакладзеная (ці часткова пераказаная) на рускую мову, гэтая аповесць атрымала там вялікую папулярнасць і распаўсюджвалася ў мностве спісаў (гл.: Кузьмина В. Д. Рыцарский роман на Руси: Бова; Петр Златых Ключей. М., 1964. С. 28, 30—31, 246).

4 Амаль ва ўсіх крыніцах (пачынаючы з А. Весялоўскага і дагэтуль) фігуруе лічба 344 арк., аднак гэта колькасць старонак, і толькі Т. Суднік указвае правільную лічбу аркушаў (гл.: Судник Т. М. «Повесть о Трыщане» в Познанском сборнике XVI в. // Легенда о Тристане и Изольде. М., 1976. С. 698—703).



5 Brückner A. Ein weissrussischer Codex miscellaneus der Gräflich-Raczynski'schen Bibliothek in Posen // Archiv für slavische Philologie. 1886. Bd. 9. S. 345—391.

6 Другая дачка іспанскага караля Філіпа Прыгожага і Хуаны Вар'яткі, удава маладога караля Людовіка (Лаёша) II (1506—1526), сына аднаго з Ягелонаў — Уладзіслава (Уласла) II, які быў не толькі венгерскім, але і чэшскім каралём. Лаёш II загінуў у бітве пад Мохачам, а яго ўдава ўцякла з Венгрыі і пасля смерці Маргарыты Аўстрыйскай была намесніцай (рэгентам) аўстрыйскіх Габсбургаў у іх нідэрландскіх уладаннях.

7 Атыла (Этэле, 406—453) — правадыр гунаў з 434 г., які здолеў аб'яднаць пад сваёй уладай самы вялікі саюз плямёнаў (уключаючы аланаў, остготаў, герулаў, гепідаў і інш.), што калі-небудзь узнікаў на межах Рымскай імперыі.

8 Цікава, што такая інтэрпрэтацыя кантрастуе з вобразам Атылы ў познаантычнай літаратуры як жорсткага правадыра ваяўнічых гунаў, «пугі божай» (паводле выразу ананімнага храніста IX ст.), што наводзіла жах на цэлыя народы. Войны Атылы вызначаліся крывавымі жорсткасцямі і масавымі рабаваннямі і знішчэннямі насельніцтва захопленых гарадоў ці крэпасцей. Гэты вобраз ворага ўсёй еўрапейскай цывілізацыі замацаваўся і ў сярэднявечнай кніжнасці. Тым не менш Атыла зрабіўся цэнтральным героем венгерскай гісторыі. У эпоху Сярэднявечча венгры лічылі Атылу сваім продкам, а гунаў венгерскія і многія еўрапейскія кніжнікі атаясамлівалі з венграмі (лар. 38—40). У венгерскім фальклоры Атыла быў апеты як магутны валадар і народны правадыр, не менш ідэалізаваны вобраз Атылы стваралі і венгерскія сярэднявечныя крыніцы, што было падхоплена і развіта рэнесанснай гістарыяграфіяй.

9 Так думаюць і некаторыя беларускія даследчыкі (гл. рэц. А. Бразгунова на дадзеную публікацыю А. Золтана ў: Беларускі гістарычны агляд. 2003. Т. 10. Сш. 1/2 (18/19). С. 387).

10 Brückner A. Ein weissrussischer Codex miscellaneus … S. 346.

11 Можна звярнуць увагу, што менавіта такім чынам перакладаюцца рускамоўныя тэксты на беларускую мову ў афіцыйным дыскурсе Беларусі — са строгай літаральнасцю не толькі ў сінтаксісе і лексіцы, але і ў граматыцы, часта нават да страты адрозненняў паміж рускай і беларускай мовамі (гл.: Іванова С. Ф. Наколькі блізкія блізкароднасныя мовы (Да вызначэння лінгвістычнай адлегласці паміж беларускай і рускай мовамі) // Сацыяльныя і культурныя аспекты вывучэння беларускай мовы: Зборнік навуковых прац. Магілёў, 1998. С. 57—76).

12 У час, калі праца А. Золтана рыхтавалася да друку, з'явілася новая, хаця і фрагментарная публікацыя помніка, выкананая А. Бразгуновым паводле рукапісу (гл.: Анталогія старажытнай беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII стагоддзя. Мн., 2003. С. 570—582).

13 Гл. рэц. А. Бразгунова ў: Беларускі гістарычны агляд … С. 390.

*І. П. Клімаў*

— ◇ —

## НАВУКОВАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ НОВАГА ТВОРА ІВАНА УЖЭВІЧА

*«Rozmova — Beseda»: Das ruthenische und kirchenslavische Berlaimont-Gesprächsbuch des Ivan Uževyč; Mit lateinischem und polnischem Paralleltext / Hrsg. D. Bunčić, H. Keipert. München: Otto Sagner, 2005. (Sagners slavistische Sammlung, 29) LII + 287 S.*

Нямецкае выданне, здзейсненае двума нямецкімі славістамі — вядомым вучоным Гельмутам Кайпертам і Даніелем Бунчычам, яго вучнем, — уяўляе сабой першую навуковую публікацыю рукапісу Парыжскай нацыянальнай бібліятэкі. У гэтым рукапісе кірылічны тэкст (добра чытэльны, блізкі да скорапісу) змешчаны ў двух слупках на старонцы, пры гэтым напачатку рукапісу кожны слупок азагалоўлены надпісамі на лацінскай мове popularis і sacra, г. зн. народная і сакральная (свяшчэнная) мова. Як было ўсталявана зусім нядаўна Г. Кайпертам[1], рукапіс належыць вядомаму ўсходнеславянскаму філолагу сярэдзіны XVII ст. Івану Ужэвічу[2] (яго аўтограф) і з'яўляецца двухмоўным размоўнікам на рутэнскай (г. зн. старабеларускай / стараўкраінскай) і царкоўнаславянскай мовах, прычым абедзве яго часткі перакладзены Ужэвічам паводле папулярнага ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе шматмоўнага размоўніка антверпенскага настаўніка Наэля з Берлемонта.

Як ні дзіўна, але гэты рукапіс быў дастаткова даўно знаёмы ў славістыцы. Упершыню яго апісаў у сярэдзіне XIX ст. расійскі эмігрант І. Мартынаў, які прыняў каталіцтва, і з таго часу гэты рукапіс заўжды адзначалі ўсе апісальнікі славянскіх рукапісаў гэтай буйной бібліятэкі (S. III). Нягледзячы на свой займальны характар, рукапіс доўгі час не прыцягваў увагі даследчыкаў, пакуль у 1970-х гг. яго фотакопія не трапіла на Украіну, дзе ім зацікавіліся ўкраіназнаўцы М. Жаўтабрух і І. Біладзід[3], прычым апошні рыхтаваў да выдання ў 1970 г. граматыку І. Ужэвіча, у якім былі змешчаны факсіміле яе двух рукапісаў, што таксама з'яўляюцца аўтографамі І. Ужэвіча. Яны абвясцілі размоўнік помнікам украінскай мовы канца XVI ст., перакладзеным каля 1575 г. аўтарам-украінцам, верагодна, у сценах Кіева-Магілянскай акадэміі[4]. У канцы 1990-х гг. гэтая думка была развітая ўкраінскай даследчыцай А. Петэгырыч (у шлюбе Антоніў), якая вывучала ў розных аспектах размоўнік «канца XVI ст.» і яго мову[5]. Цікава, што абодва творы Ужэвіча, граматыка і размоўнік, паходзяць са збору французскага міністра фінансаў Жана-Батыста Кальбера (1619—1683), маркіза дэ Сеньело (de Seignelay), «правай рукі» караля Людовіка XIV. Граматыка была ім набыта ў 1678 г. у складзе збору рукапісаў матэматыка Клода Хардзі, а вось адкуль трапіў да яго размоўнік, набыты раней, — няясна (S. XV).

Варта крыху больш падрабязна спыніцца на працы, якая паслужыла арыгіналам І. Ужэвічу. Размоўнік, найчасцей вядомы пад назвай «Размова і слоўнічак» (*Colloquia et dictionariolum*), быў створаны Наэлем з Берлемонта[6], які працаваў настаўнікам у Антверпене (пам. у 1531). Напачатку гэта быў двухмоўны, французска-фламандскі размоўнік (Антверпен, 1527, 1530)[7], які складаўся толькі з 3 дыялогаў: Бяседа дзесяці асоб (найбольш працяглы і значны), Спосабы куплі і продажу, Патрабаванне даўгоў, а таксама меў невялічкую калекцыю ўзораў прыватных і справавых лістоў. Ён набыў папулярнасць і пасля смерці Наэля, пачаў выдавацца друкарамі ў Іспанскіх Нідэрландах, з цягам часу атрымаўшы кароткія ўводзіны і пераклад на лацінскую (1551) і іспанскую (1556) мовы (абедзве версіі з'явіліся ўпершыню ў Лувене). У апошнюю чвэрць XVI ст. змест размоўніка быў значна пашыраны антверпенскім друкаром Хенры Хейндрыксам (Heyndrickx), які дадаў 4 новыя дыялогі (Запытанне шляху і падобныя размовы, Агульная размова ў гаспodзе, Перамовы пры ўставанні і Перамовы



пры куплі) — першыя дзве з'явіліся ў 6-моўным выданні 1579 г., наступныя дзве — у 6-моўным выданні 1583 г.; у абодва выданні тады ж былі дададзены пераклады на нямецкую і англійскую мовы. Неўзабаве пашыраны размоўнік (т. зв. Новы Берлемонт) набыў пераклад на італьянскую мову (першае 7-моўнае выданне: Кёльн, 1587), а крыху пазней — таксама на партугальскую, баварскую, чэшскую (Лейпцыг, 1602 і 1611), брэтонскую (1626), польскую (Варшава, 1646), шведскую (каля 1690)[8]. Такім чынам, размоўнік ахапіў усе значныя мовы Заходняй і Цэнтральнай Еўропы[9]. У залежнасці ад запыту мясцовага рынку і разліку друкара ён выдаваўся ў 2, 4, 6, 7 і 8-моўным выглядзе[10], змяшчаючы на двух разгорнутых старонках разнамоўныя тэксты паралельна, у калонках. У шматмоўным выданні выдавец выключаў якуюнебудзь неактуальную, на яго думку, мову і ўстаўляў тэкст на мясцовай мове. У XVII ст. калонкі часам суправаджаліся малюнкамі, якія ілюстравалі сюжэты дыялогаў. Ужо з канца XVI ст. размоўнік Берлемонта зрабіўся папулярным стандартным падручнікам для авалодання замежнымі мовамі і выкарыстоўваўся паўсюдна. Каля 110 розных яго выданняў (ад 2 да 8-моўных, уключна з лацінай) убачылі свет паміж 1530 і 1703 гг. Сучасным даследчыкам гэты размоўнік дасяжны паводле двух крытычных публікацый[11].

Усе дыялогі ў размоўніку Берлемонта прадстаўлены дзеючымі асобамі (*dramatis personae*), умоўна пазначанымі фламандскімі імёнамі (часам прадстаўлены як родзічы Наэля, якія вядуць паміж сабой размовы). Гутарка вядзецца ў дастаткова рэалістычнай манеры, у нечым нагадваючы драматычныя творы XVI ст., хаця з максімальна тыпізаванымі сказамі. Выкарыстанне дыялагічнай формы ў размоўніку абавязана традыцыі, якая ўзыходзіць яшчэ да антычных часоў, а ў эпоху Рэнесанса яна была падтрымана літаратурай гуманістаў, якія многім сваім творам надавалі дыялагічную форму. Апрача дыялогаў, у размоўніку змяшчаліся лічбы і назвы дзён тыдня, асобны раздзел ўтваралі ўзоры лістоў, а завяршаў усё алфавітны слоўнічак (*dictionariolum*), дзе словы былі змешчаны паводле фламандскага правапісу. У дадатку да працы змяшчаўся кароткі трактат пра вымаўленне і граматыку, напісаны на французскай мове пра французскую, італьянскую, іспанскую мову і на італьянскай — пра нямецкую. Трактат падсумоўваўся некалькімі заўвагамі на французскай мове наконт італьянскай, іспанскай, французскай і фламандскай моў. І дыялогі, і слоўнічак, і дадатковыя часткі ўтрымлівалі кароткія звесткі ці высновы наконт рас і моў, лёгкасці авалодання тымі ці іншымі мовамі, наконт сацыяльных зносін, таварнага і фінансавага абарачэння, нацыянальных адрозненняў, знаёмячы такім чынам студэнтаў з методыкай навучання замежных моў і фактамі культурнай гісторыі.

Згодна з размоўнікам Берлемонта, праца І. Ужэвіча складаецца з 7 кароткіх дыялогаў і 8-га дадатковага раздзела, у якім змешчаны ўзоры лістоў. Праца пачынаецца кароткай прадмовай у форме звяртання да чытача, перакладзенай Ужэвічам паводле размоўніка Берлемонта. У асобным раздзеле (*Таблица книги*) пералічаны дыялогі з кароткай анатацыяй іх зместу; пры гэтым згадваецца 2-я частка кнігі, якая змяшчае слоўнічак з лексікай для штодзённых размоў, аднак гэта толькі дакладны пераклад арыгінала размоўніка, не вядома, ці збіраўся Ужэвіч наогул стварыць такі слоўнічак[12]. Наступныя 7 раздзелаў змяшчаюць 7 дыялогаў (далей падаюцца іх назвы ў перакладзе з лацінскай мовы і ў версіі Ужэвіча): Бяседа дзесяці асоб (*Посежение десети персонъ*), Пра правілы куплі і продажу (*О способах продаваня и купованя*), Пра патрабаванне доўгу з даўжнікоў (*О мовеню з должниками*), Пра спосаб запытан-

ня шляху з належнымі да таго размовамі (*О способе пытаня о дорозе з розмовами дотондъ належачыми*), Размова агульная ў гасподзе (*Розмовы посполитыи гостемъ*), Размова пры ўставанні (*Розмова о встаню*), Перамовы да куплі належныя (*Розмовы до торговиска належачии*). Дыялогі завяршаюць кароткія пералікі лічбаў (*Личбы*) і назваў тыдня (*О дняхъ тыдняхъ*). Апошні раздзел рукапісу — Пра спосаб пісання лістоў, кантрактаў, векселяў і распісак (*О способе писаня листов, обликговъ и хирокграфовъ*) — утрымлівае невялікую калекцыю ўзораў лістоў і некаторых дакументаў, змешчаных у размоўніку Берлемонта: ліст да сябра (ліст Ёгана Берлемонта з Бругe да бацькі Пятра Берлемонта ў Антверпен) і адказ ад яго, напамінальны ліст да даўжніка з патрабаваннем звароту доўгу і адказ на яго (з просьбай аб адтэрміноўцы), падзячны ліст пры вяртанні доўгу, дакаральны ліст да сябра за яго нежаданне пазычыць кнігу, кантракт на найм жытла, распіска ва ўзяцці задатку (*заставныхъ грошей*) за найм жытла, два пазычальныя лісты (векселі) за тавар ці грошы з абавязкам выплаціць іх да пэўнага тэрміну, распіска за пазыку грошай. Завяршае гэтую калекцыю кароткі пералік тытулаў і эпітэтаў, што ўжываюцца ў лістах пры звяртанні да адрасата — гэты пералік дададзены самім Ужэвічам, у выданнях размоўніка ён адсутнічае (S. LV, Anm. 37).

Пераклад на старабеларускую мову быў зроблены І. Ужэвічам паводле лацінскай версіі размоўніка Берлемонта, прычым лацінскі тэкст быў ім перакладзены на старабеларускую мову поўна і амаль літаральна, тады як пераклад на царкоўнаславянскую паслядоўнічаў першаму (S. XXXV) і ў многіх месцах няпоўны: аўтар прапускаў загалоўкі, імёны асоб і назвы гарадоў, мясцін, святаў, лічбаў і дзён тыдня, назвы страў, тавараў, матэрыялаў, манет і грошай, вымярэнняў і вагі, а таксама асобныя старабеларускія словы і выразы, якія былі аднолькавыя з царкоўнаславянскай мовай. Як мяркуе Г. Кайперт, перакладчык зазнаваў пэўныя цяжкасці пры вытрымліванні апазіцыі паміж народнай і сакральнай мовамі і прывядзенні да апошняй належных адпаведнікаў[13]. Многія моманты, звязаныя са штодзённымі зносінамі, размовамі на гандлёвыя ці фінансавыя тэмы, увогуле было немагчыма перадаць сродкамі сакральнай, царкоўнай, мовы[14]. Паводле самога рукапісу Ужэвіча бачна, што ў падобных выпадках побытавыя і гандлёва-фінанасавыя рэаліі ў царкоўнаславянскім тэксце атрымлівалі старабеларускія сродкі: *чытай* — *чытай*, *раховати* — *личити*, *фунтъ* — *литръ / либръ*, *штибръ* — *штибръ*, *солдъ* — *солдъ* ‘сольда’, *таней* — *таней* ‘танней’, *крамъ* — *крамница* ‘крама’, *аксамитъ* — *аксамитъ* (хаця ў іншым месцы *виссонъ*) і інш. І хаця ў цэлым Ужэвіч прыклаў значныя намаганні, каб зябяспечыць царкоўнаславянскі пераклад адэкватнымі сродкамі, тое, што ў яго атрымалася, уяўляе сабой «хутчэй тэарэтычна-эксперыментальны канструкт», штучнасць якога разумеў і сам перакладчык[15]. Як падкрэслівае Г. Кайперт, Ужэвіч не імкнуўся пазнаёміць усходнеславянскіх чытачоў з заходнееўрапейскімі мовамі, а адрасаваў свой пераклад заходнім чытачам, каб паказаць ім супрацьпастаўленасць народнай і сакральнай (царкоўнаславянскай) мовы[16]. Такая супрацьпастаўленасць дасягалася галоўным чынам за кошт лексікі, у меншай ступені за кошт граматыкі[17]. Гэтым пераклад Ужэвіча, на думку Г. Кайперта, адрозніваецца ад аналагічных перакладаў на славянскія мовы: чэшскую, польскую, рускую (рукапісную), якія арыентаваліся на вусную гаворку[18].

Выданне нямецкіх славістаў складаецца з папярэдніх заўваг выдаўцоў (S. III—VIII), уводзін (S. XIII—LI) і непасрэдна самой публікацыі рукапісу (S. 2—287). Уводзіны пачынаюцца з апісання рукапісу (S. XIII—XVIII): выдаўцамі вызначана папера і яе філіграні (бліжэйшыя французскія кнігі з такімі філігранямі паходзяць з 1643—1657 гг., S. XIV), тып пісьма (скарапіс), пагінацыя, адзначаны запісы бібліятэкараў, апісана вокладка XIX ст. Далей ва ўводзінах выкладаюцца прынцыпы выдання кірылічнага тэксту (S. XVIII—XXV), у прыватнасці, разгледжаны малюнак літар (блізкіх да паўустава) і графіка рукапісу (выкарыстанне вялікіх і малых літар, падзел слоў), пералічаны алаграфы (тыя рукапісныя варыянты, якія перадаюцца адной літарай, і тыя, што ў публікацыі перададзены рознымі літарамі) і скарачэнні. Пасля вызначэння арыгінала перакладу (S. XXV—XXXVI) публікатары падалі прынцыпы выдання лацінскага тэксту (S. XXXVI—XXXIX), у стасунку якога абмяркоўваецца перадача лігатур і алаграфаў, надрадковых знакаў, скарачэнняў, і прынцыпы выдання польскага тэксту паводле варшаўскага выдання 1646 г. (S. XXXIX—XLI), разгледзеўшы, у прыватнасці, пагінацыю, выбар шрыфту (варшаўскае выданне надрукавана швабахам, але публікатары замянілі лепш чытэльнай антыквай), перадачу лігатур і алаграфаў. Уводзіны завяршае спіс цытаваных крыніц (рукапісаў, старадрукаў, навуковай літаратуры), ключ да пазначэння ўдзельнікаў дыялогаў (паводле раздзелаў), якія ў выданні падаюцца скарочана, канспект зместу кожнага раздзела размоўніка, пададзены ў выглядзе табліцы.

Вызначаючы арыгінал перакладу, выдаўцы ў выніку параўнання розных версій прыйшлі да высновы, што размоўнік быў перакладзены з лацінскай мовы (S. XXV—XXVIII). Яны прывялі ў якасці доказу некаторыя словы ці выразы, што з’явіліся ў лацінскім перакладзе і адсутнічаюць у большасці іншых перакладаў (у т. л. польскім і чэшскім), але захаваныя Ужэвічам. Дарэчы, ён часта пазначаў лацінскімі літарамі ініцыялы дзеючых асоб у дыялогах (S. XXXIII).

Публікатарам удалося вызначыць канкрэтнае выданне, якое паслужыла І. Ужэвічу арыгіналам. Справа ў тым, што ён упісваў радкі свайго перакладу паводле радкоў лацінскага тэксту, пазначаючы рыскамі (за рэдкімі пропускамі) старонкі свайго лацінскага выдання (S. XXIX). Пры гэтым ён дакладна імкнуўся захаваць лік радкоў свайго арыгінала, так што нават калі памылкова ўпісваў некалькі лішніх слоў, то тады закрэсліваў іх і пісаў нанова ў наступным радку згодна са сваім лацінскім узорам (S. XXXII—XXXIII). Пры гэтым Ужэвіч нават пераймаў пераносы ў сваім лацінскім арыгінале, робячы падобныя пераносы слоў у сваім перакладзе, чаго няма ва ўсіх іншых перакладах (S. XXXIII—XXXV). Выдаўцы адшукалі шэраг 8-моўных выданняў (Дэлфт, 1598, 1605, 1613; Флісінген, 1613; Гаага, 1613), лік старонак у якіх (адносна лацінскай версіі) супадае з пазнакамі рукапісу І. Ужэвіча. У гэтых выданнях супадаюць таксама некаторыя дробныя рысы, якія былі перанятыя Ужэвічам у перакладзе (S. XXXI—XXXII), што дазволіла выдаўцам указаць на выданне 1613 г. (Дэлфт і Гаага, апошняе ідэнтычнае з першым, паколькі выканана на тых самых наборных дошках) як бліжэйшае да рукапісу Ужэвіча, хаця гэта не выключае, што ён мог карыстацца нейкім іншым выданнем, блізкім да гэтых, якое не захавалася (S. XXXII). Менавіта гэтае выданне і было апублікавана Г. Кайпертам і Д. Бунчычам у якасці лацінскага ўзору рукапісу Ужэвіча, з разначытаннямі паміж іншымі вышэйназванымі галандскімі выданнямі, а таксама лацінскім тэкстам у варшаўскім выданні 1646 г.

Імкнучыся да лепшай чытэльнасці і зразумеласці тэксту, выдаўцы падалі тэкст у наборы сучасным алфавітам, ясным, добрачытэльным шрыфтам, ахвяраваўшы пры выданні ўсімі палеаграфічнымі дэталямі — справу факсімільнага вы-

дання рукапісу яны пакінулі радзіме аўтара (S. XVIII). Абраны імі падыход цалкам апраўданы, паколькі рукапіс Ужэвіча ўяўляе каштоўнасць перш за ўсё з боку вывучэння мовы і тэхнікі перакладу. У гэтых адносінах праца з рукапісным тэкстам стварае пэўныя цяжкасці для даследчыка (тым больш што скорапісу, нават і добрачытэльнаму, уласцівы надта стылізаваныя варыянты літар). Даследаванне перакладу патрабуе супастаўлення з лацінскай і бліжэйшай паводле культурна-генетычнай блізкасці польскай версіямі, публікацыя якіх у факсімільным выглядзе (ды яшчэ рознымі шрыфтамі) толькі б ускладніла працэс параўнання.

Сваім выданнем нямецкія славісты шмат палегчылі працу будучых даследчыкаў, надрукаваўшы ўсе тры версіі наборным шляхам і размясціўшы лацінскі і польскі тэксты паралельна з перакладам Ужэвіча, так што на кожны яго радок прыпадае не толькі адпаведны лацінскі радок, але і польскі фрагмент. Усяго ж публікацыя залучае чатыры калонкі на паласу: дзве змешчаны на левай старонцы (лацінская і польская версіі) і дзве на правай (старабеларускі і царкоўнаславянскі пераклад Ужэвіча).

Пры гэтым тэкст рукапісу І. Ужэвіча апублікаваны з максімальным набліжэннем да арыгінала: захаваны размяшчэнне слупкоў на старонцы (злева старабеларускі, справа царкоўнаславянскі), іх радкі (ад 19 да 26 на старонку), закрэсленні, прыпіскі, падкрэсленні, рыскі, водступы і нават прагалы паміж словамі (разам напісаныя словы надрукаваныя без прагалаў, але ў гэтым выпадку яны падзелены рыскамі), а таксама скарачэнні, надрадковыя і вельмі рэдкія пунктуацыйныя знакі. Разам з тым выдаўцы ўносілі ў радок выносныя літары (пазначаючы іх толькі курсівам) і выпраўлялі яўныя памылкі, апіскі ці паляпшалі няясныя напісанні, робячы адпаведныя адзнакі ў падрадковых заўвагах, дзе пададзены таксама варыянты ці эмендацыі. На жаль, пры наборы тэкстаў не ўдалося пазбегнуць некаторых рэдкіх друкарскіх памылак — яны адзначаюцца як у рукапісе Ужэвіча, так і ў лацінскім тэксце і ў тэксце ўласных уводзін выдаўцоў[19]. Аднак гэтыя дробныя недахопы не зніжаюць вялікай вартасці выдання.

Пільна выкананая публікацыя, забяспечаная належным крытычным апаратам, арыгіналам перакладу і польскай версіяй, уводзіць у навуковы ўжытак каштоўную крыніцу старабеларускай мовы і філалогіі. Рукапіс І. Ужэвіча, фактычна нанова знойдзены Г. Кайпертам, знаёміць даследчыкаў з цікавым помнікам старабеларускай мовы. Аналіз перакладу І. Ужэвіча здольны даць шмат цікавых фактаў па гісторычнай лексікалогіі, фанетыцы і граматыцы, а таксама дыялекталогіі і гісторыі літаратурных моў беларусаў і ўкраінцаў. Разам з тым размоўнік Ужэвіча надзвычай яскрава падкрэслівае ролю царкоўнаславянскай мовы ў гэтай гісторыі як мовы сакральнай і яе стасунак да мовы народнай. Беларускім і ўкраінскім вучоным застаецца толькі дзякаваць сваім нямецкім калегам, якія разгарнулі перад імі новую старонку спадчыны і падалі карысную публікацыю, выкананую на высокім навуковым узроўні.

[1] Keipert H. «Rozmova/Besěda»: Das Gesprächsbuch Slav. № 7 der Bibliothèque nationale de France // Zeitschrift für slavische Philologie. 2001 Bd. 60. Hf. 1. S. 9—40, гл. S. 12 і наст., 27 і наст.

[2] Паходжанне і дакладныя даты жыцця Івана Ужэвіча не вядомы (часам датуецца каля 1610 г. — пасля 1645 г., аднак гэта не больш чым экстрапаляцыя). Вядома, што ў 1637—1641 гг. ён вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, дзе быў запісаны як Ioannes Petri Uzewicz d. Vil. — Іван, сын Пятра, Ужэвіч, Віленскага дыяцэза. Студэнтам ён напісаў панегірык «Вобраз цноты і славы» (Кракаў, 1641) у гонар вяселля шляхціцаў Пшылэнцкіх, верагодна, у мэтах заробку. У 1643—45 гг. Ужэвіч вывучаў тэалогію ў Парыжы (Сарбонскі універсітэт). Там у Францыі ён напісаў на лацінскай мове «Граматыку славенскую», якая захавалася ў двух рукапісах-аўтографах: парыжскім 1643 г. і араскім 1645 г., што ўяўляе сабой апрацоўку папярэдняга (пра суадносіны паміж імі гл.: Dingley J. The two versions of the Gramatyka Slovenskaja of Ivan Uževič // The Journal of Byelorussian Studies. 1972. Vol. 2. No 4. P. 369—384). У граматыцы ён апісаў літаратурна-пісьмовую мову ВКЛ, назваўшы яе «простай мовай», lingua popularis. Паводле вымог тагачаснай навукі, у сваёй працы Ужэвіч адаптаваў структуру лацінскай граматыкі да фактаў старабеларускай мовы, са спасылкамі да фактаў царкоўнаславянскай мовы і заўвагамі наконт іншых славянскіх моў. Прыклады і парадыгмы ў яго граматыцы напісаны кірыліцай. У працы адчуваецца знаёмства з граматыкамі польскай мовы Пятра Статорыуса (Стаеньскага) 1568 г. і царкоўнаславянскай мовы Мялета Сматрыцкага (1619). Граматыка прызначалася для заходніх чытачоў. Гл.: Граматика слов'янська І. Ужевича / Підгот. І. К. Білодід, Є. М. Кудрицький. Київ, 1970 (там змешчаны факсіміле абодвух рукапісаў граматыкі і сучасны пераклад парыжскага рукапісу на ўкраінскую мову; маецца таксама пераклад А. Жлуткі араскага рукапісу на беларускую мову, гл.: Яскевіч А. А. Старабеларускія граматыкі. Мн., 2001. С. 261—346).



[3] Білодід І. К. Києво-Могилянська академія в історії східнослов'янських літературних мов. Київ, 1973. С. 33—36; Жовтобрюх М. А. Украинский разговорник XVI в. // Восточнославянское и общее языкознание. М., 1978. С. 191—197; *Ён жа*. Будова і лексична характеристика українського розмовника кінця XVI ст. // Питання східнослов'янської лексикографії XI—XVIII стст.: Матеріали симпозіуму. Київ, 1979. С. 50—58; *Ён жа*. Важлива пам'ятка української літературної мови // Українська мова і література в школі. 1979. № 1. С. 29—34; *Ён жа*. Відмінкові форми в «Розмові» XVI ст. // Мовознавство. 1980. № 5. С. 32—43.

[4] Прычынай выбару 1574 г. стала датаванне аднаго з узорных лістоў, змешчаных у дадатку да размоўніка, аднак такое датаванне фіктыўнае, яно выступае ў арыгінальным тэксце размоўніка і служыць зыходным пунктам для вызначэння сапраўднай даты стварэння рукапісу не можа (S. VI, Anm. 1, гл. таксама: Keipert H. «Rozmova/Besěda»: Das Gesprächsbuch … S. 24). Выбар Кіева-Магілянскай акадэміі тлумачыцца тым, што ў якасці верагоднай крыніцы перакладу была названа лацінская мова, гл.: Жовтобрюх М. А. Будова і лексична характеристика … С. 51.

[5] Петегирич О. В. «Розмова» як тип українського словника-розмовника (пам'ятка кінця XVI ст.) // Вісник Львівського університету: Серія філологічна. 1997. Вип. 26: Мова і соціальні процеси. С. 39—42; *Яна ж*. Графіко-фонетичні особливості українського розмовника кінця XVI ст. // Матеріали Міжнародної славістичної конференції пам'яті проф. К. Трофимовича (1—3 квітня 1998 року). Львів, 1998. Т. 1. С. 76—79; *Яна ж*. Лексичні запозичення в українському розмовнику кін. XVI ст. // Матеріали всеукраїнської конференції «Семантика, синтактика, прагматика мовленої діяльності» 25—27 січня 1999 року. Львів, 1999. С. 150—153; Петегирич-Антонів О. В. Культурно-історична та лінгвістична чінність української пам'ятки кінця XVI століття — «Розмовы» // Вісник Львівського університету: Серія філологічна. 2000. Вип. 29. С. 71—77.

[6] Яго імя звычайна пішацца на французскі ўзор: Noël de Berlaimont, паводле назвы мястэчка Berlaimont каля Па-дэ-Кале (Pas-de-Calais) у Паўночнай Францыі, адкуль паходзіла яго сям'я, аднак у XVI—XVII стст. часта пісалася па-фламандску: Noel van Berlamont і таму чытаецца паводле вымаўлення айчыны настаўніка.

[7] Гэтыя выданні (Якаба ван Лізвельта) не захаваліся, назва працы паводле наступнага дасяжнага выдання Вілема Ворстэрмана (Антверпен, 1536): *Noel van Berlaimont scoolmeester Tantwerpen Vocabulare von nyens gheordineert. Ende wederom gecorrigeert om lichtelic francois to leeren lezen scriven ende sprecen dwelc gestelt is meestendeel bi personagien. Vocabulaire de nouveau ordonne & de rechief recorrige pour aprendre legierement a bien lire escripre & parler francois & Flameng lequel est mis tout la plus par person naiges. Dese vocabularen vintmen te coope Tantwerpen tot Willem Vorsterman Inden gulden Enhoren Int jaer M.D.xxxvi* (4°). Аднак затым Новы Берлемонт выходзіў пад іншымі назвамі, найбольш пашыранай з якіх стаў лацінскі загаловак *Colloquia et dictionariolum*.

[8] Вядомы таксама пераклад XVII ст. на рускую мову (першых трох дыялогаў), які застаўся ў рукапісе, гл.: Ein Russisches handschriftliches Gesprächbusch aus dem 17. Jahrhundert / Hrsg. H. Ch. Sørensen. København, 1962, пра яго гл.: Keipert H. Nochmals zur Kopenhagener Handschift russischer Gespräche aus dem 17. Jh. // Zeitschrift für slawische Philologie. 1993. Bd. 53. S. 285—303.

[9] У 1603 г. у Амстэрдаме з'явіўся нават пераклад першых чатырох дыялогаў размоўніка на малайскую мову (S. XXV, Anm. 10).

[10] Пры гэтым у XVI ст. з'явілася ўсяго два 8-моўныя выданні (Антверпен, каля 1585; Дэлфт, 1598), прычым у апошнім з іх упершыню выступае пераклад на партугальскую мову.

[11] Найбольш пільную публікацыю размоўніка на падставе 7-моўнага выдання (Антверпен, 1616) выканаў праф. Рэне Вердэен, гл: *Colloquia Et Dictionariolum Septem Linguarum. Gedrukt door Fickaert Te Antwerpen In 1616* / Uitgeg. R. Verdeyen. Antwerpen; s'Gravenhage, 1925. Dl. 2. 1926. Dl. 1. Antwerpen, 1935. Dl. 3. (1 том змяшчае уводзіны, 2 — выданне тэксту, 3 — дадаткі, нідэрландска-французскі слоўнік, заўвагі да выдання; усе тры тамы выходзілі як выпускі Таварыства антверпенскіх бібліяфілаў: Vereeniging Der Antwerpsche Bibliophilen. Uitgave Nr. 39, 40, 42). Аднак яна даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю, таму напрыканцы XX ст. з'явілася новая італьянская публікацыя на падставе 8-моўнага выдання (Венецыя, 1656), выкананая калектывам на чале з Рыкарда Рыца: *Colloquia, et dictionariolum octo linguarum Latinae, Gallicae, Belgicae, Teutonicae, Hispanicae, Italicae, Anglicae, Portugallicae* / Ed. R. Rizza, M. H. Abreu, E. G. Dini, E. Giaccherini, W. Pagani, P. W. Waentig. Viareggio; Lucca, s. d. [1996].

[12] Напачатку гэта не выключалася, гл.: Keipert H. «Rozmova/Beseda»: Das Gesprächsbuch … S. 17—18. Аднак, як паказалі далейшыя назіранні над асаблівасцямі перакладу Ужэвіча, ён наўрад ці збіраўся ствараць такі слоўнічак: рабскі паслядоўнічаючы свайму лацінскаму арыгіналу (не толькі ў перакладзе, але і ў захаванні старонак і радкоў), ён у той самы час пакінуў ад яго загалоўка на тытульным лісце *Colloquia et dictionariolum octo linguarum* толькі першую частку: *Розмова* (S. XXXV).

[13] Keipert H. «Rozmova/Beseda»: Das Gesprächsbuch … S. 18, Anm. 18.

[14] Ibid. S. 22.



[15] Ibid.

[16] Ibid. S. 19—20, 36—37.

[17] Ibid. S. 22—23.

[18] Ibid. S. 19.

[19] З цягам часу выдаўцы знаходзяць усё новыя памылкі друку, так што за актуальным станам трэба звяртацца да наступнай старонкі ў Інтэрнеце: http://www.daniel.buncic.de/rozmova/.

*І. П. Клімаў*

— ◇ —

## ДВАДЦАТЬ ЛЕТ СПУСТЯ

*Чернобыль. 26 апреля 1986 — декабрь 1991: Документы и материалы / Сост.: В. И. Адамушко и др. — Мн.:НАРБ, 2006 — 484 с.*

Данный сборник документов, подготовленный белорусскими и российскими архивистами, специалистами Комитета по проблемам последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС при Совете Министров Республики Беларусь и изданный благодаря финансовому содействию Представительства ООН в Республике Беларусь в рамках Международной конференции «Чернобыль 20 лет спустя: Стратегия восстановления и устойчивого развития пострадавших регионов» (Минск, 19—21 апреля 2006 г.), должен был бы появиться как минимум лет десять тому назад. Однако в отличие от Украины, где уже в 1995 г. были изданы документальный двухтомник «Чорнобиль: проблеми здоров'я населення» и в 1996 сборник «Чорнобильска трагедія: Документи і матеріали», мы только сегодня, двадцать лет спустя, впервые попытались на документальном уровне осмыслить размеры катастрофы, произошедшей на территории соседнего государства и более всего ударившей по Беларуси. Причины такого запаздывания, на наш взгляд, читаются «между строк» в составительском предисловии к сборнику — это, прежде всего, сложная социально-политическая ситуация, обусловленная первоначальной недооценкой масштабов катастрофы и связанной с этим засекреченностью многих данных и др.

Основу издания составили документы из фондов ЦК КПБ, Совета Министров, Верховного Совета, Госкомчернобыля, Минздрава, Белгидрометеоцентра, штаба гражданской обороны БССР, хранящиеся в НАРБ (всего — 83), а также материалы ЦК КПСС, находящиеся в РГАНИ (всего — 10), и рассекреченные документы Гомельского и Могилевского облисполкомов из Государственного архива Гомельской обл. (11) и Государственного архива общественных объединений Могилевской обл. (3). В сборник вошло опубликованное сообщение Совета Министров СССР в газете «Советская Белоруссия» (1986, 1 мая) об аварии на Чернобыльской АЭС, дезавуировавшем распространявшиеся некоторыми агентствами на Западе «слухи о том, что якобы при аварии на АЭС погибли тысячи людей».

Составителям сборника, на наш взгляд, удалось найти ту «золотую середину» в части отбора документов и материалов для публикации: в него достаточно сбалансированно включены источники, отражающие организацию и проведение самых первых мероприятий, связанных с ликвидацией последствий чернобыльской трагедии, и источники, свидетельствующие о последующих действиях в этом направлении, когда стал очевидным масштаб этой величайшей техногенной катастрофы XX в. Таким образом, можно говорить о реализации стремления «установить

оптимальное соотношение директивных и отчетных документов», а также введении в научный оборот документов, раскрывающих механизм принятия решений.

В качестве небольшого замечания, касающегося отбора документов, укажем на док. 78 — Записка «Некоторые этапы ликвидации последствий Чернобыльской аварии на территории БССР». И хотя составители сопроводили его примечанием, в котором отметили отсутствие указаний на автора и адресата документа, тем не менее можно поставить под сомнение целесообразность включения данного источника в сборник.

О тщательности подготовки сборника свидетельствует объем его научно-справочного аппарата, включающий в качестве общеисторического предисловия статью председателя Комитета по проблемам последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС при Совете Министров Республики Беларусь В. Г. Цалко «Чернобыль: 20 лет спустя», выполняющую роль археографического предисловия заметку «От составителей», а также список сокращений, текстуальные и примечания по содержанию (последние названы комментариями), именной и географический указатели и перечень публикуемых документов.

Удовлетворительным может быть признано и археографическое оформление документов издания, хотя в качестве пожелания следует отметить целесообразность более унифицированного редактирования заголовков. Так, в качестве авторов одного и того же вида документов указываются: в первом случае — ЦК КПБ и Совет Министров БССР (док. 51), во втором — конкретное высшее должностное лицо, подписавшее информацию (док. 52). Подобные замечания можно сделать и в отношении док. 44, 57, 76 и др.

Отметим также имеющие место смешения текстуальных и примечаний по содержанию: так, помещенные в качестве последних (№ 1, 7, 18—20, 30, 31, 49) адекватнее, на наш взгляд, отнести к примечаниям по тексту.

Составителям удалось избежать недостатка, который мы привыкли встречать в документальных изданиях последних лет: помещать глухие географические указатели. Полагаем, что излишним было бы требовать от них и развернутого именного указателя, учитывая то обстоятельство, что большинство встречающихся в тексте фамилий даются хотя бы с минимальными пояснениями.

В заключение отметим, что рецензируемый сборник свидетельствует о безусловном археографическом росте белорусских историков-архивистов, которыми выполнена основная работа по его подготовке, совершенствовании методики практической археографии применительно к документам новейшего времени. Полагаем, что он станет не только историографическим фактом, но будет востребован теми, на кого рассчитан.

*М. Ф. Шумейко*



# ХРОНІКА. ІНФАРМАЦЫЯ

## ІНФАРМАЦЫЯ ПРА АГУЛЬНЫ СХОД АРХЕАГРАФІЧНАЙ КАМІСІІ БЕЛКАМАРХІВА 16.05.2006 г.

У працы сходу, які адбыўся ў актавай зале НГАБ, прыняло ўдзел 29 вучоных, архівістаў і дзеячаў культуры з Мінска, Віцебска, Гродна і Магілёва. На сходзе быў абмеркаваны стан работы па выкананні плана публікацый дакументаў НАФ РБ установамі Дзяржаўнай архіўнай службы РБ на 2003—2008 гг. Я. Я. Янушкевіч адзначыў вартасці вынікаў археаграфічнай працы архіўнай галіны — часопісаў БАШ і «Архіварыус». А. В. Запартыка, выкладаючы пра стан археаграфічнай працы БДАМЛМ, распавядала пра складанасці выхаду з друку падрыхтаванага архівам выдання: Б. Эпімах-Шыпіла «Беларуская хрэстаматыя» з прадмовой Г. В. Кісялёва. М. У. Пішчулёнак зрабіў інфармацыю пра дзейнасць Віцебскага аддзялення АК Белкамархіва. Прадставіў праект працы аддзялення АК — «Гербоўнік Віцебшчыны». Расказаў пра апошняе пасяджэнне аддзялення АК, якое адбылося ў снежні 2005 г. у Віцебскім дзяржуніверсітэце з удзелам яго выкладчыкаў і студэнтаў. М. М. Сачак прааналізавала вынікі працы Гродзенскага аддзялення АК Белкамархіва, адзначыла, што археографы НГАБ у г. Гродна бяруць на ўзбраенне дыпламатычны спосаб перадачы тэксту дакументаў. З. Л. Яцкевіч адзначыў, што складанне плана публікацый, стан выканання якога абмяркоўваецца, было ажыццёўлена без уліку «рэалій» стану археаграфічнай працы ў архіўнай галіне РБ; наступствам гэтага была актывізацыя гэтай працы і, у прыватнасці, стварэнне аддзела публікацый дакументаў НГАБ, увядзенне ў архівах пасад галоўных археографаў. Паведаміў, што падрыхтаваны НГАБ зборнік гістарычных дакументаў «Мінская ратуша» больш за год ляжыць у выдавецтве і далейшы лёс яго невядомы. У. І. Адамушка падвергнуў крытыцы арганізацыйны бок працы АК Белкамархіва. Падкрэсліў, што сёння краіна і дзяржаўныя ўстановы зацікаўлены ў атрыманні публікацый гістарычных дакументаў па тэмах агульнадзяржаўнага «гучання», значных для прымнажэння беларускай культуры.

Было закранута пытанне пра стварэнне ў краіне АК надведамаснага ўзроўню. Вядучы сходу М. Ф. Шумейка заўважыў, што стварэнне АК Белкамархіва разглядалася як палеатыў, які прадугледжвае іншыя крокі. А. М. Сарокін запатрабаваў ад сяброў АК вызначыць сваю пазіцыю ў адносінах да стварэння падобнай структуры. І. В. Саверчанка выказаў думку, што асноўная функцыя АК — каардынацыя археаграфічнай працы. Сёння АК Белкамархіва такую працу праводзіць і яе каштоўнасць для архіўнай галіны сумненняў не выклікае. С. П. Віцязь і А. Я. Рыбакоў выказалі думку, што аптымальным варыянтам сёння з'яўляецца існаванне двюх ведамасных АК — пры архіўнай галіне і пры НАН Беларусі, якія б каардынавалі сваю працу.

В. С. Мянжынскі выступіў на сходзе з паведамленнем «Да гісторыі і сучаснага стану выдання кніг Метрыкі ВКЛ». С. П. Віцязь прэзентаваў АК матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі ў Мінску 11—12 лістапада 2003 г. «Актуальныя пытанні вывучэння і выдання Метрыкі Вялікага княства Літоўскага».

*Матэрыял падрыхтаваны Ю. У. Несцяровічам*

— ◇ —

## СЛАВУТЫ БЕЛАРУСКІ ГІСТОРЫК — НАШ ЗЯМЛЯК

*(Міжнародная навуковая канферэнцыя «Крыніцазнаўства, археаграфія, архівазнаўства ў XX—XXI стст. у Беларусі. Да 100-годдзя з дня нараджэння М. М. Улашчыка»)*

14 лютага 2006 г. споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага гісторыка, археографа, этнографа, краязнаўцы, літаратара Мікалая Мікалаевіча Улашчыка. Ён нарадзіўся 1 (14) лютага 1906 г. у вёсцы Віцкаўшчына Койданаўскай вол. Мінскага пав. (цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл.). Сваімі навуковымі працамі М. М. Улашчык унёс значны ўклад у развіццё беларускай гістарычнай навукі; яго навуковыя даследаванні па гісторыі беларускай вёскі, крыніцазнаўстве і археаграфіі лічацца класічнымі. Ён смела адкінуў архаічныя ўяўленні-штампы пра беларуса як адсталага, забітага і затурканага чалавека былой Расійскай імперыі, які нібыта ўсё сваё жыццё араў сахою, хадзіў у лыкавых лапцях і заставаўся непісьменным. Беларуская вёска, дзе ўсе сяляне былі пісьменныя, кожная сям'я мае вялікі надзел зямлі і калі хто працаваў, той не галадаў і не хадзіў у лапцях — гэта вёска Віцкаўшчына. Яе ўраджэнцу было што сказаць плакальшчыкам аб забітым, няшчасным беларускім мужыку.

М. М. Улашчык належаў да таго пакалення маладых беларускіх вучоных, інтэлігентаў з простага народа, якім выпаў гонар ствараць культуру і навуку маладой беларускай дзяржавы. Улашчык зрабіў за сваё жыццё вельмі многа. Ён — аўтар шэрагу манаграфій, кніг па гісторыі сярэдневяковай Беларусі, распрацоўшчык і выдавец старажытных рукапісаў.

14 лютага 2006 г. у Маскве для маскоўскіх беларусаў было свята — адбылася вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння М. М. Улашчыка. Вучоныя-гісторыкі, вучні і прыхільнікі яго навуковых поглядаў адзначылі вялікую ролю, якую адыграў ён у станаўленні і развіцці гісторыі Беларусі. Вечарына была арганізавана доктарам філалагічных навук, сябрам М. М. Улашчыка А. К. Каўкам і сынам вучонага — А. М. Улашчыкам. У ёй прымала ўдзел і галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута славяназнаўства Расійскай акадэміі навук (РАН), доктар гістарычных навук Г. Л. Харашкевіч.

24—25 лютага 2006 г. у Мінску на гістарычным факультэце БДУ адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя «Крыніцазнаўства, археаграфія, архівазнаўства ў XX—XXI стст. у Беларусі. Да 100-годдзя з дня нараджэння М. М. Улашчыка». Канферэнцыю правялі гістарычны факультэт БДУ, Археаграфічная камісія Белкамархіва і БелНДІДАС. Для яе правядзення быў створаны арганізацыйны камітэт у складзе:

састаршыні: прарэктар па вучэбнай рабоце БДУ прафесар У. Л. Клюня; старшыня Камітэта па архівах і справаводству пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь У. І. Адамушка;

намеснікі: дэкан гістарычнага факультэта БДУ дацэнт С. М. Ходзін; дырэктар БелНДІДАС А. Я. Рыбакоў;

члены арганізацыйнага камітэта: загадчык кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу гістарычнага факультэта БДУ дацэнт А. Г. Кахаоўскі; галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута славяназнаўства РАН Г. Л. Харашкевіч; дацэнт кафедры крыніцазнаўства гістарычнага факультэта БДУ М. Ф. Шумейка.



Міжнародная навуковая канферэнцыя пачала працу ў 10 гадзін раніцы 24 лютага. На ёй працавалі дакументальная і кніжная выстаўкі, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння М. М. Улашчыка, дэманстраваўся дакументальны фільм пра яго. Міжнародную навуковую канферэнцыю адкрыў С. М. Ходзін. З кароткай прамовай выступіў У. І. Адамушка.

На пленарным пасяджэнні з дакладам «Традыцыі і перспектывы развіцця крыніцазнаўства ў БДУ» выступіў С. М. Ходзін. Ён адзначыў, што ў час працы канферэнцыі плануецца паездка на радзіму М. М. Улашчыка па маршруце Мінск—Дзяржынск—Віцкаўшчына—Грычына—Мінск.

Загадчык аддзела Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі В. А. Чамярыцкі выступіў з дакладам «Летапісазнаўчая спадчына Мікалая Улашчыка і праблемы падрыхтоўкі новага выдання беларускіх летапісаў». Дакладчык каля 20 гадоў ведаў М. М. Улашчыка, працаваў з ім над падрыхтоўкай летапісаў да друку, дапамагаў рыхтаваць кнігу «Хроніка Быхаўца», вёў з ім актыўную перапіску.

З цікавым дакладам «Ответственность историка перед обществом. Пример Н. Н. Улащика» выступіла Г. Л. Харашкевіч. Яна расказала пра сумесную працу з М. М. Улашчыкам, прапанавала выдаць поўны збор твораў вучонага, у тым ліку і яго эпісталярную спадчыну.

Даклад «О подготовке «Летописи истории архивного дела Российской Федерации (1990—2004)» быў даведзены да ведама вучоных і навуковай грамадскасці намеснікам дырэктара Усерасійскага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы Н. І. Хімінай.

«Камеральная археаграфія і помнікі кніжнай культуры Беларусі: Дасягненні, праблемы і перспектывы» — такая была тэма выступлення загадчыка аддзела Расійскай нацыянальнай бібліятэкі М. В. Нікалаева.

У час абедзеннага перапынку група навукоўцаў у складзе Г. Л. Харашкевіч, С. М. Ходзіна, гісторыка-журналіста А. І. Валахановіча, пляменніка М. М. Улашчыка, кандыдата тэхнічных навук, аўтара кніг пра радавод Улашчыкаў і Станішэўскіх В. М. Станішэўскага наведала Чыжоўскія могілкі, дзе пахаваны М. М. Улашчык і яго жонка Н. М. Шамарына, і ўсклалі кветкі на магілу. Н. М. Шамарына была вучоным-фізіёлагам, доктарам біялагічных навук (8 верасня 1907 — 11 студзеня 1985).

На канферэнцыі працавалі 4 секцыі:

Секцыя 1. Уклад М. М. Улашчыка ў гістарыяграфію гісторыі Беларусі, крыніцазнаўства, археаграфію (старшыні — В. У. Скалабан, Э. Р. Іофе, сакратар — В. С. Іванова).

Секцыя 2. Актуальныя праблемы развіцця крыніцазнаўства і гістарыяграфіі.

Падсекцыя 2.1. Старажытнасць і Сярэднявечча (старшыні — П. У. Церашковіч, С. В. Марозава, сакратар — Л. Ю. Казакоў).

Падсекцыя 2.2. Новы і найноўшы час (старшыні — А. Г. Каханоўскі, Э. М. Савіцкі, сакратар — М. А. Паноў).

Секцыя 3. Тэарэтычныя і метадычныя праблемы архівазнаўства і археаграфіі (старшыні — У. В. Фядосаў, В. Дз. Банасюкевіч, сакратар — З. В. Антановіч).

Секцыя 4. Праблемы прафесійнай падрыхтоўкі гісторыкаў і архівістаў. Прапаганда гістарычных ведаў (старшыні — А. А. Гужалоўскі, С. І. Міхальчанка, сакратар — С. М. Лагун).

Даклады секцыі 1 былі цалкам прысвечаны М. М. Улашчыку, таму яны будуць разгледжаны больш падрабязна. З цікавымі дакладамі і паведамленнямі выступілі: В. У. Скалабан (НАРБ), кандыдат гістарычных навук — «Гісторык і архівы. Урокі М. М. Улашчыка»; Я. Я. Янушкевіч (БелНДІДАС) — «Мікалай Улашчык і беларуская літаратура»; Э. Р. Іофе (БДПУ імя Максіма Танка) — «М. М. Улашчык як гісторык сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі XIX стагоддзя»; А. С. Ліс (Інстытут этнаграфіі, мастацтвазнаўства і фальклора імя Кандрата Крапівы НАНБ) — «Мікалай Улашчык як мастак слова».

Цікавы атрымаўся даклад у І. І. Сацукевіча (БДЭУ) — «Уклад М. М. Улашчыка ў развіццё беларускай тапанімікі». Ён адзначыў вялікую ролю М. М. Улашчыка ў развіцці тапанімікі — навукі аб паходжанні назваў населеных пунктаў, рэк, азёр, гор, далін, урочышчаў і г. д.

Н. П. Старавойтава (БДЭУ) адзначыла вялікую ролю М. М. Улашчыка ў развіцці літаратурнай медыявістыкі (навукі аб Сярэднявеччы).

Грунтоўнымі былі даклады В. К. Мароз, А. А. Кісялёва, аспіранткі БДУ В. С. Івановай, аспіранткі БДУ Г. І. Маскевіч, А. М. Запартыкі, Т. І. Жук (ЦНБ імя Якуба Коласа НАНБ), якія расказалі пра фонды архіва дакументаў М. М. Улашчыка, перададзеныя пасля смерці бацькі яго сынам у архівы і бібліятэкі Беларусі.

Л. Р. Казлоў (УП «Арты-факс») расказаў пра Кобрынскае староства паводле даследаванняў М. М. Улашчыка.

Аспірант БНТУ А. У. Дзянісаў прааналізаваў цікавыя ўспаміны М. М. Улашчыка ў кнізе «Краязнаўства» і адзначыў іх як гістарычную крыніцу і што Улашчык —таленавіты краязнаўца.

Добры атрымаўся даклад у А. М. Гесь (НАРБ) пра гісторыю сям'і М. М. Улашчыка, у прыватнасці пра сястру Ніну. Яна зачытала архіўныя дакументы і выпіскі з архіваў НАРБ і КДБ РБ, якія тычыліся сям'і Улашчыкаў і сястры Ніны.

Цікава выступіла дачка Н. М. Улашчык-Бялькевіч — Людміла Іванаўна Іваноўская. Яна расказала пра дзядзьку Мікалая, як ён пакутаваў ад туберкулёзу зламанай рукі, якую насіў на перавязі ў 1946—1949 гг. і пісаў левай, як не займаўся навукай 25 гадоў, як пайшоў вучыцца ў аспірантуру, а затым зачытала яго літаратурны твор «Байка пра дзяўчынку Ніну», прысвечаны сястры Ніне.

А. І. Валахановіч распавёў пра спробу ўстанавіць помнік М. М. Улашчыку ў Дзяржынску і чаму гэта не атрымалася, бо раённыя ўлады раптам адмянілі сваё рашэнне аб устаноўцы помніка ў горадзе, пра тое, як помнік з усялякімі прыгодамі быў нарэшце вывезены з Дзяржынска і адкрыты 1 верасня 2002 г. на сядзібе Старадарожскага мастацкага музея (фонд Анатоля Белага) у г. Старыя Дарогі. Паглядзець на бронзавы помнік 21 верасня прыязджалі А. М. Улашчык, В. М. Станішэўскі, Л. І. Іваноўская, родныя і блізкія слыннага беларускага вучонага. В. М. Станішэўскі падарыў музею дыскету з матэрыяламі пра свайго вядомага дзядзьку і кнігу «Радавод сям'і Станішэўскіх», якая выйшла ў 1996 г.



На пленарным пасяджэнні канферэнцыі прысутнічала звыш 300 чалавек. Ад БДАКФФД, які месціцца ў Дзяржынску, прысутнічалі: намеснік дырэктара архіва Я. М. Грыневіч, загадчык аддзела інфармацыі, публікацыі і навуковага выкарыстання дакументаў Т. Л. Рахманько, галоўны архівіст аддзела выкарыстання дакументаў Я. К. Паляшчук, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела выкарыстання дакументаў Т. І. Рымашэўская, галоўны архівіст аддзела дзяржуліку і НСА І. Н. Лапкоўская, дырэктар Дзяржынскага раённага архіва па асабістых фондах Р. М. Мяснікоў. Мяснікоў зрабіў шмат фотаздымкаў пра Міжнародную навуковую канферэнцыю, якія можна будзе выкарыстаць у музеі, архіве, бібліятэцы раёна.

Актыўна працавалі і секцыі 2—4. Па праблемах крыніцазнаўства, гістарыяграфіі, архівазнаўства, археаграфіі і іншых навуковых дысцыплінах зрабілі даклады і паведамленні вядомыя беларускія вучоныя С. М. Цёмушаў, А. І. Махнач, Г. М. Сагановіч, Зм. Л. Яцкевіч, Ю. Л. Казакоў, С. В. Марозава, А. М. Філатава, В. У. Яноўская, У. А. Сосна, Дз. У. Караў, А. Г. Каханоўскі, Э. М. Савіцкі, М. Ф. Шумейка, С. А. Рыбчонак, М. С. Даўгяла, А. І. Котаў, Г. А. Болсун, С. У. Жумар, Ю. У. Несцяровіч, Т. С. Міхяёнак, К. І. Козак, А. А. Яноўскі, А. В. Баранава, Г. В. Запартыка, А. П. Мініч, В. А. Цяплова, Дз. І. Кузьма, І. П. Клімаў і іншыя ўдзельнікі канферэнцыі.

25 лютага раніцай былі падведзены вынікі працы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, заслуханы даклады кіраўнікоў секцый 1—4, выпрацаваны праект рашэння канферэнцыі. Адзін з яго пунктаў — увекавечанне памяці М. М. Улашчыка на яго радзіме ў Дзяржынскім р-не: прапанавана Дзяржынскаму райвыканкому паставіць помнік Улашчыку, назваць яго імем школу, бібліятэку, вуліцы.

У 12 гадзін дня група навукоўцаў у складзе Г. Л. Харашкевіч, С. М. Ходзіна, М. Ф. Шумейкі, А. І. Валахановіча, Л. І. Іваноўскай выехала ў г. Дзяржынск. У зале Цэнтральнай раённай бібліятэкі адбылася сустрэча навукоўцаў — працяг навуковай канферэнцыі — з настаўнікамі гісторыі школ раёна, работнікамі бібліятэкі, Дзяржынскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея, грамадскасцю горада. Перад аўдыторыяй выступілі Г. Л. Харашкевіч, С. М. Ходзін, М. Ф. Шумейка, А. І. Валахановіч, Л. І. Іваноўская, якія расказалі пра М. М. Улашчыка, яго жыццё, навуковую дзейнасць, адказалі на пытанні прысутных. С. М. Ходзін, М. Ф. Шумейка, А. І. Валахановіч падарылі бібліятэцы і музею кнігі М. М. Улашчыка, кнігі, газеты з артыкуламі пра яго, кнігі па гісторыі Беларусі, выдадзеныя гістарычным факультэтам БДУ. Гасцям былі прэзентаваны кніга «Памяць. Дзяржынскі раён» і буклеты, прысвечаныя Дзяржынскаму р-ну.

Навукоўцы наведалі ў Дзяржынску Свята-Пакроўскую царкву, сустрэліся з айцом Барысам, які падарыў ім іконкі блажэннай Валянціны Мінскай. Навукоўцы наведалі яе магілу на могілках вёскі Забалацце.

Далей шлях ляжаў у вёскі Віцкаўшчына і Грычына. Віцкаўшчына — радзіма М. М. Улашчыка. Навукоўцы наведалі вясковыя могілкі, дзе пахаваны родныя і сваякі вучонага. Хаты, дзе нарадзіўся М. М. Улашчык і ўсе яго браты і сёстры, ужо няма. І Віцкаўшчына, і Грычына — вёскі старажытныя,

вельмі добра апісаны М. М. Улашчыкам: сваёй малой радзіме ён прысвяціў кнігу «Была такая вёска».

У Грычынскай СШ навукоўцаў сустракалі хлебам-соллю. Вучні школы падрыхтавалі мастацкую частку сустрэчы, спявалі песні, былі рады прыезду знакамітых гасцей.

Перад вучнямі старэйшых класаў і настаўнікамі выступілі Г. Л. Харашкевіч, С. М. Ходзін, М. Ф. Шумейка, А. І. Валахановіч, Л. І. Іваноўская, якія на радзіме слыннага вучонага падвялі вынікі працы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння М. М. Улашчыка, расказалі пра земляка як таленавітага вучонага — гісторыка, археографа, этнографа, археолага, крыніцазнаўцу, літаратара, пра яго ўклад у развіццё гістарычнай навукі ў Беларусі.

С. М. Ходзін, М. Ф. Шумейка, А. І. Валахановіч падарылі кнігі М. М. Улашчыка, кнігі, часопісы і газеты з артыкуламі пра яго жыццё і навуковую дзейнасць, у тым ліку і «Беларускі гістарычны часопіс» (№ 2, 2006). Са словамі падзякі выступіла дырэктар Грычынскай СШ В. І. Мароз. Навукоўцам былі падораны сувеніры, зробленыя вучнямі школы. Госці азнаёміліся з гістарычным куткам — стэндамі, прысвечанымі жыццю і навуковай дзейнасці М. М. Улашчыка, распісаліся ў кнізе ганаровых гасцей, сфатаграфаваліся на памяць, падпісалі кнігі. Групу навукоўцаў суправаджалі вядучыя спецыялісты ідэалагічнага аддзела Дзяржынскага райвыканкома Т. У. Ермаковіч і Я. В. Скарабагаты, намеснік начальніка аддзела культуры райвыканкома А. М. Прыстаўка, старшыня раённага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Л. А. Кірэева, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Сцяг Кастрычніка» В. Р. Уранаў.

Навуковы і жыццёвы подзвіг нашага шаноўнага земляка-энцыклапедыста М. М. Улашчыка — самаадданага патрыёта сваёй Бацькаўшчыны — яркае сведчанне вялікай жыватворнай моцы і неадольнасці беларускага нацыянальнага Адраджэння.

*26—27 лютага 2006 года.*
*Мінск — Дзяржынск — Віцкаўшчына — Грычына.*

*А. І. Валахановіч*



# РЭЗЮМЕ

**Несцяровіч Юрый Уладзіміравіч**, канд. гіст. навук, старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «Объект и основные аспекты эдиционной археографической работы (терминологический аспект)».

Усталёўваецца оптымум тэрміналагічнага абазначэння аб’екта эдыцыйнай археаграфічнай працы. Абгрунтоўваецца мэтазгоднасць ужываць у межах археаграфіі замест тэрміна «гістарычны дакумент» тэрмін «археаграфічны матэрыял». Закранаецца (на грунце распрацовак і аналізу поглядаў расійскіх вучоных) праблема аптымізацыі і моўнай мінімізацыі абазначэння асноўных аспектаў эдыцыйнай археаграфічнай працы.

**Мальцаў Уладзімір Валер’евіч**, канд. мастацтвазнаўства, навуковы супрацоўнік Інстытута МЭФ НАН Беларусі — «Публикация документов и материалов по истории театра Беларуси».

Аналізуюцца тэндэнцыі развіцця і некаторыя канцэпцыі крыніцазнаўства тэатра Беларусі, публікацыі архіўных дакументаў і выяўленых матэрыялаў па гісторыі тэатра Беларусі савецкага часу, вызначаецца кірунак археаграфічнай працы па забеспячэнні даследаванняў па гісторыі тэатра Беларусі.

**Гярновіч Таццяна Дзмітрыеўна**, аспірант БДУ — «Рэстытуцыя польскіх архіўных каштоўнасцей з БССР у 1920—1960-я гг.».

Выкладаюцца асноўныя моманты і выдзяляюцца этапы гісторыі вяртання польскіх архіўных каштоўнасцей з БССР. Высвятляецца колькасць перададзеных з архіваў Беларусі ў 1920—1960-я гг. архіўных спраў. Робіцца выснова пра наяўнасць палітычнага чынніку пры архіўнай рэстытуцыі польскай спадчыны ў савецкі час.

**Надзёжына Валянціна Мікалаеўна**, загадчык аддзела інфармацыйна-пошукавых сістэм і аўтаматызаваных архіўных тэхналогій Дзяржархіва Гомельскай вобласці — «Создание объединенного архивного фонда и усовершенствование пофондовой классификации документов (на основе анализа работы Госархива Гомельской области)».

Аналізуюцца дадзеныя якаснага і колькаснага складу фондаў Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці. Робіцца выснова, што складанне аб’яднанага архіўнага фонду павышае інфармацыйную ёмістасць пэўных дакументальных комплексаў, палягчае іх захаванне і выкарыстанне.

**Гарбачова Вольга Васільеўна**, канд. гіст. навук, дацэнт БДУ — «Невядомыя ўспаміны аб паўстанні 1830—1831 гг. у Беларусі».

На падставе выкарыстання матэрыялаў Польскай бібліятэкі і Музея Адама Міцкевіча ў Парыжы, а таксама Аддзела рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве аўтарам разглядаецца лёс рукапіснай спадчыны ліцвінаў, якія дзейнічалі ў складзе Таварыства літоўскага і рускіх зямель у Францыі. Побач з успамінамі, прысвечанымі падзеям 1830—1831 гг., вытрымкі з якіх пабачылі свет у выданнях Ф. Вратноўскага і К. Бранікоўскага, згадваюцца таксама і невядомыя на сённяшні дзень мемуары Ю. Віслауха, В. Хялхоўскага, А. Макоўскага, А. Антусевіча, А. Палкоўскага, С. Незабытоўскага і інш.

**Грузіцкі Юрый Лявонцьевіч**, канд. гіст. навук, прафесар кафедры эканамічнай гісторыі, дацэнт БДЭУ — «Материалы по истории банков Беларуси XIX — начала XX в. в фондах Национального исторического архива».

Даецца аглядны аналіз шэрагу фондаў НГАБ, якія дазваляюць значна пашырыць крынічную базу вывучэння гісторыі крэдытнай справы ў Беларусі XIX — пачатку XX ст.

**Стэфановіч Аляксандр Віктаравіч**, загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі — «Состав и тематическая структура книжных фондов частновладельческого книжного собрания Радзивиллов Несвижской ординации».

Выкладзены вынікі даследавання якасна-колькаснага складу фондаў кніжнага збору Радзівілаў па трох накірунках: па месцы выдання кніг; па тэматычнай адзнацы; па моўнай адзнацы. Падкрэсліваецца, што захаваўшаяся частка бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў па складу, храналагічных рамках і тэматычнай структуры унікальная.

**Цітавец Алена Іосіфаўна**, навуковы супрацоўнік аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі — «Уплыў традыцый розных культур на змест рукапісных кніг беларускіх татараў».

Даецца апісанне рукапісных кніг беларускіх татараў, пераважна з фондаў ЦНБ НАН Беларусі. Робіцца высновы, што прататыпамі рукапісных кніг беларускіх татараў былі арабскія і цюркскія рэлігійныя кодэксы, іх змест адлюстроўвае традыцыі ісламу; разам з тым у іх наяўнае спалучэнне элементаў розных рэлігійна-культурных традыцый — паганства, мусульманства, хрысціянства і іудаізму, а таксама знайшлі адлюстраванне рысы мясцовага ўкладу жыцця, характэрнага для ВКЛ.

**Клімаў Ігар Паўлавіч**, канд. філал. навук, дацэнт БДУКМ — «Змест, кампазіцыя і жанр «Прадмовы» Васіля Цяпінскага».

Упершыню аналізуюцца кампазіцыйныя асаблівасці помніка старабеларускага пісьменства другой паловы XVI ст. у кантэксце рэлігійна-асветніцкай дзейнасці В. Цяпінскага і рытарычнай культуры эпохі Рэнесансу. Асноўная ўвага надаецца адэкватнаму прачытанню тэксту твора і інтэрпрэтацыі яго зместу ў адпаведнасці з жанравымі асаблівасцямі.

**Груша Аляксандр Іванавіч**, канд. гіст. навук, загадчык аддзела гісторыі Беларусі Сярэдніх вякоў і пачатку новага часу Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Гісторыя вывучэння беларускай і ўкраінскай кірыліцкай палеаграфіі да 1920-х гг.».

Прыводзяцца звесткі пра палеаграфічную экспертызу ў ВКЛ. Выдзяляюцца два асноўныя перыяды развіцця ўсходнеславянскай кірыліцкай палеаграфіі. Даследуецца гісторыя вывучэння беларускага і ўкраінскага кірыліцкага пісьма ўкраінскімі, расійскімі і беларускімі вучонымі.

**Рыбчонак Сяргей Аляксандравіч**, загадчык аддзела інфармацыі, публікацыі і навуковага выкарыстання дакументаў НГАБ — «Радаводная справа шляхецкага роду Міцкевічаў».

Апісваецца 61 дакумент радаводнай справы Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу пра дваранскае паходжанне роду Міцкевічаў. Робіцца аналіз падрабленасці шэрагу дакументаў.



**Лукашэвіч Андрэй Міхайлавіч**, канд. гіст. навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу БДУ — «Организация гражданского и военного управления в белорусских губерниях Российской империи (1796—1806)».

Асвятляецца арганізацыя дзяржаўнага кіравання на тэрыторыі Беларусі; пры гэтым надаецца ўвага ўвядзенню пасад генерал-губернатара, віцэ-губернатара, ваеннага губернатара і ваеннага інспектара ў Расійскай імперыі. Удакладняецца адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел беларускіх зямель у канцы XVIII — пачатку XIX ст.: Віленская і Гродзенская губерні падпарадкоўваліся літоўскаму, а Віцебская і Магілёўская — беларускаму ваенным губернатарам; Мінская губерня была падпарадкавана кіеўскаму ваеннаму губернатару, што прадвызначыла спецыфіку кіравання ёю. Робіцца выснова, што пры кіраванні беларускімі губернямі ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. пасады ваенных губернатараў і інспектараў часта сумяшчаліся і ўся паўната ўлады канцэнтравалася ў адных руках.

**Заікін Мікалай Анатольевіч**, канд. гіст. навук, навуковы кіраўнік Цэнтра пагранічных даследаванняў пры ФПВ ІНБ, падпалкоўнік, **Лукашэвіч Андрэй Міхайлавіч**, канд. гіст. навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу БДУ — «Захар Карнеев: административная деятельность в Минске (по документам НИАБ)».

Разглядаецца адміністратыўная дзейнасць З. Я. Карнеева (1748—1828). Адзначаецца, што пад час знаходжання на пасадзе мінскага губернатара (1797—1808) ён прытрымліваўся дастаткова ліберальных поглядаў, якія былі абумоўлены яго масонскім «мінулым». Сцвярджаецца, што, адстойваючы інтарэсы царскага самадзяржаўя, Карнееў разам з тым праводзіў жорсткую адміністратыўную лінію, якая дазваляла яму нейтралізоўваць антырасійскія настроі шляхты.

**Іофе Эмануіл Рыгоравіч**, д-р гіст. навук, прафесар БДПУ — «Акадэмік У. І. Пічэта як даследчык гісторыі Беларусі».

Даецца гістарыяграфічны агляд шэрагу прац У. І. Пічэты па гісторыі Беларусі, у тым ліку артыкула, які складае першую частку неапублікаванага падручніка для ВНУ «Гісторыя Беларусі», падрыхтаванага ў БССР у 1940—1941 гг.

**Жлутка Алесь Анатольевіч**, канд. гіст. навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Ліст Папы Клімента V 1310 г. аб становішчы ў Лівоніі і ў суседніх краінах у другой палове XIII — пачатку XIV ст.».

Друкуюцца арыгінал і поўны пераклад ліста Клімента V ад 19.06.1310 з даручэннем капеляну Альберту расследаваць праступкі і злачынствы Нямецкага ордэна ў Лівоніі, у якім змяшчаюцца звесткі пра канфесійнае і палітычнае становішча і шэраг падзей у Лівоніі, Полацкім княстве і на суседніх з імі землях, у прыватнасці пра выгнанне 100 тыс. земгалаў на тэрыторыю ВКЛ.

**Мянжынскі Валерый Станіслававіч**, канд. гіст. навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, **Несцяровіч Юрый Уладзіміравіч**, канд. гіст. навук, старшы навуковы супрацоўнік БелНДІДАС — «Судовыя дакументы з саманазвай «справа» ў кнізе Метрыкі ВКЛ 30».

Упершыню публікуюцца 10 дакументаў з кнігі Метрыкі ВКЛ 30 за 1546 г., якія паходзяць з вышэйшай судовай установы ВКЛ і даюць матэрыял для вывучэння адпаведнасці судовай практыкі звычаёваму праву ВКЛ.

**Залівака Аляксандр Станіслававіч**, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела публікацыі дакументаў НГАБ — «Дакументы пра судовую справу ксяндза Я. Рачынскага з зямянінам А. Залівакам аб валоданні маёнткам Сліжын Менскага ваяводства (на мяжы XVI — XVII стст.)».

Публікуюцца два дакументы з кнігі Менскага гродскага суда за 1600 г. і адзін дакумент з актавай кнігі Метрыкі ВКЛ, якія датычацца судовай цяжбы паміж ксяндзом і зямянінам і ўтрымліваюць даныя па генеалогіі Беларусі.

**Анішчанка Яўген Канстанцінавіч,** канд. гіст. навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Акт вольнай канфедэрацыі Мінскага ваяводства ад 12 ліпеня 1792 г.».

Упершыню друкуецца ў перакладзе з польскай мовы акт канфедэрацыі Мінскага ваяводства 1792 г., які служыць крыніцай па палітычнай гісторыі Беларусі канца XIX ст.

**Лебедзева Валянціна Міхайлаўна**, выкладчык Гомельскага дзяржуніверсітэта — «Я прежде всего белорус…»: лісты Е. Раманава да А. Пыпіна (1888—1892)».

Друкуюцца 6 лістоў Е. Р. Раманава да А. М. Пыпіна, у якіх утрымліваюцца звесткі па гісторыі беларускага руху канца XIX ст.

**Жук Віталь Мікалаевіч**, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі — «Религиозно-общественные объединения католиков-поляков и антирелигиозная работа во второй половине 1920-х гг. в БССР».

Публікуюцца дакументы, якія дазваляюць асвятляць кірунак і падрабязнасці дзейнасці клерыкальных гурткоў пры касцёлах у БССР.

**Брэгер Герман Максімавіч**, галоўны архівіст НГАБ; **Лінская Ларыса Антонаўна**, старшы навуковы супрацоўнік НМГКБ — «Фрагмент архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра ў фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (1687—1702)».

Працягваецца археаграфічнае апісанне дакументаў архіва Слуцкага Трайчанскага Св.-Траецкага манастыра, распачатае ў выпусках 5, 6 «Беларускага археаграфічнага штогодніка».

**Галубовіч Ала Купрыянаўна**, дырэктар НГАБ — «Архіўны вопіс «Інвентары партрэтаў, карцін і мармуровых скульптур» Нясвіжскага замка князёў Радзівілаў у Бундэсархіве г. Кобленца (Германія)».

Публікуецца справа з архіва Радзівілаў-Вітгенштэйнаў з Бундэсархіва г. Кобленца (Германія) — «Інвентары партрэтаў, карцін, мармуровых скульптур», вывезеных з Нясвіжскага замка ў 1834 г., якая пашырае веды пра культурныя каштоўнасці, што былі сабраны ў Нясвіжскім замку Радзівілаў у першай палове XIX ст.



# SUMMARY


Yuri Nesterovich discusses the expediency of the use of the term archeographic material within the framework of archeography and the optimization of the definition of the basic aspects of the editory archeographic activities.

In the article of Vladimir Maltsev a brief survey of the state of theatrical historiography of Belarus is given and the goals of the publication of archive documents on the history of theatre in Belarus are defined.

In Tatiana Gernovich's article the return of Polish archive treasures from BSSR in 1920—1980 is described.

Valentina Nadezhina's article examines the significance of the united archive fund for the improvement of fund based classification of archives on the basis of the data analysis of the composition of the funds in the state archive of Gomel region.

Olga Gorbacheva traces the fate of the manuscript heritage of Belarusians friends of the Comradeship (Union) of Lithuanians and Russian lands in France.

Yuri Gruzitskiy expands the source base of the history of bank credit issues in Belarus in the late 19$^{th}$ — early 20$^{th}$ cc.

Alexander Stefanovich presents the results of his study of the qualitative and quantitative composition of the book funds of the princes' Radzivill collection.

Helen Titovets shows the influence of different cultural traditions on the content of the manuscript books of Belarusian Tatars.

In his article Igor Klimov analyzes special compositional features of the monument of old-Belorussian written language, Prefaces by Vasiliy Tyapinskiy.

Alexander Grusha presents the history of the study of Belarusian and Ukrainian Cyrillic paleography (till 1920ies).

Sergey Rybchonok describes the documents of the Minsk Nobility Deputy Sobranie lawsuit on genealogical issues about the noble origins of the Mitskevich family.

In Andrey Lukashevich's article the organization of the civil and Arms Forces Administration in the Belorussian provinces of the Russian Empire at the end of 18th— beginning of the 19$^{th}$ cc. is shown.

Nikolai Zaykin and Andrey Lukashevich discuss the activities of Zakhar Karneev, Minsk governor.

Professor Emanuil Joffe gives a historiographic survey of the works by Vladimir Picheta on social and economic history of Belarus.

Ales Zhlutko publishes the letter of Pope Clement V from 19.06.1310 with the commission to Chaplain Albert, containing information about events in Livony and adjacent countries, connected with the activities of the German Order.

Valeri Menzhinskiy and Yuri Nesterovich publish the judicial documents defined as a «case» from the Book of Metrics of the Great Lithuanian Principality (GLP) # 30.

Alexander Zalivako offers documents about a lawsuit in GPL, from the beginning of 17$^{th}$ c. between a cleric and a shlyakhta member.

Eugene Anishchenko publishes the report of the confederation of Minsk voivodeship of 1792.

Valentina Lebedeva provides letters of Eugene Romanov to Aleksanr Pypin.

Vitalli Zhuk publishes archive documents about the activity of the religious public associations of catholic Poles in 1920ies in BSSR.

Herman Bregger and Larissa Linskaya give the description of the documents of the archive of Slutsk Troychansk St. Trinity monastery.

The director of the national historical archive of Belarus Alla Golubovich publishes materials of the Radzivill-Vitgenshteyn archives from Koblenz bundesarkhiv, which broaden the readers' knowledge about the cultural treasures, which were located in the Nesvizh Radzivill Castle in first half of the 19th c.

There is also a reviews of *Methodological recommendations for publication of Latin documents of 13th—14th cc*. by Ales Zhlutko and *Evanhelije in der Übersetzung des Vasil Tjapinski um 1580: Facsimile und Kommentare* / Herasgegeben von Heorhi Halenčanka. Paderborn ets.: Ferdinand Schöningh, 2005.

The Journal provides information about the general meeting of the archeographic commission of Belkomarkhiv in 2006 as well as about the international scientific conference, dedicated to 100-anniversary of Belarusian historian Nikolai Ulashchik.



## ЗМЕСТ

---

Адказнасць за дакладнасць перадачы тэксту дакументаў, цытат і спасылак нясуць аўтары артыкулаў і публікацый.

Навуковае выданне

**Беларускі археаграфічны штогоднік**

Выпуск 7

Рэдактары *З. Я. Губашына, В. М. Хлебавец*
Камп’ютэрная вёрстка *П. А. Рэзванава*

Падпісана да друку 16.10.2006. Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$. Папера афс. Гарнітура Times.
Умоўн. друк. арк. 16,75.Улік.-выд. арк. 13,5. Тыраж 100 экз. Зак. 105.

Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы (БелНДІДАС). 220002, г. Мінск, вул. Крапоткіна, 55.
ЛИ № 02330/0133094 ад 30.04.2004.
Надрукавана на НДС БелНДІДАС.